


# ПОЛЫМЯ


ЛІТАРАТУРНА–МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА–ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**11** (1045)

ЛІСТАПАД

**Выдаецца са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб’яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»





Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2016

## ЗМЕСТ



Мікола МЯТЛІЦКІ

# КОЛЬКІ ПАБАЧЫЎ ЗА ВЕК!

## ТЭЛЕФОННАЯ КНІЖКА

Парашыў абнавіць растрапаную кніжку запісную,
Якая дзясятак год служыла мне чынна.
Гартаю — і галасы жывыя чую,
З жахам адкрыўшы, што амаль палавіна

Адрасатаў сышло ў свет той лепшы,
Што ніколі не адзавуцца іх тэлефоны.
Колькі страт непачасных… Дзе тыя лекі,
Якія суцішаць мой боль незагойны?

Шчэ няма з зоркамі той тэлефоннай лініі,
Па якой бы я мог пазваніць Маруку і Пісьмянкову,
Жэні Янішчыц, Давідовіч Ліліі —
Парадавацца іх кожнаму жывому слову.

Там, каля зор, іх душы без тэлефоннай сувязі
З нашай зямлёй, жывой стыхіяй яе.
Нашы грахі, пэўна, зямныя судзячы,
Кожны часцінку святла сусветнага п'е.

---

***Мятліцкі Мікалай Міхайлавіч*** *нарадзіўся 20 сакавіка 1954 года ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977) працаваў карэспандэнтам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», з 1983 года — рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». У 2002—2014 гадах — галоўны рэдактар часопіса «Полымя».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Абеліск у жыце» (1980), «Мой дзень зямны» (1985), «Ружа вятроў» (1987), «Шлях чалавечы» (1989), «Палескі смутак» (1991), «Бабчын» (1996), «Жыцця глыбінныя віры» (2001), «Замкнёны дом» (2005), «На беразе маім» (2010), «Цяпло буслінага крыла» (2010), «Чалавек падымае неба» (2012) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (1998), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2010), Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва (2013).*

З Богам яны, пэўна, на прамой лініі, —
З іншымі светамі сувязь сталююць штодня.
Гляну пакрыўджана ў неба іх сіняе,
Стуль а ні гуку, мёртвая цішыня.

Памяць мая той цішынёй уджалена.
Пад зоркамі стоячы цёплым жнівеньскім вечарам,
Зноў галасы чую Сачанкі і Лужаніна,
Чую — яны мудра гавораць з вечнасцю.

Сколькі сказаць ім пры жыцці яшчэ мелася?
Зорам гавораць сваё, недагаворанае.
Чую пад небам і голас Івана Мележа,
Што размаўляе сягоння з вечнымі зорамі.

Кніжку сваю абнавіў… І стала самотна.
У ёй небагата нумароў тэлефонных пакінута
Часам, які бярэ шапэнаўскай музыкі ноты,
Грудамі магільнымі ўкрывае наш шлях няспынна.

## ВЯСКОЎЦЫ

У кожнага з нас розныя нябёсы —
Усталі звычна над мясцінай той,
Дзе мы жывём-бытуем; шматгалосы
Наш свет каронай сонца залатой

На раніцы ў баку знаёмым кмецяць,
А ў супрацьлеглым — сходнаю зарой.
І звычна ў небе месяц ходзіць-свеціць
Заўжды ў начы сутонлівай парой.

Нязрушна лес стаіць на даляглядзе,
Прывычна поле ўзгорыста ляжыць.
Мы колькі беражом штодня ў паглядзе
Таго ўсяго, з чым выпала нам жыць.

Маленькі кут — дубы, бярозы, сосны,
Дарогі, што прастуюць праз палі,
Сады ля хат, узнятыя барозны,
Дзюбатыя ля студняў жураўлі.

Усё сваё — вядомае нам змалі,
Нічога не папросім узамен.
Прыкутасць тут душы сваёй спазналі
Між гэтых баравых шчарбатых сцен.

І дзе б пад неба іншае часінай
Ступілі мы па гладкай мураве, —

Паветра пахне золкаю чужынай,
Туга няўцерп душу дамоў заве.

## ГАРАДЖАНЕ

Спяшаемся на працу мы шторанне,
Не бачачы на небе ўсходу сонца.
Пастылае у транспарце штурханне,
І мітусні затлумленай бясконцасць.

У офісаў з паветрам спёртым клетках,
Ажно пакуль не гляне адвячорак,
Сядзім-пацеем. І не бачым рэдкіх,
Над галавой ледзь кметных, чэзлых зорак.

Так з дня на дзень — па замкнутаму кругу
Нясёмся праз жыццё мы: дом і праца!
Калі задзьмуць парыўныя вятругі,
За нейкі шчыт паспеем захавацца.

Глядзім на тых з зайздроснаю пашанай,
Хто вольнаю, раскошнаю мінутай
За шторамі прыцьмелых рэстаранаў
Глыбокай чаркай праганяе смутак.

І зрэдзь мы выбіраемся ў тэатры,
Хоць побач іх — злічыць не хопіць пальцаў.
Нам серыялаў мнагаслёзных кадры
Свет замянілі іншы — толькі пялься.

Калі і едзем зрэдку на прыроду, —
Кастры кладзём ды смецце пакідаем.
І спешныя, нервозныя заўсёды,
Старэй свайго узросту выглядаем.

## ПРАМАКАТКА

Забылі калішнюю ў сшытак укладку —
Добрую, шчырую прамакатку.
Колькі яна за век свой панылы
Змагла пракаўтнуць сінькі чарніла,
Як хворая, з сінімі вечна губамі,
Я браў яе дрогкімі, помню, рукамі
І чуў небывалае хваляванне,
Калі прамакаў ёй чыстапісанне,
Дрыжэў, каб каракулі не распаўзліся,
У пляму суцэльную зноў не зліліся.

Згадаў пра яе нялёгкую долю,
Яна ў цэнтры ўвагі заўсёды ў школе,
Яе абражалі розныя мальцы —
Ёй церлі чарнілам аблітыя пальцы,
Шпурлялі і ў сметніцу, злосныя, часта.
Яна ж ганарыцца любіла: начальства
Заўсёды з пашанай бярэ яе ў рукі.
О, солад уцешны такога прыстуку,
Калі яна, гордая ўся, бывала,
Сур'ёзныя подпісы прамакала.

Ляжалі яны на паперынах розных,
На мала адказных, і вельмі сур'ёзных,
Бавала, і з грыфам «навечна сакрэтна»,
Што лёсы людзей вырашалі канкрэтна,
Не нашы адзнакі — пахілыя тройкі,
А згадвала тыя салідныя «тройкі»,
Што подпісы гэтыя ставілі чынна,
Каб некаму сталі — павечным спачынам.
Яна прамакала дзёрзка і хватка,
Была ўжо сапраўдная прама катка.
І вось сном павечным сама заснула,
Бы сцерла той час, навек прамакнула.

## ВАСКАВІК

Да слова гэтага прывык,
Яно, як дух вясновы.
Казала мама: — Васкавік
Сягоння сшыю новы.

І даставала палатна
З глыбокай скрыні столку.
Шыццё сваё аж да цямна
Даводзіла да толку.

І накрапка лажыла швы,
Каб васкавік пад гнётам
Не крэкнуў, быццам дзед сівы,
І не разлезся потым.

Каб на падлогу з розных дзір,
Як снег бялютка-белы,
Не лез дачасна свежы сыр
І васкавік быў цэлы.

Каб многа-многа шчэ разоў
Служыў прыгодна, чынна.
А назва? Хто яе знайшоў?
І тут прычым вашчына?

Магчыма, калісь жоўты воск
Ў ім першы раз студзілі.
Гады мінуліся, і вось
Пра клопат той забылі.

Гадоў сабраўся ладны лік,
І ўжо не расказаць ім,
Адкуль узяўся васкавік
У паляшуцкай хаце.

## ПАПОЎНА

Калі грыбоў у лесе поўна,
Як толькі золак заблішчыць,
Сівая ўпраўная Папоўна
У лес, як помніцца, імчыць.

Адзіны раз яна, не болей,
І выбіраецца сюды.
І ходзіць, сцятая тут болем,
Па ўскраі даўняе бяды.

І з жахам зноў былое бачыць,
І душыць боль нясходны свой:
Камусьці бацюшку, ёй — бацьку
Паставілі ля гонкіх хвой.

Зірне наўкруг — і свет нямілы,
Агонь у сэрцы, ў галаве.
Яго дачасная магіла
Даўно схавалася ў траве.

Ідзе — вядро па дужку поўна,
Шуміць трывожна хмуры лес.
І паўтарае ўсё Папоўна:
— Хрыстос васкрэс, Хрыстос васкрэс.
І ты, мой татачка, васкрэс.

## АПОШНІ ДАПРОС

Падлюгі-дэпэушнікі
У вочы брыдка хлусілі.
Яны расстацца з душамі
Другіх даўно прымусілі.

А ён, глядзі, ўпіраецца,
Нібы чагосьці варты.
І чулі? — называецца
Не Жылуновіч, — Гартны.

І зноўку яму ў грудзі
Бот грукнуў падкаваны.
Пабачым, хто з нас будзе
Тут больш загартаваны!

Даб'ём, як не падпішаш
Прысуд уласны свой.
Глядзі, як цяжка дыша
І перхае крывёй!

Пішы: арганізацыю
Ты гэтую стварыў.
Хацеў уславіць нацыю,
Пра край свой гаварыў.

Пішы, сівы нацдэмавец,
Гнілая галава.
Працівішся? — дарэмна ўсё,
Ясней, як двойчы два!

З Купалам, чулі, знюхаўся,
Стаў бацькам грамады?
Усмак яго наслухаўся
Ўсялякае брыды.

Удвух, гавораць, спеліся,
О гніда, о нарыў!
Узяць яго б за шчэлепы,
Ды кажуць — пуза ўскрыў.

Жывы ён ледзьве, кволіцца,
Дай Божа, каб падох.
Не тому Богу моліцца,
Нам Сталін — цар і Бог.

Пішы, брыдота ўпартая,
Жывей, прадажны пёс!

Такі ён, Цішкі Гартнага
Апошні быў дапрос.

## ЖОНКА ПАЛІЦАЯ

Сагнутая, як качарга,
Сляпыя вочы стынь хавалі.
Яе іначай, як Яга,
На нашай вуліцы не звалі.

Падыдзе, мацае кійком
Адкос Адарчынае прызбы,

І пракаўтнуць зноў даўкі ком
Усе, хто пасядзець тут прыйдзе.

Адна Адарка, як сястра,
І абзавецца басавіта:
— Ды ўжэ ж нам, дзеўкі, спаць пара.
Чаго прыцеглася, Уліта?

І больш не грымне гаманой
На прызбе ўтульнай позні вечар,
Бо сцята помняць, як вайной
Даношвала забітых рэчы.

## ДЗВЕ БОМБЫ

Там, дзе спраты-катакомбы
Стынуць глыбака ў зямлі,
Неяк дзве таўстухі-бомбы
Ўсмак гаворку завялі.

— Я — набітая трацілам, —
Кажа першая тады, —
У вайну, было, паліла
І сцірала гарады!

Нейк на чэрвеньскім дасвецці
Ўніз ляцела галавой —
Галасілі маткі, дзеці,
Як пачулі выбух мой.

Славы гучнае чакала,
Прагла боязі людской
І спаліла дом Купалы
Па-над Свіслаччу-ракой.

— Пахваляцца, цётка, рана, —
Голас чуецца другой, —
Я — начынена уранам,
Сілы грознае такой,

Што ўявіць нат немагчыма.
Ох і ўсцешанай была —
За імгненне Хірасіму
Спапяліла ўсю да тла.

У салодкім утрапенні
Прабываць заўсёды мне.
Ад людзей згарэлых цені
Засталіся на сцяне.

Там, дзе спраты-катакомбы
Стынуць глыбака ў зямлі,
Пазяхнулі смачна бомбы
І спакойна спаць ляглі.

* * *

Колькі пабачыў за век! —
Пікі Гімалаяў крутабокіх,
Люстра сівога Байкала,
Грамадзіны пірамід Егіпта,
Вежы старажытнага Вавілона,
Золата раскапанай Шліманам Троі,
Пакінутыя гарады плямёнамі Майя,
Цнатлівую белізну Тадж-Махала,
Сцены-шчэрбіны рымскага Калізея,
Знакамітую Эйфелеву вежу Парыжа,
Статую Свабоды Нью-Ёрка,
Біг-Бэн старавечнага Лондана,
Пяскі бясконцай пустыні Сахары,
Схілы ноеўскага Арарата,
Агнямётны калісьці Везувій,
Адкапаныя з попелу сцены Пампеі,
Брандэнбургскія вароты Берліна,
Агняпёрыя карнавалы Рыа-дэ-Жанэйра,
Каралеўскі версальскі замак,
Пенныя воды Ніягарскага вадаспада,
Жудасныя печы-крэматорыі Асвенціма,
Трохкіламетроватоўстыя ільды Антарктыды,
Белых мядзведзяў запалярнай Поўначы,
Славутую японскую Фудзіяму і жахлівую Хірасіму,
Даўжэзную сярэднявечную кітайскую сцяну,
Гліняныя таблічкі-пісьмёны старажытных шумераў,
Залатую маску юнага Тутанхамона
І шмат чаго іншага,
Што сцёрлася з памяці.
Шкадую аб адным толькі,
Што ўсё гэта бачыў
Па тэлевізары.
Які непамерна вялікі дадатак
Да ўсяго,
Што ў сапраўднасці
Бачыў!

Уладзімір СЦЯПАН



# ЖНІВЕНЬ

*Запісы,
зробленыя ў апошні месяц лета*

## З роварам у руках

Сяргей — мужчына рукасты. Сказаў, што зробіць сабе зброю. Не прайшло і тры месяцы, як ён асцярожна паказваў сябрам важкі чорны пісталет, рыхтык «ТТ», самаручна вытачаны і сабраны. І патронамі бліскучымі, з тупымі дзюбкамі, хваліўся.

На пачатку дзевяностых ён з парай таварышаў вазіў на продаж у Расію розныя рэчы: тканіны, цэлафан, мэблю, адзежу, харчы... З гэтага і жыў у сваім райцэнтры. Трэба сказаць — няблага. Але з жонкай нешта не задалося. Казалі — пагульвае, калі ён на Смаленск, Маскву, Невель выпраўляецца. Свет не без добрых людзей. Дазнаўся пра здрады і муж. Усе, хто ведаў Сяргея, у адзін голас пачалі казаць, што ён жонку абавязкова заб'е. Пра чорны пісталет думалі, але ўслых не казалі. Сяргей жонку адно пабіў, ды з кватэры прагнаў.

Міліцыя прыходзіла, пісталет прасілі аддаць, ды не было таго пісталета. Так Сяргей сказаў, і аддаў толькі тры патроны з тупымі дзюбкамі… Жонка праз два месяцы вярнулася, зажылі добра, ды нядоўга. Захварэў Сяргей сур'ёзна. Дактары яго хваробе рады не далі. Жменямі саракагадовы мужчына глытаў таблеткі. Раздражнёным зрабіўся, злосным і апухлым, як раздзьмутым. Пачаў казаць, што і жыць яму надакучыла, і з хваробай змагацца, і па шпіталях ездзіць. Жонка ад яго сама сышла, сына забрала. Зноў тут знаёмыя пра чорны пісталет успомнілі, бо не паверылі, што гаспадар зброю ў глыбокае возера, пры шашы на Лепель, выкінуў… Так і доўжылася жыццё хворага і рукастага мужчыны.

А на мінулым тыдні ехаў Сяргей з аптэкі на чорна-чырвоным ровары, бо цяжка хадзіць было. Ехаў і ўпаў побач з крамай. Разбіў галаву, прытомнасць страціў. Завезлі яго ў бальніцу, патыліцу зашылі і дамоў выправілі. Ён ціха сунуўся па вуліцы, за ровар трымаючыся. Галава забінтаваная. Глядзеў на свет і пасміхаўся, са знаёмымі вітаўся. Побач з могілкамі паваліўся — і памёр.

У нядзелю, на тых могілках, і пахавалі Сяргея. Жонка былая плакала, а дванаццацігадовы сын зусім не плакаў, толькі па баках азіраўся, быццам баяўся нечага нябачнага.

---

***Сцяпан Уладзімір (Сцепаненка Уладзімір Аляксандравіч)*** *нарадзіўся 22 студзеня 1958 года ў гарадскім пасёлку Касцюкоўка на Гомельшчыне. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя Глебава (1977) і Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (1983). Служыў у войску. Працаваў мастаком, рэдактарам на тэлебачанні, займаўся кніжнай графікай.*

*Аўтар кніжак прозы «Вежа» (1990), «Сам-насам» (1990), «Адна капейка» (2012). Піша таксама вершы, п'есы, сцэнарыі дакументальных і мастацкіх фільмаў.*

## Змяя

Сяргей Рыбакоў расказаў пра чорную змяю, якую забіў. Змяя тая двойчы хацела яго «ўдарыць», менавіта так ён і сказаў.

— Прыпаўзла да маёй хаты, а што ёй тут трэба? Я прыбіраў ламачча пад белым налівам, а яна ў траве хавалася, можа, грэлася. Каб я паўкрока зрабіў, а быў босы, ударыла б! І капут мне. А ў верасні юбілей — пяцьдзясят... Я ёй рыдлёўкай галаву адсек і на дарогу кінуў, пад слуп. Можаш паглядзець, — спакойна пераказваў падзею Сяргей.

— А першы раз як было? — дапытваюся ў вяскоўца.

— Першы раз... Тады яна побач з парогам ляжала, і я яе пашкадаваў, дубцом сцебануў, каб у свой лес паўзла. Яна ўцякла, а праз два дні зноў каля хаты. — Сяргей закурыў.

— Можа, гэта вужака? — я засмяяўся.

— Змяя, кажу табе. Уся чорная, і галава чорная!

— Гадзюка?

— Змяя! — Сяргей падняў трэсачку і пачаў маляваць на жоўтым пяску чорную змяю.

Атрымаўся сагнуты цвік. Зусім не страшны.

Потым ён намаляваў другі сагнуты цвік, упрыгожыў яго ромбікамі і клеткамі і патлумачыў, што на першым малюнку змяя, а на другім гадзюка.

## Ва Ушачах кірмаш

З машын гандлююць і з прылаўкаў: гумовымі ботамі, камуфляжам, будаўнічымі матэрыяламі, роварамі і запчасткамі да іх, помнікамі і крыжамі, сукенкамі і спадніцамі, абуткам і шапкамі... Але чарга толькі да адной машыны, да той, дзе прадаюць слоікі і накрыўкі. І топчуцца там пераважна жанчыны, гамоняць, абмацваюць рыльцы слоікаў, выбіраюць стракатыя бляшаныя накрыўкі. Хто з малюнкам пчолак, хто з грыбамі, яблыкамі, вішнямі і ягадамі рознымі...

Пачатак жніўня. Гандляру слоікамі гандляры іншай трасцай моцна зайздросцяць.

## Жаніх

Сяргей Канёнак — той самы, які тры гады таму адсек свайму цуцыку галаву. Пасварыўся са сваёй Галюсяй, у якой тады жыў, раззлаваўся, ажно калаціла. Галюся жанчына мажная і дужая, курыць, а Сяргей дробны і ніколі не курыў, дык ён на сабачку злосць спагнаў.

Выцягнуў за ашыйнік з будкі і зрабіў сваю вар'яцкую справу.

Казаў потым, з сорамам у голасе, што трохі адпусціла. Але ўсё адно жыццё з даяркай не задалося. Гэтай вясной прагнала яна свайго сужыцеля. Сабраў ён транты і вярнуўся да маці. Яна ж Сяргея любіць да немачы, усё чыста дарue, хоць і сварыцца.

Цяпер Сяргей шукае сабе спадарожніцу праз інтэрнэт. Зарэгістраваўся ці не на пяці сайтах, фота павесіў. Пару разоў ездзіў на спатканні, каб паглядзець на свае вочы, упэўніцца, што жанчына не падманвае. Але тыя, што яму падабаюцца, на жаль, не месцовыя. Жывуць ці то ў Томску, ці ў Краснадары, ці ў Карагандзе. Дзе гэтыя гарады, Сяргей уяўляе слаба, а таму прасіў суседа Валодзьку, каб завёз яго ў Томск, бо адтуль яму напісала жанчына-падпалкоў-

нік паліцыі. Валодзька доўга тлумачыў, як далёка ад Ушач той Томск, а потым параіў ляцець самалётам…

Учора Сяргей папрасіў мяне дапамагчы зарэгістраваць яго на чарговым сайце. Я поркаўся з мабільнікам, смяяўся-весяліўся, але рады не даў, не змог дапамагчы саракашасцігадоваму кавалеру.

А таго цуцыка звалі Жулікам, здаецца.

##Назіранне

Фотаздымак звычайнай вясковай хаты ахвотна лайкаюць. Нават больш ахвотна, чым выяву якога шклобетоннага збудавання на сто паверхаў. А хіба можна параўнаць шэрую хату з палісаднікам з хмарачосам ці гатычным саборам? І яблыкі, коцікаў-сабачак, кветкі, сцежкі ў полі, рэчкі-азёры, птушак і рыбу… Прыклады блізкага, роднага, пазнавальнага можна множыць і множыць. Лайкаюць і, часам, нават не задумваюцца, чаму, што прымушае націскаць клавішу?

Мне здаецца, адказ просты, як тая вада ў рэчцы.

Я не ведаю ніводнага чалавека, які зможа давесці, што ён гараджанін у сёмым-восьмым пакаленні. Не сустракаў я такіх беларусаў ні разу. Усе мы з вёсак. Калі не бацькі, то дзяды-прадзеды — вяскоўцы. Вось і спрацоўвае генетычная памяць. На словах мы можам адмаўляць вясковае, адхрышчвацца ад яго. Але бачыш здымак, малюнак з вясковым краявідам, каня на лузе, авечак, калодзеж, рыбіну — ставіш лайк.

Вось так, гарадскія мае. Генная памяць яна такая, яе не падманеш.

## Агульны сшытак

Цётка Антуніна, якая жыла адразу за мостам, падоўгу стаяла на ім, глядзела ў імклівую ваду, — памерла ў сакавіку. Хутка і лёгка, як і марыла ўсе апошнія гадоў дзесяць. Выйшла ў двор — упала. Пакуль прыехала «хуткая», яе і не стала. Гэта Антуніна, у размове са старой Данілаўнай, якая расказвала пра цяжкае і галоднае жыццё да вайны і пасля, сказала: «Ай, што ты кажаш, мы дык ніколі не галадалі. Ні тады, ні потым. Тата робіў, мама, браты, я… Ня помню я, каб галадалі».

Свайго зяця, не падабаўся ён моцна Антуніне, звала Гарылам і сварылася на яго ўвесь час. Яна любіла паклікаць да сябе каго з мужчын, накарміць, параспытваць пра жыццё, пра вясковыя навіны.

Пасля яе смерці дачцэ з нелюбімым зяцем засталіся два дамы з пунямі, лазня ды іншыя шэрыя пабудовы. А яшчэ застаўся агульны сшытак, у якім цётка Антуніна напісала пра ўсіх, хто да яе прыходзіў, каго ведала. Запісы здзеклівыя. Вось пра суседа Сяргея, па мянушцы Дзікі, з якім любіла пагаманіць, якога падкормлівала: «Дурніца будзе тая, якая за Сяргея пойдзе, бо ён лайдак, злодзей, падманшчык і дурань. Рабіць нічога не ўмее, дый не хоча».

Збіраюся папрасіць той сшытак у дачкі Антуніны. Але думаю, што Ліда яго мне не дасць.

## Гімн і Лілька

У Лількі Клопавай быў муж, але загінуў. Застаўся сын. Сёння яму гадоў дваццаць з нечым. Лілька вясёлая і сама пра сябе, на ганку вясковай крамы, калі мы з ёй чакалі машыну з хлебам, расказала гісторыю.

«Гады тры таму, па восені, пайшла я ў хлеў, падаіла кароў, дала ім есці. Зайшла потым да суседзяў, трохі там выпілі. Вярнулася дамоў і легла спаць, бо работа ўся параблена. Заснула… Чую грае гімн. Падхопліваюся, вядро хапаю і ў хлеў, каб кароў падаіць. Цемнавата яшчэ. Прыйшла, каровы на мяне глядзяць здзіўлена. Вачамі лыпаюць. Узялася даіць, а малака нешта зусім мала. Можа, думаю, галодныя мае каровы, можа я ім травы забылася даць?..

А калі ў хату вярнулася, то радыё маўчыць… Гляжу на гадзіннік, і нічога не разумею. Гімн быў, а на гадзінніку палова на першую, а за акном яшчэ цямней зрабілася».

Расказала і смяецца.

## Песня цыркуляркі

Слова «вяскоўцы» рыфмуецца са словам «вайскоўцы». І не толькі гукамі, яно рыфмуецца сэнсава. Бо сучасныя жыхары вёсак у пераважнай большасці паводзяць сябе з навакольным светам, як вайскоўцы-захопнікі. Усе што вакол — лес, рэкі, азёры, зямлю — лічаць, пакуль жывыя, сваімі, захопленымі.

Можна браць, цягнуць, прысабечваць, красці. Можна секчы лес, лавіць рыбу забароненымі спосабамі, паляваць і гэтак далей. Што будзе потым, іх не хвалюе. Бяруць, крадуць, цягнуць, вывозяць, выпальваюць, высякаюць, забіваюць… Цыркуляркі вішчаць ад святла да цемры. Пілуюць крадзены лес. Ператвараюць яго ў дошкі, бярвёны, брусы, потым у грошы… Вяскоўцы ненавідзяць інспектараў аховы прыроды, леснікоў, міліцыянераў так, як вайскоўцы паліцыю. Калі б не штрафы, не суды і пакаранні, то сучасныя вяскоўцы даўно б высеклі і панішчылі ўсё вакол.

Яны любяць казаць, што ўсю рыбу ў іхніх рэках і азёрах палавілі гарадскія, што раней, бацькі і дзяды ім расказвалі — рыбы, звяроў і лесу было мора, а цяпер зусім мала. І грыбы з ягадамі пабралі — гарадскія. Гэта яны — злодзеі і бракан’еры. Яны ва ўсім вінаватыя!

Калі што, то і раней, пры панах і царах, было тое ж самае. Кралі казённы лес, кралі лес у паноў… Потым пачалі красці ў дзяржавы і ў калгасаў…

Пры гэтым вяскоўцы радасна вітаюцца, пра палітыку распытваюць, пра Крым і Данбас гавораць.

Карацей — вайскоўцы.

## Дваццаць два

Сядзім з Віцькам сонечнай і ветранай раніцай на лавачцы пад плотам. Ён толькі што карову завёў на луг да рэчкі.

«Не помню, у якім годзе тое было, але бацька жывы яшчэ быў. Паставіў я на возеры сетку і два нераты. Потым сетку праверыў, рыбу выбраў. Бацьку трэба было везці ў бальніцу, таму нераты не праверыў. Падумаў, вярнуся і праверу. Атрымалася, што потым у Полацк паімчаў, у мяне тады «Масквічок» быў. Там трохі загуляў. На возера ці не на пяты дзень толькі трапіў. У адным нераце лінёў штук пяць было, а да другога прыплыў, чую, смярдзіць усё там. Пачаў падымаць, а не цягнецца. Ну, думаю, бабёр залез, заблытаўся і здох. Але не бабёр там, а дваццаць два шчупакі… Дваццаць два! Меншага за кіло не было… Усе стухлі і разлажыліся… Во рыбы было! На возера ідзі, на рэчцы няма чаго рабіць. І куды яны плылі, шчупакі тыя?» — з захапленнем расказваў Віцька і зажмурыў правае вока. Мусіць, дым трапіў.

Я не пайшоў ні на раку, ні на возера.

## Каштоўныя парады

Сучасныя вяскоўцы, тыя, каму ад трыццаці да сямідзесяці, вельмі любяць даваць парады. Нават, калі ты не задаеш ніякіх пытанняў. Падыдзе, сядзе на бервяно, закурыць і пачынае вучыць: як штакетнік трэба правільна прыбіваць, як слупы ўкопваць, як праслы мацаваць… Як ганак перарабіць: з якіх дошак, якім цэментам сцяжку, а які пад цэглу лепш накідваць. Зазірне ў калодзеж, абыдзе, цыгарэтай папыхкае і пачынае вучыць, пад якім вуглом трэба дошкі на стрэшку біць, якімі цвікамі, як дзверцы мацаваць… Разважае, хапае аловак і пачынае па дошчачцы крэмзаць. Аловак абавязкова зломіць. Пра веснічкі правільныя, пра дзверы і замкі з дасціпнымі прыкладамі раскажа.

Слухаю парады моўчкі, у душы пасміхаюся. Бо прыйдзеш да такога аматара павучыць у двор, а там калодзеж разламаны, ганак развальваецца, замкі ў дзвярах без малатка, ці сякеры не адкрыць, штакетнік крывы, веснічкі на адной пятлі рыпяць… Пра прыбіральню і згадваць не буду.

Раніцай падышоў да мяне Сяргей Рыбакоў і пачаў пра лазер расказваць, пра чырвоныя рыскі, якія заўсёды роўныя. «Вось лазер штука добрая, і рэйка з рулеткай не трэба. Чык-чык — і ўсё роўна!» — сказаў, падняў з дошак рулетку і пачаў шоркаць стужку. Выцягне, потым клавішу ціскане і стужка ў рулетку ўцягнецца.

## Ціханёнак

«Раней і ў мяне дзве каровы было. Я такі быў, што лёгка сена на ўсю зіму накошваў… А цяпер і казу не ўтрымаю — рукі аслаблі», — кажа дзед Ціханёнак. Ён ляжыць на спіне і разглядае свае вялізныя рукі-лапы з пагнутымі пальцамі.

* * *

Калі мяне раніцай паклалі ў палату № 6, дзед па прозвішчы Ціханёнак, ляжаў там з вечара, пасля аперацыі. Ён стагнаў, прасіў піць, але яму не давалі, бо хірург забараніў. Потым ён спахапіўся, што ляжыць голы, і пачаў прасіць, каб вярнулі хоць трусы… Яму тлумачылі, што бялізна яго ў крыві і давядзецца пачакаць, пакуль трусы прывязуць сваякі. Ціханёнак крыўдзіўся, пачынаў абмацваць жывот, залеплены падушачкамі бінтоў і пластырам. Жывот балеў і таму хвораму рабілі ўколы. Тут Ціханёнак жартаваў і казаў, што яму добра, бо трусы не замінаюць. Мне падумалася, што гэта чыста беларуская якасць — кепскае выдаваць за добрае…

Наступным днём да Ціханёнка ў палату прыехалі два зяці, дачка і чацвёра ўнукаў і праўнукаў. Старэйшаму гадоў дзевяць, а малодшаму пяць. Дзед кожнаму, хто з ім вітаўся, казаў, што ён ляжыць без трусоў. Малыя смяяліся, але спалохана. Дачка паведаміла, што ўсё прывезла. Сустрэча была нядоўгай, бо хворы яшчэ слабы. Зяць загадаў унукам развітвацца з дзедам. Малыя падыходзілі і цалавалі дзеда ў няголеную шчаку, а потым доўгай чарадой наведвальнікі пакідалі вялікую сонечную палату.

Ціханёнак, хоць і было забаронена, глынуў з пакета яблычнага соку і павесялеў. Перабраў пакункі, паразгортваў, але трусоў не знайшоў. Кашуля

з кароткімі рукавамі, дзве саколкі, спартыўныя штаны, шкарпэткі, гумовыя тэпці, пачак цыгарэт, карабок запалак, мыла… Ён трохі расстроіўся, але супакоіўся, бо згадаў, што заўтра прыедзе жонка і разам з ёй трусы.

Дзед памыліўся. Праз чвэрць гадзіны прыбег большы ўнук з рабымі дзедавымі трусамі ў руцэ.

* * *

Я раскладаю камп'ютар, разбіраю драты, разблытваю навушнікі, падключаю да разеткі.

Ціханёнак глядзіць, а потым заўважае: «Гляджу, ты надоўга сюды, малец, абклаўся тэхнікай, як на рэнтгене. А што? Кормяць, лечаць, светла, цёпла… Як на курорце. У яблыкі можна схадзіць. А каб яшчэ і не балела. Заўтра буду прасіцца, каб дамоў пусцілі. Швы я і сам зняць змагу».

* * *

Ціханёнак ляжыць на спіне і шкрабе на падбароддзі сівую шчэць. Ён паабяцаў, што пакуль не выпішуць — галіцца не будзе. Я спрабую падняцца са свайго ложка і войкаю. Дзед глядзіць на мяне і кажа: «Шмат ты іхняй кашы з'ясі, пакуль дамоў пусцяць. Я ў маладосці паламаў рэбры, дык паўгода крахтаў і войкаў, а ты хочаш, каб адразу. Няма добрых хвароб, каб нічога не рабіць, ды не балела… А на рэчцы ты, малец, рыбы зараз і не паловіш, па рацэ тхло плывець!»

«Што плывець?» — перапытваю.

«Тхло… Гніллё рознае. Вада смярдзіць і рыбе не да яды. Яна выскоквае адно толькі паветра хапануць. Ляжы і не перажывай… Каб цябе можна было абвязаць васьмёркай, дык яно б трохі меней балела, — кажа сусед і паварочваецца тварам да акна. — Капут лету. Вечар нейкі тусклы, восеньскі… Як яны там бульбу пакапаюць? Ай, неяк выкапаюць, куды дзенуцца».

* * *

Дзед Ціханёнак схадзіў да тэлевізара. Паглядзеў трохі і вярнуўся ў палату. Лёг на свой ложак і сказаў ціха: «Кепска яны жывуць... Страляюць, крадуць, ваююць... Лепей бы працавалі, але ж не хочуць. Працаваць яно трудна і не інцярэсна...» — сказаў і задрамаў.

А з калідора чулася тэлевізійная страляніна. Пасля навін пачаўся серыял пра мянтоў, і на канапе не было месца вольнага.

* * *

На абходзе хірург загадаў дзеду Ціханёнку легчы, памацаў жывот, сказаў, каб зрабілі перавязку. Ціханёнак пачаў прасіцца дамоў.

«Я цябе выпішу, а ты зноў нажы параскідваеш па хаце і будзеш на іх падаць. Так?» — засмяяўся хірург і падмігнуў сваёй асістэнцы. Ён лічыў, што пажартаваў вельмі ўдала.

«Не буду я падаць… Пусціце дамоў!»

«Праз дзесяць дзён… Не, праз шэсць, ты чатыры праляжаў».

«Пяць!» — пакрыўджана запярэчыў дзед.

Потым асістэнтка хірурга мне сказала, што ні дактары, ні міліцыянеры не вераць, што дзед упаў на нож, калі вастрыў яго.

І я не паверыў. Калі спытаў у дзеда, як усё было, то ён адвярнуўся да сцяны, зрабіў выгляд, што спіць, але дыхаў цяжка, і патыліца з шыяй выглядалі злосна.

* * *

Праз гадзіну пасля вячэры дзед Ціханёнак сеў на ложку, звесіў ногі, паглядзеў на мяне. Наш супалатнік з хворымі ныркамі выйшаў у двор. «Нешта я, малец, не наеўся сёння… Слабасць нейкая, а трэба хутчэй папраўляцца», — сказаў і дастаў са шкапка сала, загорнутае ў марлю. Акуратна пакроіў маленькім складанчыкам. Лязо выцер ражком марлі. Сала было белае, у чатыры пальцы, бяз мяса, скурка шэра-рудая. Расклаў лустачкі на бальнічны чорны хлеб.

«Пакаштуй, горш тваім рэбрам не будзе», — сказаў і падаў мне хлеб, на якім ляжала чатыры скрылі белага сала.

Я падзякаваў, а Ціханёнак хмыкнуў: «Можа ты такое не ясі, а я дык люблю без мяса, сапраўднае».

Сала было неверагодна смачнае. Яно само раставала ў роце. Такое я еў вельмі даўно, калі яшчэ ў школу не хадзіў.

Мог бы і яшчэ з’есці таго незвычайнага сала, але хлеба больш у нас не было.

* * *

Дзед Ціханёнак слухаў нашу вячэрнюю размову з хворым на ныркі, зацята маўчаў: ні пытанняў, ні ўдакладненняў. Амерыка, Беларусь, Расія, Літва, Польшча, Украіна… Стары ляжаў, рукі за галавой, і маўчаў. Я толькі профіль ягоны бачыў, шчэць сівая паблісквае, ды вочы. Мы перасталі гаварыць, а тут ён і кажа: «Жонку прагнаць можна, памяняць можна… А сусед табе назаўсёды. Дасі слабіну раз, ён табе на шыю сядзе і паганяць будзе… У майго бацькі быў такі сусед — зусім кепскі. І біліся, і сварыліся, і судзіліся. А дзецца няма куды. Вось наша зямля побач з яго. Саўсім кепска было — за сякеры хапаліся неаднойчы. Потым ноччу маланка ў нашу хату ўлупіла — усё і згарэла. Дзе там патушыш? Мне тады гадоў сем было, ладны ўжо малец… Дык той сусед, якога бацька засекчы быў гатовы, пусціў нас у сваю пуню, печ дапамог скласці. Дзве зімы і пражылі, пакуль пабудаваліся… А без суседзяў і не бывае. У лесе дык табе ваўкі суседзі. Гэтай зімой, пад весну, ваўка бачыў. Сыты быў. Бег па бярэзнічку, на дзялянцы…»

Ціханёнак заснуў і пачаў пасвістваць і ўздыхаць.

## Сустрэча

— Лілька, прывітанне! А што гэта ты ўся ў сіняках? І на руках, і на нагах, і на шыі, і тут?

— Тут — гэта чарніка… А на руках і на нагах, дык я ж са скацінай працую… Яны на дойку, як тыя чэрці, як ламануцца. Не заўсёды можна ўвярнуцца. А ў мяне ўнучка нарадзілася — Дарута…

## Антанаўка

Ціхая жнівеньская ноч. Яснае неба з мільёнамі бліскучых кропель-зорак. Яны мігцяць, але застаюцца на месцах, як плешкі новых цвічкоў. Стаю на ганку і гляджу ў неба.

Раптам чую шорах лісця і грукат яблыкаў пад старой вялізнай антанаўкай. Нават ноччу відаць — яблыкаў на ёй, як тых зорак. Адразу падумаў, што гэта нехта з вясковых п’янтосаў вырашыў нахабна абкалаціць яблыню, каб заўтра здаць колькі мяхоў і купіць віна. Абкалочвалі нахабна, падалося, што лупяць кіямі па галлі, а таму яблыкі сыплюцца густа і шумна. Я пайшоў праз цемру, па мокрай траве да дрэва. Калі падыходзіў, то падумаў, што, можа, гэта суседскі конь заблукаў у наш сад і захрас пад разгалістай яблыняй, заблытаўся вяроўкай. Торгаецца, а выкараскацца не можа… Калі ж падышоў бліжэй, дык убачыў, што вяршаліна яблыні калоціцца і патрэсквае, хрубасціць. Да мяне пачало даходзіць, што адбываецца ў начной цішыні. Праз колькі імгненняў пачуўся хрубаст, і вялізная галіна, амаль трэцяя частка дрэва, адламалася і ўпала. Пасыпаліся яблыкі. Вялікія, як мой кулак. Стала ціха-ціха… Мне хацелася заплакаць, так было шкада старую яблыню. Я не заплакаў, адно расстроіўся…

Старое дрэва, каб не разваліцца, не разарвацца надвае і загінуць, ратавала само сябе, аддало вялізную галіну, абцяжараную яблыкамі… Падумалася пра яшчарку, якая адкідвае хвост, каб уратаваць жыццё.

## Ціханёнак

«Ну якая зямля, якія гектары, калі мне штомесяц пенсію даюць. А тым, каму не даюць, дык яна тым больш не трэба... Няма тых людзей, хто за зямлю калаціўся. Закапалі даўно. І ўсё! Спі, малец», — амаль загадаў дзед Ціханёнак.

У куце стагнаў і крахтаў маладзён з разбітай галавой. У вокны свяціў месяц. Дзед Ціханенак выглядаў, як нябожчык. Ён утаропіўся ў столь.

* * *

У палаце № 6 з’явіўся новы жыхар. І адразу мой бок, ныркі суседа, жывот дзеда Ціханёнка пачалі балець менш. Мужчына сталага веку быў у цяжкім стане. Ён перарывіста дыхаў, хліпаў, гучна стагнаў і прасіў дактароў, каб зрабілі хоць што, каб суняўся боль і перастала гарэць у самым нізе раздзьмутага, як вялікая падушка, жывата. Дактары стараліся. Яны нават пра нас забыліся. Рабілі цяжкахвораму ўколы, ставілі кропельніцы, бралі аналізы, мералі то ціск, то тэмпературу… Праз чатыры гадзіны яго завезлі ў рэанімацыю, бо рады даць не маглі.

Дзед Ціханёнак падышоў да акна і глядзеў на яблыню. На яблыкі і вераб’ёў. «Вось я ніколі не быў таўстым. Можа, толькі за апошнія гады паспраўнеў — працую менш. Разрэжуць гэтага чалавека зараз, а можа, і разрэзалі. Зробяць аперацыю… Доўга такое тлустае пуза будзе зарастаць, ой, доўга, — сказаў, прайшоў па палаце, на свой ложак сеў, памацаваў жывот. — Не было раней такіх таўстых мужчын. Усе цяжка працавалі, а цяпер праз аднаго... Нешта вячэру нам сёння не нясуць…»

На вячэру прынеслі па тры сырнікі і яблычны кампот. А яшчэ праз гадзіну, мы «дагналіся» смачным салам, бо ад яго жывот не забаліць, а спіцца лепш. Так сцвярджаў дзед Ціханёнак.

* * *

Боль надакучвае… Каб не прыслухоўвацца, расказваю дзеду Ціханёнку пра тое, як доўга выцягваў з дзвярнога вушака чорны прабой. Вушак ламаць не хацелася, таму і вэжкаўся, спрабаваў па-рознаму. Прабой звінеў, але я дастаў яго. Ён аказаўся самаробным, выкаваным жончыным дзедам у вясковай кузні. Нагадваў моцны зуб.

«А ведаеш, чаму ты яго выдзерці адразу не змог? Раней будавалі не так, як цяпер. Сусед рамантуе лазню. Падышоў, гляджу, а ён лепіць усё абы-як… Кажа, што на яго век хопіць. Пра дзяцей не думае, бо ведае, што ім ні лазня гэтая, ні хата, ні агарод не спатрэбяцца. Раней добрыя гаспадары і сабе, і дзецям, і ўнукам рабілі… Вось таму твой дзед і каваў прабой. А ты яго выкінуў?» — спытаў Ціханёнак.

«Не… Параўняў і забіў нанова».

«Нічога са старога нікому не трэба… І старыя нікому не трэба. Адно клопат з імі…» — ён ляжаў на левым баку, так яму менш балела, і гаварыў, гаварыў. Аж пакуль не прыйшла медсястра з аднаразовымі шпрыцамі, каб рабіць абязбольваючыя ўколы.

* * *

Калі я прачнуўся, то жонка дзеда Ціханёнка сядзела на краі ложка, маўчала і глядзела на свайго чалавека. Зусім не такой уяўлялася мне яна. Жанчына была дробненькая, у белай хустачцы, шэрай кофце і сіняй спадніцы. Хустка была завязаная на патыліцы, як у кіношнай сястры міласэрнасці.

«Моцна табе баліць? — амаль шэптам пыталася яна і беражліва выцягвала з брэзентавай торбачкі бела-сіні пачак цыгарэт, запалкі, нешта загорнутае ў марлю, бутэльку з вадой, рулон шэрай паперы, ручнік, дзве часначыны, бейсболку, расчоску, электрабрытву, падобную да кавалка жоўтай косткі, нажніцы… Усё гэта яна клала на шкапок, і толькі цыгарэты схавала ў шуфлядку. — Ці чуеш, баліць моцна?»

«Не, не баліць!.. Я папрашуся, каб дамоў пусцілі. Заўтра і папрашуся. А калі не пусцяць, дык ты не ездзі сюды, няма чаго табе тут рабіць. Ясна! Коз пасві», — можа, жартам, а можа, сур’ёзна сказаў Ціханёнак і запытальна глянуў на жонку.

Тая спахапілася, выцягнула з-за пазухі грошы і паклала ў вялікую мужчынскую руку. Я неяк хутка змог падняцца і пайшоў на калідор. Мне было крыху няёмка перад пачуццямі, рухамі, позіркамі і дотыкамі старых людзей.

Калі вярнуўся ў палату, то Ціханёнак сядзеў на ложку, трымаючы ў левай руцэ запалкі, а ў правай пачак цыгарэт. Ён глядзеў на свае босыя ногі з абрэзанымі пазногцямі.

* * *

У бальніцы асабліва няма чаго рабіць: уколы, таблеткі, працэдуры, ежа. Усё гэта займае, калі скласці, гадзіну. У мяне быў камп’ютар і тэлефон, і я мог чытаць, пісаць, слухаць.

Дзед Ціханёнак, як толькі пачаў уставаць з ложка, так і занудзіўся. Падыдзе да акна і глядзіць, ці па калідоры пройдзецца. Не, першае што ён рабіў з самай раніцы — запраўляў пасцель. Растрасаў коўдру, прыціскаў яе да грудзей няголеным падбароддзем, складаў у дзве столкі, узбіваў падушку, выпроставў прасціну. Яго ложак быў самы акуратны ў нашай палаце. Прыгажэйшы за тыя, засланыя спрытнымі санітаркамі.

Запраўляў Ціханёнак пасцель разоў па сем на дні. «А што мне рабіць яшчэ. Лыжку памыў, ложак прыбраў… Надвор'е паглядзеў. Трэба ж, каб хоць нейкая работа ў чалавека і ў бальніцы была. Нельга ляжаць, як нябожчык. Так не лечацца…» — казаў ён і паказваў на скамечаную коўдру нашага супалатніка.

Дзіўна, але на другі дзень у нашай шостай палаце ўсе пасцелі былі акуратна засланыя, і дактары з санітаркамі, калі заходзілі, рабілі вялікія вочы.

* * *

Мне патэлефанавала жонка. Пагаварылі.

«Усе яны аднолькавыя… І мая баіцца, каб я не памёр, каб адной не застацца. А так яно і будзе. Яна ж на шэсць гадоў маладзейшая», — Ціханёнак узяў з шуфлядкі цыгарэты, запалкі, і асцярожна выйшаў з палаты, каб пакурыць у прыбіральні.

Калі вярнуўся праз чвэрць гадзіны, то тытунём ад яго не пахла. Ён, усміхаючыся, падаў мне вялікі яблык. Такія раслі пад вокнамі, у садзе. Памыў рукі, выцер, расправіў ручнік. «Дроў ёй гадоў на пяць хопіць… Наступным летам печ перакладу, трэба крыху паправіць, каб гадоў на дзесяць яшчэ хапіла. І калодзеж адрамантую. Хацеў гэтым летам, дык не атрымалася…»

Ён расхваляваўся, калі пачаў думаць пра сваю смерць і пра тое як жонка застанецца адна, у вялікай хаце, а зусім побач, за агародам, так ён казаў, на пагорку вясковыя могілкі. Дзед Ціханёнак усё хадзіў па палаце, у акно глядзеў, а я заснуў.

* * *

За той час, што правёў у адной палаце з дзедам Ціханёнкам, ні разу не пачуў ад яго слоў Бог, Радзіма, Беларусь… Было пра коз, кароў, трактар і машыну, пра рухавік, пра бульбу і сала, пра жонку, пра зямлю і смерць, пра грошы, было і пра гарэлку, раку і рыбу...

Цяпер, дома, згадваю ушацкае слова — «лунуцца». Яно — сінонім слову «памерці», а дакладней — «загнуцца», «выпрастацца». «Хто ведае, ніхто не ведае, ці яна першая лунецца, ці я?» — разважліва казаў дзед Ціханёнак пра сябе і сваю жонку.

Мне бачыўся вялізны птах лунь, які імкліва падае пругкім камяком на шэрую мыш, хапае яе вострымі кіпцямі, выпроствае шэрыя крылы і нясе далёка-далёка, у верасы на цёмным узлеску. Падумалася, што той казачны лунь падхопіць Ціханёнка, падхопіць яго жонку… (але хутчэй за ўсё этымалогія слова іншая, бо шэрага, у цёмных плямках, луня часцей называюць мышаловам).

* * *

Пасля дзённага адпачынку мае суседзі па палаце № 6 сабраліся схадзіць у краму, якая месцілася за тэрыторыяй бальніцы, за шашой. Нічога купляць не збіраліся. Дзед Ціханёнак памачыў колькі разоў расчоску і прычасаў свае

сівыя кудзеры, а потым надзеў бейсболку. Выглядаў стары азартна і крыху бандзюкавата. Калі б яны адразу пайшлі, то й не было б маленькай прыгоды і не пачуў бы я разваг пра грошы. Але выправіцца ў краму мужчыны не змаглі, бо ў палату зазірнула медсястра і сказала, што мальцу з ныркамі будзе тэлефанаваць жонка. Наш сусед пайшоў чакаць, а Ціханёнак пачаў перакладаць грошы з кішэні ў кішэнь. Грошы, а там было колькі манетак, рассыпаліся, разбегліся па падлозе. Ціханёнак разгублена глядзеў на рабенькі лінолеум.

Адну манету дастаў лёгка, бо яна ляжала блізка, а другая закацілася пад ложак. Прысесці на кукішкі, ці стаць на калені ні дзед не мог, ні я. Ён баяўся што швы разыдуцца, а я, каб і сагнуўся, то не падняўся б. Ціханёнак спрабаваў дастаць манетку і правай нагой, і левай. Спрабаваў і так і гэтак. Злаваўся, шыя пачырванела. Калі не атрымалася нагой, пачаў спрабаваць вымесці яе ручніком, але той быў кароткі. Каб мне не балела, дык пэўна б я смяяўся…

Ціханёнак зняў бейсболку, кінуў на ложак.

«Там адна капейка!» — заўважыў я весела.

«Дык што з таго. Усё адно грошы, трэба дастаць. Якія ёсць грошы, тыя і добрыя. Галоўнае, каб яны былі ў кішэні, і каб за іх было што купляць…» — Ціханёнак злаваўся.

Прыйшоў наш вусаты сусед з хворымі ныркамі. Задаволены і расчырванелы пасля тэлефоннай размовы. Стаў на калені, дастаў манетку, аддаў дзеду. Манетка — адна капейка, была маленькая, меншая за пазногаць на мезінцы Ціханёнка, але ён ёй так моцна ўзрадаваўся, як дзіцянё.

У краму ён не пайшоў, бейсболку схаваў у шкапок і сказаў: «Дарма толькі намыльваўся».

А я ляжаў і думаў пра сваю кніжку прозы з назвай «Адна капейка».

* * *

Паехаў сёння ва Ушачы да доктара. У паліклініцы сустрэў дзеда Ціханёнка. Мы нават абняліся. «А пайшлі, малец, па сто грамаў... Возьмем побач з «Хачмасам», у мяне ёсць грошы. А то ці перастрэнемся яшчэ калі?... У мяне рука лёгкая». Мая рука схавалася ў ягонай. Ён засмяяўся напаўбяззубым ротам і адпусціў маю руку.

## Схадзіў на рэчку

Бачыў вожыка, бег па сцежцы. Спалохаў з дзясятак дзюбатых кулікоў, якія выпорхвалі з травы на лузе. Тры белыя чаплі і дзве шэрыя то лёталі, то хадзілі па залітых ракой берагах. Стары бусел з парай маладых лавілі жабак. Бачыў бабра, а праз чвэрць гадзіны пад берагам вынырнула выдра з маленькай круглай галавой. Злавіў з паўдзясятак рыбін. На іх паглядзець прыпоўз вялікі вуж… Розных, назваў не ведаю, дробных пташак бачыў у чаратах. Качкі са свістам лёталі ў пяці кроках і плюхаліся ў раку… Каршук вісеў у небе… Можа, за некім цікаваў.

Ёсць нешта таямнічае і правільнае ў назве — «Таварыства аховы птушак Бацькаўшчыны».



Фёдар ГУРЫНОВІЧ

# РОДНАСЦЬ

*Паэма*
*(урывак)*

…Гусей тых даўніх спомніш ты калі —
Яшчэ й не жыў, як быццам, на зямлі.
Здзяйсняць цяпер задумкі ці не позна?
Даўно з тваёй прычоскі ўжо звілі
Нашчадкам жаўтаротым птушкі гнёзды.
Гадаю: крумкачы ці салаўі?

О не, цяпер не слухаць давідна
Салоўку, і з зарой не цалавацца.
Вядома, брат, вядома, што вясна,
Ды васямнаццаць — справа-то адна,
Зусім другая, што без двух, брат, дваццаць!

Няўжо і я быў звонкім, маладым?
Бясстрасна ўсе памечаны гады
Кадравікамі ў цеснай кніжцы вечнай:
Ні аднае пустое ў ёй графы.
А ўсе мае памылкі і грахі
Зафіксаваны пільна Шляхам Млечным
На чуйным небе, дзе жывуць багі,
Дзе вецер перамешвае аблокі…
О, як люблю я край свой сінявокі
І крык гусей — абветраны, тугі!

---

***Гурыновіч Фёдар Фёдаравіч*** *нарадзіўся 15 верасня 1950 года ў вёсцы Крывічы на Салігоршчыне. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1981). Працаваў сакратаром камсамольскай арганізацыі будаўнічага ўпраўлення, мастаком-афарміцелем, карэспандэнтам раённай газеты, дырэктарам краязнаўчага музея. З 1986 г. — у газеце «Калійшчык Салігорска»: карэспандэнтам, адказным сакратаром, рэдактарам. Зараз знаходзіцца на заслужаным адпачынку*

*Аўтар звыш 20 кніг кніг паэзіі і прозы для дарослых і дзяцей: «Хлеб і соль» (1980), «Шматгалосая кветка» (1983), «Вішня цвіце» (1992), «Пад знакам Дзіяны» (1995), «Птушыная азбука» (1997), «Сто хрустальных родничков» (2000), «Рэчка» (2003), «Застаецца вера» (2010), «Соловей» (2014) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра (1997).*

* * *

…Вялікія вяселлі ў нас рабілі!
Ці блізкі, ці далёкі ты сваяк —
Усе за стол: гасцей не менш ніяк,
Чым сотні дзве; хапала й разявак,
Нібы драздоў на позняй арабіне.

Прыдзірліва пляткаркі паглядалі:
— Ото ж, ты бач, вылазіць маладая.
— Дык нейкі ж ён малодшы за яе.
— Не маладая ўжо яна гадамі,
Чакай, чакай, я зараз прыгадаю…
Старэйшая, чым дочачкі мае.

— Чаго ж яны да лета не чакалі
З вяселлем? — там капуста, там гуркі…
— Няўжо ты ў нас няўцямная такая?
Хіба ж прыкрыеш ганьбу агуркамі?
Паглянь, жывоцік у яе які!

Хіхікалі, узяўшы рукі ў бокі,
Ім папляткарыць ды пакпіць абы.
А барабан пагрымваў — круглабокі,
Як у дзябёлай шаферкі клубы.
І на раструбах выгнутых шырокіх
Блішчала сонца з кожнае трубы.

Трамбон глушыў піскнявы зык кларнета
І рэзкім басам поплаў скаланаў,
І жахаў барабан сухім дуплетам! —
Яму хоць ты вяселле, хоць вайна,
Ён ведае адно сваё «бум-бом»,
Яму абы грымеў грымотней гром!

Ён быў старым, абшарпаным і хмурым,
Ды гулкім, быццам выспелы кавун.
І падстаўляў нацягнутую скуру
Пад важкую тугую булаву.
А барабаншчык часта штосьхалтурыў.
Ён прагна ў фіксах камячыў акурак
І пстрычкаю шпурляў яго ў траву.

Няйнакш яму былі патрэбны лекі —
У сэнсе пахмяліцца — ці ж не так?
Бо што ж за барабаншчык без пахмелкі?! —
Няўзнак звіняць бязладныя талеркі,
І булава не пападае ў такт.

Да музыкантаў важна сват падыдзе,
Абвязаны па шыі ручніком:

— Гэй, для мяне гапак у лепшым відзе,
А то ажно свярбіць пад каблуком!
— Э не, да гарманіста з гапаком!
І ганарлівы сват пры гэткай крыўдзе
Прысмаліць папяросіну цішком.

На паўгадзіны трубы бомкаць кінуць.
І трубачы, павытрасаўшы сліну
З губасценькіх сіпатых муштукоў,
Павесяць інструмент на частакол
І горача пра нешта загамоняць…
Тады сусед Іван бярэ гармонік.
Грай польку, беларусачку, ану!

«Знаў я полечку адну.
Полечку не полечку —
Беларуску Волечку,
Волечку-кабылачку,
Ножкі ўрастапырачку.
Толькі тая Волечка
Нізашто ніколечкі
Не глядзела на мяне.
А хай конь яе ўбрыкне!»

І лавы, і заслоны ўсе пусцелі.
Дзяўчаты, хлопцы, бабы, мужыкі
Падбрыквалі, падгэпвалі, мігцелі,
Нібы наўкола лямпы матылькі.
Здавалася, што скачуць нават сцены,
Нібыта ў вёсцы землятрус які.

Віхурылася вуліца агніста
У промнях астываючых касых.
Рубашак не трымалі паясы.
А на галінцы ў садзе шпак пасвістваў.
І віртуозна пальцы гарманіста
Тапілі то басы, то галасы.

Нястрымна, ярка полечка гудзела!
Нявеста ў белым — толькі б не ўракнуць —
Увачавідкі неяк маладзела.
Прыладзіўшыся збоку, неспадзеўку
Хацелася й дзятве якую дзеўку
Хоць за спадніцу вёрткую ўшчыкнуць.

* * *

…У лютым людзі з раніцы таргуюць,
З вясёлаю надзеяю шчыруюць.
Пабрынкваюць гаршчочкі, чыгункі,
Агнём гараць цыбульныя вянкі,

Гагочуць скрыні, рохкаюць мяшкі…
Шнуруюць між радоў пакупнікі.
А на шляху зваротным і гаруюць:
Непрадказальны люты ўсё-такі!

Ад снегу толькі лапіклы пакіне,
Нат санны след з зямлёй зраўняе ён.
І палазы скрыгочуць па дзярніне.
Ах, люты-люты, выставіў на кпіны,
Правёў, як верабейкаў на мякіне.
Ну й здраднік ты, ну ты й хамелеон!

Вядома ж, так, бо з раніцы кусае
Зусім не жартам лютаўскі мароз;
І трэ хаваць у рукавіцу нос.
З паўдня ж, бывае, запар***ы***ць, растане.
Тады ў паветку бацька ставіць сані
І коніка ўпрагае ў дрогкі воз.

Ахапкаў тры ў палукашак укіне
Ячменнае саломы, як заўжды.
Загопаюць грымотныя драбіны
І задрынчаць на храпах абады.
Палукаш, як вядома, — не кабіна,
Але ў ім хоць на людзі, хоць куды.

Паляк — гарачы і ўзрыўны, што порах!
Ён спрынтарскі, байцовы мае нороў,
Яго не трэба пужкай папраўляць.
З віціны гнуткай, лёгкі, нібы корак,
Парыпвае пад бокам бацькаў кораб,
Які ён плёў не менш чым тыдняў пяць.

Упрыхваткі, звычайна вечарамі —
Бо днём ніколі часу нестае —
Палукаш тата плёў у пары з мамай,
Што вышывала кветнікі свае.
Нібы гара хлыстоў на пілараме,
Дубцы ляжалі грудай на стале.

Ваду ён чэрпаў квартаю з вядзерца,
Хадзіў яго кадык у такт глыткам.
А я сачыў, як паслухмяна гнецца
Дубец у лоўкіх татавых руках.
Па хаце плаваў дух таго азерца,
Пруткі вакол якога ён шукаў.

Мільгалі розгі так, што нават верад
Наклікаў я тым вечарам на зрок.
А бацька іх прыдзірліва сцярог —
Спружыністыя, гнуткія, што верас.

І слізгаў кожны з іх, нібы чаўнок,
Упоперак і ўдоўж, узад і ўперад.

А тыя, што тырчалі, быццам джалы,
Як пад нулёўку, роўна падстрыгаў
Складанчык едкі, злізаны да жалю,
Што на раменьчык тата залыгаў.
І кот у бацькі коўзаўся ў нагах
Агнёва-рыжы, быццам бы з пажару.

Састрыжаныя кончыкі бясконца
Пад стол ляцелі. Поўзаў я ў саколцы,
Збіраў іх і шпурляў у грубку ўсмак.
Яны імгненна ўспыхвалі, ды так,
Што скручваліся ў дужкі, коскі, колцы
І ў літары — то ў эс, то ў мяккі знак.

Я прыкіпеў да літар вельмі рана —
Яны былі як хлеб і як вада;
Пяшчотным болем і гаючай ранай,
Дзіцячай марай — чыстай, як вада
Крынічная; не тая, што з-пад крана.
Тады з тэлевізійнага экрана
Ніхто нам казак не апавядаў.

Пра той экран мы ведалі па чутках;
І быў недасягальным ён для нас.
Хаця зусім не з гэтага, лічу я,
Да кнігі я цягнуўся сэрцам чуйным.
І калі перайшоў у восьмы клас,
То знаў бібліятэчны ўвесь запас.

Я з кнігай размаўляў, як з чалавекам.
Падзея, тайна, думка, адкрыццё —
Была яна жаданаю спрадвеку.
Заветную сваю бібліятэку
Збіраў я ўсё свядомае жыццё.

Каля кнігарні, быццам на пасту,
Стаяў, хоць часам хлеб жаваў нішчымны.
І, за вярстой праходзячы вярсту,
Адну да аднае іх ставіў шчыльна.
Я думаў: сын з дачкою падрастуць
І мне за кнігі дзякуй скажуць шчыры.

О, Божа, як змяніўся белы свет!
Звужаецца прастора кніжных крылаў.
Нашчадкі абжываюць Інтэрнэт,
А кнігі сумна абрастаюць пылам.
Не модна стала быць бібліяфілам
У век мабіл і ядзерных ракет.

Я ж быў з дзяцінства кнігай паланёны.
Завея завывала, быццам звер.
А я чытаў бяссонна і натхнёна
Лынькова, Маўра… Помняцца імёны
Герояў гэтых кніжак і цяпер.

Адна з іх — як рэліквія. На гульбы
Цягнула ўжо вясновая пара.
Таўхала мяч нагамі дзетвара;
І дзед на сонца вылез з доўгай кульбай.
А я ў вялізны кош на полі бульбу,
За зімку перамёрзлую, збіраў.

— Карысней, бач, чым лынды біць, — паднесці
Памог мне тата кош, — усё-ткі плён!
І па плячы мяне пахлопаў ён.
За гэты мой учынак піянерскі
Бацькі мяне аддзячылі рублём.

Шчырэла сонца з зіхатлівым тварам,
І лужыны блішчалі, што язі.
Сабраўшыся ля лазні ў гурт адзін,
Жанчыны раздзімалі тары-бары.
А я спяшаўся ў новы магазін,
Каб першы свой заробак атаварыць.

Ляжаў там на прылаўку звонкі бубен.
Мне так яго хацелася купіць
І палачкамі тонкімі пабіць,
Каб бомкаў ён, як той, што ў нашым клубе!
Яшчэ былі там кнігі: Гаршын, Бунін,
Някрасаў, Колас, Глебка, Кучар, Кунін…
Я браў іх далікатна, асцярожна.
Я іх гартаў і адчуваў, што ў кожнай
Па-свойму неяк вокладка рыпіць.

Паэмы, байкі, нарысы, паданні —
Усе яны патрэбныя, бадай, мне.
І танныя — не больш чым па рублю.
І што ж купіць, мо «Новую зямлю»?
Чытаў ужо, хоць так яе люблю!
А вось Бядуля, так: апавяданні
І казкі; мусіць, гэтую куплю.

Пазней я зачытаў яе да дзірак;
Амаль на памяць ведаў «Салаўя».
Чытаў услых. Гадзіннік сонна цікаў.
Крадком матуля плакала ў хусцінку,
Нібы ў маленстве недаеў і я
Пяць лыжак той галоднае заціркі.

Глядзела Маці Божая з іконы.
І тата, адарваўшыся ад спраў,
Таксама слухаў з позіркам замглёным.
А я душою так перажываў,
Што ў зімнім лесе разам з Халімонам
І Цішкам ад марозу паміраў[1].

Убок адклаўшы з дратваю іголку
Заўважыў бацька:
— От была бяда!
Вучыся сын; навука — свет у воку,
Яна што жыватворная вада.
А тое дрэва, што расце высока,
Далёка — нават з горада — відаць.

Пасля адкрыў я для сябе кнігарню
У гарадскім пасёлку.
— Не хітры! —
Казаў мне мамін брат, калі кругамі
Хадзіў я каля ровара, — бяры!
Ды і грашамі дзядзька памагаў мне.
Падкідваў ён то два рублі, то тры.

Я ровар гнаў па хвойнаму кварталу.
Смала смылела ад гарачыні,
Над галавою ў змрочнай вышыні
Гарлаў варонін вывадак картавы.
І тоўстыя, рудыя, як удавы,
Перапаўзалі сцежку карані.

Заходзіў у культмаг — нібы з ракі
У мора кніг я выруліў на лодцы.
І вочы разбягаліся ўбакі:
Дубоўка, Багдановіч, Забалоцкі…
Якая глыбіня, прастор які!
Як радаваўся я сваёй знаходцы!

Назад ляцеў, як той мужык з базару,
Што збыў увесь прыплод свіны з наварам.
Узрушаны, шчаслівы, варушкі! —
Круціў педалі за плячамі з парай.
І свежаю друкарскай пахлі фарбай
Адціснутыя боргесам[2] радкі.

[1]«Салавей», «Пяць лыжак заціркі», «Малыя дрывасекі» — апавяданні Змітрака Бядулі.
[2]Боргес — адзін з друкарскіх шрыфтоў.



Анатоль БУТЭВІЧ

# РАСПАСАЖАНЫ ДОМ, АБО ХУТАРСКАЯ ВОЛЬНІЦА

*Аповесць**

## 22

Другое здарэнне адбылося неўзабаве пасля гэтай сумнай падзеі.

Мароз стаяў моцны. Неба было чыстым-чыстым, такім празрыстым, як толькі што вымытае шкло, ажно пазіраць страшна, — чысцейшае за многія аконныя шыбы. І сонца на ім яркае-яркае, на снег глядзець немагчыма — так коле, што вочы самі заплюшчваюцца. А пад вечар раптоўна ўсё неба закрылася хмарамі, нядаўняе сонейка мо Моравая пані ўкрала — ніводзін праменьчык не праб'ецца праз чорнахмарнае цемрыва. Пасля сталася тое, аб чым казалі спанатраныя ў загадках прыроды людзі, — чэрці пачалі спраўляць сваё вяселле, бо такой завірухі, пэўна, свет не бачыў. Ды і не завіруха гэта была, а самая сапраўдная кудаса. Снег паваліў такі густы, што, здаецца, пальца ў яго не ўторкнеш. Падняўся вецер. Снег закруціла так шалёна, што ні полька, ніякі іншы хуткі танец не зраўняецца. Самыя сапраўдныя снежныя слупы ў неба падымаюцца.

«Дак гэта акурат з нашай размовы-спрэчкі з Хвілосафам, — нечакана падумалася Мані. — Тады, калі мы казалі пра снег на зямлі, зямную хуткасць, вецер і кудасу. Выходзіць, і праўда, кудаса ад ветру залежыць, а вецер ад зямной хуткасці, а хуткасць зямлі ад яе вагі, а вага ад колькасці снегу на ёй?.. Ой, тут бяда такая, а я пра дурноё зноў, даруй мне Госпадзі», — Маня тры разы перахрысцілася.

У коміне Іванавай хаты цэлы аркестр іграў, так скавытаў там на ўсе галасы вецер. Ды мо і не адзін ён быў, бо галасы чуліся і тоненькія, і скрыпучыя, і басавітыя, і пісклявыя. Відаць, і праўда чэрці жаніліся. Іван спалохаўся, што салому са страхі сарве, выйшаў паглядзець. Але, каб і хацеў, то нічым дапамагчы не здолеў бы. Вецер самога ледзь не збіў з ног. Вярнуўся ў хату ўвесь залеплены снегам.

Толік адразу пажартаваў:

— Мама-мама, глядзі, Дзед Мароз прыйшоў, — а тады да бацькі: — А цукерак прынёс?

— Якія тут цукеркі, сынок, — прамовіў бацька, атрасаючы з сябе цэлыя гурбы снегу. — Тут глядзі, каб хата цэлая засталася. Кудаса страшная, завіруха, якой мо і ні было ні разу.

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 10, 2016 г.

Гэтыя словы выклікалі ў Толіка трывогу. Ён зірнуў у акно, каб паглядзець, што там робяць завіруха з кудасай, але што ты ўбачыш праз замерзлае шкло. Адно недзе трывожна пазвоньвала шыба, на што маці адрэагавала адразу:

— Ой, каб ні выбіло.

А тады яна сабрала ўсю старую вопратку, ручнікі, анучы, словам, усё, што можна, і раскладвала ўсё гэта на падаконнікі, — каб адбіць дарогу ветру, які пачаў імгненна выдуваць з хаты цяпло. Ды не ўратавала гэта — да раніцы стала так холадна, што хоць ваўкоў ганяй. Замерзлі не толькі шыбы, а і вада ў вёдрах на кухні. Нават жалезная клямка на дзвярах з хаты ў сені пакрылася тоненькім лядком.

Цэлую ноч выла, скавытала, крычала, галасіла ўсімі магчымымі і немагчымымі галасамі завіруха, не адставала ад яе і кудаса. Хата ажно ходырам хадзіла. Толік, лежачы каля таты, доўга не спаў — усё прыслухоўваўся да гэтых нялюдскіх спеваў. А пасля накрыўся з галавой і аддаўся Марфею, заснуў.

Раніцай яго разбудзілі галасы таты з мамай. Спачатку падумаў, што яны сварацца, бо здаралася часам такое, асабліва тады, калі бацька лішні раз на корак наступіць. Прыслухаўся — не, не крычаць адно на аднаго. Пра іншае гавораць.

— Гэта ж трэба, каб такоё нарабіласё. Ніколі гэтаго ні было, — кажа тата.

— Дак мо нас Моравая пані замуравала? — не зусім сур'ёзна адказвае мама.

— Ага, альбо тыя нкусаўцы, што людзей нашых пазабіралі, — у тон ёй кажа тата.

— Цьфу-цьфу, хай Бог бароніць, — пляснула рукамі мама і перахрысцілася. — Што ты такоё пляцеш? Якія нкусаўцы? Яны ж з'ехалі ўжэ. Завіруха гэта нарабіла.

— А што там нарабіла завіруха? — падаў голас Толік.

— О, і ты прачнуўсё? — падышла да сына мама. — Дак кепскаго нарабіла. Бяды натварыла, шкоды. Замуравала нас.

— Як гэта — замуравала? — спалохана спытаў Толік. — Чым?

І мама расказала. Устала яна раненька, каб у печы запаліць. Пачала распальваць трэскі — не хочуць гарэць. Падзьмухала. Сяк-так загарэліся. Дровы пачалі дыміцца. Ды во бяда — дым на хату ідзе, а не ў комін. «Што за ліхо?» — думае Маня. Рашыла на двор выйсці, паглядзець. Адсунула засаўку ў сенях, адчыняе дзверы, а яны не паддаюцца. Паклікала Івана, турзануў той мацней. Дзверы адчыніліся, а ў сені пасыпалася цэлая гурба снегу. Адскочылі Іван з Маняй. Дзверы то адчыніліся, але свету Божага не відаць, няма надворка, няма плота, нічога няма — адна суцэльная снежная сцяна перад вачыма.

— А Божачка мой, а мілы! — пляснула далонямі Маня. — А што ж гэта такоё? Хто замураваў нашыя дзверы?

Завіруха з кудасай пастараліся. За ноч намяло гэтулькі снегу, што ён зраўняўся са страхой. Каб і хацеў, з хаты не вылезеш.

— Добро яшчэ, што дзверы ўнутр адчыняюцца, — прамовіў Іван, — а то сядзелі б тут да вясны.

— Дак і так ні вылезем, — выказала сваё Маня.

— І гэта праўда, што ні вылезем. Трэба адкопвацца.

— Адкопвацца то добро, але куды ты будзеш снег той дзяваць?

— Зноў твая праўда, — згадзіўся Іван.

Думалі, гадалі, меркавалі. Вырашылі толькі нару ў снезе пракапаць, а снег складваць у вёдры, тазікі — у любы посуд, абы вылезці на двор. А пасля

ўжо адкінуць снег ад дзвярэй на агарод. Так і зрабіў Іван. А тады паклікаў Толіка:

— Хадзі палядзі, сынок, як нас замуравалі.

— Ты што, здурнеў, — запярэчыла Маня. — Замерзня дзіця.

— Дак адзень добро, хай палядзіць, — параіў Іван. — Бо дзе ён яшчэ ўбачыць такоё.

Толіка апранулі, падвялі да адчыненых дзвярэй у сенях. Цёмна там, адно трохі святлей у снежным праёме. Ды дзірка-нара, пракапаная татам, святла дадае.

— Ну што, Толік, палезеш наверх? — пытаецца тата.

Страшнавата Толіку, боязна, а раптам схопіць там наверсе кудаса, альбо завіруха забярэ. Але ж і цікава па снежным тунэлі паўзці.

— Палезу, — рашыўся.

І пачаў карабкацца па нары наверх. Лезе Толік, паўзе, рукамі сабе дапамагаючы, а снег сыпкі, не трымаецца, абсыпаецца, у сені падае. Пацець стаў Толік, а да верху ніяк не дабярэцца. Тата ўзяў і трохі падпіхнуў сына, той аказаўся на самым версе вялізнай гурбы.

— Ну, што там? — пытаецца тата, хоць сам ужо быў на волі.

— Ой, тут страха просто перада мною, — адказвае Толік. — А снегу кругом, што ніводнаго куста на агародзе ні відаць. І дзедавай хаты ні відно.

— Дак мо і яе засыпала? — трывожна пытаецца мама.

— Трэба пайсці палядзець, — сур’ёзна адказвае тата. — Бо дзверы ў іх на надворак адчыняюцца, калі заваліла снегам, то й праўда ні вылезуць.

— Ты спярша комін правер, што там, — просіць Маня, — бо ў печы ні гарыць.

Зірнуў Іван на страху, а там, каля самага коміна, таксама гурбу намяло. Ды такую, што зверху закрыла яна комін, вось дым і не ідзе. Узяў Іван нейкую доўгую палку, добра, што ў каморцы ляжала, бо на двары цяпер нічога не знойдзеш, і сяк-так разгроб снег каля коміна, паспрыяла і тое, што гурба, на якой стаяў, да самай страхі даставала, комін бліжэй, лягчэй снег калупаць.

Але не адразу дым пайшоў, відаць, намяло і ў комін. Пакуль цёплы дым не растапіў снег, які халоднай вадой ажно на дровы сцякаў, датуль не хацела гарэць печ. А тады загула, засвяцілася яркім полымем, пасылаючы цяпло ў хату.

Тату ж хапіла працы на цэлы дзень. Схадзіў да дзеда Яся, але таго, аказваецца, пашкадавалі кудаса з завірухай, не да стархі намялі снегу. А пасля ачышчаў сваю будыніну, бо ў хлеў не залезеш — снег па ўсім надворку, а тут жа пад адной страхой і хата, і каморка, і хлеў. Так што давялося папацець. Праўда, як маглі, дапамагалі Толік з мамай. І да вечара ачысцілі надворак, пракапалі сапраўдны тунэль, па якім Толіку было так цікава бегаць, што і ў хату не загнаць.

А каб суцешыць сябе, Маня прамовіла:

— Добро, што снегу много, жыто добраё вырасце. Помніш, Іван, Мацейкаву прыказку? Калі зімой зямля бачыць неба, то летам ні будзя на ёй хлеба.

Вось такім запомніўся жыхарам Язаўца самы люты месяц 1940 года.

## 23

Але з марозам, аказалася, Толік не разлучаўся і пазней. Мані згадалася і больш позняя прыгода. Таксама зімой было. Сержаноў луг ужо замёрз. Дарослыя хлопцы зрабілі там вельмі ж правабную коўзанку. Прасвідравалі ў лёдзе дзірку, забілі туды кол, да якога прывязалі доўгую сасновую жэрдку. На адным

канцы яе змайстравалі своеасаблівыя ручкі, каб можна было круціць жэрдку вакол кала, а да другога прывязвалі санкі. На іх клаўся нехта з ахвотнікаў вострых адчуванняў, абшчаперваў санкі абедзвюма рукамі, а іншыя круцілі жэрдку за ручкі і сані слізгалі ўкруга па лёдзе, нібыта іх чорт насіў. Чым мацней круцілі, тым хутчэй ляталі санкі. Часам даводзілі да такой хуткасці, што адцэнтрабежная сіла, пра якую, вядома ж, хлопцы і ведаць не ведалі, скідвала з саней дзецюка і той ляцеў па лёдзе ажно да самага берага лугу, дзе ўсім целам зарываўся ў снег. Малым хлопцам самім садзіцца на санкі не дазвалялі, а дарослыя часта каталі малечу, не даводзячы, вядома, да катастрофы.

Адным марозным днём Толік адпрасіўся ў мамы пайсці да Віціка Пулікоўскага, ля хаты якога і быў той вабны Сержаноў луг. Мама строга наказала не вазіцца самім на санках на лузе, не рабіць нічога благога, бо ніколі больш не пусціць аднаго. Толік паабяцаў, што проста будуць гуляць з Віцікам і яго меншым братам Славікам каля хаты.

Спачатку гэтым і займаліся. Вазілі адзін аднаго ў санках, куляліся ў снезе, коўзаліся на нагах па празрыстым лёдзе Сержановага лугу. А пасля пачалі розныя штукарствы прыдумваць. І тут старэйшы за сябрукоў Віцік вырашыў падсмяяць малечу.

— А ці ведаеце вы, хлопцы, што зімой усё жалеза становіцца салодкім?

Толік са Славікам толькі пераглянуліся і нічога не адказалі.

— Не верыце? — здзівіўся Віцік.

— Не верым, — асмеліўся Толік.

— Не верыце? — паўтарыў сваё пытанне Віцік. — Тады пайшлі, пакажу.

Ён падвёў хлапчукоў да дзвярэй хаты.

— Бачыце? — паказаў на клямку.

Хлапчукі паглядзелі на дзверы.

— Бачыце, на клямцы цукар выступіў? — паказаў Віцік на дробныя зернейкі снегу ці інею, а мо белага лёду, якімі былі пакрыты не толькі клямка, а і замок, што вісеў у прабоі. — Хочаце лізнуць?

— Ага, цукар? — не паверыў Толік. — Сам паліжы.

— Я табе кажу, што цукар, — пераконваў Віцік. — Сам некалі каштаваў. Не верыце? — для большай пераканаўчасці спытаў адразу ва ўсіх.

Хлопцы маўчалі і толькі вачыма плюскалі, не разумеючы, праўду гаворыць Віцік ці падманвае. А ён павярнуўся да хаты:

— Тады глядзіце, я сам паліжу, — і зрабіў крок, нібыта сапраўды хацеў лізнуць клямку. Але яго перабіў Славік, якому, відаць, хацелася таксама таго дзіўнага цукру пакашатаваць:

— А давай я пакаштую? — папрасіў.

Каб паддаць ахвоты хлопцам, Віцік аднекваўся, адгаворваў, намагаўся даказаць, што яму больш звыкла. Гэта і сапраўды яшчэ больш падагравала эмоцыі Славіка.

— Не, ты ўжо каштаваў, дай цяпер мне, — не згаджаўся ён.

Віцік ахвотней аддаў бы гэта права Толіку, а не свайму брату, але той быў такі настойлівы, што Віцік урэшце згадзіўся:

— Ну ладна, давай ты.

Славік падышоў да дзвярэй, паглядзеў на белаватую ад марозу клямку, зірнуў яшчэ раз на Віціка.

— А што? Спалохаўся? — пад'юшчваў Віцік.

— Не, і зусім не спалохаўся. Глядзі…

І не паспеў Віцік што-небудзь сказаць ці затрымаць Славіка, як той падскочыў да дзвярэй, высалапіў язык і лізнуў тую нібыта салодкую клямку.

Ой-я-ёй, што тут пачалося, то адразу і не разбярэш, і не раскажаш. Пачуўся такі крык, якога, відаць, каля гэтай хаты ад самага яе з'яўлення на хутары не было чуваць ніколі. Крычаў Славік. Язык яго прыляпіўся да намёрзлага жалеза. Славікаваму языку адразу ж стала ці то холадна, ці то горача, хлопец адразу і не разабраўся. Але што балюча, то гэта пэўна. Слёзы самі пацяклі з вачэй. Яны капалі на клямку і адразу там замярзалі. Славік міжволі тарганууся, каб адысціся ад тых халерных дзвярэй. Языку стала яшчэ больш балюча. Славік круціў галавой, язык пачаў адрывацца ад клямкі. Але адначасова з гэтым ад языка пачала адрывацца невялікая палосачка, якая чырвоным паскам аставалася на жалезе. На парог стала капаць кроў.

Толік міжволі кінуўся на падмогу сябруку. Ён скінуў рукавіцу, каб не цerлася па Славікавым твары, і голай рукой схапіўся за клямку, хацеў адчыніць дзверы, не ведаючы яшчэ, ці дапаможа гэта Славіку. Але адразу ж закрычаў і ён, бо ягоная рука прыляпілася да мокрага ад Славікавых слёз жалеза. Толік рвануў яе да сябе. Пальцы адарваліся ад клямкі, якая пакінула на іх чырвоныя палоскі — па адной на вялікім, указальным і сярэднім пальцах. Скура з іх засталася на клямцы. Толік, сам таго не жадаючы, штурхануў Славіка. Той з крыкам адляцеў ад дзвярэй, пакінуўшы на жалезе і сваю крывавую палоску.

Цяпер ужо крыкам крычалі абодва — і Славік, і Толік. Адно толькі Віцік не ведаў, што рабіць. Не прыдумаўшы нічога лепшага, ён кінуўся ўцякаць ад хаты, каб схавацца дзе-небудзь далей, абы не знайшлі яго бацька, які зараз у калгасе, і маці, калі вернецца са Школьнага лесу, куды пайшла, каб прыцягнуць якую-небудзь хваінку, бо паліць у печцы ўжо не было чым.

Развязку ўсяго гэтага здарэння можна сабе ўявіць. Віціку папала па сёмае чысло, не дапамагла і ягоная хованка. Славіку доўга давялося загойваць свой «цукровы» язык, як жартавалі пазней сябрукі, а супакоіўшыся і загаіўшы раны, пакеплівалі і самі Славік з Толікам. Нават да доктара Сташэўскага ў Вялікую Ліпу вадзілі Славіка. Толіка мама не пакарала, хапіла з яго і тых слязлівых эмоцый, якія доўга не дазвалялі нават падыходзіць да Віцікавай хаты, а не тое, што гуляць з ім. А каб хутчэй загаіліся сынавы пальцы, мазала іх алеем.

На шчасце, абышлося без кепскіх паследкаў для абодвух — для Славіка і для Толіка. Адно кепікаў ды жартаў хапіла на ўсё іхняе хутарское жыццё.

## 24

Маня цяжка ўздыхнула. Яна зноў вярнулася да дня сённяшняга, да сваёй бяды. Бяды з ёю, з яе сям'ёй, з іхняй хатай. Ды не бывае так дрэнна, каб не было яшчэ горш…

«Дак жа і з нашым хутарам таксамо бяда!», — дадалася балючая думка.

Так, не адно над Гэтэвічавай хатай, а над усім хутарам Язавец навісла непазбежная пагроза знікнуць бясследна. Здаецца, толькі-толькі закрынічыла жыццё, і на табе… Не будзе больш на свеце такой назвы. Ніводнай хаты не застанецца на гэтым палявым прасторы. Ніводнага двара. Ніводнага дрэўца, пасаджанага людзьмі. Не будзе на чым не тое што вока спыніць, ветру не будзе за што зачапіцца. Гуляй, як па пустыні. Што праўда, не адзін Язавец знікне, многія іншыя беларускія хутары таксама ў вёскі паперасяляюцца. Але што Мані да іншых, калі свая бяда каля хаты.

Прыйдзецца і сад выкарчаваць. Не перанясеш жа яго на новае месца, бо дрэвы старыя. Некалі, на пачатку іхняга сумеснага жыцця, Іван садзіў. Саджанцы з цяжкасцю знайшоў. І што цяпер?

Згадала Івана, і нейкая злосць патачылася ў сэрца. Бо ён ужо не раз намагаўся ўлагодзіць Маню, прымірыць яе з тым, што адбываецца. Раіў не сердавацца, не злавацца, не нервавацца і не сварыцца на тых, хто разбірае іхнюю хату. «Ні злосцю, ні гонарам, казаў, не паможаш. Змірыцца трэба, бо калі яны, начальнікі, вырашылі, што трэба перасяляцца, то ніхто таго рашэння не адменіць». Змірыцца? З чым змірыцца, бунтавала Маня.

Злавалася і за тое, што ўсё няма Івану часу, усё калхознае дабро пыніць, нейкаму чорту лысаму багацце збірае, сам жа адны палачкі зарабляе, а не грошы. Некалі пан Абуховіч і то лепей плаціў, без затрымак. Дзень пры дні, раным-раненька спяшаецца Іван у калхоз, такі смак у рабоце адчуў, так шчыруе, так улягае, што горбіцца пачаў. А што ўзамен мае? Хату, падпёртую ветрам ды падшытую сонцам. Земляны ток замест нармальнай падлогі з дошак. Гэтыя сцены зачапі толькі, то й палавіны не збярэш: струхлелі з'едзеныя шашалем многія бярвенні. Але ж хата, як яе ні называй, хатай і застаецца. Свая. Родная. Уласнай руплівасцю ўладкаваная. Дзіцячым смехам улагоджаная. Сотнямі шчырых штодзённых малітваў зберажоная. Нікому не замінала.

А каму замінаў іхні хутар? Каму шкодзіў? Гэта ж столькі людзей вырасла, пасталела, пажанілася. Сёй-той, праўда, замуж у суседнія вёскі пайшоў, а то і за васточнікаў — у Савецкую Беларусь. Немалая грамадка найлепшых і найдужэйшых мужыкоў паклала галовы на невядомых і страшных скрыжаваннях вайны, немцы адвеялі душу ад цела, пакінуўшы грэшныя косці недзе ў чужых краях. А ці прылятаюць іхнія душы сюды? Старэйшыя не сумняваліся, што так. Бо як жа яны застануцца там, дзе нікога блізкага, ніводнай свойскай душы, ні слоўца роднага — паразмаўляць і то няма з кім. Таму прылятаюць душачкі на падворкі свае, зазіраюць у родныя вокны, дзівяцца на жывых сваіх родзічаў і маўкліва шчасця ім жадаюць. А ці чуюць тутэйшыя прышлых, то аднаму Богу святому вядома. З тых жа, хто дадому некалі вярнуўся, не адзін знайшоў вечны спачын пад крыжамі на Доўкіндскіх могілках.

Дак што — пакінуць усё гэта, адрачыся ад родных магіл і перціся ў вёску? Дзе цесната, дзе, калі чыхнеш на сваім надворку, нехта «на здароўе» скажа, а калі няўзнак бздзікне хто за чужым плотам, то на сваім ганку нос затыкай, каб не смярдзела. Дзе і паветра, здаецца, не тое, не такое гаючае. Бо чужое.

А куды душы памерлых стануць прылятаць? Дзе будуць шукаць сваякоў і родных? І ці прыляцяць? Хоць ты пісьмо ім напішы. Але куды? Хто ведае адрас той нябеснай канцылярыі, дзе душам супакой далі? А калі б нехта і ведаў, то хто ж пісьмо тваё туды занясе? Хіба што на вецер пусціць, мо даляціць. Што праўда, паштальён да іхняга хутара і раней не надта ахвоча дабіраўся. Рэдкія пісьмы, бо хто ж ім пісаць будзе, калі ўсе разам тут жывуць, пакідалі ў некага знаёмага ў Баярах. А пасля хто-небудзь па дарозе з калхоза забіраў і прыносіў на Язавец.

І чаго ім трэба некуды з'язджаць? Як быццам хутаранам тут цесна альбо кепска? Тут, дзе поле — як вокам акінуць. Дзе Сержаноў луг, на лёдзе якога дзецюкі спанатрылі ладзіць зімой карусель. Дзе і без таго ўсё больш зарастае мохам і вербалозам глыбокі і з бліскучым вокам халоднай-прахалоднай нават у сонечны дзень вады Ткачоў луг, карасі з якога былі смачным ласункам для многіх дарослых і асабліва дзятвы. Дзе пахкі і яркі ад красак і летам, і восенню поплаў, на якім так любяць качацца і хавацца сярод высокіх кветак, што маланкамі завуцца, дзеці. Дзе ў Школьным лясочку пачалі з'яўляцца баравікі.

Дзе наогул вольна і прасторна, цёпла і ўтульна — як у роднай мамачкі за пазухай. Не, як у Бога за пазухай. Гэта ён апекаваўся і апекуецца імі. Але ж мо перастаў, калі такое пачало рабіцца? Мо пакінуў іх за грахі іхнія, каб жыццё мёдам не здавалася.

А тут жа і неба цёплае, і сонца добрае, і дарожка мякенькая, і сцежачка гладзенькая, за гэтулькі гадоў выплесканая іхнімі босымі нагамі. Тут нават зоркі іншыя — лупатыя і прыветныя: заўсёды так прыязна падміргваюць, нібыта падтрымліваюць, падбадзёрваюць, смеласці дадаюць, свойскасці. І ўсё гэта — пакінуць?!

Так добранька было тут. І на табе: разбіраюць — ці разбураюць? — родную хату. Хатку. Хатачку. Хаці-іна-ачку! Свойскае гняздзечка, у якім бы жыць ды жыць. І не адно самім, але і дзеткам. Хай сабе не шыкоўная хатка. Не панская. Не пакоі. Але ж — іхняя, свая, агораная імі. Хай сабе са звычайнага, сшашаленага дрэва. Крытая саломай. Не, не толькі хату разбураюць. Бураць адразу ўсе пабудовы, усю сядзібу, бо хата — як адзін будынак. Усё наўсцяж, пад адной страхою, якую зараз і трыбушаць гэтыя, відаць, дужыя мужыкі. І не баліць ім, не абыходзіць, як бы самі не гаспадары. Не шкада ні чужой працы, ні чужых грошай, якія патрачаны некалі не адно маладымі мужам і жонкай — Іванам ды Мар'яй, а і іхнімі бацькамі, бо збіралі па капейчыне, па зернейку збожжа з усіх, хто мог нешта даць — абы хутчэй у сваё гняздзечка. Вераб'і і тыя без гнязда не выводзяць дзетак. А што маюць рабіць яны — муж і жонка, Іван і Мар'я?

У гэтай хаце пражыла Маня ўсё сваё сямейнае жыццё. Тут мілавалася са сваім Іванам, Іванкам — як называла яго часта, калі быў добры і гуллівы настрой. Тады запускала свае пальцы ў ягоную густую чупрыну, варушыла-кудлачыла чорныя, зачасаныя ўгору валасы і мурлыкала, быццам ласкавая кошачка: «Іванка, мой Іванка…» Ён прыязна пасміхаўся, калі настрой супадаў з Маніным, і сам, як бы крышку некага ці нечага саромеючыся, дадаваў: «Рубашка вышыванка…»

— Ага, тая самая, што я табе вышыла, — смяялася Маня і дадавала: — А давай адзеням табе? Маю вышыванку. Палядзім, які ты харошы, га?

— Ат, адчапіся ты, вэнь што прыдумала. Як малая, — не згаджаўся Іван, бо не прывык да такой ласкі.

Яму зручней гладзіць і без таго выгладжаныя ручкі плуга альбо касільна ці грабільна, але апраўдваў сябе тым, што ніхто ж не бачыць ягонай слабасці, тым больш, што нечакана млосна-прыемна млела сэрца, і Іван, каб супакоіць яго, абдымаў маладзейшую за сябе Маню, лашчыў па спіне, па распушчаных доўгіх валасах, у якіх часам ажно блыталася рука — яе даводзілася вызваляць другою, пакуль абое, стомленыя ад нязвыклых пачуццяў і ласкі, не падалі на ложак — ложко, як казалі на хутары.

## 25

А як стараліся, як рупіліся Іван з Мар'яй, усе іхніх бацькоў сямейкі, родзічы і сваякі звіць маладой сям'і гняздзечка! Талакой рабілі, усе добрыя людзі спрыялі, бо па Мані бачылі, што хутка прыбаўленне будзе. Вядомая справа, ад кахання паміраюць рэдка, затое нараджаюцца часта.

Самі гаспадары жылі то ў Маніных бацькоў, то ў Іванавых. А тады змайстравалі каля будоўлі будан і начавалі ў ім, гатуючы вячэру на пахкім цяпельцы пад высокім зорным небам. І толькі нябесныя свечкі-зорачкі бачылі, як мілаваліся-любіліся Іван з Мар'яй. Пад самую поўнач хаваліся яны ў будан ад цікаўных зоркавых вочак — сямейнай таямніцы не павінны замінаць не адно людзі, а і ніякае чужое вока.

А якой смачнай была яда, прыпраўленая водарам ночы, разнатраўнымі палявымі пахамі і мо нават тымі далёкімі зоркамі, што заўсёды нязводна цікавалі за іхнім сямейным жыццём: то паддаючы ахвоты, што было найчасцей, то нібыта аб нечым папярэджвалі. Іван часам разважна і пераканаўча казаў, што ў іхнім настроі вінаваты месяц, асабліва поўня. Ён уплывае на людзей. Калі месячык маленькі, то і пачуццё да яго як да немаўляткі, што ў калысцы гушкаецца, а чым больш таўсцее месяц, тым менш чуллівасці да яго, тым большую і незразумелую трывогу выклікае ён.

Месяц зачароўваў сваім няспынным шэсцем па захмараным небе, адначасна пазбаўляючы рухомасці ўсё зямное. Дзіва дзіўнае — па небе імкліва бягуць чорна-паласатыя воблакі-хмары, нават абганяюць яго, намагаюцца акружыць, паланіць, ды не могуць. Уцякае ён, хоць і не бяжыць на злом галавы, нібыта падражнівае захопнікаў, выслізгвае з іхняга атачэння, а, дабіўшыся свайго, з усмешкай на увесь сярпасты твар коціцца па небе далей, хоць пагоня за ім не спыняецца ні на імгненне. Месяц аказваецца хітрэйшым і больш спрытным. Таму гэтыя ўцяканні-даганялкі ствараюць нейкі звышзагадкавы і незразумелы свет, якога, колькі ні ўглядайся, не распазнаеш і не зразумееш. А заварожвае ён ажно да кружэння галавы, да мільгацення ў вачах.

Затое ўнізе, на зямлі і над ёй усё-ўсё здаецца нерэальным, застылым, прывідным. Зямная рэальнасць нагадвае нейкі дзіўны-прадзіўны човен. З усёй сілы змагаецца ён з чорнымі марскімі хвалямі, якія стараюцца перакуліць яго, абярнуць, каб патануў, каб не даплыў да свайго берага. Хоць, хто яго ведае, дзе той ягоны бераг знаходзіцца. Ды і мора ні Іван, ні Маня ніколі не бачылі. Праўда, пра ўсё гэта некалі расказваў дзед Мацейка, а яму Іван верыў, бо за такое доўгае жыццё той шмат што бачыў, набраўся не адно мудрасці, але і вопыт займеў такі, што на іхнім Язаўцы пашукаць.

У такія моманты пагоні чорных сіл за месяцам і ўсеабдымнай зямной застыласці-нерухомасці сэрцы Івана і Мані напаўняла нейкая незразумелая вострая трывога, якую гані-не гані, не выведзеш, не адпрэчыш, ажно пакуль не пераспіш ноч.

Месяц жа і праўда быў нібыта трэцім членам маладой сям'і Гэтэвічаў. Ён то па-дзіцячы шчарбата смяяўся з нечакана разняволеных і занадта шчырых і даверлівых дурыкаў дваіх дарослых людзей, то, здаецца, зазіраў у іхнюю гліняную міску, з якой яны па чарзе чэрпалі драўлянымі лыжкамі і ў ахвотку сёрбалі вячэрняе варыва, згатаванае на кастры. Так стараліся, што і за вушы не адцягнеш, аднак чаргі ніхто не парушаў, хіба што, каб падражніцца і вывесці некага з раўнавагі. Але дапіць апошнюю кропельку варыва Іван дазваляў Мані. Тая першым часам адмаўлялася, казала, што лепей хай глыне яе Іван, бо старэйшы, на што той жартаўліва гразіўся лыжкай: не здзекуйся са старэйшых, калі так, а то давядзецца перахрысціць твой лоб лыжкай, праўда, пакуль што ніколі да гэтага не даходзіла.

Мані было асабліва прыемна, што ў гаршку не заставалася варыва — не прападзе, не давядзецца выліваць, што было б неапраўданым марнатраўствам і грахом, не трэба пакідаць на заўтра, бо і яна сама, і Іван любілі свежа згатаванае. Гэта пасля ўжо, калі калгасная праца змушала не адно пра абед забывацца, але ледзь не дняваць ды начаваць у полі альбо на таку, было не да пераборлівасці: хоць як, хоць чым, абы чарвячка замарыць, каб не круціўся ён ад голаду, каб не смактаў пад лыжачкай і не скрэбся ў пуставатым жываце, не даводзіў да галодных спазмаў.

А пакуль яны маглі дазволіць сабе раскошу — гатавалі і елі тое, што хацелася. Смакату гэтую спажывалі позним вечарам побач са зрубам сваёй

будучай хаты. Здавалася, Іван з Мар'яй адны-адзіненькія ва ўсёй бязмежнай начной прасторы не толькі іхняга хутара, а і ўсёй вакольнай і далёкай ад іх зямлі. Нідзе і нікога апроч іх дваіх. Дваіх сярод таямніц ночы. А якая музыка вакол — такой ніхто не чуў і не пачуе ні ў вёсцы, ні тым больш у горадзе. Поле, лес, луг, нават жыта і пшаніца спяваюць па-свойму, ужо не кажучы пра авёс, які асабліва шчыра і захоплена выводзіць мелодыю сваімі схаванымі ў апранахі зернейкамі. У кожнага свая песня, свая мелодыя, свая музыка. Хочаш — падпявай, а не — дык слухай, дзівіся, захапляйся, сілы жыць набірайся.

Гэтая непаўторная вячэра пад глыбокім небам, з якога то зоркі пазіралі, то ўсявышнія багі, дадавала не адно сілы, але і настрою, ахвоты жыць, працаваць, старацца для будучых дзетак. А што яны абавязкова будуць, то ўжо не сумнявалася не адно Маня, а нават Іван паверыў, пазіраючы на трохі папаўнелую жончыну постаць.

Такія смачныя стравы, як каля недабудаванай хаты, не заўсёды пасля і ў дамашняй печы ўдаваліся. Тады Маня часам жартавала сама з сябе, апярэджваючы мужаву незадаволенасць.

— Ці чуў ты, Іванка, як мужык любіць сваю маладую жонку? — пыталася яна.

— Ну, што там яшчэ вычварыласё? — Іван паспеў ужо вывучыць Маніны хітрыкі.

— Дак нічого ні сталасё, нічого ні вычварыласё, мой ты харошы, — весела шчабятала Маня. — Просто я пытаюсё, ці чуў ты, га?

— Ну, добро, давай, бай сваю байку, — згадзіўся Іван, хоць ведаў, што Маня гэткім чынам нешта апраўдвае. — Ні цягні ката за хвост, а то адарвецца.

І яна пачала:

— Дак вось. Скардзіцца маладая жонка сваёй матцы. Ведаеш, мамачка, кажа, які злосны мужык мне папаўсё? Як жаніліся, такі добранькі быў, такі ласкавы, хоць да грудзей прыкладвай. А цяпер горш за злую свякроўку бывая. Такі пераборлівы ў ядзе стаў, што страх. Усё яму ні так, усё ні тоё, ніяк ні ўнараўлю. То жміндзіць на мяне, то сварыцца. А я ж так стараюсё, так стараюсё. Во і нядаўначкі — спякла яму пірог. Такі смачны, такі мякенькі, што як падушачка. А ён узяў тую булку ды як папусціць мне ў плечы. Грукнуў, як каменем. Думала, пячонкі адаб'е. Во які ён...

— Дак ты што, тожа такую булку цвёрдую спякла? — знарок здзіўлена пытаецца Іван. — Тагды адразу ўцякай з хаты.

— Не, мой ты Іванка, булкі я ўмею пячы. Ты ж ведаеш. Просто забавілася на дварэ, свінчом нашым займалася, а панцак у печы трохі падгарэў... Але толькі крышку, на самым донцы гаршка. Праўда. Есці можно, смачны. Адно прыгарэлым аддае. А так нічого...

— Ага, на табе, Божа, што мне нягожа…

— Дак жа я сама і каштавала…

— Добро, добро, хваціць ужэ апраўдвацца, — перапыніў Іван. — Налівай таго панцаку. Смачна прыгарэлаго, — ён весела смяецца: ну дзе ж ты будзеш злавацца на жонку, калі яна так спрытна апраўдалася. — Налівай, — паўтарыў ён. — Мо ні будзя жывот балець? Панцак жа звараны?

— Ага, — хуценька згадзілася Маня. — Сама ела, смачненькі — як ніколі.

І каб задобрыць Івана, прапанавала:

— А мо сала табе адрэзаць? Кавалачак?

Іван пакруціў галавой, Маня не зразумела — з адабрэннем, ці асудзіў яе за такую прапанову.

— Ну, ладна, давай, — прамовіў. — Лепш мала, чым нічога.

І тут Маня збянтэжылася. Яна не ведала — жартуе Іван, ці праўду кажа. Бо яны ж цвёрда ўгаварыліся: сала есці ашчадна, хаваць на самую цяжкую працу — нібыта ў сялян яна бывае лёгкай. Але і праўда, жніво, касавіца, або калі торф рэзалі на Баярскім балоце, высільвалі найбольш. Вось там і трэба было сілы падтрымліваць, бо ад пустой бульбы з цыбуляй не адно з касой ці разаком не ўправішся, але і ног не пацягнеш.

Маня чакала далейшай рэакцыі Івана. Але ён нічога не казаў, сядзеў моўчкі, варушыў лыжкай прыгарэлы панцак і вачэй ад глі顔янай міскі не адрываў. Маня знарок доўга шукала нож, пасля няспешна выцірала і без таго чыстае лязо, каб пайсці ў каморку, дзе стаяў кубелец з салам, і адрэзаць кавалачак. Марудзіла знарок, спадзявалася, што Іван затрымае яе, скажа, што пажартаваў.

Але Іван маўчаў. А калі прынясла добры кус — ажно на цэлую далонь беленькага, пасыпанага духмянымі зёлкамі і пахкай каляндрай сала, з чырвонай пражылкай мяса пасярэдзіне, пра якое казалі — сала з прорасцю, за што яго вельмі цанілі на Сноўскім рынку, Іван палкнуў сліну, якой нечакана набегла поўны рот, і крыху адрэзаў ад вялікага кавалка, паклаў на адкроеную лусту спечанага жонкай хлеба, паскрыляў на дробныя шматочкі і разам з панцаком і хлебам адпраўляў у рот.

Маня ціха назірала і моўчкі суцяшала сябе тым, што ўсё добра скончылася. А калі Іван запытаў, чаму яна не есць, адказала, што не хочацца: пакуль варыла — нанюхалася, накаштавалася прыгарэлага. Аднак, калі прапанаваў падзяліцца салам, не стала чакаць паўторнага запрашэння і ахвотна пачала смакаваць пахкае сальц*о* — таксама іхняя хутарская назва, заганяючы яго і праўда з моцным пахам падгарэлым панцаком...

## 26

Ой, пярэбары, вы, пярэбары…

Міжволі, унутрана Маня пачала згаджацца са сваім лёсам перасяленкі. Бо колькі ні плач па хутары, а ўсё адно давядзецца абжываць новую хату ў Баярах. Ведама, што Бог прызначыць, таго ніхто не перайначыць. Хай бы міласэрны Бог дапамог перажыць туташняе і з новымі сіламі за новае жыццё брацца. З Богам Маня і Іван не разлучаліся ніколі, як і ўсе хутаране, зрэшты. Здаецца, і Бога моцна не гнявілі, і ў царкву хадзілі. То ў Сноў, куды было трохі бліжэй і зручней, бо там па нядзелях збіраўся кірмаш — базар, як казалі хутаране, і можна было сумясціць карыснае з патрэбным. Мо таму ў нядзелю царква была біткам набіта. А ў святы людзей столькі, што не ўлазілі, і на цвінтары месца не хапала. Пабудзеш да абеду ў царкве, адмоліш грахі, часам сходзіш да прычасця, папярэдне пабываўшы ў споведзі, каб расказаць бацюшку пра ўсе свае правіны перад Богам, а пасля і на базары паспееш сябе людзям паказаць і купіць, што патрэбна. Праўда, магазіннага куплялі мала, не таму, што непатрэбна альбо не было грошай, вельмі дорага. З прыезджымі прадаўцамі на рынку патаргавацца можна, капейку-другую спусцяць.

Хоць і далей, чым у Сноў, але хадзілі і ў Вялікую Ліпу, дзе царква лічылася іхняй — да гэтага прыходу быў прыпісаны хутар Язавец. Летам жанчыны,

як правіла, ішлі басаNож, абутак неслі з сабой. Перад Вялікай Ліпай мылі ногі ў рэчцы Сноўка, абувалі туфлі ці чаравікі, па кладцы пераходзілі на той бок і хутка ў царкве апыналіся. Часам бралі з сабой Толіка. Здаралася, той прыставаў у дарозе і тады яго даводзілася несці на руках. Царкве той больш за дзве сотні гадоў — намолена людзьмі так, што, здаецца, сцены гучаць галасамі продкаў. Там на дзень Успення Прасвятой Багародзіцы, 28 жніўня, або на Святк*а*, як казалі тутэйшыя жыхары, заўсёды ладзіўся фэст — на службу з'язджаліся святары і вернікі з навакольных вёсак і нават са Снові, перад парканам наладжваўся кірмаш, а пасля ўсе прыезджыя разыходзіліся па гасцях, частаваліся ў сваякоў чым Бог паслаў. А Бог у гэты дзень заўсёды быў шчодры, бо хутаране ведалі: як ты пачастуеш гасцей, так і яны аддзячаць табе на Пятра — свята, якое збірала каля Сноўскай царквы тых, хто быў гаспадаром сённяшніх гасцінаў.

Вечарам таго Святк*а* вясковая моладзь ладзіла танцы пад гармонік з барабанам — у абстаўленым бярозамі коле на ўтравелым выгане ці поплаве. Падвяселеныя хто кілішкам, а хто шклянкай самагонкі не толькі дзецюкі, а і сталыя мужыкі ды кабеты разам з цвярозымі падлеткамі нястомна скакалі і спявалі ледзь не да самай раніцы.

Ды неўзабаве пазачынялі большасць цэркваў. «Без Бога шырэй дарога», — цвярдзілі публічна асабліва зацятыя атэісты, на што найбольш смелыя ціхенька, як бы самі сабе, адказвалі: «Ага, у пекла, — і дадавалі: — Вам». У прыклад прыхільнікі бязвер'я ставілі Савецкую Беларусь, дзе цэркваў засталося яшчэ менш, чым у былой Заходняй. І нічога, казалі, жывуць жа там людзі. Так, жывуць. Але ніхто ні разу не казаў праўду, ці задавальняе іх гэткая жытка, бо што не багацей за заходнікаў жылі, то гэта дакладна. Дык ці сапраўды шырэйшая тая дарога, што без Бога?

Ці мо гэткім чынам зямныя кіраўнікі чалавечых жыццяў хацелі адлучыць людзей ад марнай царкоўнай справы і далучыць да яшчэ больш упартай і выніковай працы на калгасным полі? Часу ж у іх без наведвання царквы мусіла станавіцца крышку больш. Але ці дабіліся жаданага выніку? Вельмі спрэчнае пытанне. Бо без веры няма ў чалавека меры. Без веры, не абавязкова ў Бога, без веры наогул, чалавек становіцца бесхрыбетным прыстасаванцам, застаецца без унутранага стрыжня, нешта важнае губляе ў сваім характары, у сваіх паводзінах, у сваіх дзеяннях, быццам няпаўнавартасным становіцца, недачалавекам, хістаецца ва ўсе бакі, як трава пад ветрам, у яго знікае страх рабіць шкоду. Такім чалавекам, вядома, лягчэй маніпуляваць, кіраваць, яго лягчэй падмануць.

Але даверыцца бязвернаму чалавеку яшчэ горш, ён можа падвесці ў самы адказны момант. А для чалавека з верай любая бяда губляе сваю непераадольнасць. Каб не было, напрыклад, у савецкіх людзей веры ў перамогу над ворагам, то ці адолелі б яны каварнага, моцнага і хітрага немца? А так і сваю зямлю ачысцілі, і іншым народам паспрыялі пазбавіцца ад фашыскай навалы.

Вера жыве ўнутры чалавека, часам яна схавана ад чужога вока, не выстаўляецца напаказ, але абавязкова кіруе паводзінамі і ўчынкамі. І тады вынікі людской дзейнасці аказваюцца больш важкімі і грунтоўнымі. Дык нашто было збядняць чалавека, адбіраючы ў яго веру?

Нечаканая думка ўзбадзёрыла Маню: а мо схадзіць у царкву? Свечку паставіць, пакаяцца, памаліцца за свой дамок, за свой хутар. І за новую хату таксама. Мо пачуе яе міласэрны Бог?

## 27

Мані прыгадалася даўнаватае ўжо.

«Ой, а колькі ж гэта гадкоў мінуласё? — падумала. — Пэўне, ні менш як дзесяць... Ага, ні менш. Тоё было ў сорак шостым, а цяпер пяцьдзясят шосты. Выходзіць, дзесяць».

Так, сапраўды, дзесяць гадочкаў прабеглі, як адна хвілінка мігнулася.

Тады таксама вясна была. Не, ужо добра на лета бралася. Будаваліся яны з Іванам, хату сваю ставілі. Ён акурат з шахтаў вярнуўся, на якіх апынуўся ў жніўні 1944-га, адбыў там ажно два гады — дзень у дзень. Перад шахтамі Нясвіжчыну толькі што вызвалілі ад немцаў. І ўсіх мужчын змабілізавалі ў войска, кідалі на перадавую, каб хоць крышку даць перадышку знябожаным баямі і наступленнем байцам. А нававбранцы, не маючы аніякага вопыту, не прайшоўшы ніякай падрыхтоўкі, адразу станавіліся ахвярамі спанатраных у баях фашыстаў. Так, большасць з забраных не вярнулася на свой хутар, у свае былыя заходнебеларускія вёскі.

Каму ж пашчасціла хоць параненым, знявечаным — без ног ці без рук, вярнуцца, было не прасцей і не лягчэй чым тым, хто пазіраў зараз на іхнія зямныя пакуты з высокага неба. Адзіным іхнім ратаваннем ад скрушлівай дамашняй адзіноты быў Сноўскі базар, дзе можна было і душу з такімі ж нядаўнімі ваярамі адвесці, і чарку-другую кульнуць — за перамогу, за тое, што засталіся жывымі, за палеглых сяброў. Як яны, бязногія, дабіраліся ў Сноў з вакольных вёсак, адзін Бог святы ведае. А ўжо там гэтыя абрубкі вайны, як прazвалі іх, пачуваліся адной вайсковай сям'ёй, бо многа, вельмі многа было такіх пакрыўджаных лёсам і вайной. Шмат хто бязнога сядзеў на калясках-каталках — кавалку тоўстай дошкі, да якой знізу замест калёсікаў былі прыбіты звычайныя падшыпнікі ад машыны ці трактара. Найбольш кемлівыя прыдумалі выразаныя з дрэва спецыяльныя прыстасаванні, каб адштурхоўвацца ад зямлі. Ручкі гэтых «матораў» абгортвалі палатном — каб не рэзала ў рукі, бо «ехаць» такім чынам даводзілася не адзін кіламетр. А былі ж і такія, хто не меў нават гэткіх калясак-самакатаў. Яны проста абшывалі свае порткі на кульцях халявамі ад кірзавых ботаў альбо кавалкам нейкай скуры і перасоўваліся па зямлі, адштурхоўваючыся рукамі, на якія часта надзявалі самаробныя альбо вайсковыя рукавіцы. Уявіце толькі сабе, які гэта знясільваючы занятак, бо не па асфальце рухаліся, а па палявой альбо вясковай дарозе, часам па брукаванцы. А калі дождж пройдзе? А зімой? Не, гэта горш за катаргу — ездзіць на гэткіх «інвалідных калясках» і «хадзіць у кірзавых ботах». Але дзе ж ты дзенешся, калі не хочаш змарнавацца ў запечку ўласнай хаты.

На хлеб свой надзённы франтавыя інваліды зараблялі спевамі. Іхнія жаласлівыя і слязлівыя песні-літанні, часта пад гармонік, даводзілі да слёз, а часам і да галашэнняў, асабліва тых жанчын, якія не дачакаліся сваіх мужоў ці сыноў хоць бы ў такім стане, выклікалі спагадлівасць і шчодрасць — слухачы ахвотна кідалі ў шапкі калек свае мазалём заробленыя капейкі, клалі яйкі. Усё гэта пасля асядала ў шынках, заканчвалася шумнымі папойкамі, тымі ж прачулымі спевамі, але з большай разняволенасцю, з тымі моцнымі словамі, якіх з песні не выкінеш. Здараліся і бязлітасныя бойкі да крыві. Асабліва цяжка даводзілася тым, каго спіхвалі з іхніх самаробных самакатаў і пазбаўлялі ўсялякай магчымасці рухацца.

Але адразу ж пасля вызвалення ад фашыстаў з'явіўся і так званы працоўны фронт. Тых, каго па стане здароўя не маглі забраць у войска, забіралі на працу. Мабілізавалі многіх пажылых мужыкоў з Язаўца, Жанкавіч, Аношак,

Мацылёўшчыны, Панюціч, Высокай Ліпы, Вялікай Ліпы, Баяраў і іншых вёсак. Івана таксама. Зноў не адну ночку адплакала Маня. Так вось і трапілі ў прамым сэнсе гэтых слоў «пад зямлю» нядаўнія хлебасеі, якія больш звыкла прывыклі пачувацца на зямлі. У Данецкую вобласць завезлі іх, на шахту. А шахта якая — адна назва чаго вартая: Ліхая. Такой яна і аказалася для многіх, не вярнуліся жывымі дамоў, бо не мелі нармальнага здароўя. Некаторыя ж пажаніліся, там і паасталіся, ведама, маладыя, а мужыкоў пасля вайны нідзе не хапала.

Івану нельга было займацца цяжкай працай, бо кілун, як казалі пра яго на хутары — меў двухбаковую грыжу: у любы момант магло здарыцца няшчасце. Так ва ўсякім разе сцвярджалі савецкія дактары. А яны павінны толк ведаць. Некалі — восенню трыццаць дзявятага года, адразу пасля прыходу першых саветаў, быў медыцынскі агляд усіх тутэйшых жыхароў. З Івана дактары дзівіліся: як гэта мог ён і араць, і сеяць, і снапы важкія цягаць, у торп складаючы то ў ксяндза, то ў аўдавелай пані, і сена стагаваць, калі ў яго бяда такая. Не шанаваўся сам, недагляд польскіх дактароў, хоць, што праўда, Іван да іх ніколі не звяртаўся. Працай лячыўся. Лічыў, на ўсё воля Божая. Чаму быць, таго не мінаваць. Калі бывала цяжка — паляжыць, знойдзе зручную позу, боль і суцішыцца. А пасля зноў у баразну, зноў касу ў рукі бярэ. Аднаго не мог Іван, нават у сне: не мог павярнуцца на бок. Заўсёды спаў толькі дагары тварам, бо інакш замінаў гэты велізарны і непатрэбны сыр, што вісеў у паху.

Івану на шахце нават брыгадзірам пабыць давялося. Гарушка, што з Высокай Ліпы, таксама ў ягонай брыгадзе апынуўся. Добра сышліся. Не скажаш, што пасябравалі, але паразуменне між імі было. Гарушка там і кабету завёў, хоць дома жонка чакала. Каб на добрае пайшло, то мо і атабарыўся б там. Адно, калі Івану на ад'езд павярнула, папрасіў: не кажы маім пра кабету, хай не трывожацца, бо я тут не астануся, скажы, дадому прыеду, як толькі адпусцяць...

Іван вярнуўся самахоць, можна сказаць нават уцёк, бо адпусцілі яго на лячэнне, а ён узяў і затрымаўся дома. І хвароба вінаватая ў тым, і сям'я, і яшчэ нешта, назву чаму Іван не мог вызначыць, трымала яго дома. Не шукалі, не змушалі ехаць назад. Мужчынскія рукі і на беларускай зямлі, знявечанай немцамі, былі патрэбныя. Каб не чапляліся пазней, каб не зрабілі вінаватым — а ў той час за такую правіну маглі ўзяць за рэбры, лёгка было з жыццём паквітацца — пайшоў Іван у Нясвіж, паказаў у ваенкамаце даведку, што кілавы. Камісавалі, выдалі белы білет, спісалі з войска, нават у запасе не пакінулі. Праўда, разам з цешчай давялося ваенкому добра наладаваны харчам клунак прывезці. На ўсялякі выпадак, традыцыя, так сказаць. Але ліха з ім — здароўе даражэй, як і магчымасць назаўсёды асесці дома.

Пабыў трохі, паглядзеў, як цесна ў бацькоўскай хаце, убачыў, што не пабольшала месца ў Назаноў, і вырашыў агарадзіць уласную хаціну. Хоць якую, абы свая, асобная, каб сам сабе гаспадар, каб з Маняй мілавацца без чужых вачэй ды зайздросных уздыхаў. Цесць абяцаў памагчы — аддаць у якасці пасагу частку гумна: бярвенні там добрыя, смаловыя, прастаяць яшчэ не адзін год. У бацькі ўзяць не было чаго — хата невялікая, згорбленая, а едакоў у ёй — што прусакоў. Хлеў з пустакоў складзены: вялізных самаробных бетонных блокаў, яго не зачэпіш, кавалак не адарвеш. Адно бацька выдзеліў 30 сотак — больш не мог, бо частку зямлі раздаў тым, хто ажаніўся раней за Івана, ды трэба было іншым пакінуць: пяць сыноў і дачок было ў Іванавага бацькі — таксама Івана. На гэтых сотках, паблізу — мо з кіламетр ад бацькавай сядзібы і распачаў Іван сваё гняздзечка.

Апыталі ў Руд*а*ўцы хату на продаж. Але як прывязеш, калі амаль за светам. Не новая была, ды што зробіш, калі і за такую давялося аддаць ажно дваццаць тры пуды жыта. Каб не памаглі бацькі ды цесць з цешчай, то мо і не купіў бы.

Маня памятае, з якой радасцю, ажно да слёз, сустракала яна вазы, павозкі і калёсы, што расцягнуліся на палявой дарозе між жыта, з бярвеннем, кроквамі, латамі. Гэта ж вязлі іхні — *і х н і!* — дамок, іхняе жытло, іхняе з Іванам шчасце.

Толькі пасля Маня спахапілася, што падумала пра дамок, а не проста пра хату — відаць, так хацелася быць самастойнай гаспадыняй на сваім агародзе, што і звычайная хата шыкоўным палацам уяўлялася. А яшчэ чамусьці запомнілася Мані, што на той палявой дарозе ў жыце было многа валошак. Сваімі блакітнымі вочкамі яны нібыта цікавалі: а што ж тут адбываецца такое, чыё шчасце едзе на малалюдны хутар? І так весела і добра стала Мані, што не стрымалася яна — усміхнулася, а тады нечакана з вачэй пырснулі няпрошаныя слёзы. Яна лёгка змахнула іх і кінулася насустрач сваёй хаце, свайму гняздзечку, у якое ўжо наважваўся ўсяліцца і нехта трэці, што часам трапятаўся ў Мані пад сэрцам.

Ды не лёс. Не так сталася, як чакалася. Дзе тонка, там і рвецца.

Маня нароўні з мужчынамі, што талакой прыходзілі ставіць Іванаву хату, шчыравала то тут, то там, усюды старалася падставіць сваё плячо. Ёй здавалася, што без яе дапамогі і хата не вырасце, а ёй жа так хацелася, каб як мага хутчэй заблішчалі на сонцы вокны, пасылаючы добры знак на вышыні: яшчэ адна божая сямейка справіла сабе дамок, каб працай сваёй і жыццём прадоўжыць род чалавечы, не даць знікнуць ні хутару Язавец, ні роду Гэтэвічаў. Што праўда, хутар з часу яго заснавання добра прырос новымі хацінамі. Калі жаніліся ці выходзілі замуж маладыя хлопцы і дзеўкі, не спяшаліся з'язджаць з роднай зямелькі, тут будаваліся.

Іван не раз крычаў на жонку, каб не лезла пад рукі, не бралася за цяжкае, ведаў, што шкодна гэта для неўзабаўнай маці. Але ж дзе ж ты тут уседзіш, калі хата будуецца? Твая хата! І Маня не звяртала ўвагі на мужаву незадаволенасць, рабіла ўсё, што здавалася ёй неабходным і патрэбным. Часам аж вочы на лоб вылазілі, а не адступалася. Бо ведала, што і Івану шкодна перасільвацца. Не дай Бог, палічаць іх людзі няздатнымі інвалідамі ці калекамі.

Відаць, перастаралася. Не прычакалі яны немаўляці. Дачасна і мёртвым нарадзілася яно. І замест вясёлых воклічаў ды песень маркотнымі галашэннямі агучылася новая хата. Так стараліся, так высільваліся, а для каго? Не адно ж ім самім патрэбна было гняздзечка. Птушаняткамі наважваліся засяліць яго. Ды на табе — засталіся на баб*а*х. Такога гора зазналі, што і не перадаць. Як бы мала было яго раней. Несуцешнай бядой сталася гэта і для ўсіх Гэтэвічаў з Назанамі.

Маня ўсё плакала ды галасіла, пры кожнай нагодзе бегала на магілку, прыпадала да грудка і каялася: гэта яна вінаватая, што не дагледзела, не дашанавала, не данасіла, каб сваімі вочкамі глянула дзіцятка на свет Божы і на іхні дамок. Іван сварыўся, прасіў, пагражаў. Яна не раз абяцала адумацца, суцішыцца, але не магла ні даравацъ сабе, ні забыцца. Ужо і маці Іванава не раз папікала яе за гэткі настрой, суцяшала, дапамагала, чым магла, часцей звычайнага прыбягала ў хату да нявесткі, каб перакінуцца словам, нібыта параіцца, а на самай справе ўратаваць ад гнятлівасці ды панурасці, бо ведала: з гэткім настроем дабра не чакай.

Справілася Маня са сваім горам, паціху выходзіла з панурасці ды схудненасці. Станавілася гаспадыняй сваёй доўгачаканай хаткі, да ладу ўсё ў ёй даводзіла.

А яшчэ — пачала настойліва зваблівацъ Івана да кахання. І не таму, што маладзейшая за яго была, не з-за пажаднасці і прагавітасці да ласкі. Дзіцятка снілася ёй.

А што ён? Хіба мог Іван не падтрымаць сваю Мар’ю не адно ў горы, а і ў ейным спадзеве на сямейнае прыбаўленне. Не прычынай тут ні штодзённая ўтома, ні паганы настрой, ніякія іншыя беды ды непамыснасці, калі Мані жадаецца кахання...

## 28

Сонца першага разбуральнага для Іванавай сядзібы дня яшчэ не схавалася за поплавам і хата ў яго апошніх промнях нагадвала нешта дзіўнае. Салома, якая толькі што была страхой, абы як валялася зараз на надворку, на агародзе — не глядзелі «майстры», куды кідалі яе зверху. Вядома ж, не звязвалі ў снапы. Бо, калі папраўдзе, то й звязваць не было чаго — адна труха ды часам падзяленёная мохам нібыта салома. Але возьмешся яе згортваць у сноп і ломіцца пад рукамі, рассыпаецца. Таму і пакінулі марную справу.

Дзіўна было пазіраць на голыя рэбры-латы. Гэты шкілет на фоне цямнеючага неба нагадваў краты. Ці то нямецкія турэмныя, дзе давялося Івану пасядзець напрыканцы вайны — забралі проста з вяселля за сувязь з партызанамі. Ці то загарадка з нямецкага канцлагера, пра што расказваў Камунісцік, які вярнуўся з вайны худым, як чапяла, і хворым на лёгкія.

Як толькі паехалі будаўнікі-разбуральнікі, не прамінулі прыйсці паглядзець на пачатак Іванавых пярэбараў суседзі, некаторыя нават здалёку, бо кожнаму карцела з першых вуснаў даведацца, на свае вочы ўбачыць, што тут адбываецца і што мае чакаць кожнага з іх. Яны то мо заявіліся б і раней, але не надта хацелі трапляць на вочы начальству. Васіль Пулікоўскі нават жарт адпусціў:

— Не прыходзілі днём, бо ведаюць салдацкі дэвіз: чым далей ад начальства, тым бліжэй да кухні.

— Ну, да кухні вы дарма спяшаліся, нашыя нязваныя госці ўсё з’елі і ўсё выпілі, — сумна аджартавалася Маня.

— Вы не вельмі перажывайце, — пачаў суцяшаць Валодзік Хвілосаф, заўважыўшы прыкметную заклапочанасць гаспадароў. — Та-скаць, калі ёсць пачатак, то будзе й канец.

— Ага, нам самім канец будзя, пакуль пераедзям, — астудзіла яго Маня. — Добро табе казаць, калі ты тут астаешся, а нам як?

— Нічого, бяда бядою, але і дабра скоро прычакаяця, — не здаваўся Хвілосаф. — Жыв*ы*, та-скаць, нажыве. Будзя ў вас новая хата.

— А ты як працядацяль загаварыў, — умяшаўся Іван. — Мо вы з ім згаварыліся?

— Ды ты што, Іван, — спалохана апраўдваўся Валодзік. — Каб я са старшынёй? Ды я, ды ты… — заблытаўся ён ва ўласных словах.

Маня, якая пры гэтым зірнула на гаваруна, зразумела, што ён, відаць, усёткі ведаў пра ссяленне, калі прыходзіў да іх на надворак нібыта папрасіць у Івана цвікоў, і дзе яны абое на дзіва доўга хвіласофствавалі.

— А нічого. Прыдзя той час, што і цябе паклічуць на квас, — адказаў на Валодзікава апраўданне Іван. — Паедзяш і ты ў Баяры.

— Паеду, ну і што? — харахорыўся Хвілосаф. — А табе магу параіць: цярпі казак, та-скаць, атаманам будзяш.

І пачалася гарачая, часам аж занадта гучная, гамана пра тое, што ёсць, і пра тое, што будзе. Як заўсёды, дзе збіраецца больш за тры чалавекі, да згоды прыйсці было цяжка. Ледзь не за грудкі браліся. Адны падтрымлівалі ссяленне хутароў, іншыя катэгарычна не згаджаліся. Доказаў хапала вышэй галавы з абодвух бакоў. Прыхільнікі пярэбараў прыводзілі перавагі вясковага жыцця. Разам, казалі, і бацьку лягчэй біць. Там і школа для дзетак бліжэй, і на нарад хадзіць недалёка. Ды наогул, у кагале ваду піць і то смачней.

— А што, табе тут не было з кім ваду хлябтаць? — запярэчыў пачутаму Іванаў брат Мікалай.

— Дак там людзей больш, больш ахвотнікаў знойдзецца, та-скаць, шклянку падаць, — не згаджаўся Валодзік Хвілосаф.

— А братачка ты мой, няўжо ты так абяссілеў, што сам шклянку ўжо не падымеш? — падчапіў нехта Камунісціка. — А калі так, то й не пі.

— Ага, ты скажы яшчэ — і не закусвай.

Гучны смех заглушыў словы Хвілосафа. Смех то гучаў, але нейкая нябачная трывога неадчэпна вісела над людзьмі. Перабіваючы адзін аднаго, падсмейваючы, стараючыся перакрычаць, усе разам шукалі адказу на балючае пытанне: ці так ужо добра там, дзе ракі зімуюць.

Калі трохі натаміліся, свае тры капейкі ўставіў Саша Назаноў, які прыехаў на ровары з той самай Каралёўшчыны, куды Іван з Маняй перабрацца мусяць. Ён, як вядома, выдатна ведаў на памяць паэму Якуба Коласа «Новая зямля». Вось і зараз Саша разважна-прымірэнча прамовіў:

— Не бярыцеся за чубы, Колас пра такія мітрэнгі даўно напісаў. І пра пярэбары таксама. І наконт іхняй страхавітасці, і пра выгоднасць і карысць. Так што вы сёння не адкрываеце нічога новага. Пераязджалі да нас, будуць перасяляцца і пасля нас.

— Будуць то будуць, але ж кожнаму сваё баліць.

— Дак у нас жа, та-скаць, добры доктар ёсць: наш старшыня Гарушка. Ён лепей за Сташэўскага (у Вялікай Ліпе сапраўды быў такі знаны на ўсе навакольныя вёскі і хутары доктар) ведае, што нам рабіць, — было незразумела, ці то з падначкай, ці то з адабрэннем прамовіў Валодзік Хвілосаф.

— Дак хай цябе і лечыць, — прапанаваў Васіль Пулікоўскі. — А мы на сваё здароўе ні скардзімсё…

Нарэшце Саша Коласавымі словамі падтрымаў тых, хто шкадаваў хутар:

— Што так, то так, ды працы шкода,
Якую мы тут палажылі;
Зямлю так добра мы ўгнаілі…

— От маладзец, Саша, от справядліво, — перабіла Гэтэвічава Шура.

— Не я маладзец, а Колас, — адмовіўся ад незаслужанай славы Саша і працягваў:

Апроч таго, тут абжыліся,
На ногі трохі падняліся;
Яшчэ б гадочак пажыць ціха,
Але найгоршае тут ліха —
Збірай зноў цапстрыкі, трасіся…

— Праўду, праўду, Саша, кажаш, — згадзілася Маня. — Ні паспелі тут абжыцца, а ўжо збірай манаткі і прыся да новай хаткі.

— Ого, бач як хутка паэзія на розум кладзецца, рыфма і з тваіх вуснаў саскоквае, — пахваліў ён сястру і дадаў:

— Колас і пра твой настрой напісаў, і пра ўсіх, каму моцна баліць, каго турбуюць пярэбары:

А маці слухае маўкліва,
Аб чымся думае тужліва;
Сказаць штось хоча і ўздыхае,
Штось за язык яе трымае.
— Вось як пачнеш так разважанне,
Агоркне ўсё табе дазвання, —
Нарэшце маці не ўтрывала:
— Таго няма, другога мала;
А як жывеш ды не гадаеш,
То й ліха тога не зважаеш...
Так... хоць зямлі свае нямнога,
Але ўсё ж лепей, як нічога.

— От жа праўдзіва сказаў твой Колас, брацік, — азвалася Маня. — Як пачнеш думаць ды галаву ламаць, то й праўда, агоркне ўсё…

— Дак не мой Колас, а наш. Усіхні, беларускі. Таму і ведае душу нашу, што сам наш, з нашае зямлі, стаўбцоўскай. Стоўбцы ж недалёка ад Нясвіжа. А Колас у Нясвіжы вучыўся. Але паслухаем Коласа:

Ўздыхнула цяжка-цяжка маці,
І зразу стала смутна ў хаце,
Як бы з усіх куткоў і шчылін,
З усіх чуць-чуць заметных звілін
Сюды бяда панапаўзала
І гэтак прыкра пазірала
На ўсіх, ад мала да вяліка,
Бязжаласна і без’языка,
Зрабіўшы ўмомант замяшанне,
І змоўклі ў хаце ўсе дазвання.
Знячэўку маці аж прысела —
Так пераборка ўжо дадзела!

— А мой ты Сашачка, во як самотна, аказваецца… А я ж і прысядала сёння, і жалілася, і прасіла, нічога ні памагло. Упёрсё Гарушка і — хоць ты кол на галаве чашы…

— Ну-ну, цішэй, Маня, не давай волю языку, — спыніў яе Іван.

— А я што? Я ж не на Гарушкавай галаве кол часаць сабралася, — набіралася смеласці Маня.

— А каб і на яго, то што? Святы ён, ці што? Маліцца на яго? — падала голас нябачная за плячыма мужчын Гэлька Нурашова.

— Не, людцы, вы мне агонь у хату ні кідайця, — спыніў асабліва гарачых Іван. — Мне і без вашага жару горача.

— І праўда, што горача, хоць і раскрылі ўжэ хату, — дадала Маня. — Так пячэ, што аж задніца смыліць, плакаць хочацца.

— Ну, тады ты паплач адна, а я ўжэ, та-скаць, дадому пайду, — устаў з лавы Валодзік Хвілосаф. — Бо ведамо, язык касцей ні мае, што наўме, тое і бае. А гавэнды вашыя, та-скаць, ажно аскому нагналі.

— А мо хай наастатак Васіль марша зайграе? — нечакана прапанаваў Косцік Сіневічаў. — Ці мо польку. Астатні раз тупням у Манінай хаці.

— А давай лепей «Шумеў камыш» зацягнем. Тожа апошні раз усе разам, — падаў голас Жэнік Юрашоў.

— Во-во, ты і зацягні, а мы, цвярозыя, паслухаем, — адпрэчыў Косцік Сіневіч.

— А я што — лысы? Я ж ні выпіўшы. Ты нешто ні тоё кажаш, — напусціў строгасці ў голас Жэнік.

Усе адразу зашумелі і было не зразумець, ці то згодныя, ці то насміхаюцца з прапановы. Але яснасці дадалі Васіль з Маняй.

— Дак я, каб і хацеў, ні магу вам памагчы, гармоніка ні браў…

А Маня трохі зласнавата разважыла:

— Ніхто не бача, як бедны плача, але кожны бача, як бедны скача. Хай ужэ ў некаго другога скачуць, у нас адтанцавалі. І спяваюць хай іншыя.

А тады нечакана звярнулася да свайго брата Сашы:

— А вось ты, Сашачка, лепш прачытай наастатак той верш пра жыццё. Ты некалі чытаў. Я забылася чый. Але ж словы там добрыя, ні слязлівыя.

— Мо Максіма Багдановіча? Ёсць у яго добрыя словы.

— Дак табе лепш ведаць.

— Мо гэты?

Падымі угару свае вока,
І ты будзеш ізноў, як дзіця,
І адыйдуць-адлынуць далёка
Ад душы ўсе трывогі жыцця.

— Ага, гэты, — пацвердзіла Маня.

— Так, гэта верш Максіма Багдановіча, — патлумачыў Саша, а каб усім прысутным было ўсё зразумела, дадаў: — Наш беларускі паэт. Нарадзіўся ў Мінску, жыў у Яраслаўлі — у Расіі, памёр ад сухотаў маладым — было дваццаць пяць гадочкаў, пахаваны ў Ялце, гэта Крым. — І працягваў:

Ёй не трэба ні шчасця, ні ласкі,
Ў ёй няма ні нуды, ні клапот,
Ты — царэвіч цудоўнае казкі,
Гэта хмара — дыван-самалёт!

## 29

Людзі паразыходзілася, а Маня сама з сабой усё яшчэ разважала над словамі Багдановіча. Вельмі ж кранулі яе. Сёння асабліва. Бо на душу, на яе цяперашні настрой ляглі. Мо і праўда, трэба не губляць дзіцячай звычкі радавацца жыццю, часцей адрываць вочы ад бруду на гэтай зямлі, каб ачысціцца, каб моцы набрацца, сілы падмацаваць, настрой падняць і нястомна крочыць (ого, які высокі стыль!) па той дарозе, па якой вядзе нас Гасподзь усявышні…

Хай так і будзе. Маня села на столку, прыхінула да сябе Толіка і спытала ў Івана:

— Дак куды ж мы ўсё-такі паедзем, га? Пабудзь «царэвічам цудоўнае казкі», падкажы.

— Ого, каб я быў царэвічам, то чаго я тут сядзеў бы? — аджартаваўся Іван.

— Дак мо ўсё ж у Сноў? — прапанавала Маня і спытала: — А ці пытаўся ты ў свайго бацькі, ці пытаўся ён у Петрыка, ці пытаўся той у Аляксаніна наконт пераезду ў Сноў?

— Пакуль невядомо, німа ніякага адказу.

— А я чула, што туды востраць лыжы і твае браты Міхась з Мікалаем. Добрая кампанія падбіраецца. Цэлы дом Гэтэвічаў. Пераедзем і мы, мы ж тожа Гэтэвічы. Што яны нам зробяць — солі на хвост насыплюць?

— Солі нам і свае хапае, а хваста, вось бяда, нямашака. Яно то добра было б у Сноў, — згадзіўся Іван. — Петрык там даўно, у яго можна пажыць. Ды і памог бы нечым. Але яшчэ ніхто са Снові нічога пэўнага братам ні сказаў.

Зноў памаўчалі ў роздуме. А тады нечакана Іван прапанаваў:

— Дак мо лепяй саўсім у Маскву рванём?

— Што-о-о?! — Маня не ведала смяяцца з Івана, ці злавацца на яго. — Во-во, бяры сшашаленаё палено, кладзі на плечы, палку ў рукі і рві ў Маскву. Там прадасі яго і хату сабе купіш. Цагляную. А мо ў цябе ўжо і «дыван-самалёт» ёсцека?

— Ага, два самалёты, кожнаму асобны — мне адзін, табе другі, — паддаўся на жарт Іван. — Я ж не адно сабе хату хачу. Табе таксамо. І Масква табе бліжай, чым мне.

— Мне-е? Чаму гэта мне?

— Проста. Хіба забылася, што сваячка там у цябе?

Маня і праўда забылася, што недзе ў Маскве жыве яе хрэсная, далёкая сваячка Манінай маці. Некалі яна ў суседніх Доўкіндах з бацькамі жыла. А калі выйшла замуж, муж забраў да сябе ў невядомую хутаранам Маскву.

— Я ад той Тоні забылася, калі пісьмо палучала. А ты жыць хочаш у яе… Не, давай лепш у Сноў. Там твае родзічы, лаўчэй будзя, чым у Маскве.

— Але хто ж нас перавозіць станя? — засумняваўся Іван. — Хто дзерава на хату дасць? Ды і Гарушка проціў, — астудзіў яе імпэт Іван.

— Проціў-ня-проціў, — заартачылася Маня. — А хто вашых Гэтэвічаў перасяліць збіраецца? Аляксанін. Дак і нас возьмя.

— Але ж мы яму нічога ні казалі. І як да яго дабярэсся, калі Гарушка проціў, — паўтарыў Іван.

— Зноў ты за сваё. Гарушка, бядушка… Сам ён у добруй хаці жыве, — усё больш набіралася злосці Маня. — Хай бы сам папробаваў гэдакай жыткі. А то ўсё начальнікам, ні зачапі яго, шышка гэдакая.

— Сціхні ты, разышлася, — перапыніў Іван так гучна, што аж Толік зірнуў на яго са страхам. — Як усё-роўно ні ведаеш, дзе сіла. У іх сіла, у іх і праўда. Возьмуць пад белыя ручкі, і ні пікнеш нават. Пад гарачую руку ведаеш, што бывая? І мокрага места ні астанецца…

— О-о-о, не, мой даражэнькі Іванка, сарочка вышыванка, — запярэчыла Маня. — Сіла то й праўда ў іх. Але ж ні ўся сіла ў сіле, — ажно сама здзівілася, што выкруціла такое. Мані падалося, што нехта зверху, невядомы ёй і нябачны, нашэптвае гэтыя словы. Таму і наступнае сказала смела і перакanaна: — Сіла яшчэ і ў праўдзе! Во як! — І паўтарыла: — У праўдзе сіла! Мо самая моцная сіла. Праўдзівая сіла. Як казаў мой дзед Фама: круцячы свет пройдзеш, але назад ні вернешся.

— Гэта праўда, — згадзіўся Іван. — Але ж мае рацыю і твой бацько, калі кажа: «Трэба жыць, як набяжыць». Бо іхняя сіла перасільвае нашу праўду. І нічога тут, відаць, ні папішаш, — прамовіў ён і глыбока ўздыхнуў. — Але на каго тут наракаць, чаго нас на хвіласофію пацягнуло? Хай яна Валодзіку Хвілосафу астаецца. А мы давай лепш у Толіка папытаем, — прапанаваў нечакана.

— А што, давай, — згадзілася Маня і першай звярнулася да сына: — А ці хацеў бы ты, Толічак, адгэтуль перяязджаць?

Пакуль сын шукаў адказ, Іван запярэчыў:

— Ты няправільно пытаешся. Скажы, Толік, куды ты хацеў бы пераехаць з хутара — у Баяры, ці ў Сноў? Ты ж быў і там, і там, праўда? Помніш, мы ў Снові на базары цукеркі падушачкі куплялі, а дзядзько Петрык табе часопіс «Вожык» аддаў. А праз Баяры ў цэркаў у Ліпу хадзілі.

— Ой, пра цяжкаё вы пытаеце, — зусім па-даросламу адказаў сын. — Я ж ні ведаю, ці трэба з дому, — ён так і сказаў: «з дому», — з’язджаць. Тут прасторно, вольно і сонцо якоё… А дзе я тагды жыто пасею? — прамовіў сумна.

— Ну, што: бачыш? Дзіця праўду кажа, — узрадавалася Маня.

— Праўду ці ні праўду, але позно, даганяючы, ні нацалавацца, — уздыхнуў Іван. — Хату ўжо развальваюць.

Сын прадоўжыў свае меркаванні:

— У Снові цікавей, там базар ёсцека, а на ім падушачкі мае любімыя прадаюць, — на гэтых словах Маня павесялела. — Але там дзяцей много. Будуць у мяне цукеркі адбіраць. І дзядзькоў бязногіх процьма. На калясках егдзяць. Я баюсё іх, — сур’ёзна разважыў Толік. — А што ў тых Баярах, то я ні ведаю. Мо лепш туды, дзе невядомо? — як бы падсумаваў.

— Ну, у Баярах ні ўсё невядомаё, — запярэчыла Маня. — Там жа мае родныя браты — дзядзька твой Янак з Ганнай і дзядзька Саша з Нюрай жывуць. Там і цётка Жэня са сваім Віцем з Нурашоў хату будуюць…

Выпытваць у сына яшчэ нешта патрэбы не было: не дзіцячая гэта справа — вырашаць такія складаныя пытанні, ад якіх у саміх галава пухне. Памаўчалі.

— А з чаго будавацца будзем у тых Баярах, га? — спытаў Іван, як быццам прыняў цвёрдае рашэнне. — Мо ў твайго бацькі папросім чаго? Мо дасць якоё палено?

— Ага, дасць, — запярэчыла Маня. — З калена выламіць палена і табе дасць. Хіба забыўсё, што хата яго даўно распасажаная?

— Што-што? — не зразумеў Іван.

— Сто-сто… Ні сто, а дзвесце, — злосна адказала Маня. — Распасажаная нашая хата, — яна і не заўважыла, што сказала «нашая», маючы на ўвазе не іхнюю з Іванам, а бацькаву — Міхася Назановага.

Іван моўчкі зірнуў Мані ў вочы.

— Ты ж ведаяш, параздаваў на пасаг свае вуглэ Міхась Назаноў. Ды і хатай называць тыя вуглэ ўжэ несправядліво, — сама з сабой заспрачалася Маня. — Бо некалі праўдзівы дом быў у нас, а ні просто хата. Цяпер жа адно котлішчо, можно сказаць, асталосё.

Іван усё яшчэ маўкліва пазіраў на Маню.

— У Баяры — да Янка, Сашы і Жэні паехала Назанова хата. У Панюцічы — да Косціка. Каму ад хаты адрываў пасаг, каму ад хлява, каму ад гумна. Хіба забыўсё, га?

— Не, ні забыўсё, — нейк сцішана прамовіў Іван і паўтарыў: — Распасажаны дом… Ну й прыдумала…

— Таму саўсім ні асталосё на пляцы ні гумна, ні хлява, — як бы не пачуўшы яго, працягвала Маня. — Карова і тая сёння на кухні стаіць. Бо і сяней з каморкаю ў хаты німа. Як там бацько жыве, то я і ні ведаю. Ні жыве, а выжывая. Мо разам з кароваю снедая і абедая. А мо і саўсім ні абедая? — нібыта спыталася сама ў сябе. — Ён жа адзін астаўсё. І ўсё п*ы*ніць і п*ы*ніць тую невялічкую ўжэ гаспадарку. Яму і паміраць ні будзе калі. А ў нас здаўна казалі, што гумно плача без гаспадара, а хата без гаспадыні.

Так, баба Воля, маці Маніна, сышла ад мужа, бо не магла змірыцца з ягонымі апошнімі выхадкамі. З гадамі бзікаваты стаў дзед Міхась. Часта на

корак наступаў. А тады свае парадкі ў хаце наводзіў, не раз з качаргой на бабу Волю кідаўся гэты ўвішны і грузны мужчына, лаяўся, сварыўся, крычаў. А што магла яна, дробненькая і нямоглая? Хіба што маўчаннем, каб яшчэ больш не злаваць Міхася, ды супакаяльнымі словамі збіць ягоную пыху. Калі асабліва насядаў, брала жменю попелу ў печы і шпурляла ў твар, каб пацэліць у вочы. Але гэта дапамагала, як хваробе кашаль. Дзед станавіўся яшчэ больш грозным і раз'ятраным, форменны шалёны. Тады баба Воля ратавалася тым, што замыкалася ў зале, за тымі самымі філёнчатымі дзвярыма, якія пазней у новай баярскай Іванавай хаце аказаліся.

Такая вось выходзіла гісторыя з геаграфіяй. Таму і жыве Міхась адзін, трывае, суцішыўся, бо з каровай не пасварышся. І не таму, што ў яе рогі, а хто ж тады малака, смятаны, масла, маслянкі дасць? За што капейку на Сноўскім базары атрымаеш? Што на стол сабе альбо ўнукам паставіш? Ды і пагаварыць ёсць з кім. Да любой жывёлы ён заўсёды ставіўся з шанаваннем, часам мо большым, чым да некаторых людзей.

— Як яму аднаму перасяляцца? Ён жа ні з кім ні ўжывецца. Выходзіць, трэба свой куток мець. А ці паможа яму калхоз яго вуглэ перацягнуць?

— Вытрымая, ён трывушчы, жылісты, — разважна прамовіў Іван. — Усё перанясе, вытрымая. Хіба забылася яго любімаё: трэба жыць, як набяжыць. Ды і Гарушка ні кіня. Пастанова высокая да гэтаго абавязвае — ссяляць усіх, а не асобных.

— Ого, ты ўжэ як праўдзівы дзіпутат гаворыш, — падчапіла Маня. — А з чым паедзя ў тыя Баяры ці ў Ліпу бацько?

— Ну, відаць, у Ліпе яму рабіць німа чаго. Дзеці ж усе ў Баярах. І мы туды ж лыжы вострым.

— Ага, вострым, — запярэчыла Маня. — Не мы вострым, а нам вострацьь.

— Хай сабе і так, але ж усё роўно ў Баяры, на Каралёўшчыну, дзе Янак, Саша, Жэня.

Іван пачухаў патыліцу, сам сабе ўсміхнуўся і нечакана прамовіў:

— Дак мо ўсім нам разам сабрацца — Гэтэвічам і Назанам? І новы канец у Баярах засяліць? Каля Каралёўшчыны. Назановым назваць. Альбо Гэтэвічавай слабадой.

— А гэта трэба падлічыць, каго больш будзя: вас ці нас? Калі твае ў Сноў паедуць, то нас больш.

— Іш ты, як загаварыла: нас ці вас? Ні збівай з панталыку. А што, хіба мы ўжэ ні разам, хіба паасобку, хіба аддзяліліся Назаны ад Гэтэвічаў?

Іван так пільна зірнуў у Маніны вочы, што тая разгубілася, не ведала, што адказаць.

— Разам мы, хоць і распасажаныя, як ты кажаш, — падсумаваў Іван. — Але ж добраё слоўцо прыдумала: распасажаная хата. — Памаўчаў. — Вось бы нам дажыць да тае пары, калі сваю новую хату давядзецца распасажваць… — І хітравата зірнуў на Маню. А яна гэтак жа хітравата і ўжо без нядаўнай злосці адказала:

— Дак тоё ж ад цябе залежыць, — і з хітрынкай у голасе дадала: — Як старацца будзеш.

— Я то буду, — у тон ёй адказаў Іван. — Ні зломак, ты ж ведаеш. Але і ты ні павінна гультаяваць.

— Ні буду, Іванка, сарочка вышыванка, — згадзілася Маня і неяк асабліва ласкава прытулілася да мужа, адначасна прыхінуўшы да сябе Толіка.

— Ну то й добро, — падрахаваў Іван. — Бо сіла ў праўдзе. Так ты казала?

Ён устаў са столка, цяжка ўздыхнуў і пакіраваў да дзвярэй. Перш чым адчыніў іх, Маня пачула яго здзіўлены голас:

— Іш ты, распасажаны дом... Ну й прыдумала.

А Маня пайшла слаць пасцелі — сабе, Івану з Толікам. Іх чакала першая ноч у парушанай для пярэбараў хаце. Вядома, не апошняя, але адна з самых апошніх у першай сваёй хаце на хутары.

## 30

Маня не верыла сваім вачам: хата знікала не па днях, а па гадзінах. Як цяжка было яе будаваць, так проста і хутка, аказваецца, можна разабраць, раскатаць па бервяну. Толькі што была страха, а ўжо і кроквaў няма. Стараліся разбіральшчыкі, памяталі старшынёва рашэнне — да зімы збудаваць Івану новую хату. Таму адначасова з разборкай, адвозілі на падводах у Баяры латы, кроквы, усё іншае, што для новага будаўніцтва прыдасца. Здаралася, таптaлі калгаснае жыта, што расло вакол хаты. Не дай Бог, каб такое зрабілі Гэтэвічы, ці хто іншы з хутаран, дорага б ім гэта каштавала.

Жыта было асаблівай захопленасцю Мані, сапраўднай святыняй, да якой у яе і адносіны адпаведныя. Кожны год на пачатку жніва — ці то на сваім полі, ці на калгасным — яна казала малітву і паўтарала адно і тое ж: «Радзі, Божа, жыто на другоё лето лепшаё за гэто». Ад саладжавага паху зернеек яна ажно на сёмае неба падымалася. І не важна, дзе было збожжа — у дамашнім кублe ці на калгасным таку, у недаспелых яшчэ каласах, ці ў састаўленых мыдлях. Яна гэтым святым зернейкам пакланялася, песні ім спявала. Заўсёды. Калі жала сярпом, калі веяла збожжа, нават калі складалі снапы ў сцірты на калгасным полі, і тады ўмудралася нешта мармытаць сабе пад нос, альбо разам з іншымі наспеўваць напаўголаса ў кароткія перадышкі. Ну а калі мясіла ў вялікай дзяжы свой хлеб, гэта было для яе найбольшае свята, нягледзячы на тое, што і без таго натруджаныя рукі ажно гулі ад стомы. Але гэта была акурат тая стома, якая радавала, паляпшала настрой, мацавала перакананне, што ўсё будзе добра, калі на стале ляжаць пахкія свежаспечаныя боханы, акропленыя халоднай вадой і накрытыя чысценькім кужэльным ручніком. А водар ад іх ажно па надворку гуляе, нават куры весялей кудахтаць пачынаюць. Хлеб у Мані лепшы за белыя булкі выходзіў. Мо таму, што пякла іх не часта, ашчаджала пытляваную муку, бо не заўсёды было на яе ўдосталь пшаніцы. І не змелеш яе на жорнах, што ў хаце Манінага бацькі, як жыта, везці на млын трэба.

Цяпер жа цяжка сказаць, які хлеб будзе, бо хто яго ведае, што за печ у новай хаце. Гэтая во ўдалай аказалася — моцна і непарушна стаіць, хоць і не пад страхой. Маня паліць у ёй, як і раней. Ставіць гаршчок з капустай, панцак варыць, умудраецца аладкі пячы. Бо не захацелі дакучаць сваякам, не пайшлі ў падсуседзі. Як і некалі, падчас будаўніцтва тут свайго гняздзечка, змайстравалі будан і хаваліся ў ім, спалі там начамі, пакуль было цёпла.

На пляцы ж у Баярах несціхана кіпела праца, праўда, пакуль што на ўзроўні фундамента, які нечакана аказаўся вельмі ж высокім з аднаго боку, а з другога ледзь не ў зямлі хаваўся — гэткі круты быў касагор. Гарушка прыспешваў цесляў. Даў крэдыт Івану, паставіў яго даглядчыкам цялят, каб больш зарабляў і хутка з пазыкай разлічыўся.

Івану не хапала часу кожны дзень бываць на будоўлі: як папікала Маня, ён не стамляўся цялятам хвасты круціць. Толькі познім вечарам, калі ўжо

сыходзілі будаўнікі, часам завітваў на пляц. Маня ж пільнавалася хутарскога гняздзечка, развітваццa з якім ой як не хацелася, таму і не мела асаблівага жадання пазіраць, што і як там робіцца.

І вось аднойчы, перад нядзеляй, Іван прынёс вестку:

— Паклалі падваліны нашай новай хаты… — паведаміў Мані і дадаў: — У Баярах… На Каралёўшчыне…

Тая ў адказ толькі плечукамі сцепанула. Толік жа радасна зірнуў на тату з мамай і нечакана сур'ёзна, старшынёвымі словамі прамовіў:

— О-о, будзе ў нас новая хата.

Муж з жонкай здзіўлена-ўсмешна пераглянуліся.

— Ну што ж, — уздыхнуў Іван. — Што ўсяму міру, то й бабінаму сыну.

А Маня не прамінула падчапіць Івана:

— Ну, тады, Іванка, сарочка вышыванка, пачынай рахтавацца да ўхошчын, калі так, — трошкі памаўчала і, уздыхнуўшы, дадала: — Хай сабе будзе так. Не са злом жа ехаць у новую хату, праўда? Ды і тоё вядомо, як казаў дзед Мацейка, што жыццё пражыць — ні полё перайсці. А мы ж ужэ на трэцяё полё пяройдзем. Відаць, так на раду напісано…

— Ага, трэба жыць, як набяжыць, — Іван хітравата зірнуў на жонку.

Маня прыгарнула да сябе Толіка, абняла мужа за шыю. І нечакана для самой сябе ўсё гучней стала выводзіць:

Ой, жала я жыта пры дарозе,
Павесіла калыску на бярозе.
Ой, жала я жыта пры даліне,
Павесіла калыску на яліне.
Вісіць мая калысачка, а я бачу.
Плача мая дзяцiначка, а я чую.
Ой, пайду дзяцiначку падгадую.

## 31

Іван прыносіў усё новыя звесткі з будаўніцтва новай хаты. Будаўнікі і праўда стараліся, Гарушка прыспешваў. А паспяшыш, вядома, што зробіш. У цесляў таксама хапала недаробак — майстра відаць па рабоце. Прасілі Івана, каб не казаў Гарушку, маўляў, пазней яны самі ўсё паправяць. Івану не выпадала ні сварыцца з будаўнікамі, ні скардзіцца старшыні, не прывык ён на людзей кляпаць, лічыў: хай лепш маё прападзе, чым іншым бяды нарабіць і сабе нервы патрапаць.

Хата стаяла ўсё яшчэ ў рыштаваннях. Страх*у*, так на хутары здаўна называлі дах, гонтай накрылі. Франтоны-фацыяты дошкамі забілі. Вялікую печ і малую печку для абагрэву «залы» зладзіў Манін брат Янак, якому работы гэтым перасяленскім часам хапала па горла. Дзверы ўваходныя з новых тоўстых дошак на завесы павесілі. Няма пакуль што дзвярэй на кухню. Бо старыя паставілі ў каморку, якую вырашылі зменшыць на карысць кухні. А вось у «залу», альбо проста ў хату, як заўсёды казалі на хутары, прыладзілі дзверы дзеда Назана. З таго самага распасажанага дома. Філёнчатыя, двухстворкавыя, з залатымі, бо бліскучыя, ручкамі. Не дзверы — адна любата, жыві і радуйся.

Падчас размовы адным познім вечарам Маня нечакана спытала:

— А ці не забыліся майстры крыжык драўляны да вільчыка хаты прыбіць? Пакуль рыштаванні стаяць, хай зробяць.

— Дак зрабілі ўжэ. Адно як страху накрылі, адразу ж і крыж я сам зрабіў, а яны прыбілі.

— Ну то й добра, — пахваліла Маня.

Іванава хата хутка можа лічыцца жылой, а вось дзве іншыя, гаспадары якіх у Баяры перабіраюцца, няскора комінавым дымком аб'яваць аб сваёй гатоўнасці. Хутка толькі байка баецца, а добрая справа няспешна робіцца. Цесляў не хапае. Таму і стаяць былыя хутарскія «харомы», як жартам празвалі іх карэнныя жыхары Каралёўшчыны — таго пасёлачка баярскага, куды хутаране перабіраюцца, без страхі і без вокан, без падрубы — на высокіх камянях, бо цэменту нестае, каб фундамент заліць.

Неўзабаве ўставілі Івану вокны, зашклілі, дубэльты новыя зрабілі. Паклалі новую столь — дошкі ажно свецяцца, такія жоўценькія. А вось на падлогу дошак няма, не напілаваў калгасны тартак.

— Ат, бог з ім, — махнула рукой Маня на Іванава буркатанне. — Хіба ж нам прывыкаць? Жылі на Язаўцы без падлогі, пражывём і ў Баярах. А свету там тожа німа? — спытала нечакана наконт электрычнага асвятлення.

— Німа, лініі яшчэ німа, — патлумачыў Іван. — А хіба адвыклі мы ад лямпы? У нас жа сямёрка, добра свеціць. І карасіна ёсцека.

Маня змаўчала.

Побач з хатай асобна пабудавалі хлеў, бо на хутары іхняя будыніна была суцэльнай — усё пад адной страхой. Хацелі нават падвал-пограб, чаго на хутары зусім не было, пад хатай зрабіць. Але не хапіла цэменту. «Зробім пасля», — паабяцалі. Ды Маня з Іванам ведалі гэткія абяцанкі-цацанкі. Так яно і выйшла. Гадоў праз пяць давялося самім капаць той падвал-пограб і прасіць суседзяў на падмогу, каб ацэментаваць яго.

Не заўважылі, як адляцела ў вырай лета. Восень пачала перабіраць свае ўборы. Толькі не прыбірала яна старой Іванавай хаты. Не было яе. Не прыбірала і новай, баярскай — не гатовая яшчэ. Іван з Маняй пачалі не на жарт турбавацца: ці паспеюць будаўнікі, ці не давядзецца туляцца па чужых кутках зімой?

## 32

Як толькі ў Мані пачалі набіраць сілу развагі адносна справядлівасці іхняга прымусова-добраахвотнага перасялення ў Баяры, як толькі яе захапіў клопат пра новую хату, прыходзіла разуменне немагчымасці змяніць абставіны, а разам з гэтым нараджалася адчуванне безвыходнасці. Але адчуванне гэтае, што дзіўна, не выклік*а*ла супраціўлення, наадварот, яно супакойвала, здымала трывогу, гасіла эмоцыі. Аказваецца, безвыходнасць можа мець і свой станоўчы ўплыў.

Аднойчы Маня разам з іншымі хутаранамі перажыла ўжо нешта падобнае. Тады, калі калгас стваралі. І сёння яна ўсё больш разумее, што іменна адчуванне безвыходнасці прымушала згаджацца тады і змушае супакойвацца цяпер, больш рэальна зірнуць на ўсю тую сітуацыю, у якой апынулася Іванава сям'я. У Манін плач па хутары, у яе хваласпеў у гонар непаўторнасці і вышэйшасці хутарскога жыцця сталі ўплятацца ніткі рэальнасці, якія гэтае ўзнёслае палатно міжволі пазбаўлялі многіх яркіх фарбаў. Чым больш астывала Маня, тым больш красак губляў хутарскі дыван.

Быццам нехта іншы нашэптваў ёй: а што, хіба заўсёды такім замілаваным і бясхмарным было тутэйшае жыццё? Няўжо мала было плачу, бяды, гора,

нястач? І за палякамі, і пры саветах. Незразумелы хапун зімой 1940 года бязвінных людзей, правінай якіх хіба лічылася тое, што былі беднымі, не маглі купіць зямлі за палякамі, а таму ніякага набытку не нажылі, яшчэ дагэтуль выклікае дрыжыкі і страх. А калгасная старонка хіба не чорнай фарбай пазначана, хіба без страху абышлася? Усё яшчэ не гоіцца балячка. Толькі закрані яе, такім болем адгукнецца, што мала не пакажацца.

Гэта ж трэба было дадумацца, каб самахоць, добраахвотна кідаць у нябачны і недаступны пасля гэтага агульны кацёл усе свае пажыткі і набыткі, расставацца з тым, што нажыта такім салёным потам, які аж вочы выядаў. Чаму самахоць? Бо ўсё рабілася пад маркай уласнага, асабістага жадання хутаран як мага хутчэй далучыцца да савецкай рэальнасці, якая ўжо даўнавата панавала ў Савецкай Беларусі. Выходзіла, што кожны гаспадар сам, па сваёй уласнай волі запрагаў свайго каня, грузіў на воз свае плуг, барану, увесь іншы сельскі інвентар, прывязваў да аглоблі сваю карову і як мага хутчэй самахоць пёрся у Вялікую Ліпу — у калгас. Там пакідаў не толькі карову, а і каня, вядома. А без каня не адно ў Сноў не з’ездзіш, каб парася на базары купіць і дадому прывезці, а і са сваімі соткамі не ўправішся. Праўда, тым, хто нічога не меў, не надта балела, не баяліся ў калгас ісці — усё адно нічога не губляюць. Ім усё гэта дзіўным прадстаўленнем здавалася.

Каб паказаць і даказаць наяўнасць радасці наваспечаных калгаснікаў, прадстаўнікі сельсавета і калгаснай канторы, якія прыехалі на хутар разам з карэспандэнтамі радыё і цэнтральнай газеты, арганізавалі першы абоз калгаснікаў з чатырох падвод. Героямі дня зрабілі чатыры сям’і. На першую падводу прымацавалі чырвонае палотнішча з нейкім патрыятычным лозунгам. Чырвонымі сцягамі ўбралі і іншыя падводы.

Усё хораша, усе задаволеныя.

А чаго ж тады галасілі жанкі, чаго плакалі дзеці? Чаго прыехаў на хутар міліцыянер Пахомаў, які непрыкметна, але вельмі ж пільна сачыў за паводзінамі ўсіх — і тых, хто ехаў на вазах, і тых, хто праз вокны альбо з-за кустоў на надворку цікаваў, як і што там адбываецца ў добраахвотнікаў-калгаснікаў?

Агітацыя за калгас не спынялася да той пары, пакуль усе хутаране не прызналі сваёй згоды стаць калгаснікамі. Апошнім аказаўся Міхась Назаноў. Доўга трымаўся ён, не раэагаваў ні на хутарскія пакепліванні і абзывалкі аднаасобнікам, куркулём, кулаком, ні на пакуль што нягучныя страшылкі з сельсавета, якія называліся агітацыяй. Урэшце перамаглі страх і агітацыя. Страх не за свой уласны лёс. За сыноў з дочкамі баяўся Міхась. Невядома, як паглядзяць на іх начальнікі, калі яны, маладыя, свядомыя не могуць справіцца са старымі бацькамі. Пад галашэнне Міхасёвай жонкі Волькі і плач іхніх дачок паехала ў калгас, хоць і без чырвонага палотнішча на возе, усё, што трэба было туды аддаць. Аддалі і карову, пакінуўшы сабе цялятка.

А без усяго гэтага які ж ты гаспадар? Звычайны галадранец. Праўда, не зусім звычайны, бо калгасны. Ды паспрабуй толькі пікнуць, тут ужо адным Пахомавым не абыдзецца. Хоць плач, хоць смейся, а нічога не паправіш, не зменіш і не адменіш. Таму і станавіліся калгаснікамі. Зубамі скрыгаталі, а везлі на калгасны двор усё, без чаго зусім нядаўна не маглі ўявіць уласную гаспадарку. Вялі коней, кароў, нават авечак, калі яны ў некага былі. Калгаснікам не павінна нічога замінаць працаваць на агульную карысць. А на сваю? Дак пра гэта ёсць каму паклапаціцца — калгаснага начальства ніколі не бракавала. Было каму палачак наставіць, працадні падлічыць, нядоімку за недаплачаныя падаткі прызначыць. Толькі вось з клопату таго аніякай карысці не мелі хутаране.

Праўда, не былі б хутаране хутаранамі, каб вось так, без усяго ўсякага пажадалі застацца без інвентару, з якім за многія гады звыкліся, зжыліся, як са сваёй уласнай жонкай. Хто прыхаваў барану, хто плуг, а нехта пастронкі, сявеньку. Адным словам, каб было ў выпадку чаго і песеяць, і вырасціць, і зжаць, і абмалаціць, і муку змалоць, аб'яднаўшы высілкі ўсіх. Цішком пакідалі, ніхто ні перад кім нічым такім не хваліўся, але, каб добра пашукалі, то яшчэ не адзін калгасны воз наладавалі б. Хавалі так, на ўсякі выпадак, а можа, і прыдасца.

Шкадаванне доўга не давала ім спакою. Адно ратавала: показка пра тое, што ніколі не можа быць так кепска, каб не стала яшчэ горш. Дык вось, якраз гэтая боязь, каб не стала яшчэ горш, і змушала трымаць язык за зубамі, працаваць за палачкі, а на сходах хваліць свабодную працу на свабодным палетку — відаць, ад гаспадара свабодным, бо цяпер гаспадарамі лічыліся ўсе, нават тыя, хто нічога не прывёз і не прынёс у калгас, бо не было чаго, як, напрыклад, Валодзік Хвілосаф і Жорыка Бандзюковага бацька. Праўда, Жорыка не прамінулі падкузьміць: вось каб не спаліў твой бацька крэсла, што ты са Сноўскіх кашараў прыцягнуў, прагадзілася б у калгасе, мякка было б некаму ў канторы сядзець.

Маўчалі, працавалі, прывыкалі. Прывыклі. І нават песні пачалі гучаць не толькі на ігрышчах, а і на калгасным полі ці сенажаці. Даказвалі: чалавек трывушчы, любую бяду вынесе, стрывае любы здзек, а вось наконт багацця, дастатку, сытага жыцця — то яшчэ пытанне. Любая рэчаіснасць — іхняя хутарская, чужая для іх вясковая, невядомая ім гарадская — і за палякамі, і пасля іхняга сыходу не раз давала такія прыклады.

Праўда, знаходзіліся на хутары вастрасловы, якія і пра калгаснае жыццё анекдоты паспелі пачуць, і баязлівых хутаран падсмейвалі, пакеплівалі з іхняга страху перад калгасам. Закапёршчыкамі гэткіх размоў-падсмейванняў як правіла былі Жорык Бандзюкоў ды Валодзік Хвілосаф, ён жа Камунісцік. Як толькі збярэцца дзе-небудзь якая-небудзь кампанія, абавязкова нехта наконт калгаса рэпліку кіне. Слова за слова, і пайшло, і паехала.

— Чаго вы так перажываеце? — пытаўся Хвілосаф у тых, хто адважваўся выказаць хоць бы нясмелую нязгоду з калгасам. — Баіцеся, та-скаць, без працы застацца? Не бойцеся. Яе яшчэ больш будзе. Ні сумнявайцеся.

— Праўда, — устаўляў свае тры капейкі Жорык. — Якія некалі ў вас былі надзелы? Каб села на Іванаў участак Пахвалёнчыкава Стася, то сваёй спадніцай усю зямлю накрыла б. А цяпер жа, каб нават усе жанкі з Язаўца свае сукенкі ды спадніцы над калгаснай зямлёй распусцілі, дак і то не справіліся б. Во дзе зямля, дак зямля. Працуй — не хачу…

— Дак я і ні хачу, — ціхенька падаваў голас нехта з-за спінаў іншых.

Нягучны смех і невясёлыя ўсмешкі суправаджалі гэтыя словы. А Камунісцік далей вёў агітацыю, як называў ён апошнім часам свае развагі.

— Ці мо багацця свайго шкадуеце? — звяртаўся ён да прысутных і чакаў іхняй рэакцыі. Але людзі звычайна маўчалі. — Дак чаго тут шкадаваць? Бог даў, та-скаць, Бог і ўзяў…

Ну, тут ужо было не вытрымаць. Чуліся гучныя пярэчанні.

— Ну ты і загнуў. Бог даў… Табе то мо Бог і даў. А я сваім гарбом усё нажываў, — казаў Васіль Пулікоўскі.

— Ага, даў яму Бог, — падчэпліваў Хвілосафа Саша Назаноў. — Пустую міску даў, ды язык як памяло, які ні томіцца лухту малоць.

— Я то хоць нешта мялю, а ў цябе, та-скаць, і гэтаго німа, — не лез у кішэню па слова Валодзік.

— Толькі твайго змолатаго нават свінні есці ні хочуць, — зусім сур'ёзна прамаўляў звычайна маўклівы Сіневічаў Косцік. — Бо пустоё ў іх карыто.

— А Божа ж ты мой, а дзе ж ты ў яго тых свіней бачыў? — пляснула рукамі Жэня Назанова.

— Дак мо таму і не вядуцца свінні, што адным балабольствам корміць, — смяяўся Васіль Пулікоўскі.

Хвілосаф мужна вытрымліваў паўзу, даваў усім ахвочым пазубаскаліць, як казаў ён, а тады сур'ёзна працягваў:

— Вы ж усе, та-скаць, Божыя людзі. Праўда? За палякамі яшчэ большымі вернікамі былі, — трошкі пачакаў адказу, а не дачакаўшыся, працягваў: — У царкву ходзіце, та-скаць, нешто слухаеце там. Дак няўжо ні чулі, што бацюшко казаў, га? Зямноё багаццё, та-скаць, на небі непатрэбно. Разумееце, га? Не-пат-рэб-но. Ні пусцяць вас туды з ім. Усё-роўна тут, на зямлі яго пакідаць прыйдзецца. Дак нашто, та-скаць, абцяжарваць сябе?

— А ты ўжо і з нябеснай канцылярыяй сувязь маеш? Іш, які быстры, — падсмяяў Васіль. — Тады перадай на небо, што нашаё багаццё ў нас адабралі. Каб ні пускалі на небо тых, хто яго адбіраў, — і хітравата так зірнуў на Хвілосафа. Але той не надаў гэтаму аніякай увагі.

— Во-во, — замяяўся Камунісцік. — Нават бязбожныя камуністыя, та-скаць, зразумелі нябесныя парадкі і памаглі вам вашу веру ўмацаваць. Адабралі, та-скаць, ад вас лішняё багаццё, каб вам лягчэй і скарэй было ў царство нябеснаё патрапіць.

— А ты ні грашы, бязбожнік ты.

— Во-во, каб скарэй…

— У каго ты лішняё багаццё бачыў?

— Мо табе яно і лішняё, бо ў цябе яго ніколі ні было. А мне пяць ратоў накарміць трэба, тром дочкам пасаг сабраць.

— Дак ты мо яшчэ раней за нас на небо сабраўсё? — пытаецца Васіль Пулікоўскі ў Хвілосафа. — Бо ты ж і за палякамі, і цяпер гол як сакол.

— Ні толькі гол, але добры пусты балабол, — трохі зласнавата падчапіў Саша Назаноў.

— А гэта, та-скаць, хто на што радзіўсё, той на тоё і згадзіўсё, — адказаў Валодзік Хвілосаф, і было не зразумець, ці то ён спрачаецца з Сашам, ці то згаджаецца з ім.

Такія альбо падобныя размовы-спрэчкі-падсмейванні на пачатку калгаснага жыцця былі частымі. Але з часам пачуцці прыгаслі, языкі прытаміліся. Людзі паступова прывыкалі да новага становішча, злосці і крыўды ў іх паменшала — ці мо прыхавалі ад чужых вачэй і вушэй. А неўзабаве і зусім спакойна сталі пачувацца. Хадзілі ў калгас, адзначалі не толькі царкоўныя святы, а і савецкія, калгасныя зажынкі, дажынкі, дакопкі — усе разам збіраліся, гулялі, забаўляліся, песні спявалі, танцавалі — вальсы круцілі, польку скакалі, умелі абэрак, кракавяка, каробачку. Адным словам, жыццё ўвайшло хоць і ў новую, але ў сваю каляіну. Па каляіне той і каціліся звыклыя калгасныя будні. Хутаране не перасталі быць хутаранамі. А з новымі абставінамі звыкліся. Ды на табе — збірай манаткі і прыся да новай хаткі…

## 33

І вось наступіў той абяцаны Гарушкам дзень. Перасяленне. Пярэбары. Пераезд. Ухошчыны. Апошні хутарскі дзень для Мані, Івана і іхняга Толіка. Адзін з першых дзён лістапада. Кастрычнік і пачатак новага месяца не былі

халоднымі. А вось сёння ў паветры адчуваўся халадок, стаяла стыласць, бачна, што бралася на зіму.

Старшыня Гарушка паабяцаў даць машыну для перавозкі хатняга набытку. Дакляраваў, што сам разам з тэлевізіяй да новай хаты пад'едзе, каб сустрэць навасёлаў. Ці будзе тое на самай справе, то хто ж яго ведае. Аднак пра пачастунак для першых наведнікаў новай хаты Іван паклапаціўся, сабралі гасцявы пакунак.

Старшыні карцела зрабіць Іванавы ўхошчыны якраз перад днём Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, які адзначаўся 7 лістапада. Во тады, разлічваў, будзе годны падарунак і тэлевізійнікам, і святу. Ды і самому старшыні — стрымаў Гарушка слова наконт новай хаты Івану, не падвёў дэпутата.

Абяцаная Гарушкам палутарка з'явілася толькі пад самы абед — псавалася па дарозе, глухла, як патлумачыў шафёр. Грузавік пад'ехаў да хаты дзеда Яся, Іванавага бацькі, дзе ў прасторным хляве было складзена ўсё нажытае невялікім сямействам. Аказалася, нажытага не так ужо і мала. Пакідаць жа не хацелі нічога, бо невядома калі дадуць і ці дадуць наогул машыну яшчэ раз. А свайго каня і воза зараз ні ў кога няма. Пакавалі ўсё ў кузаве сам Іван і ягоны брат Мікалай. Насіць дапамагалі дзед з бабай, Маня, прысланыя з машынай калгаснікі і нават Толік. Ды ўсё адно загрузіліся толькі надвячоркам. А пакуль павячэралі, узяўшы, каму можна, па кроплі самагонкі — бо як жа на сухую развітацца з родным, сваім, дарагім? — пачалі насоўвацца прыцемкі.

Перш, чым назаўсёды з'ехаць з хутара, усе аднасямейнікі Гэтэвічы вырашылі пайсці на котлішча былой хаты. Каб развітацца. Каб пакланіцца гэтаму наймільшаму для іх куточку. Каб сказаць гэтай потам мытай-перамытай зямельцы шчырае дзякуй. За хлеб, за соль. За слёзы радасці і пакут, апошніх, праўда, было непараўнальна больш. За дабрыню і шчодрасць яе, за выпрабаванні, якія — без патэтыкі — гартавалі і школілі характар, вучылі жыць. «Жыць, як набяжыць…»

Стаялі. Маўчалі. Кожны думаў аб сваім. Нават Толік, які пакідаў тут свой недасаджаны і недавыраслы лес. Не, не лес, вядома. Проста лясок, лясочак, а праўдзівей — падлесак. Рэдкія елачкі, некалькі бярозак і хваінак і праўда выжылі ў разбуральнай перасяленскай мітусні. А каму яны дастануцца, хто будзе і ці будзе імі апекавацца, Толік не ведаў. Шкадаванне змусіла яго інстынктыўна пагладзіць самую большую з елачак. Тая ў адказ развітальна кальнула ў руку. Ды так, што кропелька крыві выступіла на пальчыку. Цярплівы Толік не стрымаў пякучую слязу, якая самахоць выплыла з вока і пакацілася па шчацэ. Каб не бачылі гэтага дарослыя і не пачалі супакойваць ды шкадаваць, хлапчук адвярнуўся да гонкай хваінкі і другой, не балючай, рукой сціснуў адну з яе галінак. Доўгія і мяккія іголкі схаваліся ў кулачку. Толік няспешна правёў ім да самага канца галінкі.

А тады нечакана хлопчык заўважыў на нядаўна яшчэ цалкам зялёнай хвойцы некалькі сучкоў з карычневымі іголкамі. «Што, хвойка, пачала засыхаць?» — не паверыў ён сваім вачам. Але ад праўды нікуды не ўцячэш. Маленькая сасонка была пазначана немінучай бядой засыхання.

«Дак гэта яна ні хоча аставацца адна, — падумалася Толіку. — Але ж ні адна ты тут, — суцяшаў ён сасонку. — Увесь мой лясок пакуль што жывы…»

Толік яшчэ пэўны час ціхенька — адно у думках — размаўляў са сваім лесам. Яму было і ўсцешна, што лясок выстаяў і будзе расці, і трывожна за тое, што без нагляду ён прападзе, засохне, знікне, яго зааруць трактары.

І ён паабяцаў: «Не сумуйце, сябры мае. Я буду прыязджаць да вас».

А што ён мог прапанаваць яшчэ? Паскардзіцца? Дык дрэўцы гэтыя і без таго сумам ахінутыя. Сказаць праўду? Але якую? Ён і сам не ведаў яе. А тады нечаканая думка нарадзілася ў галаве і ўжо ўголас, але не надта гучна, Толік прамовіў:

— Як толькі разбяромся з новаю хатаю, я папрашу тату прыехаць сюды. І мы перасадзім вас на новаё месца. Так, — ужо зусім пераканаўча паабяцаў ён, — мы абавязково вернямсё сюды і перавязём вас. Я абяцаю…

Маці заўважыла і Толікаву крывяную кропельку, і ягоную пякучую слязу. Ды не прамовіла ні слова, толькі мацней сціснула зубы, ажно да скрыгату. А ў самой горла перахапілі нечаканыя спазмы, з вуснаў гатовы быў сарвацца крык адчаю. Стрымалася. Стрымала і слёзы, і крык. Аднаго не стрымала: кадык-яблычак у горле сам па сабе пачаў то скакаць угару, то апускацца ўніз, ганяючы балючы камяк, які намагаўся выціснуць з вачэй непатрэбныя тут слёзы. Каб схаваць міжвольную праяву слабасці, Маня знарок закашлялася, прыкрыла рот рукой. Затым рушыла да печы. Комін, які без хаты стаў неверагодна высокім, адзінока-гаротна панаваў над пляцам і нібыта маркотна пытаўся: «Ну што, пакідаеце? А на каго? Хто бараніць мяне будзе ад ветру, ад навальніцы, ад сцюжы? Каму служыць буду далей?»

Іван стаяў моўчкі. Пазіраў то на наваколле, то на сваіх аднасямейнікаў і маўчаў.

Маня нібыта пачула голас печы і падышла да чалеснікаў. Ды не было тут ні чапялы, ні вілак, ні качаргі. Не было і скаварады, і гаршкоў, і чыгуноў. Нават засланкі не было. Ні-чо-га… Пуста на прыпечку. Пуста ў падпечку, дзе некалі зімавалі куры. Пуста ў самой печы, якая ўмела выпякаць пахкія і вельмі ж смачныя боханы. Толькі кучка не зляжалага яшчэ попелу ўсярэдзіне нагадвала, што зусім нядаўны тут гарэў агонь. Тут варылі крупнік, смажылі бульбу, пяклі аладкі. Бо тут жылі людзі. Вось гэтыя самыя, што дзіўна аціхлыя стаяць зараз каля гэтага адзінага напамінку аб нядаўнім сумесным жыцці тут, на хутары, які быў для іх без перабольшання цэнтрам сусвету, святым месцам на гэтай грэшнай зямлі, магутным магнітам, што прыцягваў усе іхнія думкі і памкненні. І нават тое благое, што давялося перажыць, зараз бачылася не такім ужо страшным і балючым.

Маня, не хаваючыся, пагладзіла печ. Гладзячы, абышла яе ўкруга. Паклала руку на чэран. Але не цяплом, а холадам азваўся ён. Вецер разнёс па наваколлі ўвабраную ім некалі гарачыню ад спаленага ў печы торфу. Гарачыню, што заўсёды ператваралася ў прыемнае і жыццядайнае хатняе цяпло, якое трывала цэлую ноч, нават самую доўгую — восеньскую.

Ды ніколі больш не нагрэе печ хаты, якой няма. Ніколі не сагрэе схаладалых на дварэ Толіка і самой Мані, якія пакінулі яе адну сярод бязмернай і безагляднай палявой пустэчы пад насупленым і пракіслым ад нуднага дажджу небам. На каго пакінулі? На гэтае пытанне ні адзін з прысутных не здолеў бы адказаць ні самому сабе, ні іншаму. Пакінулі і ўсё тут… Хоць і не па сваёй волі, не самахоць, а пакінулі ж.

«Дак скоро ж і самого хутара ні стане?!» — гэтая думка, якая і раней вярэдзіла душу, прымусіла Маню сцепануцца. Назаўсёды спыніцца хутарскі гадзіннік. Не будзе іхняга Язаўца, на якім нарадзілася не адно тутэйшае немаўля — іхні сынок таксама, з якога ў жыццё вечнае выправіўся не адзін тутэйшы жыхар — іхняе немаўлятка таксама. Ніколі больш не назавуць іх хутаранамі, хіба што былымі. Ніколі больш не прыедуць сюды, да дэпутата Гэтэвіча, упалнамочаныя, не будуць грукаць у дзверы, якіх няма, не сядуць

за стол з бульбай і бутэлькай, якіх таксама няма. Не зазірне ў хату міліцыянер Пахомаў, каб запытацца, ці ніхто з іх і ім самім не робіць нічога благога. Не збяруцца на чарговае ігрышча і на танцы пад Васіля Пулікоўскага гармонік хутарскія кавалеры і дзеўкі. Не будзе дзе і не будзе каму.

Не будзе каму…

А так жа зжыліся тут людзі. Хоць і далёка адзін ад аднаго, ды ўсё-ткі можна сказаць, што сталі адной сям'ёй. Усё рабілі разам, талакой і весела — спраўлялі вяселлі і радзіны, адзначалі даты і святы, памагалі жаць і касіць, сеяць і малаціць, вязаць і насіць, разумелі адзін аднаго з паўслова. Сапраўдная людская рознасямейная супольнасць, з'яднаная і хрышчаная адным лёсам. Што праўда, як і ў асобнай сям'і, так і на хутары здаралася рознае — радасныя і насычаныя прыемнымі справамі дні часам перамяжаліся з неспрыяльнымі і сварлівымі. З большасцю хутаран Гэтэвічы жылі душа ў душу, разам дзялілі і песню, і апошнюю бульбіну, а з некаторымі (іх вельмі мала) абыходзіліся маўчанкай. Але ж тут яны ведалі, як паводзіць сябе, каму давяраць, а з кім лепей не распачынаць шчырай споведзі. А там жа прыйдзецца пачынаць усё спачатку…

Яны стаялі б на сваім котлішчы і гадзіну, і другую — моўчкі, не адчуваючы стомы ў нагах, не зважаючы на холад, які назойліва прыставаў да цела, проста стаялі б і стаялі, бо — апошні раз, бо — назаўсёды развіталіся са сваёй першай у жыцці хатай, са сваім хутарскім лёсам.

Але ўжо каторы раз гукаў ім з дзеда Ясевага надворка шафёр, клікаў, палохаў, што паедзе адзін, калі яны не хочуць.

На развітанне Маня пакланілася печы, котлішчу, былым соткам, перахрысцілася сама і перахрысціла гэтае месца. Пасля ціхенька папрасіла прабачэння за тое, што мо малавата шчыравала на гэтай зямлі, што крыўдзіла тутэйшую расліннасць і жыўнасць. А яшчэ прасіла Бога, каб дараваў ёй грэх колішніх міжвольных непаразуменняў з аднахутаранамі, каб не браў пад увагу знарочыстыя і ненаўмысныя крыўды ім, каб не лічыў грахом яе міжвольную насцярожанасць да тых, хто разбіраў іхнюю хату, бо зразумела, што невінаватыя яны, не ў іх справа, яны мусілі выконваць загад зверху. І паспрабуй не выканай. Напэўна, Іван з Маняй рабілі б тое ж самае, калі б Гарушка накіраваў іх на падобны занятак.

— Бывай, родны хутарок. Бывай, калыска нашага сямейнага пачатку. Бывай, радзінны Толікаў куточак… Бывай і нас не забывай. А мы не забудзем цябе ніколі…

Маня непрыкметна циранула рукой па вачах, і ўсе яны, пабраўшыся за рукі, рушылі са свайго котлішча — во якое невядомае слова ўваходзіла ў іхнюю свядомасць.

## 34

Усё невялічкае сямейства Гэтэвічаў апошні раз ішло па ўсё яшчэ зялёнай і да драбніц, да кожнай травінкі знаёмай сцежцы на дзеда Ясеў надворак. Там чакае не дачакаецца перасяленцаў калгасная палутарка, якая першымі і назаўсёды вывезе іх з Язаўца.

А ў сваёй баярскай хаце, што на Каралёўшчыне, Манін брат Саша гэтым не познім яшчэ вечарам займаўся зусім іншай справай. Ён ведаў, што калгасная машына паехала да Івана, каб перавезці іх у новую хату. І не мог Саша не сустрэць сваякоў на гэтай ужо і ягонай Каралёўшчыне вітаннем. Таму гартаў

і гартаў зачытаную Коласаву кніжку з «Новай зямлёй». Шукаў адпаведныя словы.

— Мо гэтыя? — сам сабе задаваў пытанне і ўголас чытаў кавалачак:

Дзень добры, новая мясціна!
Спаткай ты нас, як маці сына
Па часе доўгае разлукі,
І разгарні прыветна рукі
Для тых, хто змушаны ў няволі…

— «Ў няволі…» Не, яны ж не з няволі едуць і не ў няволю. Не зусім добра. Але ладна, паглядзім, што далей:

Для тых, хто змушаны ў няволі
Жывіцца хлебам твайго поля;
Зірні ты светлым вокам ласкі,
Авей крылом прыгожай казкі,
Каб гэта жыцце-пуцявіна
Была нам светлая часіна;
Узброй надзеямі нам грудзі,
Бо мы твае, зямелька, людзі!

— Няблага, надзею цепліць. А мо гэтыя радкі лепш падыдуць:

Каб даў Бог здольнасці, ахвоты
Да вашай новае работы,
Панятнасць добрую і памяць
Ўсё браць на розум вам і цяміць,
І каб да кнігі вас гарнула…

— Не, пра кнігу Івану з Маняй ранавата думаць. Хіба што Толік адчытае за ўсіх. Тады мо яму, каб не забываўся пра непаўторную адметнасць Язаўца, вось гэтыя радкі працытаваць:

Малюнкі родныя і з’явы!
Як вы мне любы, як цікавы!
Як часта мілай чарадою
Вы ўстаяце перада мною!
І так панадна смеяцеся
Жывою баграю на лесе,
І златаблескімі снапамі
Праменняў-стрэлаў над палямі,
І брыльянцістаю расою,
Калі гарачаю касою
Скрозь лісцяў сетачкі-аконцы
На ёй заззяе ціха сонца,
Яе так песціць, так кахае,
Па ёй вясёлкі рассыпае!...

— А во яшчэ, мо і гэта дадаць:

Я чую шум разнагалосы
Лясоў, лугоў, дзе звоняць косы
У часе дружнай касавіцы;
Я чую громы навальніцы,
І шум глухі буйных дажджоў,
І песні звонкія палёў,
І ціхі плач ускрай магілы.

— Толіку пра магілу? А што, мо і не лішне. Каб не забыўся, што там, удалечыні ад Баяраў, застаецца на Доўкіндскіх могілках грудок, пад якім пахаваны ягоны маленькі родзіч.

Саша гартаў і гартаў кнігу, зноў чытаў і ў каторы раз перачытваў свайго любімга Коласа.

А хутар Язавец жыў сваім жыццём.

## 35

Іван з Маняй і Толікам прытупалі на дзеда Ясеў надворак. Сталі абдымацца, цалавацца, плакаць, жадаць, абяцаць — развіталіся. Шафёр усё прыспешваў. Нарэшце пачалі займаць месцы на машыне.

У кабіну ўсадзілі Маню. Толік не захацеў ціснуцца там і разам з іншымі залез у кузаў, дзе для гэтага спецыяльна паставілі столак. Адзін з калгаснікаў, што быў прысланы ў падмогу, пажартаваў:

— А давайце пасадзім Толіка ў куфар. Чаго ён будзе пустым ехаць? Ды і цяплей там.

І нечакана Толік, які не вызначаўся ні агрэсіўнасцю, ні непаслухмянствам, рэзка запярэчыў:

— А вы самі туды залезця. Там і мякко будзе. Там жа нашыя дзяружкі, коўдры, падушкі…

— Ладна, сынок, не крыўдуй, — супакоіў бацька. — Дзядзько пажартаваў.

Толік змоўк, аднак скоса кідаў вокам на дзядзьку, які так няўдала жартуе.

На развітанне баба Гандзя папрасіла:

— Ты, Толічак, ні забывайся пра нас. Прыязджай, пакуль мы тут. Яблыкамі пачастуем, скібачкай хлеба, падушачкамі.

— Ага, добра, — коратка адказаў Толік і ўсяго адзін разок махнуў рукой.

Ехалі паўз хаты тых, хто пакуль заставаўся на хутары. Сёй-той выходзіў на свой надворак, махаў машыне рукой, жадаў Івану добрай дарогі, шчаслівага новага жыцця, казаў, што хутка сам паследуе за імі.

Калі пад’ехалі да Школьнага лесу, добра такі прыцямнела. Стала халадней. Бацька прапанаваў Толіку куртку. Той упарціўся. Не хацеў вылучацца сярод дарослых, але ўрэшце згадзіўся: цяпло яшчэ нікому не шкодзіла.

Маўчалі. Толік назіраў за наваколлем, якое было яму добра знаёмым, бо нямала дзён і вечароў хадзіў ён гэтай сцежкай-дарожкай у школу і назад. А калі зірнуў угару, не мог стрымаць здзіўлення:

— Глядзіце-глядзіце, якія яркія зоркі на небе! — усклікнуў ён. — Асабліва адна. Вунь тая, над лесам, над дарогай, што на Баяры…

Бацька падняў вочы да неба. Пакуль ён моўчкі пазіраў, каля той, першай, адна за адной запальваліся ўсё новыя і новыя зорачкі-свечкі. Іван апусціў вочы, глыбока і чамусьці цяжка ўздыхнуў.

Грузавік, натужна раўнуўшы маторам, адолеў невысокі пад’ём і выкаціўся на прамую дарогу, што вяла проста ў Баяры. На Каралёўшчыну. У новую Іванаву хату.



Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ-ШЫЛОВІЧ

# ПАВЕТРАНЫ ТРАНСПАРТ

* * *

Заінелыя целы асенняга лісця,
залатыя, бурштынавыя, кармазінавыя,
з брунатнымі ёднымі плямамі,
шаргацяць пад нагамі,
чакаюць,
пакуль першыя промні раніцы
слізгануць па шурпатай паверхні
і ўваскрасяць мерцвякоў,
а вецер уздыме іх на апошні танец.
Ці бачыў ты апошні танец
пажоўклага лісця?
Прыгожа й жахліва,
жахліва ведаць,
што танчыш апошні раз.

## 07.01.2012 АД Р. Х.

…і апоўначы ў вокнах тваіх не патухне святло
дзесь на ўсходзе сталіцы, на сёмым паверсе
трое ў белых адзеннях збяруцца ў цябе за сталом,
як сказана ў адной з распаўсюджаных версій

---

*Емяльянаў-Шыловіч Алесь Віктаравіч нарадзіўся 23 студзеня 1987 г. у Крычаве. Скончыў біялагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (2013).*

*Друкаваўся ў часопісах «Маладосць», «Дзеяслоў», «Верасень», «Тэрмапілы», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», альманаху «Тэксты», калектыўных зборніках. Аўтар кнігі вершаў «Парасонечнасць» (2014). Творы перакладаліся на польскую і сербскую мовы.*

*Пераможца (2-е месца) конкурсу перакладу паэзіі Віславы Шымборскай на беларускую мову (2015). Рэдактар літпартала Textura.by.*

звяжуць рукі за спінаю, і, невядома чаму,
на пытанне імя ты адкажаш: марыся;
дадасі, што язэп сышоў яшчэ год таму —
не паверыў, што сын ад святога з'явіўся;

і цябе забяруць на малочна-чырвоным аўто,
бо такую адну пакідаць небяспечна…
па-ранейшаму ў вокнах тваіх не патухне святло
й будзе лялька ў калысцы спяваць: «Святы вечар…»

## ЛІСТ

начны сусед
сунеразмоўца мой
ліхтар
сем месяцаў амаль
мы не сварыліся

штоночы зазіраючы ў пакой
ты мне нічым не дакучаў
нічога не прасіў
а ў падарунак кожны раз
святло мне пакідаў

але мне час
бывай, стары,
не хілі галавы.

## АДЛІГА

здымі пальчаткі —
на далонях снег,
не растае,
агнём жывым гарыць.
апёкі пакідае —
мае непрыхаваныя пачуцці.
даруй, што балючыя —
пачуццё раставання снегу
вымагае шчырасці.

## ПАДАРОЖЖА

***Н. Ф.***

і паменшаны ў дваццаць пяць тысяч разоў,
я на гомельскай мапе шукаю цябе.
нада мной замест неба і пацерак-зор
толькі шэрая столь, лямпы млосная бель

я па рэйках расстання праз горад іду,
і на чоўне чакання плыву цераз Сож.
мы з табою звязаныя рыфмамі душ,
ты палеская птушка, паўднёвы мой сон.

## БІЛЕТНІЦА

Маладой і прывабнай паненцы няўцям, —
чаго гэты дзяцюк надакучлівы хоча?
Проста мовіць, што ейныя срэбныя вочы
адкрываюць сабою вытокі быцця;
з імі неба бліжэе й лягчэе ўздых —
абагрэюць і жарсным жаданнем атруцяць,
бо калісьці й Адам спакусіўся на іх,
і чакае юнак трапятлівы той міг,
каб яшчэ раз праехаць па гэтым маршруце.

## ПЕРАСОЎВАННЕ

кватэра пустая нібы Калахары
жоўты лінолеум і шпалеры
асабліва падкрэсліваюць
гэту метафару

апошнія дзесяць гадоў
я пачуваюся
бядашчым беларускім бедуінам
які не першы раз
пакідае кавалак чужое прасторы

з нядаўняй пары
вандруйма ўтраіх
і ствараем чарговы аазіс
у чыёйсьці панэльнай пустэльні



Таццяна МУШЫНСКАЯ

# ГІСТОРЫЯ АДНАГО «ДОКТАРА», АБО Ў ТЭАТРАЛЬНЫХ ЛАБІРЫНТАХ

*Дакументальная аповесць у дзённікавых запісах і адступленнях*

## 2015 год

*3 кастрычніка, субота*

На душы пагана і моташна. Дакладней, там пануюць прыгнечанасць, нервовае трымценне і банальны страх. Той, перад якім бяссільныя здаровы сэнс і розум (бо розум — свядомасць, а страх — падсвядомасць, таму яна мацней). Да страху дадаецца чаканне нечага цьмянага, жудасна-непапраўнага, што няўмольна рухаецца на цябе і называецца маральнай катастрофай. Грамадзянскай ганьбай, публічным пакараннем. Аўтадафэ! Ніяк не менш. Бо як іначай можна назваць правал?!

Надзея заўжды падобная на легкакрылага матылька. Вядома, матылёк недзе існуе. Мігціць-трымціць сваімі пяшчотнымі, празрыста-белымі крылцамі. Але, відаць, цяпер ён лётае далёка ад нас. Схаваўся ад дажджлівага надвор'я, чакае сонечных промняў.

Няўжо ўсё апынецца марным? Тоны зведзенай, ці не дарма, паперы? Літры выпітай валяр'янкі? Мільёны рублёў (дэнамінаваных, вядома!) на мабільным рахунку? Тысячы талончыкаў для тралейбуса і жэтонаў у метро, каб трапіць на рэпетыцыі? А час?! Колькі часу мы з кампазіταркай змарнавалі? Чатыры гады жыцця — гэта не жартачкі.

Вам пакуль нічога не зразумела? І мне таксама. Бо ўсё вакол у тумане. Але сёе-тое патлумачу. Учора, 2 кастрычніка прайшла генеральная. І адначасова здача мастацкай радзе. Чаго? Ну, вядома, спектакля! Заўтра, 4 кастрычніка, — прэм'ера. На генеральнай нарэшце ўсе кавалкі пастаноўкі сабралі, з частак і дэталяў. Але і закідаў на радзе хапала. І аркестр было кепска чуваць, і дэкарацыі ў адным эпізодзе не ўзняліся, спевака не было відаць. Нейкая разбэрсанасць. Ці рэальна яе адолець за два дні?

---

*__Мушынская Таццяна Міхайлаўна__ нарадзілася 26 чэрвеня 1958 года ў Мінску. Скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1981). Працавала ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». З 1991 г. — рэдактар аддзела музыкі часопіса «Мастацтва».*

*Аўтар паэтычных кніг «Я вандрую ў стагоддзях» (1998), «Рабро Адама» (1999), «Сны кахання» (2006), «Души ожиданье» (2006), кніг прозы «Доўгае развітанне» (1997), «Джульета і экстрасенс» (2013), «Сад маіх успамінаў» (2016), кніг для дзяцей «Калі тата — Дзед Мароз» (2000), «Свята печанай бульбы» (2003), «Вожыкі ў футбол гуляюць» (2008) і інш.*

Калі поспех, дык ён памнажаецца на колькасць гледачоў у зале. Калі няўдача, ганьба памнажаецца на тую ж колькасць. Вы думаеце, выпадкова Жорж Бізэ ўзяў ды памёр неўзабаве пасля таго, як ягоную геніяльную «Кармэн» асвісталі? А Вердзі дарма даў клятву, што ніколі не будзе пісаць для опернага тэатра пасля правалу або напаўудачы некалькіх пастановак?

Дзякуй богу, што я не пішу музыку. Мне лягчэй, а як кампазітару?! Падобна, што Марына трымціць яшчэ больш, чым я. Немагчыма! Бо падобны стан перадаецца і транслюецца. У пэўны момант не вытрымліваю і пытаюся ў сяброўкі:

— Табе заўтра спяваць трэба?

— Не… — здзіўлена кажа яна, нібы ўпершыню чуючы навіну.

— А танцаваць?

— Не-а.

— А на скрыпцы іграць?

Маўчыць.

— Не трэба, — адказваю я замест яе. — Дык чаго ты торгаешся?

— А раптам… — пачынае яна і распавядае пра фальшывыя ноты аркестра на генеральнай.

— Калі што, дык гэта будуць *іх* фальшывыя ноты. А не твае…

Калі б мы былі мужыкамі, дык пайшлі б у бар. І добра ўзялі б, каб зняць стрэс. Але паколькі мы не мужыкі і гарэлка нам зусім не ідзе (арганізм ну катэгарычна не прымае!), дык трэба ратавацца нейкім іншым чынам. Як ратаваліся — распавядаць не буду. Няхай застанецца сакрэтам.

* * *

Нарэшце патлумачу як след. 4 кастрычніка 2015 года на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь павінна адбыцца сусветная прэм’ера. Не больш і не менш. Гэта значыць, такой раней нідзе і ніколі не было. Першы паказ оперы «Доктар Айбаліт, або Падарожжа ў Афрыку» для дзяцей і дарослых. Музыка Марыны Марозавай. Ідэя і лібрэта Таццяны Мушынскай (значыць, мае). Паводле казак знакамітага Карнея Чукоўскага, класіка рускай літаратуры.

«Ну, і што?» — іранічна заўважыць скептык. Цымус у тым, што гэта опера менавіта айчыннага кампазітара. Яна адрасавана дзецям і іх бацькам (а опер для дзяцей у сучаснай музыцы або вельмі мала, або зусім няма). Мінулым разам такі твор для дзяцей, і менавіта нацыянальнага аўтара, ставіўся на беларускай сцэне больш як 50 гадоў таму. Гэта была «Марынка» Рыгора Пукста (ад таго часу вырасла некалькі новых пакаленняў гледачоў). Пагадзіцеся, усё разам — сур’ёзная нагода.

Калі б я загадзя ведала, у якую авантуру ўлезла сама, ды яшчэ ўцягнула Марыну, дык сто разоў падумала: ці вартая гульня спаленых свечак? Але дурні ўлазяць некуды або ў штосьці, мала здагадваючыся пра магчымыя наступствы.

Такім чынам, перад вамі невялікая дакументальная аповесць у дзённікавых запісах і адступленнях. Пагаджуся, звычка штосьці занатоўваць на дзіва занудзістая. Але асаблівасць кожнай завядзёнкі ў тым, што яна існуе незалежна ад твайго жадання. Праз нейкі час нават дзівішся: няўжо знайшоў хвіліну, каб зафіксаваць падрабязнасці, рэплікі, уласныя адчуванні? Плынь часу імчыць з велізарнай хуткасцю. Праз год-два дэталі непрыкметна знікаюць з памяці. Думаю, гэтыя старонкі дадуць прыблізнае ўяўленне, што

адбываецца ў закрытых для шырокай публікі тэатральных кабінетах, калідорах і лабірынтах.

Згадаю, як пачыналася гэтая катавасія. Або песня. Або блуканне па пакутах. Калі ў цябе, паважаны чытач, хопіць імпэту дачытаць дзённікі да фіналу, ты сам вызначыш, якую назву мае падобны творча-вытворча-арганізацыйна-адміністрацыйны працэс.

## Ідэя
## 2011 год

*15 кастрычніка, субота*

Не так даўно разам з адным вядомым беларускім кампазітарам завіталі да Уладзіміра Пятровіча Рылаткі, першага намесніка гендырэктара Опернага.

Музыкант — у якасці аўтара амаль гатовай партытуры, якая можа спатрэбіцца тэатру, а можа і не спатрэбіцца. А я ў якасці магчымага лібрэтыста. Рылатка займаецца найперш пытаннямі творчымі, таму кампазітары ідуць менавіта да яго.

Прадстаўлю героя. Асобнымі штрыхамі. Спакойны, усмешлівы. Тэмбр голасу блізкі да тэнара. Вочы празрыста-блакітныя, валасы сівыя — усё ў адпаведнасці з тэатральным амплуа «высакародны бацька». Па адукацыі альтыст, дагэтуль выкладае ў Акадэміі музыкі. Паколькі ягоны сын Алег таксама зрабіўся вядомым альтыстам, зразумела, што гэта прафесійная страсць і захапленне.

Больш як два дзесяцігоддзі Уладзімір Пятровіч з’яўляўся першым намеснікам міністра культуры, што сведчыць пра яго вялікі вопыт і арганізацыйныя здольнасці. Нарэшце пра дзівосную інтуіцыю і дасведчанасць, што адбываецца ў кабінетах уплывовых асоб, на музычна-тэатральнай сцэне і ў закуліссі. Не толькі ацалець, але і паспяхова рэалізоўваць уласныя ідэі ў прасторы, дзе апрыёры збіраецца безліч амбітных і самалюбівых асоб, — агромністы талент.

Кабінет у нашага суразмоўцы выглядае шыкоўна. Сцены абліцаваныя мармурам пяшчотна-бэжавага колеру. Адна сцяна амаль поўнасцю люстэркавая. Эфектная і свяцільня з крышталёвымі падвескамі. Інтэр’ер гэты мне добра вядомы. Неаднойчы размаўляла тут у якасці журналісткі і крытыка з папярэднім гаспадаром, славутым харэографам Валянцінам Елізар’евым. Але жыццё робіць часам такія кульбіты, які не здолее прыдумаць ніводны драматург.

Але вернемся да тэмы. Чаму мы прыйшлі да Рылаткі? Хацелася даведацца з першых вуснаў, у чым тэатр мае патрэбу на бліжэйшыя сезоны, якія назвы, тэмы, жанры могуць быць цікавыя. У працэсе працяглай гутаркі на розныя музычныя тэмы Уладзімір Пятровіч між іншым прамовіў: «А з дзіцячай операй — у нас проста трагедыя!»

У маёй галаве нечакана загучала тэма лёсу з 5-й сімфоніі Бетховена. Сказ, як кажуць у такіх выпадках, запаў у свядомасць. Згадала, як летам 2010-га, шукала ў сваёй хатняй бібліятэцы тэксты казак Карнея Чукоўскага. Рукі тады проста свярбелі! Пасля паходу да Рылаткі, пакорпаўшыся на хатніх паліцах, знайшла двухтомнік Карнея Іванавіча. А там абсалютна ўсе яго творы для дзяцей! Ура-а!

У мінулы чацвер засталася дома. Трэба зрабіць для часопіса «Мастацтва», дзе працую, рэцэнзію на новы харэаграфічны спектакль. А менавіта

«12 крэслаў» у Музычным тэатры. Накіды меліся, але іх трэба з'яднаць і тэкст «пачысціць». У другой палове дня і ў пятніцу на працы ўсё-такі дарабіла.

А ў чацвер адксерыла патрэбныя старонкі з розных вершаваных казак Чукоўскага, адкінула лішняе. Размеркавала, зманціравала па карцінах. Праз дзень патэлефанавала кампазітару Марыне Марозавай. Чаму менавіта ёй? Тут варта зрабіць невялікую паўзу.

## Адступленне першае. Раманс як жанр жаночы

…Таямнічы паўзмрок у пакоі. Жанчына ў белым адзенні, якая чакае каханага. Шырокая прастора лугу ці поля, над якім ляціць у вышыню празрысты і светлы голас.

Менавіта такія візуальныя ўражанні выклікаў першы раманс «Ноч», які Марозава даўно, амаль два дзесяцігоддзі таму, напісала на мой тэкст. Увогуле мёдам па сэрцы — кожнаму вершаплёту, калі ягоныя радкі раптам натхняюць кампазітара і робяцца штуршком для нараджэння музычнага опуса. Уявіце мае эмоцыі, калі даведалася, што выканаўцай раманса «Ноч» будзе салістка оперы Таццяна Траццяк! І што ёй падабаецца твор — і па музыцы, і па вершах.

Пасля першага вакальнага цыкла, нашага агульнага з Марынай, у яе паступова нарадзіліся яшчэ два. У выніку атрымаўся гэткі міні-спектакль. У нас шмат сумесных вакальных твораў. Лічу, вельмі ўдалых, бо пяюць з ахвотай розныя і вядомыя артысты. Час ад часу выконваюць у філарманічных канцэртах, гучаць яны і па радыё.

Шчыра люблю ўсіх кампазітараў, з якімі пашчасціла супрацоўнічаць. А іх нямала, больш за дваццаць. Ды асобы яны розныя, у кожнага свае асаблівасці, таленты і «замарочкі». Ёсць амаль геніяльны аўтар, але… гэткі Манілаў, абяцае. Тры гады, пяць гадоў. Мо напіша, а мо і не напіша? Ёсць кампазітарка, па просьбе якой безліч разоў я перарабляла тэксты, а музычны вынік… чамусьці не зацікавіў ніводнага з патэнцыйных выканаўцаў. Ёсць тыя, каго трэба доўга пераконваць, ёсць тыя, ад каго варта хавацца ці бараніцца.

Марозава як асоба мне імпанавала заўжды. І яе лёгкі характар, і зайздроснае пачуццё гумару, і ўменне ўсюды знаходзіць аднадумцаў і сяброў. З дапамогай тэорыі Карнегі і дзякуючы ўласнай інтуіцыі. Знаёмства з Марынай адбылося праз журналістыку. Прыйшоўшы да яе, каб падрыхтаваць гутарку для часопіса, зусім не думала, што гэтыя стасункі будуць мець працяг.

Да кампазітарскай прафесіі, а потым прызнання Марозава прабівалася доўга і пакутліва. Дзяўчынка з прывінцыйнага горада Дзяржынска, у сям'і якой зусім не было грошай на фартэпіяна, і яна пачынала вучыцца музыцы на кардоннай клавіятуры. Студэнтка музычнай вучэльні, якая хадзіла зімой на заняткі ў лыжных ботах (іншых не мелася). Студэнтка кансерваторыі, якую прыняў у свой клас Яўген Глебаў, хоць ён прынцыпова не браў дзяўчат. Кампазітар, якую чамусьці не хацелі прымаць у саюз, а пасля маскоўскай прэм'еры яе квартэта «Лічбы на сэрцы» прапанавалі прыйсці ў любы дзень і падаць заяву ў творчую суполку. Педагог, якая выкладала адначасова ў дзвюх ВНУ і заўжды шукала падпрацоўкі. Маці, што адна падымала двух сыноў і ў рэшце рэшт выгадавала двух высакакласных музыкантаў, якія скончылі Беларускую акадэмію музыкі і зрабіліся лаўрэатамі міжнародных конкурсаў.

Іван Антонавіч Брыль, класік айчыннай літаратуры, некалі выказаўся вельмі трапна і афарыстычна: «У літаратуры іграюць у камандзе». У музыцы сітуацыя такая ж самая. Тое, што Марозава звычайна іграла на музычным

полі не ў камандзе, а адна (кантактуючы з тымі, каго паважала, а не з тымі, з кім трэба, хто ўплывовы, дапаможа, «прасуне»), думаю, моцна ўскладняла яе рух да аркестраў, прэм’ер, фестываляў. Але з другога боку, гэта шчасце, калі ўласнымі творчымі дасягненнямі ты абавязаны сабе, а не камусьці іншаму. Ніхто і ніколі Марыну не «падсаджваў», заўсёды — сама, сама, сама! Але цяжкасці і іх пераадоленне робяць творцу больш удзячным і мудрым. Ён ведае цану поспеху (чужога і ўласнага). А пакручасты мастакоўскі лёс заўжды выклікае павагу, захапленне. І жаданне дапамагчы.

Працэс сумесных з кампазітаркай пошукаў часцей за ўсё ўспрымаўся мной як радасны і прадуктыўны, а не нервова-пакутлівы. Адчуванне жаданага выніку нараджалася і дзякуючы далікатнаму, паважліваму стаўленню Марыны да тэксту. І здольнасці адшукаць у ім не заўважаны аўтарам сэнс, а ў выніку знайсці сугучную вершам музычную інтанацыю. А мо яшчэ больш важны рэдкі меладычны дар, якім бясспрэчна валодае Марозава? Уплываў на мастацкі вынік і яе здольнасць успрымаць свет выключна ў камедыйных фарбах. Так што падтрымліваць з Марынай стасункі прыемна і камфортна. Калі распавядала некаму, што за дваццаць гадоў мы толькі аднойчы з ёй паканфліктавалі, ніхто не верыць.

У 2010-м зрабілі нават сумесную музычную вечарыну. Ні больш ні менш, але ў Оперным тэатры. А дакладней, у Камернай зале імя Ларысы Александроўскай, якая толькі адкрылася. Праект меў назву «Я тебе подарю весь Париж!» — у адпаведнасці з назвай аднаго з рамансаў. Яго Марына напісала на мой верш.

Квіткі на вечарыну раскупілі на дзіва хутка, літаральна за некалькі дзён. Кінакрытык Антон Сідарэнка пазней патлумачыў: калі ў назве фільма, спектакля, канцэрта ёсць слова «Парыж», зала раскупляецца непараўнальна хутчэй. Бо, дадам ад сябе, Парыж — не толькі горад і геаграфічны пункт. Але і знак, сімвал, брэнд. Амаль кожны імкнецца туды трапіць, ды не ўсе мары здзяйсняюцца. Магчыма, інтуітыўна мы адчувалі глядацкую прывабнасць назвы.

Той праект, ажыццёўлены разам з салістамі оперы, меў свае плюсы і мінусы. Радавала, што можна не займацца рэкламай, бегаць і прапаноўваць знаёмым квіткі, без чаго не абыдзешся ў філармоніі. Але і праблем хапала. Падобныя акцыі рыхтуюцца доўга. У насычаным раскладзе спектакляў і канцэртаў вам доўга шукаюць свабодную дату. Тое няскорая песня, бо і салісты імкнуцца прэзентаваць у камернай зале ўласныя праекты. Дый кампазітару трэба ўважліва перагледзець ноты, выправіць магчымыя памылкі, знайсці спевакоў, якім канкрэтны твор цікавы і падыходзіць па голасе. Канцэртмайстру трэба развучыць з салістам. Нарэшце пабудаваць праграму так, каб яна была складзена лагічна, максімальна разумна і эфектна.

Намаганняў шмат, а ў выніку — усяго адзін паказ. У фінале падобнага марафону пачынаеш думаць: а ці варта высільвацца? Ці не лепей прыдумаць праект, які паказваўся б не аднойчы? Ты прыклаў шмат сіл, але далей махавік круціцца без цябе. Так у пэўны момант узнікла думка менавіта пра спектакль. Кожнаму аўтару, асабліва такому прагнаму, як я, — мала! Мала-мала-мала! Ён не спіць і марыць, каб ягоны твор гучаў так, як сачыненні Чайкоўскага— штодня. Або хоць бы праз дзень.

*15 кастрычніка, субота. Працяг*

Такім чынам, тэлефаную Марозавай. Голас Марыны ціхі і сумны. Як быццам усе фарбы свету перасталі існаваць, засталіся толькі шэрая і чорная. Відавочна: чалавека апанаваў трывалы «дэпрэсняк».

«Харошкі» — цікавы калектыў, там яна — музычны кіраўнік аркестра. Як прафесійны кампазітар хоча, каб яе калектыў іграў на высокім мастацкім узроўні. Як ідэаліст хоча, каб аркестр меў уласную праграму, асобныя канцэрты і нават гастролі. Але, як на мой цвярозы погляд, тое Сізіфава праца. Такога выніку больш за ўсё хацела Марозава. А яны прызвычаіліся быць акампаніятарам танцораў. Чым прасцей, тым лепш! Штодзённае «ўм-ца, ум-ца!» каго хочаш задзяўбе.

Часам спакойна, а часам захлынаючыся ад ўласных эмоцый, сцісла распавяла Марыне пра сваю ідэю. Опера для дзяцей паводле казак Чукоўскага. Напрыклад, пад назвай «Доктар Айбаліт». Яшчэ адзін варыянт назвы — «Падарожжа ў Афрыку». Героі-антаганісты — Айбаліт і Бармалей.

Уражанне, што падчас размовы Марозава літаральна ажыла. Устрапянула крылцамі. Суцэльныя хмары разышліся, з-за іх выбліснула сонейка. Памятаю, даўно, падчас вучобы ў кансерваторыі яна напісала кантату «Муха-Цакатуха» на тэксты Чукоўскага, твор высока ацаніў яе настаўнік, кампазітар Яўген Глебаў. Таму Чукоўскі ёй блізкі па духу і настроі.

Марына сказала, што ад хвалявання ў яе ажно вока пачало нервова дрыжэць. Карацей кажучы, Марозава загарэлася. Потым неаднойчы нагадвала мне, што Чукоўскі і я выцягнулі яе з працяглай дэпрэсіі. Думаю, усё прасцей: кампазітар павінен адчуваць запатрабаванасць. І быць паглыбленым у творчасць і прафесію. Тады ўсё астатняе займае ўласнае месца. У тым ліку і выдатны ансамбль «Харошкі».

*16 кастрычніка, нядзеля*

Яшчэ ў суботу хацела адправіць Марыне па электроннай пошце асобныя кавалкі лібрэта. Але апанавалі хатнія справы, а вечарам трэба было выправіцца на бальны турнір. Ён праходзіць на «Мінск-арэне». Запрасіла харэограф і загадчык кафедры Святлана Гуткоўская. Я пайшла, бо не хапае фактуры для «круглага стала» ў часопісе «Мастацтва», які будзе прысвечаны бальнікам. Турнір маляўнічы, танцы эфектныя, сукенкі — супер! Свята... А калі выйшлі з «Мінск-арэны», вакол ужо цёмна і няўтульна. Восень.

У суботу знайшла электронныя версіі казак. У нядзелю ў першай палове дня зрабіла першыя пяць старонак лібрэта. Адправіла кампазітару. Учора размаўлялі па тэлефоне. Дзве асноўныя тэмы — падарожжа і доктара — Марына ўжо прыдумала і знайшла! Ура-а-а! Застанецца тэма Бармалея.

Страшна прызнацца, але на пазамінулым тыдні і за некалькі дзён мінулага зманціравала ўсё лібрэта. У электронным выглядзе. Дадала ўласныя рэплікі, сказы, а ў дужках інтанацыі, з якімі павінны прамаўляць розныя героі. Дадала і хто што спявае — дзе сольныя спевы, дзе дуэты і хор. Ведаю, хтосьці з пагардай скрывіцца: «Пісаць трэба доўга і пакутліва! Тады атрымаецца годны вынік!» Заўважу, што пакуты ў нас яшчэ наперадзе. А «хутка» — не сінонім «дрэнна». Хутка, значыць, ты — на той самай эмацыйнай хвалі, у тым жа настроі. Так дасягаецца стылістычная цэласнасць.

Некалькі дзён «чысціла», выпраўляла, дадавала. Атрымалася 15 старонак — першая дзея. І столькі ж — другая. У лібрэта 11 карцін. Плануем дзве часткі па 30 хвілін. Больш дзеці не вытрымаюць (у выніку атрымалася 40 і 30 хвілін). У працэсе напісання адчувала сапраўдны кайф. Даўно такога не было. Ад падобнай інтэнсіўнасці нават крыху ачмурэла. Цяпер «отходняк», баюся, як бы капітальна не загрыпаваць. Такія вось справы з «Доктарам».

## Пошукі і варыянты

*22 кастрычніка, субота*

Кожны дзень штосьці дадаю ў тэкст «Доктара». Пераважна па дробязях — рэмаркі, штрыхі. Сярод герояў спачатку прысутнічаў Мыйдадзір. Але разгорнутая сцэна з ім і Айбалітам відавочна замаруджвала дзеянне, у выніку ад яго мы адмовіліся. Сярод памочнікаў доктара былі і дзве медсястры. Але іх чакаў лёс Мыйдадзіра.

На мінулым тыдні зайшла ў Оперны да музыказнаўцы Таццяны Тэадаровіч, яна загадчык літаратурнай часткі. Пакінула дзве старонкі, сціслы змест «Доктара». Яна абяцала заўтра аддаць Рылатку.

Таццяна патэлефанавала ў чацвер з раніцы, сказала, што Уладзіміру Пятровічу ідэя спадабалася, хоча як мага хутчэй сустрэцца са мной і Марынай за раялем. І паслухаць, што ўжо існуе з музыкі будучай оперы. Йес!!! Я адразу патэлефанавала Марыне. Яна сказала, што вельмі расхваляваная навіной, таму пайшла запісваць на нотнай паперы ўсё, што прыдумала.

У той жа чацвер, 20.10, палову дня «чысціла» лібрэта «Доктара». Дарабіла для часопіса «Мастацтва» пераклад артыкула музыказнаўцы Наталлі Ганул, пачаты напярэдадні на працы.

У 18.40 — філармонія, харавы канцэрт. У 1-м аддзяленні «Міражы Венецыі» (наш сумесны твор з кампазітарам Алінай Безенсон). На сцэне — дзяўчынкі ў яркіх чырвоных накідках. Гэта хор «Ветрык» са Школы мастацтваў. У працэсе выканання паненкі відавочна атрымлівалі задавальненне. Часам зала апладзіравала ў такт. У другім аддзяленні — сачыненні Аліны. Усё цікава, разнастайна, але музыкі зашмат, ехала дадому і амаль засынала ў метро.

*26 кастрычніка, серада*

У 11 гадзін раніцы прэс-канферэнцыя па фестывалі «Лістапад» у кінатэатры «Цэнтральны». На такія імпрэзы збіраецца журналісцкая грамада і кінатусоўка. Шмат знаёмых твараў. Агульная радасная ўзбуджанасць і чаканне ўражанняў, фільмаў і зорак. Цікава!

Пасля «прэсухі» — сустрэча з Марынай у памяшканні Саюза кампазітараў на плошчы Свабоды. Там поўны, абсалютны разгром, усюды тоўсты слой будаўнічага пылу, усё перавернута дагары нагамі. Бо ў доме капітальны рамонт.

За раялем Марозава паказала мне фрагменты з «Доктара». Асноўная тэма спадабалася — яна лёгкая, радасная, запамінальная. Марына выкарыстала для яе фрагмент са сваёй ранейшай інструментальнай п’есы «У руху». Але я крыху азадачана. Баюся, каб не было адгалоскаў знакамітай пракоф’еўскай тэмы «Джульета-дзяўчынка». Вечарам шукала ў інтэрнэце, сын запампаваў. Праслухала. Ура! Зусім не тое. Да скразной тэмы оперы, якая ў розных варыянтах прагучаць не аднойчы, варта ставіцца адказна, прыдзірліва і нават занудіста. Пазней зразумела, чаму ўзніклі асацыяцыі. Бо ў мелодыі ўверцюры дзівосным чынам спалучаліся пяшчота і іронія, якасці, якія дужа складана з’яднаць. Але такі сінтэз і ўласцівы стылю Пракоф’ева.

У пятніцу, 28.10 павінна быць сустрэча з Марозавай і Рылаткам у тэатры. Адмянілі, перанеслі на 31 кастрычніка. Паглядзім, што з гэтага будзе. А я ўжо разагналася, марыць пачала. Аж смешна!

*31 кастрычніка, панядзелак*

У 14.30 сустрэча з Марынай і Рылаткам. У зале Александроўскай. З намі і Таццяна Тэадаровіч. Зала вельмі ўтульная. Тут ладзяцца канцэрты, спектаклі з невялікай колькасцю персанажаў. Для гледачоў усяго дзесяць шэрагаў крэслаў. Паміж калонамі стаіць шыкоўны чорны раяль. Адпаведны настрой ствараюць і партрэты славутых салістаў мінулых дзесяцігоддзяў, якія размешчаны па сценах.

Дарэчы, вельмі даўно, яшчэ ў 70-я гады, у гэтым памяшканні знаходзіўся музей тэатра, я вельмі любіла зазіраць сюды ў антрактах. Старыя афішы, фота зорак мінулых гадоў — у тым ёсць дужа прывабнае рэха даўніны, адчуванне гістарычнага адмежку часу.

Марына прайграла ўсё, што напісала па «Айбаліце». Некаторыя фрагменты нават па два разы. Рылатка папытаў пра ўражанні і меркаванні ў Тэадаровіч. Музыка ёй спадабалася. Усё расклала па палічках: уплывы, любімыя кампазітары Марозавай. Вушкі ў Таццяны — будзь здароў! Як і слыхавы вопыт. Тэадаровіч потым ужо, пасля сустрэчы, заўважыла з усмешкай: «Напэўна, гэта дзіўна, калі існуе адзіны музыказнаўца на ўвесь велізарны тэатр!»

Уладзімір Пятровіч агучыў шмат падказак, нават не думала, што ў яго так працуе фантазія.

— Дзіцячую аўдыторыю трэба ўсяляк зацікавіць. Можа, перад спектаклем па фае будуць хадзіць героі оперы — звяры, якіх лечыць Айбаліт? Каб з імі можна было сфатаграфавацца. А можа, і сам Доктар прагульваецца *(смяецца)?* З вялікім шпрыцом у руках…

Цяпер ужо мы з Марынай смяёмся.

— Ага! Калі са шпрыцом, дык напужаем усіх дзяцей! Разбягуцца!

— Ну, можа, шпрыц і не трэба… Увогуле вы павінны ўявіць, як будзе выглядаць уся казка!

Кампазітарка мая неяк расхвалявалася ад паказу. І нават выглядала разгубленай ад усяго, што сказаў Рылатка.

У той жа дзень зайшлі з Марынай у рэкламны аддзел Опернага. Аддала нарэшце сваё інтэрв'ю са спявачкай Аленай Шведавай для часопіса «Партэр», яго выдае сам тэатр. Артыстка вельмі цікавая, зайздросная віртуознасць голасу. Такія трэлі, асабліва, калі «Салаў'я» пачынае спяваць. І характар! Распавядала, як на сцэне Палаца Рэспублікі спявала «сольнік» разам з Прэзідэнцкім аркестрам. А рука зламаная і ў гіпсе. Праўда, прыхаваная шырокім рукавом сукенкі. Але, думаю, пакуль адмоўлюся ад супрацоўніцтва з гэтым выданнем. Няма часу і сіл. Інтэрв'ю дараблялa ў нядзелю, калі за акном было неверагоднае надвор'е. Сонечнае і звонкае. Выбар: або свежае паветра і ясная галава назаўтра, або трэба сядзець, як манашка, сагнуўшыся ў крук за камп'ютарам. Бо тэрміны падцiскалі, і тэкст абяцала аддаць своечасова.

## Адступленне другое. Навошта патрэбен лібрэтыст?

«Айбаліт» паводле казак Чукоўскага — не першае маё лібрэта. У архіве захоўваюцца ажно тры. Праўда, балетныя. Усе маюць досыць дынамічныя сюжэты, а іх героі належаць айчыннай гісторыі. У першым з іх, «Барбара Радзівіл», дзеянне адбываецца ў XVI стагоддзі, у двух іншых — у XVIII. Падзеі разгортваюцца ў беларускай прасторы. Здавалася б, якімі маляўнічымі, прывабнымі і яркімі маглі б атрымацца такія спектаклі! На жаль, не знайшла кампазітараў, якія ў такой ступені зацікавіліся б тэмай, каб адклалі іншыя справы і заняліся сачыненнем музыкі. Гады на тры, а мо і на большы час.

З XVI стагоддзем справа нібыта зрушылася. Кампазітарка пачала пісаць музыку, нават харэографа мы адшукалі. Але тэатр не праявіў вялікага імпэту да тэмы, і справа спынілася. Аўтары, запатрабаваныя ў іншых жанрах, прынцыпова не хочуць працаваць «у шуфляду». Жыццё кароткае, таму ніхто не хоча аддаць пэўнай тэме некалькі гадоў, а потым застацца ні з чым (хіба з партытурай, ні кім не ўвасобленай).

Лёс другога лібрэта з назвай «Апошні кароль», галоўным героямі яго сталіся Станістаў Аўгуст Панятоўскі і Кацярына II, таксама туманны. «Вы што, міжнародны скандал хочаце ўсчыніць такой пастаноўкай?» — ці то жартам, ці то ўсур'ёз запытаў у мяне знакаміты харэограф Валянцін Елізар'еў. «Польскае пытанне — дужа складанае», — рэзюміравала вядомая музыказнаўца Таццяна Мдывані пасля знаёмства са старонкамі лібрэта. Апошні падзел Рэчы Паспалітай, паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі — сапраўды складаны перыяд гісторыі — беларускай, расійскай, польскай. Прычым, ацэнкі адных і тых жа падзей і асоб у розных краінах дыяметральна супрацьлеглыя. Але ці павінна так у прынцыпе здарацца, што палітычныя стасункі нават з блізкімі суседзямі ўплываюць на тое, якія тэмы могуць або не могуць быць увасоблены на сцэне?

Увогуле слова «лібрэта» мае некалькі тлумачэнняў. Гэта змест твора. Кароткі пераказ, які змяшчаюць у праграмцы. Нарэшце тэкст, што спяваюць вакалісты ў оперы. Балетныя лібрэта прасцей і карацей. Там структура і пералік сцэн (у сучаснай пастаноўцы), сціслы пераказ сюжэта (у класіцы).

Лібрэта аналагічнае сцэнарыю ў кіно. З гэтага вынікае: рэжысёр можа зрабіць потым з оперным лібрэта што заўгодна, успрымаючы як накіды і аснову. У рэальнасці так і атрымліваецца.

Нашто патрэбен лібрэтыст? З яго, як правіла, усё пачынаецца — тэма, назва, сюжэтныя лініі. Хоць, як сведчыць гісторыя музыкі, часам тэмы і сюжэты будучых опер прапаноўвалі імпрэсарыа (прадзюсары), калі лічылі назву і тэму перспектыўнай. Прапаноўвалі спевакі, а таксама кампазітары, якія хацелі займацца пэўнай эпохай і сюжэтам.

Лібрэтыста можна параўнаць з архітэктарам збудавання. Ён забяспечвае (або не забяспечвае) дынаміку і стройнасць будучай канструкцыі. Логіку, ураўнаважанасць частак. Лібрэта — трывалы фундамент, на якім можна пабудаваць што заўгодна. Ёсць лібрэта, потым узнікае музыка. Услед за кампазітарам прыходзяць рэжысёр і сцэнограф, а за імі спевакі. Калі спектакль няўдалы, гучыць прысуд: музычная драматургія кульгае! І таму ніхто і ніштo ўжо не ўратуе. Калі спектакль удалы, пра лібрэтыста звычайна ніхто і не ўспомніць.

## Падрыхтоўка

*12 лістапада, субота*

Апошнія два тыдні пасля сустрэчы ў тэатры ішла актыўная праца. Перазвоны з Марынай, дапрацоўка лібрэта. Сёе-тое дасылала ёй па электронцы. Зрабіла самую поўную (на сёння) версію лібрэта. Марына піша з вялікім захапленнем. Калі атрымаецца, то 21 лістапада, у панядзелак, сустрэнемся ў тым жа складзе, паслухаем новыя фрагменты. Перад паказам прадстаўнічай тэатральнай камандзе. Мастацкай радзе? У мінулую нядзелю прадыктавала Марыне тэкст арыі Доктара. Прычым, лежачы на канапе, бо балела спіна.

Добра, што дома ёсць кніжка Чукоўскага «Доктар Айбаліт». Адтуль можна запазычыць некаторыя паэтычныя строфы. Марына тэкстамі

лібрэта пакуль задаволена. Цяпер у нас ёсць шэраг сцэн, некалькі арый і, што вельмі важна, амаль увесь фінал.

*15 лістапада, аўторак*

Філармонія. Сустрэліся з Марозавай. Аддала ёй усё лібрэта. Увечары яна прачытала, сказала, што спадабалася, «чапляе». А ў філармоніі слухалі новыя кавалкі. Ёсць увесь фінал. Вельмі цікава! Калі ёсць вынік, ведаеш, да чаго трэба прыйсці, то ўсё астатняе будзе. Таццяна Тэадаровіч паведаміла: Рылатка з панядзелка і да канца месяца ў камандзіроўцы. Сустрэча з ім адкладваецца.

*30 снежня, пятніца*

Апошні месяц года аказаўся вельмі насычаны музычна-тэатральнымі ўраджаннямі. І пра ўсё трэба пісаць, калі і не хочаш.

7 снежня. Філармонія, спектакль «Апокрыф» пра Максіма Багдановіча з музыкай Ларысы Сімаковіч.

13 снежня — Палац Рэспублікі. Нацыянальная музычная прэмія.

15—20 снежня — Оперны форум.

Пра ўсё падзеі, акрамя форуму, напісала для № 1 «Мастацтва». Трэба яшчэ 5 тысяч знакаў пра балет «Ганна Карэніна» ў пастаноўцы літоўскага харэографа Анжалікі Холінай.

Хочацца сонца, марозу, бадзёрасці! Дзень пачаў павялічвацца, але яшчэ не надта прыкметна. Сёння паўдня было яснае неба і яркае сонца. І настрой адразу ўздымаецца. А то ўвесь час чарната за акном. Зранку цёмна, з 16 гадзін дня — зноў тое ж самае.

Самае галоўная творчая падзея: Марына ў накідах скончыла клавір «Доктара Айбаліта». Фактычна за 2—2,5 месяцы. Рэкорд! Які можа быць тэмп, калі тэма натхняе! І сілы ў запасе ёсць.

## 2012 год

*12 лютага, нядзеля*

Успамінаю самае цікавае за апошні месяц. У Оперным адбыліся дзве сустрэчы, звязаныя з «Доктарам». Склад першай — Рылатка, Марына, я, Тэадаровіч. І Вольга Бураўлёва, магчыма, наш будучы рэжысёр. Склад другой — галоўны хормайстар тэатра Ніна Іосіфаўна Ламановіч, Марына і я.

Рылатка параіў паказаць наяўныя ноты Ніне Іосіфаўне. Думаю, як чалавек, дасведчаны ў тэатральна-закулісных гульнях, Уладзімір Пятровіч здагадваўся: сур'ёзныя праціўнікі ў «Айбаліта» з'явяцца. Таму трэба шукаць у тэатры аўтарытэтных асоб, якія будуць надзейнымі саюзнікамі.

Абмалюю эскізны партрэт. Субтыльная постаць, светлыя валасы, блакітныя вочы. Калі знаёмішся бліжэй, разумееш: за знешнім кволым абліччам хаваецца моцная воля, трывалы характар, здольнасць віртуозна кіраваць вялікім калектывам. З нагоды нядаўняга творчага юбілею Ламановіч, 40-годдзя яе працы ў Оперным, хтосьці з беларускіх журналістаў трапна заўважыў: калі ў рэцэнзіях могуць пакрытыкаваць аркестр ці салістаў тэатра, дык хор — ніколі! Аднойчы я трапіла да Ніны Іосіфаўны на рэпетыцыю. І была неверагодна здзіўлена тым, як дэталёва і падрабязна працуе яна з хорам над музычнай інтанацыяй кожнага сказа, бо імкнецца дасягнуць максімальнай гукавой і сэнсавай выразнасці. Скажу загадзя: без прафесійных падказак і маральнай падтрымкі Ламановіч мы з Марынай да прэм'еры проста б не дайшлі.

Усе паказаныя музычныя фрагменты Ніна Іосіфаўна сустрэла надзвычай добразычліва. Марозава прайграла 13—15 новых нумароў. Увогуле, яна актыўна піша. Тэатр хоча атрымаць рукапісны клавір у канцы сезона, у сярэдзіне або пры канцы ліпеня. Паглядзім, што атрымаецца. Набіраць клавіры і партытуру будзе тэатр. (Потым выйшла наадварот, клавір і партытуру набіраў і сто пяць разоў уносіў праўкі сын Марыны, Кірыл).

*26 лютага, нядзеля*

У нейкі дзень Рылатка тэлефанаваў Марыне. Размова зноў пра «Доктара», хвілін на сорак. Сказаў, што пасяджэнне мастацкай рады магчыма амаль праз тыдзень. Добра, што ў паменшаным варыянце (верагодна, балет на гастролях). Але пакуль ціха.

У чацвер раніцай (23.02) сустрэліся з кампазітарам у філармоніі. Марына прайграла на раялі новыя фрагменты. Уражвае і захапляе! Опера фактычна ёсць. У музыцы шмат разнастайных мелодый, багата гумару, а ён — рэдкая з’ява ў оперных творах. Важна, што ў кожнага героя ёсць індывідуальная, запамінальная тэма і характарыстыка. Марына доўга над такімі музычнымі партрэтамі працавала. Добра, што з тэксту лібрэта я не выкрасліла кавалкі, на якія не напісана музыкі. Яны спатрэбіліся амаль усе. Лішняе вельмі проста скараціць, гэта не дапісваць!

*14 сакавіка, серада*

Бачыла Рылатку. Ён папярэдзіў: на наступным тыдні будзе праслухоўванне «Доктара». Патэлефанавала Марыне. Яна ў поўным трансе, бо Кірыл трапіў у аварыю. На твары гематомы, нават раны зашывалі. Але зрок (вочы), дзякуй богу, не пацярпелі. Лекі для вачэй дарагія — кроплі за 200—300 тысяч. Добра было б унесці праўкі ў наяўныя ноты. А як цяпер гэта зрабіць, не зразумела.

## Адступленне трэцяе. А чаму Чукоўскі?

Сучасныя дзеці не надта любяць оперу, часцей яе ігнаруюць або ставяцца з іроніяй. Жанр складаны для ўспрымання, ён патрабуе падрыхтоўкі, хоць мінімальнай музычнай адукацыі. Дзецям цяжка прыняць тэатральную ўмоўнасць, ім бліжэй жанры больш дэмакратычныя — песні і мюзіклы.

Не толькі школьнікі, а часам і дарослыя не разбіраюць і не чуюць у оперы слова. Праз музыку. Або слова ў музыцы. На такі сумны вынік уплывае дыкцыя артыстаў, адсутнасць вялікага слыхавога вопыту. Калі не разумееш, пра што пяюць і сэнсу таго, што адбываецца на сцэне, цікавасць знікае імгненна. А калі тэма і героі знаёмыя, гэта зробіць засваенне музыкі больш лёгкім. Той, хто адчуў цікавасць да оперы ў раннім узросце, потым прыйдзе на оперны спектакль і ў больш сталым.

Падчас працы над «Айбалітам» і мне, і кампазітару, і тэатру вельмі дапамагала тое, што творчасць Чукоўскага ведаюць і любяць усе — і дзеці, і дарослыя. Хто такі доктар Айбаліт, тлумачыць не трэба. Чукоўскі — класік дзіцячай літаратуры. У яго вершах, акрамя яркай вобразнасці і стылёвага бляску, віртуознасці рыфмы, заўжды прысутнічаюць дынаміка і гумар. Яны блізкія дзіцячай псіхалогіі. У казках Чукоўскага няма статыкі, задуменнасці. Героі імчаць, едуць, лятуць — ні хвіліны спакою! І прыродзе тэатра такая ўласцівасць імпануе. А дарослых вабіць адсутнасць саладжвасці і «сюсюкання», шматслойнасць вобраза і парадаксальнасць.

Калі б я ўзяла ў якасці асновы толькі дзве вершаваныя казкі — пра Айбаліта і Бармалея, дык іх хапіла б усяго на 10—15 хвілін музыкі. Не больш! Таму ў спадчыне Чукоўскага хацелася адшукаць вершы, што зрабіліся б асновай спектакля, у якім шмат дзейных асоб. Пакуль мая задача як лібрэтыста — выкарыстаць і натуральна з'яднаць фрагменты з многіх вершаваных казак пісьменніка. Каб даць тэкст для спеваў многім героям. Каму — арыю, каму — дуэт, а дзесьці будзе і хор. Казкі спатрэбіліся ўсе! Акрамя «Фядорынага гора». Потым да іх дадаліся фрагменты з яго прозы, мае ўласныя вершы. Але іх трэба было напісаць у памеры і стылістыцы Карнея Іванавіча, каб у тканіне будучай пастаноўкі яны не ўспрымаліся «латкай».

## Першая рада

*27 сакавіка, аўторак*

Паколькі неўзабаве чакаецца праслухоўванне «Доктара», мы з Марозавай сустрэліся ў філармоніі. Трэба «прагнаць» усяго «Айбаліта» перад радай. Доўга нерваваліся, бо не маглі знайсці памяшканне з фартэпіяна або раялем. Або зачынена, або ўсюды рэпеціруюць. Няма — і ўсё! Як сцяна. Канікулы, а значыць, ідуць дзённыя канцэрты. Увечары адбудзецца канцэрт аркестра Фінберга. Усе класы занятыя. Смешна, калі вынік залежыць ад такіх малапрадказальных сітуацый. Урэшце дазволілі пайграць у зале Шырмы, яна свабодная паміж канцэртамі. Гадзіны паўтары мы там парэпеціравалі. Удакладнялі структуру і вырашалі, што і як мне казаць паміж музычнымі нумарамі.

*30 сакавіка, пятніца*

Учора ўвечары дапрацоўвала тэкст, з якім выступаць перад радай. Сёння мастацкая рада. Трымцім загадзя. Абедзве.

13.00. Таццяна Тэадаровіч сустрэла нас з Марынай, правяла ў залу Александроўскай. Трохі парэпеціравалі. Марына нервавалася, што раяль далёка ад публікі і спевы могуць быць нячутныя.

Акрамя таго, святло слабае. Марозава кажа з адчаем: «Я нічога не бачу ў нотах!» Па шчырасці, і я спалохалася. Калі ў зале ідзе камерны спектакль або канцэрт, то ўключаюць асвятляльную апаратуру. Але цяпер ніхто гэтага рабіць не будзе. Вось ад чаго залежыць лёс будучага спектакля і вынік паказу — ад асветленасці памяшкання!

— Паслухай, Марына, калі тут табе цёмна, давай крыху пасунем раяль! — кажу я. — Ты будзеш бліжэй да святла і слухачоў. Ім будзе лепей чуваць.

Раяль агромністы, чорны і бліскучы. Ён на калёсіках. Узяліся. Зрушылі. Але відаць, надта рашуча, ледзь ў калону не «заехалі». Бо Грыдзюшка, генеральны дырэктар, які апынуўся побач, удала прытармазіў рух. І з дакорам заўважыў:

— Дзяўчаты, вы цішэй! А то раяль мільёны каштуе…

Вядома, з боку сітуацыя выглядала смешнай. Дзве паненкі прыйшлі ў тэатр, дзе не працуюць, і раялі, куды хочуць, туды ссоўваюць.

Яшчэ адзін эскізны партрэт. Уладзімір Пятровіч Грыдзюшка — раней намеснік міністра культуры, курыраваў капітальны рамонт у тэатры, цяпер — першая асоба ў ім. У тэатры яго паважаюць. Прыродны аптыміст, заўжды ў добрым настроі. Калі прыгледзешся да стылю гендырэктара, заўважаеш: агульнай атмасферы спрыяюць яго здольнасць захапляцца талентам і адсутнасць нездаровага самалюбства.

Рада збіралася доўга, пачалася са спазненнем хвілін на 15. Грыдзюшка: «Калегі, давайце шанаваць час адзін аднаго! Калі для некага не важна, я магу вывесці са складу мастацкага савета. Адным росчыркам пяра…»

Будзе абмяркоўвацца шэраг пытанняў. 1-е — новыя касцюмы да оперы «Рыта, або Пірацкі трохкутнік». 2-е пытанне — наша. 3-е — паказ асобных арый да дзіцячай оперы «Вінi-Пух і ўсе, усе, усе». Аўтар піцерскі — Вольга Пятрова, дачка кампазітар Андрэя Пятрова (на нашай сцэне шмат сезонаў ідзе ягоны балет «Стварэнне свету»).

Хто прысутнічаў на радзе? Кіраўніцтва тэатра — Уладзімір Грыдзюшка, Уладзімір Рылатка, Ніна Ламановіч, Таццяна Пархамовіч (ад Мінкульта). Ніна Казлова (дырэктар трупы оперных салістаў). Спевакі Ніна Шарубіна і Сяргей Франкоўскі. Аляксандр Касцючэнка (галоўны мастак). Наталля Руднева, кіраўнік стажорскай групы. Рэгіна Саркісава, скрыпачка. Таццяна Тэадаровіч, Вольга Бураўлёва (наш пастаноўшчык). Рэжысёр Галіна Галкоўская. Астатніх не памятаю. Усяго 17 чалавек.

Марына засталася паказам задаволеная, я — менш. Мы вельмі хваляваліся! Але Марына глядзела ў ноты і іграла на раялі, а я стаяла перад аўдыторыяй і адчувала яе рэакцыю. Прызвычаілася, што на творчых сустрэчах са мной як паэтэсай або празаікам, які піша для дзяцей, слухачы рэагуюць вельмі добразычліва. А тут — быццам сцяна. У адных на тварах — спакой і насцярожанасць. У некага — іронія: ну-ну, паглядзім, што ў вас атрымаецца, а раптам «лажа»? А мо мне так падалося ад хвалявання? У такіх выпадках шукаеш добразычлівы твар у зале і канкрэтнай асобе распавядаеш.

Раптам з дальняга кута залы голас рэжысёра Галіны Галкоўскай: «Раскажыце сюжэт! Што ў вас адбываецца?»

Яшчэ адзін эскізны партрэт. Галіна Леанідаўна невысокага росту, мініяцюрная, густыя валасы медна-рыжага колеру. Рухаецца хутка, інтанацыя наступальная. Магчыма, рэжысёр, які працуе з вялікай колькасцю людзей, і павінен быць такі, каб яго пачулі і зрабілі тое, што патрабуе? Калі чалавека не ведаеш, усё ўспрымаецца спакайней. А калі ведаеш даўно і паважаеш, то агрэсія, як у казарме, збівае з панталыку. Пытанне ўвогуле натуральнае, але тон беспардонны. Можа, я сама вінаватая? Пералік нумароў клавіра мы раздрукавалі. Трэба было яшчэ сюжэт на аркушыку паперы — кожнаму ў рукі. Ад стылю паводзін Галкоўскай проста ў шоку. Адышла толькі ў наступны дзень.

На абмеркаванні хвалілі музыку. Як мы даведаліся потым, пры галасаванні 15 чалавек «за», 2 — «супраць»? Увогуле прыстойны вынік. Тых, хто сумняваўся, магло аказацца і болей.

Калі пытанне з «Доктарам» разгледзелі, мы выйшлі. Пасядзелі з Марынай у тэатральным буфеце, абмеркавалі ўражанні, папілі гарбату, каб супакоіцца і прыйсці ў сябе. Зайшлі да Тэадаровіч. Марозава правяла меня да метро. Па дарозе я прыдумала, як зрабіць, каб антаганіст Бармалей з’явіўся ў спектаклі раней.

Вечарам я патэлефанавала Ламановіч, яна падказала, якім чынам паменшыць колькасць дзейных асоб. Бо кожнаму складу выканаўцаў патрэбныя касцюмы, а гэта грошы, якіх заўжды нестае.

Сын у той вечар збіраўся ў камандзіроўку ў Мазыр. Адправіла, паляжала. Сон не ішоў. Паднялася а 12-й ночы, уключыла камп’ютар. Доўга калупалася з «Доктарам». Змены, праўкі. Карацей, у 02.30 камп’ютар выключыла. А сёмай раніцы зноў села правіць. У суботу ўнесла ўсе змены ў поўнае лібрэта. У нядзелю перарабіла сінопсіс.

*2 красавіка, панядзелак*

Плануецца, што прэм’ера павінна адбыцца вясной ці восенню 2013 года, на школьных канікулах. (У рэальнасці атрымалася на два гады пазней, восенню 2015-га.)

У тэатры Марына паабяцала, што гатовы клавір, напісаны ад рукі, яна прынясе да канца мая. «Яго будуць набіраць, — сказаў Рылатка, — а кампазітар у гэты час будзе пісаць партытуру». Казачнікі, аднак! Клавір у выніку набіраў Кірыл.

Абдумвала ўражанні ад рады. У Марыны шмат чаму можна павучыцца. Найперш камунікатыўнасці. Здольнасці будаваць адносіны і накіраваць дзеянні патрэбных людзей у патрэбнае ёй рэчышча. Можна па-добраму пазайздросціць гнуткасці, кемлівасці, дзівоснаму пачуццю гумару, уменню ўсё ператварыць у радасць і смех. Нарэшце ўменню прасіць, але пры гэтым не прыніжацца.

Марозава больш вынаходлівая, чым я. Па сутнасці — артыстка. Яна імгненна рэагуе на сітуацыю, а я сітуацыю абдумваю. Калі за шмат гадоў прызвычайваешся працаваць з тэкстамі, чужымі і сваімі, то з імі адчуваеш сябе камфортней за ўсё. Як ні імкнуся сябе перайначыць, але больш за ўсё люблю цішыню і адзіноту. Бо толькі з іх і можа нарадзіцца штосьці вартае.

*10 красавіка, аўторак*

Пяць гадзін раніцы. Не спіцца. У чатыры паднялася, села пісаць дзённік.

Што з падзей мінулага тыдня ўспрымаецца як галоўнае? Пераважна клопаты і званкі, звязаныя з «Доктарам». У выніку перарабіла спіс дзейных асоб. Засталося ўсяго 4 салісты (Айбаліт, Бармалей, Кракадзіл, Кракадзіліца). Астатнія — артысты хору, мімансу, з Дзіцячай студыі.

Марына ў нядзелю тэлефанавала Наталлі Рудневай, з якой шмат гадоў сябруе. У свой час Наталля Аляксандраўна выканала ці не ўсе рамансы Марозавай, напісаныя для мецца-сапрана. Тая сказала, што разам з дачкой Аленай чытала лібрэта (сінопсіс). Чытала, як казку. Усё спадабалася! Мо Марына перабольшвае (з педагагічнымі мэтамі, каб падтрымаць мой баявы дух), але мо і праўда.

Дырыжор Вячаслаў Воліч вярнуўся з Масквы. Марына яму тэлефанавала, абмалявала сітуацыю. У прынцыпе ён пагадзіўся быць музычным кіраўніком оперы. Было б вельмі добра!

Наталля Аляксандраўна дадала: пастановачная група вырашыла рэкамендаваць Наталлю Кузьмічэнкаву як рэжысёра «Доктара». Яе ранейшыя працы — «Церам-церамок», «Кававая кантата», канцэрт, прысвечаны 75-годдзю Філарэта. Кузьмічэнкава працуе ў Дзіцячым тэатры-студыі. Хуткая, бойкая. Вядома, яна — не Франка Дзефірэлі. Але іншых варыянтаў няма. Панджавідзэ наўрад ці возьмецца. Віктару Скорабагатаву як кіраўніку «Беларускай капэлы» не надта цікавы спектакль, калі тэксты не беларускія. Галкоўская супраць, Бураўлёва лабіруе «Віні-Пуха». А больш нікога і няма. Далей ідзе спіс памочнікаў рэжысёраў. Нараджаецца новая дзіцячая опера, такога жанру даўно не было. Спектакль патрэбны тэатру і гледачу, але няма каму ставіць.

У мінулую пятніцу патэлефанавала Тэадаровіч. У Рылаткі ёсць пытанні па лібрэта:

1) транспарт Доктара — самалёт ці звяры?

2) лёс Бармалея — можа, ажывім?

У пятніцу перад працай набрала на камп’ютары аргументы супраць «ажыўлення». Першае і другое пытанні звычайна вырашае рэжысёр. Паслала Тані тэкст па электроннай пошце. У нядзелю запісала аргументы Марыны.

Яна зборнік Чукоўскага таксама пераглядала. Ці не зарана вырашаць?! Рэжысёр можа потым тры разы ўсё памяняць (як дарэчы, і сталася).

Учора тэлефанавала Ніне Іосіфаўне па мабільным. Хормайстар сказала: толькі яна і Шарубіна былі супраць пастаноўкі «Віні-Пуха». «І што з таго, што яна — дачка Пятрова? Колькі ў Расіі тэатраў оперы і балета? Ёсць у кожным абласным горадзе. Чаму мы павінны гэты спектакль ставіць? І што там за сюжэт?! Героі ходзяць у госці адзін да аднаго. А ў вас сюжэт! Рух, падарожжа, Бармалей, канфлікт!» Выдатна, што ў нас ёсць адвакат!

У мінулую суботу, 7 красавіка, адчувала сябе, нібы ў разабраным выглядзе. У галаве суцэльнае пілавінне, як у Віні-Пуха. Калі займацца побытам, дык нічога, але для працы за камп'ютарам не падыходзіць. За стол села толькі ў 18 вечара, калі сын пайшоў на «Князя Ігара». У нядзелю ў галаве неяк праяснела. Дарабіла тэксты па «Доктару» (тое, што адпраўляць Тэадаровіч), унесла праўкі ў поўнае лібрэта. Выкрэсліваем самалёт, выкрэсліваем папугая (праўда, потым Каруда ў оперу вярнуўся).

У працэсе доўгага і пакутлівага прасоўвання «Доктара» дапамагае ўменне Марыны кантактаваць. Морозава вельмі захоплена! Учора 30 хвілін размаўлялі па тэлефоне. Яна знайшла дома партытуры — свае і чужыя. Праглядае і вывучае аркестроўкі. Ламановіч вельмі слушна параіла: «Трэба, каб аркестр не быў перагружаны, часта за цікавай аркестроўкай галасоў спевакоў не чуваць».

*17 красавіка, аўторак*

Канцэртная зала «Мінск», прэс-канферэнцыя па Оперным форуме маладых спевакоў з краін СНД. Пасля яе была магчымасць пагутарыць з гендырэктарам, Уладзімірам Грыдзюшкам. Падзякавала за падтрымку «Доктара» на мастацкай радзе. Ён: «Можа, у 2013-м і паставім».

Марына ўжо аркестравала ўверцюру. Паціху піша. На пачатку мая сустрэнемся з ёй, каб «прагнаць» усю другую дзею. А потым цалкам паказаць Рылатку і Тэадоравіч. Калі Марозава аддасць клавір на набор, Мінкульт можа заключыць з ёй і са мной дамовы.

## Няўжо паставяць?!

*30 мая, серада*

Класная навіна! Марына зрабіла аркестроўку 10 ці 11 нумароў з 1-й дзеі. Пакуль ад рукі, набор нот наперадзе. Плануе за чэрвень—ліпень скончыць усё 1-ю дзею. Там прыблізна 20 нумароў.

У жніўні ў Марозавай адпачынак. Яе сыны хацелі выправіцца ў Іспанію. Але дарагая краіна, асабліва летам, грошай не хопіць, хутчэй за ўсё атрымаецца больш бюджэтны варыянт — Балгарыя.

*10 чэрвеня, нядзеля*

Дзесяць дзён пасля папярэдняга запісу пра «Доктара». Марына патэлефанавала. Скончыла рабіць партытуру 1-й дзеі. Ур-а-а! Малайчына! Плануе да адпачынку аркестраваць і 6-ю карціну. А мо і ўсю оперу.

*22 ліпеня, нядзеля*

Я вярнулася з адпачынку ў Феадосіі. Задаю сабе некалькі пытанняў. Ці будзе ўдалай пастаноўка? Хто рэжысёр, хто музычны кіраўнік, хто мастак? Да канца адпачынку засталося ўсяго 9 дзён.

*28 ліпеня, серада*

Трэці дзень стаіць жудасная гарачыня. На балконе пры завешаных шторах ажно 33 градусы. Ва ўсёй кватэры, як у духоўцы. Жыць можна толькі пры ўключаным кандыцыянеры.

Патэлефанавала Марыне. Яна збіраецца ехаць у Маскву, потым да сваёй цёткі на Волгу. Там плануе пабыць некалькі дзён, потым разам да мора — у Анапу ці ў Геленджык. Хоча вярнуцца ў Мінск праз месяц.

Перад сваёй вандроўкай Марозава скончыла аркестроўку! Ура-а-а! Клавір набраны — 180 старонак фармату А4. Аркестроўка займае прыблізна 200 старонак фармату А3. Але гэта ад рукі, пры наборы атрымаецца больш — 500 старонак.

*27 жніўня, панядзелак*

Прайшоў месяц ад папярэдняга запісу пра «Доктара». У Марыны адпачынак быў сапсаваны тым, што балеў пазваночнік. Давялося рабіць уколы, і шмат. Але калі столькі сядзець над партытурай, напэўна, гэта непазбежна. Ведаў бы той, хто будзе ў чарговы раз прымушаць яе нешта перарабляць.

*1 верасня, субота*

У тэатра пакуль няма грошай, каб аплаціць Марозавай набор. Але яна пакуль пра гэта не ведае.

*14 верасня, пятніца*

Званок ад Тэадаровіч. Паколькі інтанацыя яе голасу (можа, і незнарок) атрымалася трагічная, падумала, што «Доктара» пахавалі ўжо. Але аказалася, пытанне ў іншым: як адрэцэнзавалі ў «Мастацтве» апошнюю па часе пастаноўку Опернага.

*1 снежня, субота*

Прайшло паўгода. Патэлефанавала Марына. А ёй перад тым — Рылатка: «У панядзелак нясіце клавір і лібрэта!»

Замест таго, каб займацца тэкстамі «Мастацтва» ў № 12 або № 1, яшчэ раз правярала лібрэта. Добра, што раней раздрукавала асобнік (тэкст, набраны пад нотамі). У верасні яго даслаў мне па электроннай пошце Кірыл, сын Марыны. Але ў электронным выглядзе гэты варыянт лібрэта знаходзіцца ў камп’ютары, які нечакана «здох». Давялося ўносіць праўкі ў папярэднюю электронную версію на іншым камп’ютары.

Дзіўны тэатр! Паўгода панавала цішыня. Ніхто пра «Доктара» і не ўспамінаў. Маўчалі-маўчалі, а раптам загарэлася! Дзякуй табе, «Віні Пух», што ты з трэскам праваліўся!!! У тэатры мне сказалі: «Лепей і не хадзіце!» Фота са спектакля — ціхі жах.

*3 снежня, панядзелак*

Раніцай памчала на «Белтэлекам», каб раздрукаваць лібрэта. У сына пазычыла грошы, бо сваіх ужо няма.

Да 12-й гадзіны ледзь-ледзь паспела на планёрку. Агляд № 11. Дзяжурыла калега Алеся Белявец, рэдактар аддзела выяўленчага мастацтва. Алена Каваленка, намеснік галоўнага рэдактара, пахваліла мой артыкул па «Сівую легенду» і тэкст пра Аляксея Шута, мастацкага кіраўніка музычнай капэлы «Саноруса» (ён заўчасна памёр). Галоўны рэдактар Людміла Грамыка

пахваліла артыкул музыказнаўцы Надзеі Бунцэвіч пра фестываль Башмета. Дзіўна, ніхто ні за што не крытыкаваў! Але музыкі ў нумары сапраўды сабралася шмат.

Да 14.30 — у тэатр. У 15.00 — сустрэча мая і Марыны з Рылаткам.

Ён абмаляваў перспектыву. Ёсць намер паставіць «Айбаліта» восенню 2013-га (рэальна атрымалася на два гады пазней, у кастрычніку 2015-га). А вучыць партыі пачынаюць цяпер, па клавіры. Там 200 старонак. Адначасова Кірыл пачне набіраць партытуру.

Прапанавала Уладзіміру Пятровічу прызначыць рэжысёрам Ганну Маторную. Яна па-сучаснаму мысліць, мае дзве музычныя адукацыі (хормайстра і опернага рэжысёра). Не ведаю, ці атрымаецца. У Оперным не любяць людзей не з самога тэатра.

Увечары патэлефанавала Ганне. Яна са смехам заўважыла, што ёсць у Оперным асобы, якія пачынаюць надта нервавацца, калі яна толькі зазірае ў тэатр. У дадатак у нейкім калектыве ёй прапанавалі быць галоўным рэжысёрам. Мо ў Расіі? У нашым Музычным галоўны ўжо ёсць.

*31 снежня, серада*

Марына тэлефанавала Наталлі Рудневай, каб павіншаваць з Новым годам. Тая сказала, што на пачатку 2013-га адбудзецца мастацкая рада, дзе прымуць рашэнне наконт пастановачнай групы «Доктара». Марозава прапанавала: было б добра, каб Маторная — рэжысёр і Воліч — музычны кіраўнік. Паглядзім, ці атрымаецца.

## Адступленне чацвёртае. Тэатр як храм

Мае ўласныя стасункі з тэатрам перажылі некалькі стадый. Першы перыяд можна было б назваць эпохай суцэльнага захаплення. Гэта быў час неспадзяванага адкрыцця новай мастацкай прасторы. Спачатку культурны шок здарыўся на «Лебядзіным возеры», куды трапіла падчас культпаходу ў першым класе школы. Другі — у час прагляду тэлеверсіі балета «Жызэль».

Тэатр здаваўся татальным святам. Бо вечарам ці зранку ў нядзелю не трэба было, не выспаўшыся, ісці ў школу, а потым рабіць урокі. Не трэба было мыць посуд і падлогу, ісці ў краму па прадукты. Небудзённае адзенне і ўзнёслы настрой, палацавыя інтэр’еры Оперы, каралі і графы на сцэне. Свята музыкі, танца, спеваў. І ўсяго за 1 рубель 50 капеек! А калі на балкон, дык нават меней.

Як сапраўдная фанатка, стос празрыстых квіткоў захоўвала доўга. А стос праграмак з тых часоў захоўваю і цяпер. У тэатры было цікавей, чым з аднакласнікамі. Таму часта, калі ў сяброўак не мелася вольнага часу ці грошай, выпраўлялася на спектаклі сама. Паралельна ішлі заняткі ў музычнай школе, а потым у балетнай студыі, вывучэнне біяграфій славутых кампазітараў. Мо ў тым было прадчуванне, што ўражанні і веды спатрэбяцца надалей, будуць мець дачыненне да штодзённых прафесійных заняткаў?

Прастора, у якой існавалі героі спектакляў, успрымалася такой зіхоткапрывабнай, што туды хацелася трапіць. І... застацца назаўсёды. Ім хацелася спачуваць, над іх узнёслым і гаротным лёсам ліць горкія слёзы. Дарэчы, наконт слёз. З лёгкай усмешкай згадваю цяпер дзве красамоўныя сітуацыі. Я вучылася ў класе чацвёртым ці пятым, калі ў наш Оперны прыехала французская балетная пара, каб танцаваць галоўныя партыі ў «Жызэлі». Квіток паспела купіць нават у партэр, у рад пяты ці шосты. Не ведаю, што так моцна

на мяне падзейнічала — ці музыка Адана, ці класічная харэаграфія Перо, ці майстэрства замежных салістаў, ці сам спектакль, асновай якога зрабілася рамантычная легенда, запісаная Генрыхам Гейнэ, але ў фінале, калі Жызэль і Альберт расстаюцца назаўсёды — ён вяртаецца ў рэальны свет, а яна ў свет прывідаў, — з маіх вачэй літаральна хлынуў паток слёз. І спыніцца здавалася немагчымым! Побач сядзела жанчына гадоў 40, са спакойным тварам, з прыстойнай прычоскай, у дзелавым, добра пашытым касцюме. Уяўляю, з якім здзіўленнем яна паглядала на зарумзаную маладзенькую суседку.

Падобны эмацыйны стан узнік і пазней. Заканчвала школу, калі на гастролі ў Мінск прыехаў Вялікі тэатр Расіі. Прывезлі «Тоску» і «Пікавую даму», галоўныя партыі спявалі Тамара Мілашкіна і Уладзімір Атлантаў. Ну хіба можна прапусціць такую падзею?! «Тоска» зрабіла ўзрушальнае ўражанне. І музыка Пучыні, і пастаноўка, а прыгожыя, з магутнымі галасамі, салісты ўспрымаліся як зоркі сусветнай оперы.

Заслона закрылася, пачаліся апладысменты, на сцэну выходзілі гледачы з кветкамі. І я са сваім букетам півонь, абачліва сабраных у бабуліным агародзе. Дагэтуль памятаю твар Мілашкінай, убачаны зблізу. Грым, вядома, павялічваў і без таго выразныя вочы. Што ўзразіла, дык гэта кроплі поту, якія выступілі праз слой абавязковага танальнага крэму і пудры. «Якое невергоднае эмацыйнае напружанне ў салістаў падчас ігры і спеваў!» — думала я. «Якая дзіўная паненка!» — верагодна, думала Мілашкіна, гледзячы на мой зноў-такі зарумзаны твар. Для свецкай хронікі ён ніяк не падыходзіў, але тая акалічнасць мяне зусім не турбавала. Узрушэнне ад «Тоскі» і спеваў аказвалася важней за ўсё. І гэты стан хацелася захаваць у памяці надоўга.

Галоўны герой «Тэатральнага рамана» Міхаіла Булгакава, драматург Максудаў казаў пра сябе: «Як марфініст не можа без морфія, так я не мог без тэатра». Маё бязмежнае захапленне тэатрам часам набывала хваравітыя формы, што пужала нават спакойную і ўраўнаважаную маці. Бо ўслед за балетам прыйшло адкрыццё оперы, услед за рэальнымі спектаклямі — іх вывучэнне па пласцінках.

Уявіце, канікулы, лета. Нармальныя дзеці — на вуліцы. Лётаюць, скачуць, гойсаюць на веласіпедах. А некаторыя дзівакаватыя паненкі як уключаць пласцінкі з фрагментамі опер або суцэльным творам на 3-4 дысках, дык і слухаюць іх гадзінамі. Пакуль у сшытак увесь тэкст спеваў не запішуць, папулярныя арыі і дуэты на слых не запомняць. Каб потым нягучна, але самой праспяваць. Маці імкнулася выправіць мяне на вуліцу, на свежае паветра, але часцей дарэмна.

Тыя школьныя ўражанні згадала нядаўна, калі праз інтэрнет глядзела і слухала з зальцбургскага фестывалю оперу «Травіята» з Ганнай Нятрэбка ў партыі Віялеты. Яна спявала па-італьянску, на мове арыгінала. Але я ведала сэнс кожнай рэплікі, ад першага і да апошняга сказа. Бо на маіх пласцінках Вердзі выконвалі па-руску, тады існавала такая традыцыя.

Другая стадыя стасункаў з тэатрам пачалася на 1-м курсе журфака, калі ў газеце «Літаратура і мастацтва» з'явілася першая публікацыя пра балет. Рэцэнзіі, артыкулы і агляды былі, акрамя ўсяго іншага, сродкам наблізіцца да незвычайнага, зіхатлівага свету і яго галоўных герояў — артыстаў. Дужа ганарылася, што першай на курсе надрукавалася ў тоўстых літаратурных часопісах. Менавіта з творчымі партрэтамі салістаў балета. Памятаю доўгае інтэрв'ю з Нінай Паўлавай, тагачаснай вядучай балерынай. Але я нічога не запісвала, яна нават здзівілася. Засяроджанасць і памяць былі такія, што, вярнуўшыся дадому, двухгадзінную размову аднавіла даслоўна.

«У антракце спектакля па калідоры, уздоўж грымёрных прагульваліся легканогія багі» — гэта цытата з маёй даўняй публікацыі. Цяпер бы так не напісала. Экзальтацыя і рамантычнасць успрымання тэатра з часу знікаюць. Цяпер я б пазначыла: «За кулісамі было сумятліва». І ўсё!

## 2013 год

*11 студзеня, пятніца*

Здавалася б, толькі мінулі калядныя святы. Яшчэ не знікла адчуванне і прадчуванне дзівосаў. Але ў часопісе начальніца моцна і надоўга сапсавала настрой. На роўным месцы. Уражанне, што прэтэнзіі перманентныя. Няўжо так будзе заўсёды, усё астатняе жыццё? Звар’яцець!

Ды не першы раз заўважаю: як толькі кепска, несправядліва, моташна ў адным месцы, у другім (мо для раўнавагі?) адбываецца штосьці на дзіва радаснае.

Тэлефаную па справе Таццяне Тэадаровіч. Па яе голасе адчуваю: адбылося штосьці нечаканае.

— Таццяна Міхайлаўна, вашу оперу збіраецца ставіць Панджавідзэ…

О-па!

— Ды не можа быць!

— Можа.

— Панджавідзэ хоча ці гэта вырашана?

— Калі ён хоча, то амаль вырашана!

Тут трэба даць невялікі, хоць бы эскізны партрэт. Для тых, хто не ведае рэжысёра, не бачыў яго і пастаўленых ім спектакляў. Першае ўражанне, чыста візуальнае, але павярхоўвае, — Карабас-Барабас. Можна нават не грыміраваць. Высокі і агромністы, з чорнай барадой. Навісае і дамінуе — усяляк і ўсюды. Голас — густы і нізкі бас. Халерык, таму ягоная энергія бурліць, пераліваецца праз край і шукае выйсця.

Скрыпач, доўгі час іграў у аркестры. Па адукацыі спадар Панджавідзэ — рэжысёр оперы. Працаваў у Вялікім тэатры Расіі. Надзвычай дасведчаны, шмат чытае і ведае. Размах ягонага мыслення нярэдка захапляе. З ім цяжка срачацца і немагчыма пераканаць. Не любіць пярэчанняў, адразу пачынае абурацца. Да любой крытыкі мае алергію.

Увогуле рэжысёра немагчыма зразумець па-за ягонымі пастаноўкамі. Нават першая, опера «Набука», выклікала ў нашай музычнай грамадскасці захапленне і лёгкі шок. Рэжысёр, запрошаны з Масквы, здолеў адкрыць для артыстаў і гледача фантастычныя магчымасці абноўленай сцэны. Гэта адбылося ў 2009 годзе. Пасля «Набука» Панджавідзэ паставіў у Мінску багата спектакляў — «Тоску», «Севільскага цырульніка», «Сівую легенду», «Паяцы». Як заўжды здараецца ў тэатры, яны выклікаюць розныя эмоцыі і ацэнкі — ад гарачага захаплення да рашучага непрымання. Салісты, занятыя ў яго спектаклях, усведамляюць ягоны маштаб. Хоць на рэпетыцыях ён часам паводзіць сябе як натуральны дэспат. Тыя, каго ён не бачыць і не займае, гэтак жа шчыра ім абураюцца і яго ненавідзяць. Інакш кажучы, усё, як і павінна быць у тэатры.

Такім чынам, Панджавідзэ можа ўвасобіць «Доктара»! Вядома, я ў шоку! Настрой імгненна памяняўся ў лепшы бок. Арэлі эмоцый паляцелі ўверх. Увечары патэлефанавала Марыне. Яна таксама ў шоку. Але пабойваецца, што яе як кампазітара рэжысёр маральна «задушыць».

Я: «Схаваешся за музычнага кіраўніка!»

Навіна пра пастаноўшчыка — класная! Па некалькіх прычынах.

а) Галоўны рэжысёр — сапраўды галоўны. Асабліва, калі ведаць характар Панджавідзэ.

б) Як ён сказаў, так і будзе. Ніхто яму не здолее перашкодзіць, як можа здарыцца з чарговым рэжысёрам.

в) Душу з усіх будзе вытрасаць, але ў выніку зробіць найлепшым чынам (наконт «вытрасання» так і атрымалася. Але паставіў такі спектакль, які мы ўявіць не маглі).

*29 чэрвеня, субота*

Прэм’ера «Доктара» запланавана на пачатак 2015 года. Доўга, вядома! Але калі б з вясны ці лета наступнага, 2014 года ўзяліся — эскізы, дэкарацыі, касцюмы, развучванне партый, дык можа быць і паспелі б. Наступны тэатральны сезон (2013—2014) дужа насычаны, шмат новых спектакляў. Калі і як яны паспеюць ажыццявіць і ўвасобіць? Да нашай прэм’еры застаецца паўтара года.

*24 жніўня, субота*

Радуюся: сёлета Марына нарэшце развіталася з «Харошкамі». Яна распавядала, што нотныя накіды «Доктара» рабіла, хаваючыся ў філармоніі дзе заўгодна. Каб вушы і свядомасць «на забівалі» найгрышы «Харошак». Яны цікавыя, але опера прадугледжвае іншы стыль і іншае музычнае мысленне.

Цяпер Марозава — вольны мастак. На службу кожны дзень выпраўляцца не трэба. Іначай «Айбаліт» ніколі не быў бы створаны. І хоць яе настаўнік, Яўген Глебаў некалі афарыстычна заўважыў, што песня пішацца зранку і да абеда, — такая падзея здарыцца, калі галава свежая. Яшчэ адзін вядомы кампазітар, Андрэй Мдывані на гэты конт іранічна заўважыў: «Сто песень — яшчэ не опера». Магчыма, маючы на ўвазе калегу Леаніда Захлеўнага, які для опернай спявачкі Алены Сало ўзяўся напісаць цыкл «Сто песень пра каханне».

Такім чынам набраныя ноты 1-й дзеі «Доктара» Марына «вычысціла», Кірыл унёс усе праўкі. Справа доўгая. Бо яны слухаюць праз камп’ютар па маленькім музычным фрагменце, потым робяць праўкі ў нотах, на паперы і адначасова ў электронным варыянце. Марына з Кірылам пачалі «чысціць» другую дзею.

*25 лістапада, панядзелак*

Раніцай заехала да Марозавай. Слухалі 1-ю частку «Доктара». Адначасова Марына з Кірылам удакладнялі тэмпы ў кожным фрагменце, лавілі дробныя памылкі.

*24 снежня, субота*

Мы з кампазітарам у Рылаткі. Аддалі дыск з музыкай «Доктара». У тэатры пачалі раздрукоўваць клавіры. Няўжо?! Амаль гістарычная падзея, па меншай меры для нас з Марозавай. Заўтра Марына пойдзе ў тэатр, каб забраць надрукаваную партытуру. Будзе правяраць. Да Новага года застаўся тыдзень! Нават не верыцца...

## 2014 год

*24 сакавіка, панядзелак*

Прайшло тры месяцы ад папярэдняга запісу пра «Айбаліта». Мы з Марынай ізноў у кабінеце у Рылаткі. Аддалі дыск з «Доктарам», там клавір і партытура, вылізаныя і вычышчаныя. Панджавідзэ як пастаноўшчыка хутчэй за ўсё не будзе. Які аблом! А мы разагналіся, нафантазіравалі…

Зноў усплыла кандыдатура Ганны Маторнай. Але дырэктар Музычнага, Аляксандр Пятровіч, забараніў ёй ставіць дзесьці яшчэ. Дакладней, яны дамовіліся, што яна будзе рэжысёрам толькі ў сваім калектыве. Ганна параіла мне звярнуцца да Анастасіі Грыненка, але тую тэатр не хоча запрашаць. Дзіўныя! Першакласны рэжысёр. У краіне, дзе амаль дзесяць мільёнаў жыхароў, не адшукаць рэжысёра, каб паставіў бы дзіцячую оперу. Змрок і «жэсць»!

Сёлета ў сакавіку хадзілі з Марозавай у філармонію, на юбілейную вечарыну Мікалая Дудчанкі, харэографа і рэжысёра. Марына разам з ім доўгі час працавала ў «Хорошках». У дадатак ён высока ацэньвае яе творчасць як кампазітара.

Пастаўленыя ім танцавальныя нумары ў праграме аказаліся самымі яркімі і арыгінальнымі. Выглядае Дудчанка вельмі добра. Нават не верыцца, што яму 70. Падцягнуты, у смокінгу. Шмат спявачак (Вікторыя Алешка, Марына Васілеўская, Вольга Мілюта і іншыя) дзякавалі яму са сцэны. За веру, дапамогу, за тое, што паўплываў на іх творчы лёс. Вясёлымі атрымаліся нумары, якія выконвалі дзеці. Выйшлі на сцэну і былыя студэнты харэаграфічнага каледжа, дзе выкладаў Дудчанка, у тым ліку Аляксей Садоўскі, вядомы маскоўскі музычны крытык. Спецыяльна прыехаў!

Наступным днём па тэлефоне абмяркоўвалі з Марынай уражанні вечарыны. Нечакана прыйшлі да высновы: калі ў Оперным няма рэжысёраў для «Доктара», няхай бы Дудчанка і паставіў. Патэлефанавалі Мікалаю Рыгоравічу ў нядзелю. Дамовіліся, што ён трапіць да Рылаткі напярэдадні чацвярга. У гэты дзень планавалася мастацкая рада, але перанеслі.

Рылатка ў размове нагадаў, што на пачатку 2015 года тэатр плануе абнаўленне оперы Солтана «Дзікае паляванне караля Стаха». Для новай рэдакцыі плануецца якраз Дудчанка. Маўляў, трупа да яго прыгледзецца, а ў 2016-м магчымы «Доктар» у яго версіі.

Такімі тэрмінамі я моцна засмуцілася. Зноў чакаць?! Але Марозава лічыць: вынік някепскі, магло атрымацца і горш. Мо ўсё-такі здолеем неяк «пасунуць» прэм’еру, каб адбылася раней?

*30 сакавіка, нядзеля*

Зноў «чысціла» лібрэта «Доктара». Чамусьці сярод дзейных асоб засталася сава Бумба, якую прыбралі яшчэ год таму. Удакладнялі і ўзгаднялі назвы нумароў. Кірыл дасылаў па пошце змест клавіра і партытуры. Потым раздрукавала два асобнікі, для Дудчанкі і Міністэрства культуры. На тое спатрэбіўся амаль увесь дзень. У наступны дзень у філармоніі прэс-канферэнцыя па «Мінскай вясне».

## «Шок — гэта па-нашаму!»

*11 красавіка, пятніца*

Хутка можа адбыцца мастацкая рада тэатра, дзе будуць разглядаць пытанне з «Доктарам». Хутчэй за ўсё 16 красавіка.

— Чаму працэс ідзе так марудна? Гэта калі-небудзь скончыцца?! — з адчаем спытала я ў знаёмага тэатральнага крытыка, які быў у курсе маіх шматгадовых прыгод з «Доктарам».

— Справа ў тым, што вы з Марынай займаецеся не творчасцю, а выключна прасоўваннем твора, — патлумачыў ён.

*16 красавіка, серада*

Рада адбылася. Праўда, нас там не было. Дайшлі толькі цьмяныя і незразумелыя адгалоскі. Пакуль поўны туман. Самая жудасная навіна, што ў планах тэатра на 2015 год «Доктара» няма! Што цяпер рабіць? Нашто так ірваліся, мянялі, перараблялі? Марына тыднямі чысціла клавір і партытуру. І ўсё дарэмна?! Паставяць у лепшым выпадку ў план 2016-га.

Поўны змрок. Гэта не засмучэнне, а нават шок. А калі раптам памяняецца кіраўніцтва тэатра? І новае скажа: «Прабачце, але мы гэты твор вам не заказвалі!» Што тады?.. Мне сваёй працы шкада, а штодзённых, з ранку і да вечара намаганняў Марыны на працягу трох гадоў — яшчэ больш. Усё цішком вырашылі без нас. Толькі крылцамі ўзмахнеш, як адразу — аблом! «Асадзі назад!»

Разумею, на мастацкай радзе кожны лабіруе ўласныя інтарэсы і ідэі, той спектакль, якім займаецца. Уражанне, што мы трапілі ў цёмны, заблытаны і пакручасты тэатральны лабірынт. У тупік! А як з яго выбрацца?! Чаму не здагадалася весці ўлік: колькі разоў за гэтыя гады мы сходзілі ў тэатр у сувязі з «Доктарам»? Не думала, што працэс будзе бясконцым. Пачалі вечарам тэлефанаваць па мабільніках — і Марына, і я. Каму маглі. Сітуацыя крыху праяснілася.

## Адступленне пятае. Тэатр як монстр

Пра тэатр як храм я распавядала. Доўгі час як глядачцы, а потым і журналістцы хацелася падтрымліваць і захоўваць у сабе рамантычнае ўспрыманне сцэны. Так бы мовіць, погляд з параднага боку.

Хоць я ведала, што ўзнёслы балетны прынц, увасабленне летуценных мар юных паненак, у паўсядзённым жыцці можа паводзіць сябе як распуснік ці банальны бабнік. А вядучы оперны саліст, што мае боскі голас, — з радасцю куляе чарку. Цяпер гэта ўспрымаецца як праявы звычайных чалавечых слабасцей, а тады — як трагедыя, што разбурае ўяўленне пра храм. Але ж нездарма пісаў Пушкін:

«Пока не требует поэта
К священной жертве Аполлон,
В заботах суетного света
Он малодушно погружен;
…И меж детей ничтожных мира,
Быть может, всех ничтожней он».

Усё так. Ды толькі немагчыма пісаць пра пастаноўку, калі пачынаеш існаваць на ўзроўні асабістых ці побытавых стасункаў яго ўдзельнікаў. І ведаць — хто з кім, дзе і калі. Калі імкнешся аналізаваць спектакль, не трэба сябраваць з артыстамі. Іначай не скажаш праўду або нават частку яе. А калі сябруеш — дык і не пішы!

На ўспрыманне кожнага спектакля моцна ўплывае і тое, што адбываецца ў рэальнасці. У 70-я і 80-я гады мінулага стагоддзя тэатр часта аказваўся больш

яркім, насычаным і цікавым, чым паўсядзённае жыццё. З ягонымі з'ездамі КПСС, прамовамі правадыроў, якія ніхто не слухаў, з лозунгамі, у якія ніхто не верыў. Тэатр успрымаўся як аддушына, глыток свежага паветра, форма дысідэнцтва. Са сцэны вуснамі герояў класічных ці сучасных п'ес артысты прамаўлялі тое, што было сугучна настроям і думкам прагрэсіўнай часткі грамадства і што немагчыма ўголас сказаць больш нідзе. Акрамя як на ўласнай кухні.

У 90-я гады рэальнасць часта аказвалася больш дынамічнай і зменлівай, чым сцэна. Публіку не менш, а мо нават больш захапляў тэатр вулічных шэсцяў, шматтысячных дэманстрацый, тэатр палітычнай барацьбы. Адначасова мастацтва дапамагала выжываць ва ўмовах, калі знікала савецкая імперыя, звыклы грамадскі лад імкліва развальваўся, а на яго руінах пачынаў узнікаць зусім іншы. Які — невядома.

З цягам часу і набытым жыццёвым вопытам успрыманне феномена тэатра мяняецца. Так, ён — храм, але і вытворчасць. Кафедра, але і афіцыйная глядзельная ўстанова, якая мае трывалы фінансавы план. Цырк, дзе высока цэніцца трук, маладосць і фізічная трываласць. Сцэнічная пляцоўка — гэта лобнае месца, дзе адбываецца ўзнясенне ці пакаранне. Тэатр — карабель, велізарны і маларухомы. Але ён таксама бязлітасны монстр, якому прыносяцца ўсё новыя ахвяры. Тэатр шмат чаго патрабуе з цябе (калі ты ўнутры), але ты з яго нічога не здолееш патрабаваць. Тэатр — молах, які бяздушна перамолвае лёсы. Няўмольна забірае талент і лепшыя гады жыцця.

А што ўзамен прынесеных ахвяр? Так, эмацыйны ўздым, авацыі і кветкі, прызнанне, павага, захапленне публікі, адчуванне выбранасці. Мяне заўсёды цікавіла пытанне: што застаецца з цягам часу ад творчасці таленавітага артыста? Праходзіць новая генерацыя гледачоў, і куміраў папярэдняга пакалення, здараецца, ніхто не ведае. А калі ведае, не ўспрымае — так мяняюцца прыярытэты і схільнасці.

Што застаецца пасля выкананых роляў і партый? Статус зоркі? Рэха легенды, водгулле славы? Фота, не надта дасканалыя відэа і рэцэнзіі на пажоўклай паперы? Ці не занадта вялікая плата? Асабліва калі ведаеш, што гарачая любоў да тэатра нярэдка вымушае быць шчаслівым у творчасці, ды адзінокім у жыцці. Зрэшты, не будзем драматызаваць. Кожны сам вырашае, дзе быць шчаслівым — на сцэне ці ў рэальнасці. Або гарманічна сумясціць першае і другое.

Разам з мноствам апублікаваных рэцэнзій і артыкулаў да крытыка ці журналіста паступова прыходзіць больш цвярозы погляд на тэатр. Радасць неафіта не мае межаў, вопытнага рэцэнзента здзівіць цяжэй. Тэатр можа захапляць, але нярэдка і раздражняць. Таннасцю прыёмаў (рэжысёрскіх і акцёрскіх), штучнасцю, як быццам глыбокім сэнсам, але на мелкаводдзі. Жаданнем дагадзіць неперабарлівай публіцы.

У сталым узросце крытык часта робіць сваім жыццёвым крэда славутую сентэнцыю: «Ці любіце вы тэатр так, як я ненавіджу яго?» Гэта жарт. Ды ў кожным падобным выказванні ёсць доля жарту, усё астатняе — праўда.

Але вярнуся да свайго дзённіка.

*17 красавіка, чацвер*

Ранкам пасля прыкрай рады мы з Марозавай, абураныя і злыя, памчалі ў Оперны. Найперш да Рылаткі. Па-мойму, цяпер ён у некаторым шоку ад нашых эмоцый і аператыўнасці. Здолелі сітуацыю крыху памяняць. Дырыжору Алегу Лесуну аддалі ў рукі партытуру. Ніне Іосіфаўне Ламановіч аддалі ў рукі клавір.

Марозава і да таго, і пасля некалькі разоў сустракалася ў тэатры з Нінай Іосіфаўнай. Каб удакладняць партыі па дыяпазонах. Да тэнараў пытанняў няма. Былі некаторыя пытанні да басоў і барытонаў, а таксама па харавых сцэнах звяроў. Як там размяркоўваюцца галасы, важна. У нейкі дзень мы з Марынай па тэлефоне гадзіну ўзгаднялі склады хароў. І толькі па 1-й дзеі.

У той жа дзень, 17 красавіка, у нотным аддзеле тэатра ўзялі партытуру (выглядае салідна, два тамы ў чырвоным пераплёце, фармат А3), пайшлі ў прыёмную гендырэктара. Да Грыдзюшкі — чарга. Зразумела, што не паспеем і не трапім. Жана Якаўлеўна, сакратарка, абяцала паказаць партытуру, але без нас. Патэлефанавала (яна — нам ці мы — ёй, не памятаю), што атрымалася. Верагодна, прэзентабельны выгляд і наяўнасць нот (а фактычна оперы) зрабілі адпаведнае ўражанне.

Думаю, на мастацкай радзе «Доктара» не паставілі ў план пастановак таму, што партытуру ніхто як след не бачыў. Яна ціха ляжала ў нотным аддзеле. Але калі ты не працуеш у тэатры, дык хадзіць штодня па калідорах, кабінетах і нагадваць пра сябе, — не лепшы варыянт. Як даведаліся пазней, з кабінета гендырэктара партытура «Айбаліта» трапіла ў кабінет Рылаткі. І ў той жа дзень да Лесуна і Ламановіч. Дыхаць зрабілася лягчэй — і Марыне, і мне.

*5 мая, панядзелак*

Сустрэча з Ламановіч і Марозавай на заўтра адмянілася. І добра! Пасля насычанага дня амаль млосна. Шмат сустрэч, шмат працы ў рэдакцыі, вечарам — канцэрт у Палацы культуры чыгуначнікаў. Звычайна на пачатку мая ўжо дрэвы квітнеюць. Але сёлета надвор'е сцюдзёнае, амаль замаразкі, бліжэй да ночы ўсяго 3 градусы цяпла.

*14 мая, серада*

Прыехала на працу раней, каб усё паспець. Бо ў 14.00 мы з Марынай скіраваліся да Ламановіч. Як усё складана, як усё ў партытуры ўзаемазвязана! Высвятляецца: аркестр не можа быць па гучанні вышэй, чым голас саліста. Іначай саліста будзе не чуваць.

Марына прыйшла з мноствам напісаных варыянтаў — узамен першапачатковага. Сёе-тое пакінулі, як было. Так працавалі гадзіны дзве, мо і болей. Марозава і Ніна Іосіфаўна ўдакладнялі. А я сядзела побач і з цікавасцю слухала. Кампазітарцы весялей, калі мы разам. У дадзеным выпадку я — група падтрымкі. Але могуць з'явіцца пытанні і да лібрэта, удакладненні, хто і што пяе.

Калі з Марынай выходзілі ад Ламановіч, зазірнулі ў тэатральны буфет. Узялі нейкую драбязу, каб атрымалася больш танна. У маім кашальку засталіся апошнія 20 тысяч. Хапіла на два блінчыкі і сок.

Заходзіць Панджавідзэ. Маштабны рэжысёр! У прамым і пераносным сэнсе. Узяў каву, запрасілі за наш столік. Пазнаёміла магчымага пастаноўшчыка з жывым і рэальным кампазітарам. Аддала яму асобныя старонкі лібрэта. Дамовіліся, што аддам лібрэта цалкам. Няхай бы ўсё-такі ён ставіў. Найлепшы варыянт.

З тэатра выйшлі ў 17.30. Марына вельмі стомленая, эмацыйна літаральна «выціснутая», але з Ламановіч працавала досыць бадзёра.

Праз некалькі дзён Марозава патэлефанавала Алегу Лесуну. Яму паведамілі, што ў музыцы будуць перастаноўкі і змены, таму партытура не ў яго. Высвятляецца: калі хочаш, каб працэс рухаўся, за ўсім трэба сачыць самім. Усе занятыя.

*23 мая, пятніца*

Ужо тыдзень лаўлю Панджавідзэ. Відаць, яго няма ў Беларусі. І мабільны тэлефон не адказвае, і гарадскі. Нарэшце пашанцавала, знайшла. Міхаіл Аляксандравіч прыехаў у Мінск усяго на два дні, 23 і 24 мая. Аддала папку, 15 старонак першай дзеі, плюс 15 старонак — другой. Імкнулася зацікавіць. Трохі пра Марыну, трохі пра стыль Чукоўскага і працу над лібрэта. Здаецца, неяк «зачапіла». Панджавідзэ: «Ніхто не ведае, як трэба ставіць дзіцячую оперу! Не трэба столькі казаць! Не заводзьце, а то ў мяне імпэт хутка прападзе!»

*29 мая, чацвер*

У нас з Марынай запланавана новая сустрэча з Ламановіч у тэатры. Каб туды ўвесь час выпраўляцца, трэба бегчы на ўласную працу раней. І журналісцкія справы дарабляць вечарам ці ў выхадны.

У тэатры ля аховы Марына чакае мяне і размаўляе з дырыжорам Вячаславам Волічам. На вітрыне на агульны агляд вывесілі маю рэцэнзію на балет «Сем прыгажунь». Пытанні да мяне ад Вячаслава Іванавіча, бо ён быў музычным кіраўніком пастаноўкі.

Званок ад Ніны Іосіфаўны на мабільнік. Значыць, мы ўжо спазніліся. Уваходзім. Адчуваецца, яна не вельмі задаволена нашай недакладнасцю. Я спрабую распавесці нейкі анекдот, каб памяняць агульны настрой. Марына прынесла выпраўлены клавір. Яе сын набіраў асобныя фрагменты па-новай.

Марозава думала, што толькі пакажа ноты. Ламановіч: «Пайграйце!» А Марына не рыхтавалася. Выканала чатыры нумары, зазірнуў Рылатка. Слухаў з задавальненнем. Кампазітар іграла ўпэўнена. Ламановіч спявала за асобных герояў — і з такім азартам! Рылатка і я слухалі імправізаваны канцэрт. Інструментальныя фрагменты прапускалі, гучалі толькі вакальныя.

Рылатка знаходзіўся ў кабінеце Ламановіч 20—30 хвілін. Што вырашылі? Да канца сезона салісты не паспеюць вывучыць фрагменты з «Доктара», бо наперадзе прэм’ера «Пікавай дамы», потым фестываль у Нясвіжы. Паказ нумароў «Айбаліта» плануецца у 20 числах верасня. Мяркуецца, музычным кіраўніком пастаноўкі будзе Алег Лясун. Партытуру ён пакуль не глядзеў, бо заняты.

Рылатка пайшоў, Марына засталася працаваць разам з Ламановіч. Гадзіны тры яны парадкавалі ноты. Я збегла раней, бо перад адпачынкам трэба ў часопісе падрыхтаваць шмат тэкстаў.

З Марынай вечарам сазвоньваліся. Яна ўзяла 4 ці 5 клавіраў на праўку. Ніна Іосіфаўна параіла, каб астатнія нават не брала. Іх потым спішуць. Няма сэнсу столькі старонак правіць ад рукі, будуць чорныя. Па іх вучыць вакальныя партыі бессэнсоўна. Нічога не варта там выпраўляць. А партытуру (там толькі 2 экзэмпляры) перадрукуюць па-новай. Атрымліваецца вялікая эканомія часу і сіл. Карацей кажучы, з Нінай Іосіфаўнай нам моцна пашанцавала. Ва ўсіх сэнсах.

Марыне яна казала: «Вы самі не ўяўляеце, у якой ступені вы таленавітая! Вашай партытурай могуць зацікавіцца потым і іншыя тэатры оперы і балета. З операй для дзяцей усюды праблемы, яе не хапае!» Дай Божа, каб так і было.

*20 чэрвеня, пятніца*

Быў невялікі адпачынак, літаральна дзесяць дзён. Вярнулася, адразу патэлефанавала Марыне. Што ў тэатры робіцца? Справа з «Доктарам» нарэшце закруцілася! Няўжо?! Сустракаліся, пакуль мяне не было, Рылатка, Лясун, Ламановіч, Казлова. Наконт размеркавання роляў і паказу фрагментаў у жніўні або пачатку верасня.

Марына бачылася з Ларысай Церахавай, яе прызначылі адказным канцэртмайстрам. Піяністаў-акампаніятараў, якія вучаць са спевакамі партыі, звычайна некалькі, але адказны так і называецца, бо адказвае за ўсё, часцей сустракаецца з кампазітарам і дырыжорам.

Лесуну і Церахавай пакуль усё падабаецца. Для нас галоўнае, што Панджавідзэ даў прынцыповую згоду. Ура! Разам з ім будзе працаваць як сцэнограф Аляксандр Касцючэнка. Пакуль я ездзіла ў адпачынак, Марына папраўляла клавіры, раздрукоўвала асобныя партыі для кожнага спевака.

Вясной і летам Марозава некалькі разоў сустракалася з Вячаславам Кузняцовым, каб паказаць уласную аркестроўку «Доктара». Кузняцоў — яе аднакурснік. Займаліся яны ў адным і тым жа класе, у Глебава. Вячаслаў — кампазітар вопытны, у Оперным некалі ішлі ягоны балет «Макбет» і опера «Нататкі вар'ята», цяпер з поспехам паказваецца «Вітаўт». Акрамя таго, аркестроўку ён выкладае студэнтам. Цікава: Кузняцоў не толькі не рабіў ніякіх заўваг, не выказваў парад, што і як памяняць, але сказаў Марыне, што Яўген Аляксандравіч быў бы дужа задаволены вынаходлівасцю і разнастайнасцю яе аркестроўкі.

*13 ліпеня, нядзеля*

Марына выправілася ў Расію, на Волгу. Яе родная цётка жыве ў горадзе Уфе. Марозава паехала на тры тыдні, каб трохі адпачыць. Артысты пачалі вучыць вакальныя партыі.

*23 жніўня, субота*

Мая кампазітарка задаволена сваёй вандроўкай на Волгу. Пераключылася, адпачыла, шмат купалася. Наелася рыбы і ягад. Дарога, праўда, не надта блізкая, Спачатку да Масквы, потым да Уфы. На пачатку верасня чакаем мастацкую раду і паказ фрагментаў. Жывыя кавалкі пераконваюць і аўтараў таксама.

*27 жніўня, серада*

Пайшлі з Марынай у тэатр. Зазірнулі да Ніны Іосіфаўны. Нечакана высветлілася, што якраз сёння ў яе дзень нараджэння. Пазнаёмілася і я з Церахавай. Пасядзелі на рэпетыцыі яе з Палінай Елісеевай (плануецца, яна будзе Танечку спяваць).

*31 жніўня, нядзеля*

Сёння ў 14.00 сустрэча Лесуна, Церахавай, Ламановіч і Марыны.

Мы з Марозавай прыйшлі раней. Хацелі паслухаць рэпетыцыю Церахавай з Кракадзіліцай, якую павінна спяваць Таццяна Кнутовіч. Высветлілася: рэпетыцыя прайшла раней. У рэжысёрскім упраўленні — як на фронце, усё мяняецца сто разоў на дзень. Пасядзелі там, у чаканні нашай сустрэчы. У салістаў оперы Трыфанавых нарадзіўся хлопчык. Таму Станіслаў, шчаслівы тата, «прастаўляў» пірожныя.

У рэжысёрскім упраўленні чакаюць вакальных урокаў або рэпетыцый спевакі — бас Дзмітрый Трафімук, мецца-сапрана Марына Аксёнцава, сапрана Кацярына Галаўлёва, тэнар Міхаіл Пузанаў, кіраўнік стажорскай групы Наталля Руднева.

Вядома, за сталом Ніна Іванаўна Казлова — дырэктар трупы оперных салістаў. Чулая, душэўная, сардэчная. Уражанне, што яна маці велізарнай колькасці дзяцей. У мінулым адна з вядучых сапрана тэатра, а цяпер галоўны каардынатар. Рэжысёрскае ўпраўленне — штаб, дзе кожны дзень складаецца шматфігурная

кампазіцыя, інакш кажучы, расклад рэпетыцый. Аднойчы выпадкова пачула, як па тэлефоне Казлова размаўляла з нябачным мне салістам. Панавала інтанацыя не загаду і не каманды, а просьбы і спачування: «Ну, можа прыйдзеш, парэпеціруеш? Зайка, ну ты ж разумееш, што трэба!» Пасля такой просьбы ці здолее тая ці той «зайка» адмовіць?

Прыйшоў тэнар Эдзік Мартынюк з дачкой. Соня, якая сёлета пайшла ў школу, болей падобная на маму, спявачку Таццяну Гаўрылаву. Сашы, дачцэ рэжысёра Міхаіла Панджавідзэ і спявачкі Галаўлёвай, споўнілася год і два месяцы. Яе маці распавядае, што Саша любіць гуляць з масцярком і цаглінамі. Трафімук жартуе: «Расце замена Прахарэнку!» (намеснік гендырэктара па вытворчых пытаннях). Як ні дзіўна, але менавіта малой Сашы мы з Марынай абавязаны тым, што рэжысёр узяўся ставіць «Доктара». Бо хацеў прысвяціць пастаноўку малодшай дачцэ (перад прэм'ерай радасна паведаміў пра гэта тэлебачанню).

У тэатральным калідоры абмяняліся з Эдуардам Мартынюком і Уладзімірам Пятровым меркаваннямі пра іх ролі ў «Пікавай даме». Першы спяваў Германа, другі — князя Ялецкага.

Наша рэпетыцыя доўжылася гадзіны дзве. Дырыжор Алег Лясун — вельмі спакойны і ўраўнаважаны, вытрыманы. Сапраўдны профі. Ён з Церахавай за раялем. Марына — побач. Ламановіч — з клавірам у руках, пераносіла ў свой экзэмпляр іх праўкі. А я слухала, седзячы на канапцы.

*5 верасня, пятніца*

На жаль, 1 верасня я трапіла на бальнічны. Так бяздарна пачаць сезон! Моцнае атручэнне, хацелі ў стацыянар забраць, не згадзілася. Паціху вяртаюся да жыцця.

У 18.00 — у Оперным генеральная рэпетыцыя балета «Жар-птушка», які ставіць Андрыс Ліепа. Сярод публікі шмат прафесійных музыкантаў і крытыкаў. Галіна Гарэлава, Радаслава Аладава, Тамара Якіменка, Таццяна Песнякевіч. Гарэлава сказала, што ёй спадабалася гутарка з кампазітарам Алегам Хадоска, якую я надрукавала ў «Мастацтве». Чаму ж не спадабаецца?! Музыкантаў не надта часта распытваюць, а ён у дадатак — калега.

Самае галоўнае на вечарыне — размова з Панджавідзэ. Сутыкнуліся ў праходзе партэра, побач народ бегае-лётае, спяшаецца заняць свае месцы. Сказаў, што лібрэта «Доктара» спадабалася, яно кампактнае, жывое і вясёлае. Дадаў крыху незадаволена: «Вы не лібрэта напісалі, а рэжысёрскі план спектакля!»

Я: «Калі ўяўляю, як можа быць, дык чаму не напісаць?! Вам перашкаджае — выкрасліце! Зрабіце наадварот! Агучаная ідэя можа справакаваць дыяметральна супрацьлеглую…»

Панджавідзэ дадаў, што яго вельмі развесяліў верш Чукоўскага: «Как у нашего Мирона На носу сидит ворона…» Маўляў, гэта пачатак мацерных прыпевак. А я і не ведала! У яго ідэя: калі ў «Айбаліце» збярэцца шмат такіх вершаў, дык на спектакль прыйдуць таты з дзецьмі. Глядзець, слухаць… і радавацца жыццю.

Увесь вечар пад уражаннем таго, што сказаў Панджавідзэ. У-у-ф! Гара з плеч! Пытанні да лібрэтыста нараджаюцца ў першую чаргу ў рэжысёра. Пытанні да кампазітара — найперш у дырыжора. Каварства сітуацыі ў тым, што змены і перакампаноўкі ў лібрэта вядуць за сабой змены ў клавіры і партытуры. А гэта зноў набор нот. Бо мяняецца нават нумарацыя тактаў, якая ідзе на кожнай старонцы.

Пасля «Жар-птушкі» ўзрадавала Марыну. Калі б лібрэта пастаноўшчыку не спадабалася, кампазітар была б вымушана шмат чаго перарабляць. Мяняць давялося, але пра тое пазней.

*21 верасня, нядзеля*

Марына чакае, што да канца месяца можа адбыцца мастацкая рада па «Доктару». Тэатр — такая непаваротлівая структура!

*28 верасня, нядзеля*

Як быццам на наступным тыдні збярэцца рада. Бо харавыя сцэны не паспелі вывучыць. Не! Зноў перанос — на 5 кастрычніка. Цікава, гэта эпапея калі-небудзь скончыцца?..

На мінулым тыдні патэлефанавалі з Міністэрства культуры — уключылі ў склад журы Нацыянальнай тэатральнай прэміі. У музычным раздзеле. Гэта прыемна! Усе спектаклі бачыла, амаль пра ўсе пісала (акрамя «Рыгалета»).

## Мастацкая рада-2

*5 лістапада, серада*

Рэпетыцыя ў Оперным. Усяго гадзіна, але нам з Марынай яна дадала аптымізму. Харавы клас на 5-м паверсе, знаходзіцца адразу за балетнай залай. У цэнтры вялікі чорны раяль. Вышэй ад яго ідуць прыступкі, на іх крэслы для артыстаў хору. Каб іх усіх бачыў дырыжор або хормайстар.

Вельмі сімпатычны Айбаліт у тэнара Віктара Мендзелева. У яго прыемны і свежы тэмбр голасу. Выканаўца Чычы — артыстка з хору, жвавая, мініяцюрная. Папугай Каруда — тэнар Янаш Нялепа. Бармалей — бас Ілья Пеўзнер, яркі выканаўца невялікіх характарных роляў. Канцэртмайстар Ларыса Церахава і галоўны хормайстар Ніна Лămановіч у добрым настроі.

*13 лістапада,чацвер*

Нарэшце адбылася мастацкая рада. У 14.30. Мы з Марынай прыйшлі загадзя. Верхнюю вопратку знялі ў кабінеце Тэадаровіч.

Уся дзея разгортвалася ў зале Александроўскай. Перад пачаткам падышла Ларыса Церахава. Нумароў рыхтавалі шмат, таму яна забыла парэпеціраваць уверцюру. Таму паказ адбудзецца без першага фрагмента. Шкада! Бо там вельмі выразная музыка. Але цяпер нічога не зменіш.

Мы з Марозавай дужа хваляваліся. Ад таго, ці прагучаць асобныя эпізоды ярка і прывабна, залежыць, што скажа рада. Прыме «Айбліта» да пастаноўкі, або не. Можа здарыцца, што ўся наша праца марная. Але ўсе салісты гралі і спявалі эмацыйна, з відавочным захапленнем! Доктар — Віктар Мендзелеў. Каруда — Янаш Нялепа. Танечка — Алена Таболіч. Бармалей — Ілья Пеўзнер. Слон — Алег Гардынец. Матылёк — Аляксандр Жукаў. Зайчыха — Марына Аксёнцава. Кракадзіліца — Таццяна Кнутовіч. Кракадзіл — Дзмітрый Трафімук.

На жаль, прагучаў толькі адзін інструментальны нумар — «Раніца», з яго лёгкай, светлай і прыгожай мелодыяй. Чамусьці я за яго перажывала, але ўсім «Раніца» спадабалася. Алег Лясун дырыжыраваў спевакамі ў працэсе выканання, потым збег. Відаць, у яго рэпетыцыя ў Акадэміі музыкі.

Хто быў на мастацкай радзе? З балетных — Юрый Траян, Вольга Гайко, Людміла Кудраўцава. Харэограф Аляксандра Ціхамірава. Дырыжор Мікалай

Калядка. У першым шэрагу — мастак Аляксандр Касцючэнка, Уладзімір Рылатка, Уладзімір Грыдзюшка, Ніна Ламановіч, Ніна Шарубіна. За намі з Марынай сядзелі Таццяна Тэадаровіч, Анастасія Масквіна, Міхаіл Панджавідзэ, Уладзімір Пятроў. Удалечыні — Галіна Галкоўская.

Пасля праслухоўвання вакальных фрагментаў першая рэпліка (або заўвага?) аднаго з сяброў рады. Прычым, у наступальнай, калі не сказаць, агрэсіўнай манеры. Накшталт «не хапае рэчытатываў, не хапае кантрастаў». Але мы паказвалі найперш арыі, прычым тут рэчытатывы? Іх проста не паспелі развучыць. І так невядома колькі адкладвалі паказ. Але ўголас пра гэта не скажаш, бо тады выходзіць, што артысты вінаватыя.

Мы з Марынай у лёгкай разгубленасці і шоку. Атрымліваецца, яшчэ ніхто нічога не паспеў сказаць станоўчага, як адразу непрыязнь. Я паспрабавала штосьці сказаць у абарону. Не будзе ж Марына хваліць уласную музыку!

Узнікла цішыня. Напэўна, хтосьці з сяброў рады думаў: а раптам гэта не прыватнае меркаванне, а пэўная рэжысура? Невядома, чым скончыцца, таму лепей не лезці ў абарону. Магчыма, усё вырашана, а вынік («адмовіць!») трэба замацаваць пратаколам.

Пасля Панджавідзэ, вядома, з лепшымі намерамі «дадаў» Марозавай станоўчых эмоцый: «Хочацца, каб у творы былі хіты, каб дзеці выходзілі з залы і іх спявалі. Мне здаецца, яшчэ ёсць час, у партытуры можна сёе-тое перапісаць, перарабіць!»

Тэарэтычна, яно так. Але ў Марозавай, з якой літаральна «выціснулі» ўсе сокі папярэднія бясконцыя пераробкі і змены ў партытуры, амаль слёзы на вачах. Кажа мне ціха-ціха:

— Не трэба нам такога рэжысёра!

— Маўчы! — шэптам кажу ёй. — Супакойся! Мала хто што сказаў!

Думаю, а раптам падымецца і скажа ўголас? Усю песню дзяўчына сапсуе!

Балетныя маўчалі. Прагучалі асобныя рэплікі ў падтрымку оперы, больш добразычлівыя і станоўчыя, — ад Ніны Іосіфаўны Ламановіч, Ніны Шарубінай.

Але заставалася адчуванне: рада вагаецца. Падалося, што няпэўную і не зусім зразумелую сітуацыю выратаваў Грыдзюшка, які досыць рашуча заявіў: «Мы не абмяркоўваем, будзе ці не будзе новы оперны спектакль для дзяцей. Будзе! За тыдзень Ніна Іванаўна (Казлова) і Уладзімір Пятровіч даюць прапановы па творчым складзе, фарміруюць пастановачную групу. Прэм'ера — наступнай вясной.

Панджавідзэ, раздумваючы, з месца: «Гэта малаверагодна!»

— Або восенню… — дадаў Грыдзюшка.

Вось і паспрабуй не выканаць распараджэнне гендырэктара!

Пасля рады «отходняк» у мяне і Марыны доўжыўся дзён пяць, мо і болей.

*20 лістапада, чацвер*

Прайшоў тыдзень пасля рады. Марозава патэлефанавала ў прыёмную Рылаткі. Гадзін у 17 ці 17.30. Сакратарка Алена спалучыла з Уладзімірам Пятровічам. Ён як раз скончыў нараду па «Доктару». Вы запытаецеся: а навошта тэлефанаваць? А калі зноў адклалі, не вырашылі?!

Творчую групу сапраўды сфарміравалі. Музычны кіраўнік і дырыжор Алег Лясун, пастаноўшчык Міхаіл Панджавідзэ, сцэнограф Аляксандр Касцючэнка, мастак па касцюмах Кацярына Булгакава. У сакавіку павінны быць гатовыя эскізы касцюмаў. У маі — сцэнаграфія. У кастрычніку 2015 года,

пры канцы месяца (27 і 28) дзве прэм'еры. На дзіцячых восеньскіх канікулах. Напярэдадні, 26 кастрычніка — здача.

У размове з Рылаткам Марозава прапанавала, каб галоўную партыю доктара выконваў Нялепа. Сам Янаш вельмі гэтага жадаў. Твор новы, беларускі. Таму выканаўца галоўнай партыі заўжды адчувае сябе першапраходцам. Уладзімір Пятровіч пагадзіўся.

Няўжо рашэнне наконт пастановачнай групы прынята?! Цяпер дыхаць зрабілася лягчэй. «Не пропадет ваш скорбный труд!» На даляглядзе ўзнікла вельмі прывабная перспектыва.

Цікава, што каманда пастаноўшчыкаў была вызначана ў лістападзе 2014-га, а афіцыйны загад пра гэта выйшаў праз некалькі месяцаў, на пачатку 2015-га. Хто ведае, мо на кіраўніцтва тэатра нейкім чынам паўплывалі раўнівыя калегі кампазітаркі? Але пакуль загаду няма, няма канчатковай упэўненасці. А раптам перадумаюць?!

*6 снежня, субота*

Сустрэча ў тэатры — Марына, я і дырыжор Алег Лясун. Адшукала я ў знаёмых нетбук, Марына прынесла з дому флэшку з музыкай оперы. Слухалі 1-ю дзею і пажаданні Лесуна.

Эскізны партрэт дырыжора. Алег Уладзіміравіч, калі карыстацца тэрмінамі псіхалогіі, тыповы флегматык. На дзіва спакойны і ўраўнаважаны. За ўвесь час супрацоўніцтва голас ніколі не павысіў. Вочы вялікія, вейкі пушыстыя, такім нават дзяўчаты пазайздросцяць.

Лясун заўважыў: арыя Доктара павінна быць больш працяглай і мець больш запамінальную мелодыю. Удакладнялі дыяпазоны галасоў у спевакоў. Харавыя сцэны не краналі.

Смешна, але магчыма давядзецца вяртаць тое, што Ламановіч прасіла Марыну змяніць. У кожнага з іх, дырыжора і хормайстра, свой ракурс успрымання музычнага матэрыялу. Дырыжор параіў мне дадаць перад некаторымі сцэнамі рэплікі персанажаў.

Калі з Марынай выходзілі з тэатра, у той вечар ішоў балет «Дон Кіхот». Па калідорах за кулісамі хадзілі балерыны, не занятыя на сцэне. У касцюмах сваіх гераінь і грыме. Яркі макіяж, выразныя вочы, фігуры мініяцюрныя і прыгожыя — аж да немагчымасці!

*7 снежня, нядзеля*

Паднялася ў сем раніцы, хоць вочы закрываліся. Каб перачытаць некаторыя тэксты Чукоўскага. І ведаць, што і куды дадаваць. У 8.30 знайшла. Дадала, потым пайшла спаць.

Зноў-такі смешна! Тое, што Лясун прасіў у лібрэта дадаць, Панджавідзэ потым рашуча загадаў выкрасліць: маўляў, яму не патрэбны зінгшпіль! (гэта значыць, опера з гутарковымі дыялогамі).

*25 снежня, чацвер*

Каталіцкае Раство. Пішу сабе пажаданні на наступны год. Ці не самае галоўнае — удалая пастаноўка «Доктара» восенню 2015 года. Хацелася б яшчэ паказаць новы спектакль на Оперным форуме. Няхай і не ў праграме. Але туды цяжка трапіць. Скажу загадзя: ідэя з форумам не «прайшла».

*28 снежня, нядзеля*

Шмат гадоў таму, калі я працавала ў штотыднёвіку «ЛіМ», супрацоўнік выдання, паэт Мікола Мятліцкі, надрукаваў на яго старонках рэпартаж. Пасля

гасцявання ў Вольгі Корбут і Леаніда Барткевіча. У рэпартажы меўся сказ: «Я еў суп, згатаваны алімпійскай чэмпіёнкай». Згадала яго, калі прыйшла ў госці да Марыны. А я ела на дзіва смачны яблычны пірог, згатаваны аўтарам оперы «Доктар Айбаліт». Размовы, устаўкі і праўкі ў лібрэта. Рабілі вечарам на кухні. Як мне, дык цемнавата, бо адна лямпачка, а Марыне нармальна.

## Адступленне шостае. Хто і што каму хацеў даказаць?

Калі аўтар распачынае новы твор для тэатра, ён працуе не толькі для патэнцыйнай публікі. Але амаль заўсёды вырашае ўласныя псіхалагічныя і прафесійныя праблемы. Штосьці імкнецца даказаць — і сабе, і іншым.

Чым менавіта камедыйны жанр быў прывабны і жаданы для Марыны і для мяне? Да таго часу мы абедзве паспелі напісаць шмат твораў, дзе дамінавала інтанацыя нават не лірычная, а драматычная. Салісткі, якія ахвотна спявалі нашы опусы, часам казалі мне ці кампазітарцы:

— А няма ў вас чаго-небудзь весялейшага?

Таксама падказка! Падчас працы над «Доктарам» мы імкнуліся пераключыцца. Каб адчуваць радасць жыцця, яго зіхатлівую прывабнасць. А не толькі трагедыі, драмы, несупадзенні.

Гэта адзін аспект. Другі ў тым, што пісьменнік працуе над новым творам незалежна ад калег. Калі працэс творчасці індывідуальны, дык значнасць новага сачынення залежыць найперш ад яго самога. Выдавецтваў, дзяржаўных і прыватных, цяпер шмат, калі не ў адным, дык у іншым надрукуеш свой раман ці аповесць.

Кампазітару патрэбен выканаўца, каб грамадства і ён сам пачулі і ўбачылі, што атрымалася. Патрэбен спявак ці ансамбль інструменталістаў. Аўтар мысліць з размахам, — тады неабходны аркестр ці сцэна тэатра. Але ў тым і праблема, што аркестраў у нас няшмат. А музычных тэатраў толькі два, ды ў іх значную частку афішы займае класіка, руская і заходнееўрапейская, на якую з радасцю ходзіць публіка.

Айчынных аўтараў на нашых музычных сцэнах зашмат ніколі не было. Чаму? Тэма вартая доўгай размовы. А калі сцісла, дык уплывае нігілістычнае стаўленне грамадства да свайго, нацыянальнага. Невялікая колькасць кампазітараў, які маюць імпэт працаваць над маштабнымі сачыненнямі. І нарэшце, розны ўзровень твораў, якія аўтары прапаноўваюць тэатрам.

Ва ўмовах, калі «прабіцца» на галоўную музычную сцэну краіны цяжка, а часам немагчыма, той, хто ўсё-такі туды трапіў, у вачах шырокай грамадскасці — герой. У калег падобны факт нараджае самыя розныя пачуцці, у тым ліку рэўнасці і раздражнення. Таму хтосьці Марозаву шчыра віншаваў, хтосьці рабіў выгляд, што пра такую падзею нават і не чуў, а штосьці настойліва шукаў хібы, якіх і не мелася. Не самыя гарманічныя стасункі ўнутры прафесійнай суполкі лепш за ўсіх сфармуляваў Ігар Лучанок, старшыня Саюза кампазітараў, у дадатак у афарыстычнай форме: «Кампазітар кампазітару не сябра, не таварыш і не брат».

У падобных сітуацыях усведамляеш, што натуральная творчая рэўнасць нараджаецца і ад таго, што ў сталіцы, амаль двухмільённым горадзе, існуе мала музычна-тэатральных пляцовак. За межамі Опернага няма эксперыментальнай сцэны, дзе маглі б быць увасоблены партытуры, якія напісаны і гадамі ляжаць у шуфлядах пісьмовых сталоў розных аўтараў, чакаючы зорнага часу. Толькі ці дачакаюцца — пытанне рытарычнае.

Перад прэм'ерай, калі Марозава адчувала сябе неверагодна стомленай, я імкнулася падбадзёрыць яе і такімі аргументамі:

— Марына, з беларускіх аўтараў на сцэне Опернага ў апошнія гады былі пастаўлены творы Дзмітрыя Смольскага, Сяргея Картэса, Яўгена Глебава, Вячаслава Кузняцова. Заўваж, жанчын у тым спісе няма. У дадатак на афішы тэатра тваё прозвішча стаіць паміж Вэрдзі і Чайкоўскім. Гэта не проста крута, а вельмі крута!

Што і каму імкнулася даказаць я падчас працы над «Айбалітам»? Пра балетныя лібрэта, не ўвасобленыя ў музыцы, згадвала раней. У розны час напісала некалькі п'ес для тэатра драматычнага. Прычым, і для дзяцей, і для дарослых. Іх з ахвотай друкавалі, адна з п'ес мела заахвочвальную прэмію рэспубліканскага конкурсу. Але зноў-такі да сцэны яны не дайшлі.

Паспяховым аказаўся сцэнарый невялікага дакументальнага фільма, прысвечанага Чарнобылю і пераадольванню яго наступстваў. Стужка ўвайшла ў лік пяці пераможцаў Міжнароднага конкурсу фільмаў-казак «Раскажы мне, воблака», старшынёй журы якога з'яўляўся славуты французскі рэжысёр Ален Флешар.

Удалым аказалася і супрацоўніцтва з кампазітарамі Алінай Безенсон і Аленай Атрашкевіч. У выніку яго нарадзіліся пяць разгорнутых музычных сцэн, якія выконвалі хор і салісты. Тыя сцэны, маштабныя па музыцы і выкананні, па сутнасці нагадвалі фрагменты з оперы. Яны былі паказаны ў вялікай зале філармоніі, але падобныя прэзентацыі здараюцца рэдка. Таму, працуючы над «Айбалітам», імкнулася пераканаць сябе і іншых, што драматургічныя здольнасці, большыя ці меншыя, у мяне ўсё-такі ёсць.

## 2015 год

*5 сакавіка*

У тэатры новая сустрэча. Лясун, Ламановіч, Марына, я. Планавалася, што будзе і рэжысёр. Ён спазніўся хвілін на 20—30. Ламановіч вельмі незадаволена. А ў яго малая дачка, не было з кім пакінуць. Таксама прычына!

Мы з Марынай прыйшлі загадзя. Яе літаральна агаломшылі. Будучымі пераробкамі клавіра і партытуры. Я і Ніна Іванаўна Казлова ўсяляк кампазітарку суцяшалі. Цяпер сутнасць таго, што хоча Панджавідзэ. Доктар цяпер будзе барытонам, а не тэнарам. Меркаваныя выканаўцы — Андрэй Марозаў, Сяргей Лазарэвіч, Аляксандр Краснадубскі. А Бармалей, напісаны як бас, зробіцца тэнарам.

Калі мы з Марынай вырашалі, якія галасы аддаць якому персанажу, дык сыходзілі з таго, што павінен адчувацца кантраст. Доктар Айбаліт у нас немалады, як і ў Чукоўскага. Самаахвярны, гатовы імчаць на дапамогу кожнаму, хто мае патрэбу. Ён у нечым смешны, безабаронны, але высакародны. Таму — тэнар. А Бармалей — грозны, разбойнік, бярэ ў палон маленькіх дзяцей. Таму бас, з нізкім і грозным голасам.

Чаму Бармалей у рэжысёра зрабіўся тэнарам? У адпаведнасці з новай канцэпцыяй, ён не брутальны і не грозны. У выніку атрымаўся невысокага росту, кучаравым, з чорным колерам скуры. Так бы мовіць, афрыканскі хуліган, які робіць з сябе мясцовага Напалеона. Ягоная ахова ўзмацнілася, іх цяпер чацвёра замест двух.

У Панджавідзэ таксама ёсць кантраст, паміж барытонам і тэнарам. Плюс яго канцэпцыі ў тым, што ў кожнай трупе барытонаў заўжды болей, чым тэна-

раў. На пяшчотных галасах тэнараў трымаецца класічны рэпертуар, часцей яны — героі-каханкі. Барытон — звычайна герой, больш мужны і ўпэўнены ў сабе.

Але што рабіць Марыне?! Трэба мяняць тэсітуры партый галоўных антаганістаў. Але іх немагчыма перайначыць, не змяніўшы нічога ў аркестроўцы. Ды толькі партытура набраная! Перамены ў вакальных партыях павядуць за сабой змены ў аркестроўцы. У стрэсавай сітуацыі Марозава паказала сябе сапраўды віртуозам. Бо здолела змяніць тэсітуры вядучых герояў, амаль нічога не змяніўшы ў аркестравых партыях.

Калі пазней распавядала знаёмым музыказнаўцам пра сітуацыю, яны хапаліся за галовы. І казалі здзіўлена ці абурана: «Значыць, рэжысёру ўсё можна? Чаму няма ніякай павагі да музычнага тэксту і працы кампазітара?» Але калі маеш надта вялікі гонар, будзеш сядзець дома разам са сваёй геніяльнай партытурай.

І ўсё-такі рэжысёр павінен з'яўляцца ў спектаклі непараўнальна раней. Лепей, калі на стадыі задумы. Каб сказаць: «У гэтым месцы мне патрэбна арыя, тут — дуэт, а тут — хор!» А то будынак гатовы, а пастаноўшчык прыходзіць і кажа: «Будзем фасад мяняць!»

Парадокс у тым, што вакальныя фрагменты партыі доктара Марозава з самага пачатку пісала па сутнасці для барытона. Але ў гэтай партыі мы бачылі менавіта тэнара (Януша Нялепу, Аляксандра Жукава). Доўга і пакутліва Марозава разам з Ламановіч і Лесуном «узнімала» тэсітуру, а цяпер усё трэба апускаць! Ёлкі-палкі!

Напэўна, у Марыны сталёвыя нервы і жалезнае цярпенне. Я б так не змагла. Але Марозавай кіруе і азарт. Вы ў мяне не верылі?! А я дакажу, што і з гэтай задачай спраўлюся! Ад пераробак, якія трэба зрабіць Марыне, у мяне дах бы «паехаў». А яна малайчына! Хуткая, энергічная.

Цікава, якім атрымаецца сцэнаграфічнае рашэнне? У Панджавідзэ фантазія працуе — будзь здароў! «Дзяўчаткі, усё будзе добра, — раз-пораз суцяшае нас Ніна Іванаўна Казлова. — Мы так смяяліся, калі Міша расказваў, як і што атрымаецца ў спектаклі! У нумары «Ехалі мядзведзі» хор спявае і круціцца на каруселях». Ага! Значыць, у «Доктары» выкарыстоўвацца паваротнае кола. Хто куды едзе — гэта розны транспарт у дзіцячым парку. Малым — якраз цікава.

*12 мая, аўторак*

Толькі ўчора вярнулася з кароткага адпачынку і падарожжа. Перад вачыма яшчэ краявіды Стакгольма.

У тэатры ў кабінеце Аляксандра Касцючэнкі, галоўнага мастака тэатра, разам з Марынай глядзелі сёння макет сцэнаграфіі «Айбаліта». Яна — другі раз, я — першы. Аляксандр Аляксандравіч, відаць, адзіны чалавек з усёй пастановачнай групы, які не патрабаваў ад нас з Марынай ніякіх пераробак. Проста зрабіў уласную працу і паказаў вынік. У сцэнаграфіі радасна пабачыць і ўласную ідэю, увасобленую ў рэальнасць: на сцэне кабінета Айбаліта — табліца для праверкі зроку. Як у акуліста.

Калі ўзнімаецца заслона, глядач убачыць вялізнае пано. На ім карта зямнога шара і надпісы на розных мовах: «Sos! Ратуйце!», «Доктар Айбаліт, дапамажыце!» Галоўны элемент сцэнаграфіі — карабель. Адначасова гэта і клініка Айбаліта. У другой палове оперы карабель павернецца і будзе прытулкам Бармалея і яго каманды. Першая дзея вытрымана ў блакітна-бірузовых колерах, другая, афрыканская, — у аранжава-залацістых. Эскізы касцюмаў, зробленыя

Кацярынай Булгакавай і Марыяй Мароз, яркія і сапраўды казачныя. Макет і эскізы робяць моцнае ўражанне. Нават не верыцца, што спектакль пачынае жыць сам па сабе, незалежна ад нас і набываць візуальнае аблічча. У той жа дзень здымалі з рэжысёрам пытанні па 1-й дзеі лібрэта.

*13 мая, серада*

Назаўтра, ізноў сустрэча з пастаноўшчыкам. Інтэр'ер той самы, майстэрня Касцючэнкі. Яна знаходзіцца на апошнім паверсе тэатра. Вокны вузкія, высозныя, аж пад самую столь. Адсюль адкрываецца цудоўная панарама цэнтра Мінска. Абмяркоўвалі пытанні Панджавідзэ па 2-й дзеі і перастаноўку эпізодаў. Рэжысёр прасіў у жніўні быць на месцы і нічога на гэты перыяд не планаваць. Мы можам спатрэбіцца падчас рэпетыцый.

Вечарам Палац культуры чыгуначнікаў. Канцэрт ансамбля Гуткоўскай.

*14 мая, чацвер*

Раніцой дома рабіла тэрміновы перамантаж структуры лібрэта. Каб аддаць Марыне, рэжысёру і ў нотны аддзел. Добра, што прынтар працуе!

Але ўслед за лібрэта гэты перамантаж трэба зрабіць у клавіры і ў партытуры. Эла Уладзіміраўна, загадчык нотнага аддзела, у адчаі, разгубленасці і поўным шоку. Яна адказвае за тэрміны і тое, каб ва ўсіх аркестрантаў былі ноты. Да сённяшняга дня Эла Уладзіміраўна была ўпэўнена, што з «Доктарам» усё ў парадку, і аддзел можа займацца музычным матэрыялам для наступных прэм'ер.

Цяпер высвятляецца, што Кірыл, сын Марыны, які рабіў набор нот, павінен неверагодна хутка ўнесці змены ў файлы партытуры. А партыі ўсіх інструментаў аркестра давядзецца раздрукоўваць па-новай. Эла Уладзіміраўна не разумее, нашто трэба было ўсё мяняць! Але хіба ў тым вінаватая кампазітарка?!

Панджавідзэ:

— А нашто было так рана друкаваць клавіры? Дый яшчэ рабіць пераплёт?! Не трэба спяшацца!

У рэшце рэшт Эла Уладзіміраўна выправілася да Рылаткі, ён даў каманду, каб клавіры аддрукавалі па-новай. У выніку нотны аддзел паспакайнеў.

*21 мая, чацвер*

Увесь час тузаюць з «Доктарам». Раблю папраўкі ў лібрэта. У пятніцу павінна быць сустрэча з пастановачнай групай. «Доктар» пачынае выклікаць пераважна нянавісць і раздражненне. Марына з Кірылам за 2-3 ночы выправілі ўсю партытуру. Пераставілі сцэны і нумарацыю. На гэтым тыдні за некалькі дзён (дакладней, начэй) зрабілі тое самае з клавірам. Яна «выціснутая» і нервовая, я — таксама. Пачынаю марыць пра тое, каб рэжысёр з'ехаў у адпачынак і ніхто больш не прымушаў нас пакутаваць.

## Адступленне сёмае. Згадка пра Булгакава

У працэсе доўгай, чатырохгадовай эпапеі, звязанай з «Айбалітам», неаднойчы ўспаміналa булгакаўскі «Тэатральны раман (Нататкі нябожчыка)» і яго галоўнага героя, драматурга Максудава. Як вядома, у тым вобразе было шмат ад лёсу самога пісьменніка, аўтара рамана «Белая гвардыя». А ў гісторыі пастаноўкі драмы «Чорны снег» маскоўскім Незалежным тэатрам празрыста

праглядае гісторыя пакутлівых рэпетыцый і ўвасаблення п’есы «Дні Турбіных» у МХАТе.

«Тэатральны раман» варта чытаць кожнаму, хто піша п’есы і хоча супрацоўнічаць хоць з якім сталічным ці правінцыйным сцэнічным калектывам. Закулісе першага тэатра СССР пададзена пераканаўча і з’едліва, вострым пяром назіральнага пісьменніка. Вобразы заснавальнікаў МТАХа, Станіслаўскага і Неміровіча-Данчанкі пазнавальныя (хоць даюцца пад іншымі імёнамі), абмаляваныя пераканаўча і часцей сатырычным фарбамі. Дарэчы, у інтэрнэце можна адшукаць доўгі спіс, складзены Аленай Сяргееўнай Шылоўскай-Булгакавай і яе сынам Сяргеем, хто з рэальных літаратурных і тэатральных дзеячаў схаваны пад якімі прозвішчамі ў булгакаўскім творы. Апалагетыкі там і заваду няма! Карціна ўзноўлена драматургам, які ведаў сабе цану. Вядома, яго раздражняла недарэчнасць патрабаванняў да п’есы, абсурднасць бясконцых пераробак. Адсюль і ўзнікла карыкатурнасць персанажаў закулісся. У дадатак Булгакаў напісаў «Тэатральны раман» тады, калі канчаткова развітаўся з МХАТам і ведаў, што болей туды не вернецца.

Так, у 30-я гады мінулага стагоддзя славутая трупа перажывала не лепшы перыяд свайго жыцця. Вядомы расійскі крытык Павел Маркаў, у той час загадчык літаратурай часткі МХАТа (і адзін з герояў твора), пазней сцвярджаў, што ў рамане адлюстраваны недахопы ўсіх тэатраў.

Чаму згадваю Булгакава? Эпапея з «Доктарам» (мая і Марыны), вядома, магла быць адлюстравана сатырычным пяром. Асабліва ў пытаннях арганізацыйных і юрыдычных. Але, думаю, у аўтара гэтых радкоў не хапае з’едлівасці. У дадатак прастора нашага музычнага мастацтва такая малая, што ўсе ўсіх пазн**а**юць, як ні хавайся за прыдуманыя прозвішчы.

*26 чэрвеня, пятніца*

Тэлефанавала Тэадаровіч. Па тэатральна-крытычных справах. Потым дадала: «Таццяна Міхайлаўна, з усіх адчыненых вокнаў чуецца ваш «Доктар». Хор вучыць, салісты вучаць...» Пераказала Марыне, яна з радасным смехам: «Не веру!»

Спявачка Алена Сіняўская выклала ў фэйсбуку здымак. Яна ў касцюме Чаплі — белая балетная пачка і яркае трыко, чырвоныя і белыя палоскі. Прыпіска: «Спецыяльна для Міхаіла Аляксандравіча Панджавідзэ». Карцінка ўразіла і ўзрадавала, бо сведчыла: задуманае мастакамі паступова матэрыялізуецца.

Марына тэлефанавала сцэнографу, Аляксандру Касцючэнку. Той: «Не хвалюйцеся, Панджавідзэ захоплены! Усё атрымаецца добра!» Наш рэжысёр павінен быў учора прыехаць на адзін дзень у Нясвіж. Каб свой спектакль «Паяцы» прыстасаваць не да тэатральнай, а нязвыклай сцэнічнай пляцоўкі, унутранага дворыка Нясвіжскага палаца. А потым зноў паляціць у Самару. Там 30 чэрвеня і 3 ліпеня прэм’ера оперы «Пікавая дама» ў яго пастаноўцы.

*28 чэрвеня, нядзеля*

У мінулую нядзелю хадзіла на спектакль «Рамэа і Джульета» Пецярбургскага тэатра Леаніда Якабсона. Потым было заключнае гала фестывалю «Балетнае лета ў Вялікім». У антракце пагаварылі з Іванам Ждановічам, ён працуе журналістам у часопісе «Беларусь». Ведаю яго даўно, віншаваў з будучым «Доктарам». Не паспела распытаць, дзе даведаўся. Думаю, гендырэктар даваў інтэрв’ю яго выданню і распавёў пра планы тэатра.

*13 ліпеня, панядзелак*

Марына паехала адпачываць, разам з сынам Арцёмам. Спачатку ў Маскву, потым да сваёй цёткі на Волгу. Будзе там да пачатку жніўня.

## Самы гарачы час

*17 жніўня, панядзелак*

На сцэне пачаліся рэпетыцыі «Доктара». Мы з Марынай сядзім у зале. Слухаем ва ўсе вушы, глядзім ва ўсе вочы. Надзвычай цікава! На сцэне змантіраваныя дэкарацыі. Клініка Айбаліта, яна ж — карабель. Многія артысты ўжо апранутыя ў сцэнічныя касцюмы. Ад рэпетыцыі да рэпетыцыі дадаюцца нейкія дэталі іх аблічча. Мастачка Кацярына Булгакава ходзіць то з эскізамі ў руках, то з дэталямі адзення.

Рэжысёр у прыцемненым зале, ягоны стол у праходзе паміж 7 і 8 радамі партэра. Без мікрафона яму ніяк не абысціся.

Рэпеціруюць першыя сцэны, у іх заняты Доктар (Андрэй Марозаў), Таня (Алена Таболіч) і Ваня (Аляксандр Гелах). Унукі воляй рэжысёра ператварыліся ў валанцёраў. Вядома, гэта больш сучасна! Разам з Чычы (Ірына Кучынская) і папугаем Каруда (Аляксандр Міхнюк) валанцёры ўтварылі чацвёрку памочнікаў Айбаліта. У лібрэта ў Бармалея былі два ахоўнікі. Службу бяспекі ўзмацнілі, іх цяпер чацвёра. Атрымалася люстэркавая сітуацыя, так бы мовіць, раўнавага добрых і злых герояў.

Дзіўлюся, як часта Панджавідзэ спыняе артыстаў. Разбор сітуацыі часта ідзе літаральна па адным музычным сказе. Вакол адной і той жа мізансцэны:

— Не, стоп! Не дакладна!

— Ты павінен на сваім сказе стаяць на вось гэтым месцы!

Зноў пачынаюць, зноў перапыняе.

— У кожнага з вас павінна быць свая траекторыя, іначай будзеце на сцэне сутыкацца! Увогуле, хутчэй бегаць трэба...

Уражанне, што пасля шостага-восьмага-дзясятага паўтору артысты ўзмыленыя. А калі бегаюць, ім яшчэ трэба і спяваць! Здагадваюся, чаму ўсё рэпеціруецца так падрабязна і дэталёва.

У першай дзеі перад гледачом праходзіць чарада пацыентаў Доктара — Слон, Чаплі, Матылёк, Зайчыха, сям’я Кракадзіла. Так, дзея ў выніку атрымліваецца вясёлая і жыццярадасная. А каб увесь час адчувалася дынаміка, рэжысёр і артысты прыкладаюць шмат намаганняў. Тэмп нараджаецца ад дэталёва вывераных мізансцэн. Калі кожны ведае, дзе стаяць, куды бегчы, дзе ён знаходзіцца ў якую хвіліну музыкі.

*18 жніўня, аўторак*

Рылатка трапна заўважыў:

— У Міхаіла Аляксандравіча імправізацыйны метад стварэння спектакля. Ён прыходзіць на рэпетыцыю, бачыць артыстаў, іх настрой, касцюмы. І сачыняе мізансцэны на хаду...

Падчас рэпетыцый. Панджавідзэ — мне:

— Калі пішаце лібрэта — думайце, як увасобіць напісанае на сцэне!

«Ага! — думаю пра сябе. — Я павінна думаць, каб кампазітар захацела. Каб артыстам зручна спяваць. І каб рэжысёр мог увасобіць».

Але па вялікім рахунку Панджавідзэ мае рацыю.

— Слон спявае пра свайго сына: «Он у меня еще маленький!» — доўжыць ён. — Дзе я вам яшчэ Сланёнка вазьму?! Гэта дадатковы персанаж! Як яго паказаць?!

Вырашылі, што сказ «Он у меня еще маленький!» проста выкраслім.

Увогуле рэпетыцыі ідуць весела і нязмушана. Падобна, у ДНК самога Панджавідзэ ёсць асобны, камедыйны ген. Калі робіць паўзу або штосьці тлумачыць выканаўцам, абавязкова згадвае свежы або даўні тэатральны анекдот. Рогат на сцэне ці ў зале яшчэ мацнейшы, калі дыялог узнаўляецца ў асобах, з рознай інтанацыяй.

У «Доктары» асобныя эпізоды ўспрымаюцца як акцёрскі «капуснік», жывы і дасціпны. Напрыклад, сцэна з Матыльком (Аляксандр Жукаў). Так, ён — герой казкі Чукоўскага, які сапраўды абпаліў сваё крылца. Але і сучасны рок-музыкант з гітарай. У дадатак добры выпівоха, які сутаргава шукае моцную настойку ў шафе Айбаліта. Юны глядач заўважыць адно, дарослы — іншае.

Гамерычна смешнай атрымалася сцэна з Зайчыхай (Марына Аксёнцава), услед за якой крочыць «вывадак» зайчанят рознага росту і ўзросту. Бо яна — шматдзетная маці. У прыцемненым партэры можна заўважыць шмат выканаўцаў, не занятых у пастаноўцы. Усім цікава, што ж у выніку атрымаецца? Працэс «збірання» спектакля — ці не самы захапляльны.

У працэсе рэпетыцый здаралася шмат нечаканага. Званок ад Ларысы Церахавай у 12 гадзін дня.

— Таццяна, Міхаіл Аляксандравіч хацеў, каб сёння да вячэрняй рэпетыцыі вы дапісалі некалькі строф. Для дуэта Танечкі і Ванечкі. Ім няма дзе разьвярнуцца на тым тэксце, які ёсць. І трэба дадаць 3-4 страфы там, дзе спявае ахова Бармалея. У іх таксама тэксту не хапае...

Трэба — значыць, трэба. Нікога не цікавіць, ці зручна, ці атрымаецца? Часу неверагодна мала, новы тэкст артысты будуць развучваць сёння. Такая суровая вытворчая неабходнасць. Адклала ўсе справы, узялася дапісваць. Менавіта ў тым памеры, якім напісаны верш у Чукоўскага. Прынесла на рэпетыцыю, што пачыналася ў 18.00, аркушы з дадатковым тэкстам. Дзякуй богу, з музыкай усё супала. «Села». Некалькі радкоў дадаў сам рэжысёр.

Засваенню вобразаў дапамагаў немалы артыстычны вопыт кожнага з выканаўцаў. Але і тое, што з многімі я і Марына знаёмыя шмат гадоў. Андрэй Марозаў, аднафамілец кампазітаркі і выканаўца партыі Доктара, выдатны інтэрпрэтатар многіх камедыйных роляў. Некалькі сезонаў таму бачыла яго ў партыі Фігара ў «Севільскім цырульніку». Алена Таболіч (Танечка), Алена Сіняўская (1-я Чапля), Аляксандр Жукаў (Матылёк) удзельнічалі ў праектах, якія мы ладзілі ў філармоніі разам з беларускімі кампазітарамі. Ірына Кучынская (Чычы) і Аляксандр Гелах (Ванечка) яшчэ нядаўна з'яўляліся салістамі Музычнага тэатра. Выконвалі ролі, якія пяе так званая «каскадная пара». Але ў пэўны момант здолелі рашуча змяніць калектыў, а разам з ім і рэпертуар. Бо былі прынятыя ў стажорскую групу Опернага, а цяпер усё часцей выконваюць на яго сцэне значныя партыі.

Здараецца, рэпетыцыі на сцэне ідуць у суправаджэнні аркестра, а часам і пад фартэпіяна. Дырыжор Алег Лясун стаіць за пультам, але аркестра ў яміне няма. Там за фартэпіяна сядзіць Ларыса Церахава, адказны канцэртмайстар. Стасункі яе і кампазітара з самага пачатку складваліся не надта проста. «Я не зразумела, што ў вас у гэтым такце!» — у інтанацыі Ларысы можна было пачуць і незадаволенасць. Цалкам зразумелая рэакцыя. Бо новы твор і нязвыклая музычная мова могуць і раздражняць. Верагодна, і ў Марыны

не хапала вопыту напісання складаных вакальных ансамбляў. Але паступова інтанацыі Ларысы пачалі цяплець. Магчыма таму, што прыгажосць і арыгінальнасць музыкі ў вакальных і інструментальных фрагментах рабілася больш відавочнай. З новым спектаклем, які нараджаецца тут і цяпер, усе маюць столькі клопатаў, што «Доктар» зрабіўся амаль родным. Бліжэй да прэм'еры ўсе пачуваліся аднадумцамі і сябрамі. Бо ў складаных умовах трэба было выжыць.

*20 жніўня, чацвер*

У пастаноўшчыка шмат самых неверагодных ідэй. Ён прапаноўваў нават размясціць аркестр не на сваім звыклым месцы, у яміне, а ў глыбіні сцэны, за празрыстай заслонай, каб спевакі апынуліся бліжэй да гледача. Але потым ад такой рэвалюцыйнай ідэі адмовіўся.

Марына перажывае, што аркестр далёка не ідэальна ўзнаўляе яе партытуру, якой аддадзена столькі часу і сіл. Так атрымліваецца па некалькі прычынах. Як у ранішнім спектаклі не будуць займаць самых славутых спявакоў, так і аркестр для «Доктара» складзены з музыкантаў маладых, якія нядаўна прыйшлі ў тэатр. Яшчэ адна прычына. Зранку рэпеціруе адзін склад. З ім дырыжор удакладніў усё — штрыхі, дэталі, тэмпы. А назаўтра на рэпетыцыю прыходзіць склад іншы, з якім дырыжор увогуле не працаваў. «Уражанне, што гэтыя ноты і штрыхі яны бачаць упершыню!» — з адчаем кажа кампазітар.

## Адступленне восьмае. Пра музыку «Айбаліта»

На прынцыповае рашэнне (спачатку тэатра, а потым рэжысёра) увасобіць партытуру Марозавай, бясспрэчна, паўплывалі якасці гэтай музыкі. Хоць Марына да таго часу напісала не адну сімфонію, шэраг канцэртаў для розных інструментаў з аркестрам, шмат камернай (вакальнай і інструментальнай) музыкі, у «Айбаліце» яна шмат у чым пераўзышла сябе ранейшую. Вялікія формы патрабуюць і адпаведных намаганняў. Фізічных сіл, цярплівасці, каб вытрымаць да канца падобны марафон. Патрабуюць і мастацкіх высілкаў: здольнасці мысліць маштабна, быць разнастайным. Гэтая якасць асабліва каштоўная, калі размова пра твор, адрасаваны дзецям.

Музыка «Айбаліта» багатая самымі разнастайнымі інтанацыямі. Гарэзна-імклівымі, як ва ўверцюры. Пранікнёна-лірычнымі, як у нумары «Раніца». Напружана-драматычнымі падчас небяспечнага падарожжа ў фінале 1-й дзеі. Але больш за ўсё ў гукавой тканіне оперы фарбаў і настрояў камедыйных. Прычым, ва ўсім спектры — ад мяккага гумару да іранічных і саркастычных фарбаў. Няпроста знайсці для кожнага персанажа трапны і віртуозна-дакладны гукавы вобраз, асабліва, калі гэта птушка ці звер. Адшукаць непаўторную і выразную музычную характарыстыку. Напрыклад, імклівая Чычы прамаўляе і пяе хутка-хутка, а побач з ёй — па кантрасце — цяжкі, непад'ёмны Слон.

Многія выдатныя якасці партытуры адзначыла потым у рэцэнзіі музыказнаўца Вера Гудзей-Каштальян. «Пісаўшы музыку «Доктара Айбаліта», М. Марозава, здаецца, адштурхоўвалася ад прынцыпаў рыфмавання вершаваных казак К.Чукоўскага. Яны напісаны незвычайнай, так бы мовіць, свавольнай і зменлівай рыфмай. Адсюль адчуванне своеасаблівай рытмічнай пульсацыі, пастаянная змена рытму. Да таго ж пісьменнік лічыў, што пры стварэнні вершаў для дзяцей, трэба мысліць малюнкамі і адчуваць музыку ў кожным радку.

Магчыма таму кампазітар размаўляе са сваімі слухачамі вельмі няпростай мовай, у якой пануюць зменлівасць мелодыкі, гарманічныя пераходы і пераключэнні, ладавыя пераафарбоўванні, раптоўныя мадуляцыі, адпаведны рытмічны рэльеф.

Але ж у музыцы оперы перададзена цэлая гама пачуццяў і настрояў: святочных і радасных, светлых і паэтычных, трывожных і драматычных, якія характарызуюць тую ці іншую сітуацыю, таго ці іншага персанажа. А развіты лірычны пачатак прыўносіць шмат пяшчоты і грацыі, мяккага гумару, што знаходзіць адпаведны эмацыянальны водгук у дзіцячым успрыманні».

Але да прэм'еры пакуль далёка, таму вярнуся ў рэпетыцыйную залу.

*25 жніўня, аўторак*

Смяяліся-смяяліся мы з Марынай на прагонах. Радаваліся жыццю і будучай прэм'еры. Але ў пэўны момант смех быў гатовы ператварыцца ў скруху і слёзы.

Чаму? Нават невялікія змены ў сюжэце вядуць за сабой шэраг іншых. Паколькі рэжысёр вырашыў, што Бармалея ніхто з'ядаць не будзе (як у казцы Чукоўскага), ён павінен выправіцца, дык Кракадзіл у якасці ратавальніка аказаўся не патрэбны. Таму зрабіўся адным з пацыентаў Айбаліта. У выніку разгорнутая і каларытная сцэна з сямействам кракадзілаў натуральна пераехала ў першую дзею. Хоць ад пачатку мыслілася на пачатку другой. Здарылася яшчэ некалькі пераносаў, здавалася б, не надта істотных.

У выніку ў другой дзеі нечакана з'явіліся «дзіркі», пустыя мясціны, якія не вядома чым запоўніць. Прычым усе, а найперш рэжысёр, зразумелі гэта тады, калі была скончана праца над першай паловай «Доктара». Яна заняла больш часу, чым меркавалася спачатку. Нездарма Міхаіл Аляксандравіч нерваваўся і ледзь не крычаў: «Калі вы мяне будзе вучыць, дык магу 1-ю дзею паказаць — і ўсё! А далей рабіце самі, што заўгодна!»

Драматызм сітуацыі ў тым, што да аб'яўленай прэм'еры застаўся месяц. Ёсць прычына схапіцца за галаву. Усім! А Марыне — найперш. Бо ёй трэба тэрмінова садзіцца і пісаць музыку. Дзе ўзяць яшчэ пяць нумароў для другой дзеі?!

Крыху суцяшала, што будучыя фрагменты мусілі быць не спеўнымі, а танцавальнымі. Пра харэографаў, дарэчы, ад пачатку чамусьці забылі. Успомнілі запознена, калі выявіліся «дзіркі» ў музычнай структуры. Забягаючы наперад, скажу, што Канстанцін Кузняцоў і Юлія Дзятко, вядомыя салісты, а ў апошнія сезоны часцей балетмайстры, шмат у чым выратавалі сітуацыю. Бо прыдумалі, а потым і развучылі з удзельнікамі «Айбаліта» харэаграфію простую, лёгкую. Даступную менавіта для спевакоў, а не прафесійных танцораў.

А як Марына? Спачатку яе апанаваў татальны адчай. Бо тэрмінова пісаць, а потым і аркестраваць вялікія фрагменты музыкі ў яе не было ўжо ніякіх сіл і імпэту.

— Марына, у тваім загашніку ёсць гатовыя танцавальныя эпізоды, — казала я. — У «Айбаліце» ты скарачала некаторыя нумары, завершаныя і арыгінальныя па музыцы. Каб партытура была больш дынамічнай. Перагледзь, што ў цябе ёсць. Пашукай! Штосьці змяні, прыстасуй да спектакля. Мо ёсць аркестраваныя фрагменты?

Здаецца, сяброўка ад падобнай ідэі неяк ажыла і паспакайнела. Але на самай справе паспакайнець у падобнай сітуацыі можна толькі тады, калі патрэбныя ноты ўжо напісаныя і набраныя. І дырыжор з рэжысёрам скажуць: «Гэта тое, чаго нам неставала!»

## Адступленне дзявятае. Аўтары і іх непахісныя правы

Але стрэсаў хапала не толькі ў Марыны. Аднойчы на рэпетыцыі да мяне падышла Тацццяна Тэадаровіч.

— Уладзімір Пятровіч прасіў, каб вы тэрмінова зайшлі ў ягоны кабінет. Літаральна зараз!

Што ж здарылася?.. Праблемы часта з'яўляюцца адтуль, адкуль не чакаеш. Спачатку пытанне ўзняла Алена Няронская, загадчыца Дзяцячага музычнага тэатра-студыі, агучыла гендырэктару. Грыдзюшка перадаў Рылатку: «Разбярыцеся!»

А сутнасць вось у чым. На тэрыторыі Беларусі аўтарскія правы пісьменнікаў, якія памерлі, ахоўваюцца 50 гадоў. А на тэрыторыі Расіі — ажно 70. Ад таго, як пакінуў гэты свет Карней Іванавіч, яшчэ не мінула сем дзесяцігоддзяў. Значыць, у яго спадчыннікаў трэба пытаць дазвол на выкарыстанне ў лібрэта вершаў Чукоўскага. Але яны могуць і забараніць! Або дазволу спалучыць з такой фантастычнай сумай, якой у тэатра няма. І што тады рабіць?..

Фокус у тым, што пытацца варта было даўно. Папярэдняя размова з унучкай пісьменніка, Аленай Цэзараўнай Чукоўскай, мелася, але вусная. Юрыдычная служба тэатра не надта цікавілася, колькі ў лібрэта «Доктара» вершаў рускага класіка, а колькі маіх тэкстаў. А я, не надта моцная ў юрыдычных пытаннях, думала: калі казкі Чукоўскага, напісаныя яшчэ ў 30-я гады, а потым надрукаваныя ў шматлікіх зборніках, дык ні ў каго ні пра што пытацца не трэба. Сітуацыя ўскладнялася тым, што пасля смерці Алены Цэзараўны ў 2015-м прайшло крыху больш за паўгода. Спадчыннікі толькі-толькі атрымалі магчымасць ці дазваляць, ці не дазваляць выкарыстоўваць творы знакамітага продка. Але ж не адны мы такія разумныя! Спіс жадаючых ставіць спектаклі паводле Чукоўскага ў тэатрах Расіі і ўвогуле СНД велізарны.

Абмаляваўшы сітуацыю, Рылатка папрасіў:

— Толькі пакуль нічога не кажыце Марыне, у яе і так клопатаў хапае.

— Добра, — механічна паабяцала я, шакіраваная нечаканай навіной.

— Што здарылася? — адразу звярнулася да мяне Марозава, калі я вярнулася ў залу. — Відаць, што на табе твару няма!

— Потым скажу.

Не буду падрабязна распавядаць, як вырашылася пытанне з нашчадкамі. Няхай застанецца сакрэтам. Былі тут і афіцыйныя лісты, і пошукі маскоўскіх знаёмых, а праз іх патрэбных тэлефонаў і асоб, якія могуць паўплываць на хуткасць рашэння. Забягаючы наперад, скажу: напярэдадні прэм'еры я трымцела да страху яшчэ і таму, што весткі з Масквы па-ранейшаму не прыйшлі. Не хацелася думаць, што можа ўзнікнуць міжнародны скандал. А мо ўсё-такі не ўзнікне?..

*6 верасня, нядзеля*

На сёння запланаваная здача «Доктара» мастацкай радзе. Дакладней, аркестр і салісты пакажуць толькі першую дзею і некалькі фрагментаў з другой. Гляджу і слухаю з вялікай цікавасцю. Амаль шчаслівая. Бо асобныя фрагменты яднаюцца, нарэшце вымалёўваюцца абрысы спектакля.

У антракце пытаюся ў генеральнага дырэктара:

— Ну, як вам?

— Сыры спектакль! — відавочна, што Грыдзюшка расчараваны і нават засмучаны.

Абмеркаванне аказалася не надта доўгім. Асабліва і не папракалі. Ну, што зробіш, не паспелі! Сцэнічных рэпетыцый не хапіла. Калі ў тэатры адкрыўся сезон, а гэта здарылася на пачатку верасня, вялікую сцэну «Айбаліту» больш не давалі. Вечарам ідзе пэўны спектакль, таму зранку аркестравая або сцэнічная рэпетыцыя гэтай назвы ці заўтрашняй. У дадатак пачынаецца мантаж дэкарацый. Паўплывала і тое, што музыка Марозавай падаецца надта простай і лёгкай для ўспрымання. Але гэта падманлівае адчуваннею За лёгкасцю прыхаваная складанасць, якую трэба адолець, каб зрабіць яе віртуозна-простай.

На мастацкай радзе Панджавідзэ выглядаў азадачаным. Думаю, ён і сам не чакаў такога выніку. Галоўны рэжысёр заўжды хоча быць героем. І гэта натуральна. Але, відаць, адносная няўдача на першым паказе прымусіла засяродзіцца ўсіх — і пастановачную групу, і аркестр, і салістаў. Было відавочна, што часу мала. Таму трэба ўсё зрабіць як след. Каму ахвота паказваць публіцы недароблены спектакль?

Марына — з дапісваннем музыкі, я — з клопатамі пра аўтарскія правы так змэнчыліся, што абедзве пачалі будучага «Доктара» ненавідзець. І ад рэпетыцый, і ад рэжысёра было млосна.

У пэўны момант Рылатка параіў Марыне: «Вы ўсё зрабілі. Таму не абавязкова прысутнічаць на ўсіх рэпетыцыях!» Абедзве мы з радасцю ўхапіліся за такую прапанову і далі сабе на тыдзень або дзён дзесяць палёгку. Было відавочна, што ў «Айбаліта» цяпер шмат мамак-нянек, падрыхтоўкай спектакля заняты фактычна ўвесь тэатр. Таму пэўны час могуць абысціся і без нас.

*30 верасня, серада*

Мы з Марынай сядзелі сёння на рэпетыцыі «Доктара», на 5-м паверсе, на эксперыментальнай сцэне. Рэжысёр удасканальваў сцэны з Бармалеем і яго аховай. Рэпетыцыя ішла пад раяль, але ў касцюмах.

Юрый Балацько — выдатны Бармалей. Ідэальны! Так арганічна ён адчувае камедыйныя і фарсавыя сітуацыі. Прастора смешнага — дакладна ягоная. Бармалея досыць доўга рыхтаваў Янаш Нялепа, але падобна, рэжысёру больш імпануе Юра. Яны вельмі розныя. Нават дзіўна, як моцна псіхафізіка саліста ўплывае на ўспрыманне персанажа. Цікава было б у розных спектаклях убачыць і пачуць аднаго і другога.

Айбаліта ад пачатку рэпеціраваў Андрэй Марозаў, але незадоўга да прэм'еры ён з'ехаў на гастролі. Таму іншы барытон, абаяльны Аляксандр Краснадубскі, вымушаны засвоіць партыю і мізансцэны вельмі хутка. У характары абодвух салістаў, як і ў характары іхняга героя, адчуваеш нейкую чалавечую трываласць і надзейнасць, якая лепш за ўсё пераконвае: такі доктар сапраўды дапаможа і ўратуе.

Мы пабылі з кампазітаркай у зале з 14.30 да 17.30. Далей выканаўцы і рэжысёр перайшлі ў балетную залу. А мы ціха дадому. Уражанняў больш, чым дастаткова.

*1 кастрычніка, чацвер*

Заўтра канчатковы паказ «Доктара» мастацкай радзе. У 12.00. Потым абмеркаванне. Дырэктар даў распараджэнні нікога з прэсы на здачу не пускаць, толькі тэлебачанне. Яно і слушна. Бо вынік пакуль не надта зразумелы.

*2 кастрычніка, пятніца*

Шчыра кажучы, калаціцца і трымцець надакучыла. Што будзе, тое будзе. Мы з Марозавай наперад пачаткам здачы давалі два інтэрв'ю — Першаму каналу нашага тэлебачання і тэлекампаніі «Мир».

Здача прайшла някепска. Панджавідзэ толькі аднойчы спыніў аркестр. Калі не ўзнялася заслона ў другой дзеі (Ільля Пеўзнер у гэты час спяваў арыю Гіпапатама).

Абмеркаванне. Увогуле ацэнкі станоўчыя. Агульны пафас: «Ну, нарэшце пастараліся, цяпер зрабілі так, як трэба!» Пазітыўны тон адразу задаў Уладзімір Грыдзюшка. Юрый Траян сказаў пра «плюсы» пастаноўкі.

Марына не вельмі задаволена ігрой аркестра. Бо ён гучаў неяк прыглушана, не хапала яркіх фарбаў. Мо Лясун баяўся, што не будзе чуваць салістаў? На абмеркаванні Марозаву моцна пакрыўдзіла заўвага аднаго са спевакоў: маўляў, у партытуры шмат аднолькавых ці блізкіх танальнасцяў. Нібыта сур'ёзная прафесійная заўвага, але ж па сутнасці яно не так. Наадварот, у «Айбаліце» шмат разнастайнасці — меладычнай і танальнай. Пасля мастацкай рады спытала ў супрацоўніцы тэатра, якая мела кансерваторскую адукацыю:

— Патлумачце, чаму такая дзіўная і несправядлівая выснова?

— У нас хапае оперных спевакоў, якія хоць і жывуць у XXI стагоддзі, але ў сваім вакальным развіцці спыніліся на Вэрдзі і Пучыні. На XIX стагоддзі. Далей для іх музыкі не існуе, яны проста яе не чуюць і не ўспрымаюць.

Пераканаўчае тлумачэнне, сур'ёзны контраргумент.

Схадзілі з Марынай да Сяргея Мухіна. Ён — памочнік Грыдзюшкі, распараджаецца запрашальнікамі. Спачатку кожная папрасіла па два (пасаромеліся больш). Па твары Мухіна відаць: ён нас не зразумеў. У выніку ў мяне — чатыры, у Марыны — шэсць. Шыкоўна!

Склад маіх запрошаных змяняўся разоў пяць. У выніку, спадзяюся, прыйдуць два вядомыя музыказнаўцы — Таццяна Мдывані і Антаніна Карпілава, тэатральны крытык Дзяніс Марціновіч і Галіна Шаблінская, мая даўняя сяброўка. Марына хоча, каб яе мама абавязкова паглядзела «Айбаліта». Да прэм'еры засталося два дні. Марозава крыху прыйшла ў сябе. Супакоілася. Але ж надта яна ўражлівая!

Пасля здачы паехала да бацькоў. Абодва ў стацыянары, умацоўваюць здароўе. Аддала праграмку «Доктара», якая будзе прадавацца праз два дні, на прэм'еры. Для таго, каб узняць настрой. Праграмка — гэта дакумент. Для маіх бацькоў грамадскае прызнанне зробленага дачкой — лепшыя лекі. Акрамя праграмкі, існуе яшчэ каляровая афіша і буклет, адрасаваны якраз дзіцячай аўдыторыі.

*3 кастрычніка, субота*

Невялікі «отходняк». І ўсё роўна на душы неспакойна. Хутчэй бы ўжо!

*4 кастрычніка, нядзеля*

У агульным настроі пануе страх, а таксама імкненне яго адолець. Хоць зразумела, што ні спяваць, ні танцаваць нам з Марынай не трэба. Марозава перад пачаткам спектакля забегла ў ложу, дзе сабраліся ўсе запрошаныя.

Калі загучала ўверцюра, Доктар праляцеў над сцэнай на паветраным шары. Дзеці, вядома, адразу дзівіліся і сцішваліся.

На прэм'еры ўсе сабраліся. У выніку атрымаўся зусім іншы спектакль, чым на здачы. Ларыса Церахава пасля заўважыла: «Аркестранты нарэшце надзелі акуляры і ўбачылі ўсе ноты!» Дасціпна — і па сутнасці. Спектакль адбыўся! Усё сышлося. Ніхто не забыў свае словы, ніхто не запінаўся, дэкарацыі не зачапіліся, бутафорыя не ўпала. Вядома, галоўнымі былі яркасць

і дасціпнасць рэжысуры Міхаіла Панджавідзэ. І спевакі — Аляксандр Краснадубскі (Айбаліт), Юрый Балацько (Бармалей), Алена Таболіч (Таня), Аляксандр Гелах (Ваня), Ірына Кучынская (Чычы), Аляксандр Міхнюк (Каруда). А таксама Алена Сіняўская і Вольга Кажгаліева (Чаплі), Аляксандр Жукаў (Матылёк), Аляксандр Кеда (Слон), Дзмітрый Трафімук (Кракадзіл), Святлана Марусевіч (Кракадзіліца).

На прэм’еры было шмат дзяцей. Партэр поўны, бельэтаж таксама. Зала вельмі добра рэагавала. Дзеці сядзелі ціха, слухалі ўважліва. Спрыялі дынаміка дзеяння, элементы мультыплікацыі, дэкарацыі, «прыколы», лозунгі і транспаранты, пагоні, візуальныя эфекты. Нават бягучы радок з тэкстам спеваў.

У адной з апошніх сцэн, калі Доктар звяртаўся да гледачоў: «Дзеці, ці трэба дараваць Бармалею?», — большасць залы дружна закрычала: «Не!» Але хтосьці быў згодны і дараваць. Цікавы штрых да псіхалогіі сучасных дзяцей. У фінале, калі пайшлі паклоны артыстаў (пад музыку ўверцюры), дзятва з радасцю танцавала ў праходах.

На прэм’еры сам спектакль для нас з Марынай не прайшоў, а прамільгнуў. Хутка і імкліва. Не паспелі заўважыць, як скончыўся. Нас выклікаюць на сцэну. Усё быццам у тумане і сне. Адкланьваемся, перад вачыма поўная зала. Побач артысты ў сваіх сцэнічных касцюмах. Няўжо? Няўжо фінал марафона? Няўжо ўсё атрымалася?!

Тэатральная кавярня. Яшчэ дзве гадзіны мы адзначалі прэм’еру. Тым, што прынеслі самі ўдзельнікі спектакля. Усе ўсіх віншавалі, згадвалі самыя смешныя моманты рэпетыцый. Акцёрскае братэрства сапраўды існуе, і асабліва адчуваецца пасля зробленага спектакля. Мы з Марынай сышлі з тэатра ці ў чатыры, ці ў пяць гадзін дня. Артысты яшчэ заставаліся і святкавалі творчую перамогу. Прайшлі да метро «Няміга». Не верыцца, што заўтра не трэба зноў бегчы ў тэатр. Нават нечага не хапае.

*15 кастрычніка, чацвер*

У наступныя дні ішло асэнсаванне ўражанняў і банальны «отходняк». У лістападзе наступны паказ «Доктара», яшчэ два ў снежні, падчас навагодніх канікул. У новым, 2016 годзе плануюцца два паказы ў студзені.

Марына адчувае сябе па-рознаму. Пакуль я чакала прэм’еры, зацягнула падрыхтоўку тэкстаў у № 10 часопіса. Тым больш іх шмат. Вельмі нервавалася наконт фота са Швецыі, ці паспее прыйсці. Перад прэм’ерай пра яго проста забыла.

Пра згоду нашчадкаў Чукоўскага даведалася выпадкова, зазірнуўшы ў Нацыянальны цэнтр інтэлектуальнай уласнасці. Аказваецца, у тэатры забыліся паведаміць мне пра тую радасную і чаканую навіну. Адразу на душы зрабілася спакайней. І так здараецца. Твой клопат? Ну, ты ад страху і калаціся!

## Адступленне дзясятае. Вынікі і розгалас

Пасля першага паказу «Айбаліта» ў розных выданнях выйшла шмат рэцэнзій. Напісаныя аўтарытэтнымі асобамі, яны ўсе аказаліся станоўчымі, усе віталі з’яўленне новай беларускай оперы. Пераказваць не буду. Прывяду выказванні двух музыказнаўцаў. Яны даслалі свае меркаванні па электроннай пошце неўзабаве пасля прэм’еры.

**Таццяна Мдывані,**
***доктар мастацтвазнаўства:***

— Падчас спектакля мы дзяліліся меркаваннямі і ў антракце шмат чаго выказалі Марыне Марозавай. Спектакль, безумоўна, атрымаўся. Будзе ісці, рэакцыя гледачоў-слухачоў цудоўная. Нездарма напісала «гледачоў-слухачоў», нягледзячы на тое, што опера «слухаецца». Дадзены опус яшчэ і глядзіцца, і чытаецца. Апошняе вельмі важна, бо тэкст удалы і ўсе яго чыталі. У спектаклі істотная роля рэжысёра, гэта відавочна, што робіць пастаноўку вострa сучаснай (візуалізацыя — неабходны складнік мастацтва нашага часу). Цяжка ўявіць, што было б без яго прыдумак. Музыка — арганічная частка агульнага ансамбля. Аркестроўка пісьменная і прафесійная. На мой погляд, у жанравых адносінах спектакль блізкі да мюзікла. Што да сцэнаграфіі, дык у ёй шмат лубка, але і яна гарманіруе з агульным тэкстам спектакля. Увогуле ўражанне добрае, семантагенным ядром выступаюць тэкст лібрэта і рэжысура. Віншую.

**Антаніна Карпілава,**
***кандадыт мастацтвазнаўства:***

Наша ложа была ў захапленні, асабліва ад другой дзеі. Мы з Таццянай Герасімаўнай паводзілі сябе стрымана, але ўвесь час перамаўляліся і адзначалі рэакцыю залы. Па маім меркаванні, гэта прарыў у цэлай жанравай галіне. Гэта сапраўды дзіцячая опера, дзе ёсць моцныя складнікі — музычна-драматургічны, харэаграфічны і сцэнаграфічны (у тым ліку відэашэраг). Усе кампаненты ўмела аб'яднаныя магутнай і вопытнай рэжысёрскай рукой. Марына распавядала нам у антракце пра сур'ёзнае ўмяшанне Панджавідзэ ў кампазіцыю оперы. Таму давялося дапісваць некаторыя музычныя нумары. Мы адзначалі, што бліскучая аркестроўка выдае вучаніцу Глебава.

Ваш уплыў адчуваўся ўвесь час: у цудоўным веданні літаратурнай спадчыны Чукоўскага, свабодным валоданні паэтычнымі жанрамі, у сюжэтных «пералівах» і пераходах. Як я зразумела, першая дзея экспазіцыйнага плана, дзе сярод смешных і абаяльных персанажаў мяне зачаравала зусім «чукоўская» сям'я кракадзілаў: яна прывабна паднесена і ў літаратурным, і ў музычна-акцёрскім планах. І вядома, гумар у рэпліках, у транспарантах — «Бармалей, ты не прав!», «Имидж — ничто, здоровье — все!» Гэта абсалютна глядацкі спектакль, на яго будуць хадзіць. Шчыра віншую вас з творчым поспехам, з адраджэннем напаўзабытага жанру!

*20 кастрычніка, аўторак*

Ужо другі дзень адчуваю агульную млявасць і вяласць. Піла парашкі ад грыпу. Думала, як-небудзь адолею, але гэта быў наіўны аптымізм.

*21 кастрычніка, серада*

У выніку пайшла да свайго тэрапеўта. Атрымала рэцэпты, паказала артыкул з «Савецкай», дзе пра нас. Каб было зразумела, чаму я так раскісла. Загаловак артыкула — «Скоро вылечу я всех!»

Доўга смяяліся разам. Я таксама спадзяюся, што мая доктарка мяне вылечыць. У выніку — антыбіётыкі і шэсць дзён на бальнічным. Адсыпа-

лася літаральна суткамі. У канцы тыдня ажыла. Тэатральная падзея адбылася, доўгачаканае музычнае дзіця нарадзілася. А ці хутка адышлі ад стрэсу яго шматлікія мамкі-нянькі, дык ці павінна гэта турбаваць публіку?

*22 лістапада, нядзеля*

Ранішні спектакль, зноў наш «Доктар». Абяцаў прыехаць з Магілёва кіраўнік Гарадской музычнай капэлы, дырыжор Сяргей Лішчэнка. Сапраўды прыехаў, сядзелі побач. У 1-м аддзяленні ў бельэтажы, дзе палову спеўнага тэксту, на жаль, не чуваць. У 2-м аддзяленні — у партэры. І ўсё чуваць, і агляд сцэны нашмат лепшы.

У зале і фае бачыла многіх артыстаў. Сяргей Лазарэвіч і Андрэй Марозаў. Юрый Гарадзецкі са сваім дзіцём. Прыйшлі музыказнаўцы Вера Гудзей-Каштальян і Наталля Ганул з дачкой.

Марына незадаволена музычным бокам паказу. Лічыць, што гэты спектакль прайшоў горш, чым прэм’ера. Яна азадачана і засмучоная ігрой аркестра. Назаўтра раніцой патэлефанавала Рылатку. Той таксама азадачаны. Абяцаў нейкім чынам паўплываць.

*29 лістапада, нядзеля*

Тэлефанавала Наталля Ганул. Распавядала, як з’ездзіла ў Кіеў, на міжнародную навуковую канферэнцыю, прысвечаную пытанням інтэрпрэтацыі сучаснай музыкі. Вырашыла выкарыстаць свежы тэатральны матэрыял, узяла для разгляду нашага «Айбаліта». Папрасіла ў тэатры відэа, а ў Марыны партытуру. Калі даследчыкі рыхтуюцца грунтоўна, гэта выклікае павагу.

Выступленне Наталлі дасведчаная публіка слухала з цікавасцю, бо на ўсёй прасторы СНД опер для дзяцей амаль няма. Яна паказала два фрагменты з «Доктара», плануе напісаць артыкул для тамтэйшага навуковага зборніка. Вядомы ўкраінскі даследчык, доктар навук Марына Чаркашына, якая некалькі разоў прыязджала ў Мінск на Калядны оперны форум, вельмі хацела паглядзець «Айбаліта» цалкам.

На канферэнцыі разгарэлася дыскусія: «А вы дакажыце, што па жанры гэта не мюзікл!» Для даследчыкаў пытанне жанру істотнае і актуальнае. Абмяркоўвалі яго і мы з Наталляй. Так, прыёмы мюзікла прысутнічаюць у рэжысуры Панджавідзэ, але іх няма ў партытуры. У дадатак у мюзіклах выканаўцы звычайна пяюць з мікрафонамі («падгучкай»), а замест жывога аркестра ідзе запіс. Марына, якой я распавяла пра канферэнцыю, нават здзівілася такому нечаканаму міжнароднаму рэзанансу.

*31 снежня, чацвер*

Сёння апошні дзень года. Вынік класны! У 2015-м адбылося чатыры спектаклі. У тым ліку 29 і 31 снежня. У студзені 2016-га плануецца два — 6 і 8. Потым па адным — у сакавіку і красавіку.

Марына пачувае сябе па-рознаму. Хлопцы яе раз’ехаліся на гастролі за мяжу, са сваімі аркестрамі. Клопат пра сабаку цяпер на ёй. А я адчуваю агульную стомленасць і эмацыйную вычарпанасць. Год быў занадта насычаным. Акрамя прэм’еры, выйшлі яшчэ дзве кнігі, адна — вершы для дзяцей, а другая — проза.

## 2016 год

*18 студзеня, панядзелак*

Забрала ў рэдакцыі два экзэмпляры «Настаўніцкай газеты», у якой рэцэнзія Веры Гудзцй-Каштальян. Пра «Доктара» аж цэлая паласа А3, у дадатак пяць фота. Экзэмпляр сабе, адзін Марыне. Патэлефанавала ёй, кампазітарка ўзрадавалася.

Прывяду невялікую цытату з артыкула, там, дзе размова менавіта пра лібрэта. Нарэшце маю працу ацанілі! «У вершаваным сцэнарыі оперы выкарыстоўваюцца перапрацаваныя ўрыўкі з розных казак К. Чукоўскага, якія вельмі прафесійна, лагічна і паслядоўна знітаваны. Тут знаўца творчасці дзіцячага пісьменніка знойдзе фрагменты з «Айбаліта» і «Бармалея», «Кракадзіла» і «Тэлефона», «Тараканішча», «Цуда-дрэва» і «Мухі-Цакатухі». Але знаёмыя радкі так арыгінальна пераплецены, а пераходы ад аднаго фрагмента да другога такія натуральныя, што напэўна і сам Чукоўскі падзівіўся б».

## Пасляслоўе да дзённіка

Дажыўшы да прэм’еры, суадносіш мастацкі вынік, сапраўды значны і маштабны, і колькасць намаганняў, якія былі патрэбны, каб дасягнуць яго. Пракатны лёс спектакля ніхто загадзя прадказаць не можа. Ён залежыць ад мільёна фактараў. Ад стаўлення дырыжора і аркестрантаў да музыкі, якую яны іграюць. Ад наяўнасці салістаў, выканаўцаў вядучых і эпізадычных партый. Ад іх імпэту і стаўлення да ўласных роляў. Ад таго, ці моцна зроблены спектакль. Нарэшце, ад публікі, для якой усё гэта робіцца.

Напярэдадні адкрыцця сезона 2016—2017 гадоў мы з Марынай прыйшлі на здачу оперы Моцарта «Вяселля Фігара». Убачылі нашага рэжысёра. Панджавідзэ жартам спытаў у Марыны: «Ну, што? Новае будзем пісаць?» Марозава са смехам: «Ой, не…»

Калі ў наступныя сезоны опера «Доктар» будзе паказвацца ўсяго раз ці два на год, дык вядома, узнікне думка: а ці трэба было ўсю гэтую катавасію пачынаць? Калі «Айбаліт» прыйшоў на оперную сцэну надоўга, мы з Марозавай будзем толькі радавацца. Хачу спадзявацца на больш аптымістычны варыянт. А што атрымаецца ў рэальнасці, пакажа само жыццё.

# «ПРОСТОР» У ПРАСТОРЫ АГУЛЬНАГА КУЛЬТУРНАГА ПОЛЯ

*Найстарэйшы рускі літаратурна-мастацкі штомесячны часопіс Казахстана «Простор» заснаваны ў 1933-м годзе, да першага з'езда пісьменнікаў СССР. Ён і сёння дзякуючы намаганням старшыні Праўлення Саюза пісьменнікаў Казахстана Нурлана Аразаліна, цяпер сенатара Парламента Рэспублікі Казахстан, з'яўляецца часопісам Саюза пісьменнікаў Казахстана, уваходзіць у структуру «Каламгер-медыя».*

*У часопіса «Простор» багатая гісторыя: ля вытокаў яго стварэння разам з Сакенам Сейфуліным, Ільясам Жансугуравым стаяў Дзмітрый Фёдаравіч Снегін, афіцэр-артылерыст, які прайшоў Вялікую Айчынную вайну ад самых баёў пад Масквой да Берліна ў складзе 8-й Гвардзейскай дывізіі ім. І. В. Панфілава. Ён стварыў мастацкую гісторыю горада Вернага і многія дакументальна-біяграфічныя аповесці, змяніў назву часопіса «Савецкі Казахстан» на «Простор».*

*У 60—70-я гады часопіс узначаліў вядомы савецкі пісьменнік, заўважаны ў свой час Горкім, Іван Пятровіч Шухаў, які пакінуў у гісторыі літаратуры і казачую «Горкую лінію», і лірычныя прасноўскія старонкі. Пры ім часопіс здабыў усесаюзную вядомасць, праславіўся смелымі публікацыямі, якія «не праходзілі» парой у самога Твардоўскага ў «Новом мире» — проза Платонава, вершы і проза Цвятаевай, Пастэрнака.*

*У гады перабудовы часопіс «Простор» меў наклад 120 тысяч асобнікаў, зноў жа за кошт усесаюзнага тады яшчэ чытача і гучных, а, можа быць, і «скандальных» публікацый, а часам і шчырага «чытва». Сёння ў часопіса крыху больш за тысячу падпісчыкаў на 17 мільёнаў насельніцтва Казахстана, меншая палова якога чытае па-руску, і каля 10 тысяч наведванняў у інтэрнэце па ўсім свеце.*

*Ужо больш як дванаццаць гадоў часопіс узначальвае выдатны паэт і эсэіст Валерый Фёдаравіч Міхайлаў, аўтар дакументальна-публіцыстычнай кнігі «Вялікі Джут», якая апісвае гісторыю голаду 30-х гадоў. Перакладзена кніга на казахскую, нямецкую, англійскую мовы і выдадзена адпаведна ў Германіі і Вялікабрытаніі. Міхайлаў — аўтар каля 15 кніг вершаў і паэм, і кніг-даследаванняў пра Паўла Васільева, Юрыя Кузняцова, Міхаіла Лермантава, Яўгенія Баратынскага (апошнія дзве выйшлі ў серыі ЖЗЛ выдавецтва «Молодая гвардия»).*

*Калі роля асобы ў гісторыі ўсё яшчэ аспрэчваецца навукоўцамі, то ў літаратуры і выдавецкай справе толькі на асобах усё і трымаецца, што і даказвае ўся гісторыя літаратуры. Гісторыя часопіса «Простор» тут не выключэнне. У гэтыя гады, нягледзячы на эканамічныя крызісы, аслабелыя літаратурныя сувязі на постсавецкай прасторы, часопіс «Простор» не згубіўся на прасторах рускага культурнага поля.*

*У выданні, якое імкнецца быць унутры агульнага літаратурнага працэсу, паказваць мастацкі ўзровень сучаснай літаратуры, разам з казахстанскімі публікуюцца вядомыя расійскія паэты, пісьменнікі, літаратуразнаўцы (светлай памяці Валянцін Распуцін, Цімур Зульфікараў, Андрэй Варанцоў, Аляксандр Сегень, Міхаіл Папоў, Юрый Пермінаў, Уладзімір Скіф, Дзіяна Кан, Яўгеній Семічаў, Вячаслаў Лютый, Святлана Замлелава і інш.).*

*Шматлікімі яркімі публікацыямі казахстанскіх літаратараў парадаваў чытачоў часопіс у апошнія гады. Назавём толькі некаторыя імёны: эсэ Алжаса Сулейменава, дзённікі Герольда Бельгера і яго проза, паэмы «Русь», «Рускі хаос», «Гадавая Свяча», «Свяцільня», вершы і даследчыя эсэ Валерыя Міхайлава, проза, вершы, эсэ Надзеі Чарновай (Алматы), паэмы і вершы Сяргея Комава (Рыддар), раманы Аляксандра Ялфімава (Уральск), Генадзія Дароніна (Астана), вершы і артыкулы Вольгі Грыгор'евай (Паўладар), дакументальная проза Юрыя Памінава (Паўладар), аповесці Бахытжана Канап'янова і Ануара Жалымбетава (Алматы), апавяданні і вершы Яўгенія Цітаева (Сямей), аповесці Тамары Паўленкі (Актау), вершы Любові Усавай (Цеміртау), Тамары Шабарэнінай і Таццяны Азоўскай (Уральск), Рэны Жуманавай (Какшэтау), Аляксандра Аргентума (Паўладар), артыкулы Святланы Ананьевай, Шахімардэна Кусаінава, Веры Савельевай, Вольгі Абішавай (Алматы) і інш.*

*Часопіс публікуе крытычныя і літаратуразнаўчыя артыкулы пра класікаў і вядомых сучасных казахскіх пісьменнікаў, прадстаўляе ў перакладзе лепшыя творы з казахскай літаратуры: новыя пераклады вершаў Абая і Махамбета, новы пераклад Анатоля Кіма рамана-эпапеі «Шлях Абая» Мухтара Ауэзава, яго ж апавядання «Шэры люты» (пераклад Аслана Жаксылыкава), аповесцей і апавяданняў Абіша Кекілбаева (у перакладзе Анатоля Кіма), раманаў «Адплата» і «Масква-Баласаз» у аўтарскім перакладзе Акіма Таразі, рамана Тулена Абдзікава «Розуму зыркая вайна» (пераклад Анатоля Кіма), рамана Кажгалі Мухамбеткаліулы «Цяжкія часы» ў перакладзе Георгія Прахіна, аповесцей Алібэк Аскарава ў перакладзе Раўшан Байгожынай і Майры Жанузакавай, паэм і вершаў Фарызы Унгарсынавай, Нурлана Аразаліна, Ірана Гаіпа, Куляш Ахметавай, Улугбека Есдаўлетава, Галыма Жайлыбая, Акуштап Бахтыгерэевай, Адзільбека Ібрайулы і іншых у перакладах Таццяны Фралоўскай, Сяргея Мнацаканяна, Кайрата Бакберганава, Валерыя Міхайлава, Надзеі Чарнавы, Лідзіі Сцяпанавай, Таццяны Васільчанкі. Прадстаўлены на старонках «Прастору» перакладныя творы аўтараў шматнацыянальнай літаратуры Казахстана — уйгурскай, карэйскай, курдскай і г. д.*

*Маладыя літаратары выступаюць у рубрыках «Дэбют» і «Іншыя». Заўважнай штогадовай рубрыкай «Простора» стала «Акцыя Саюза пісьменнікаў Казахстана і Еўразійскай групы «Краіна майстроў» — з выездам нашых пісьменнікаў на прадпрыемствы Актобе, Хромтау, Руднага, Паўладара, Аксу — на Данскі ГАК і ферасплаўныя заводы, на АТ «Алюміній Казахстана» і на Казахстанскі электролізны завод, на Сакалоўска-Сарбайскае горна-абагачальнае аб'яднанне і Казахстанскую энергетычную карпарацыю. Гэта не толькі мацуе чытацкія сувязі. Сумесна з выдавецтвам «Ана Арыс» мы выпусцілі дзве кнігі па выніках літаратурнага конкурсу «Краіна майстроў», на старонках часопіса дэбютавалі цікавыя паэты і публіцысты з працоўнай глыбінкі.*

*Юбілеям карыфеяў нацыянальнай культуры прысвечаны спецыяльныя рубрыкі і цэлыя блокі матэрыялаў. Так, у 2015-м годзе, у год 170-годдзя Абая, штомесяц публікаваліся матэрыялы, прысвечаныя жыццю і творчасці вялікага казахскага паэта і мысліцеля. 180-годдзю Чокана Валіханава таксама быў прысвечаны блок матэрыялаў, у бягучым годзе разам з усёй краінай «Простор» адзначыў юбілей Джамбула. У рамках 150-гадовага юбілею Івана Куратава, які адзначаўся ў рэспубліцы Комі, «Простор» прымаў вялікую дэлегацыю літаратараў, якія прыехалі ўшанаваць памяць нацыянальнага пісьменніка і асветніка, які большую частку жыцця правёў у горадзе Верным (Алматы). Часопіс прысвяціў юбілею заснавальніка комі літаратуры падборку яго вершаў у перакладзе Андрэя Папова, у працяг літаратурных сувязей апублікаваны і вершы вядомых сучасных паэтаў Надзеі Мірашнічэнкі ды Андрэя Папова, проза Алены Казловай.*

*Мацуючы міжнародныя пісьменніцкія сувязі, «Простор» актыўна прапагандуе літаратуру Казахстана ў краінах СНД, супрацоўнічае з літаратурнымі часопісамі Расіі, Беларусі. Толькі ў апошнія два гады творы нашых пісьменнікаў публікаваліся ў расійскім часопісе «Отчий край» (Валгаград). Казахстан быў там прадстаўлены па абмене — часопіс «Простор» даваў вялікую падборку вершаў і прозы валгаградскіх пісьменнікаў. Таксама выйшлі сумесныя нумары часопісаў «Арт-Бухта» (Севастопаль), «Нева» (Санкт-Пецярбург), «Подьем» (Варонеж). Выйшаў сумесны расійска-казахстанскі нумар часопіса «Юность». Актыўна ўдзельнічае «Простор» у праекце пасольства Рэспублікі Казахстан у Расіі і «Литературной газеты» — выпуску літаратурнага альманаха «Казахстан. России». Першы нумар яго выйшаў у мінулым годзе (рэдактар-укладальнік Кайрат Бакбергенаў), другі — з творамі саракагадовых аўтараў — здадзены ў вытворчасць у гэтым годзе (рэдактар-укладальнік Любоў Шашкова).*

*Палітычнае, эканамічнае збліжэнне Казахстана і Беларусі, безумоўна, служыць і актывізацыі культурных, літаратурных сувязей на дзяржаўным узроўні. Дамова аб супрацоўніцтве падпісана нашымі творчымі літаратурнымі саюзамі. Але любая ідэя мёртвая, калі яна не адухоўлена дзеяннямі людзей неабыякавых, якія дадаюць у яе сваю прафесійную, асобасную зацікаўленасць. На шчасце, у Беларусі такія неабыякавыя людзі ёсць, на чале з Алесем Карлюкевічам, яны — сапраўдныя рухавікі нашых літаратурных сувязей. Яркай падзеяй пры падтрымцы пасольства РК у Беларусі стаў выхад на беларускай мове кнігі вершаў Абая «Стэпавы прастор» у перакладзе Міколы Мятліцкага, а таксама праведзены ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі «круглы стол» па абмеркаванні новага перакладу рамана «Шлях Абая» Мухтара Ауэзава з удзелам кіраўніка Міжнароднага фонду ім. М. Ауэзава Мурата Мухтаравіча Ауэзава і перакладчыка Анатоля Кіма.*

*«Простор» актыўна адгукаецца на ўсе беларускія праекты, пасільна ў іх удзельнічае: у «круглых сталах», якія праводзяцца ў рамках Дня беларускага пісьменства, у сумеснай, якая выйшла ў Мінску, кнізе казахстанскіх і беларускіх аўтараў «Не ведаючы межаў», прэзентаванай на Міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы «Па Вялікім Шаўковым шляху» ў Алматы. Выпушчаны абменны нумар з часопісам «Нёман», рыхтуем публікацыі нашых аўтараў у часопіс «Полымя» для перакладу на беларускую мову. У «Просторе» былі апублікаваны новыя пераклады з беларускай Янкі Купалы, Міколы Мятліцкага, Алеся Бадака, артыкул Івана Чароты аб трагедыі Косава, вершы Анатоля Аўруціна — галоўнага рэдактара часопіса «Новая Немига литературная». Але пераклады на казахскую нашых беларускіх сяброў яшчэ толькі рыхтуюцца.*

*Адзначу, што лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РК Улугбек Есдаўлет з цікавасцю ўдзельнічаў у перакладзе на казахскую верша Францыска Скарыны. Гэта быў цікавы беларускі праект: кніжка аднаго верша пачынальніка славянскага кнігадрукавання на многіх мовах народаў свету!*

*Шмат робіць для ўмацавання казахстанска-беларускіх сувязей загадчык аддзела міжнародных сувязей Інстытута літаратуры і мастацтва ім. М. Ауэзава Святлана Ананьева, сталы аўтар часопіса «Простор». Адна з апошніх прадстаўленых ёй публікацый для «Простора» — артыкул Алеся Карлюкевіча пра выхад калектыўнай манаграфіі Інстытута «Сучасная літаратура народа Казахстана», дзе дадзена высокая ацэнка працы казахстанскіх літаратуразнаўцаў, што прадставілі нацыянальныя літаратуры, якія іграюць такую важную ролю ў захаванні міжнацыянальнай згоды ў нашай краіне і фарміраванні адзінай нацыянальнай ідэнтычнасці.*

*Новыя пераклады на беларускую мову аўтараў «Простора» ў часопісе «Полымя» — яшчэ адна нітка, якая злучае нашы літаратуры, нашы народы.*

***Любоў ШАШКОВА,***
***старшыня Савета па рускай літаратуры Саюза пісьменнікаў Казахстана,***
***загадчык аддзела паэзіі і культуры часопіса «Простор».***

## Сяргей КОМАЎ

### НАРАДЖЭННЕ

Ў лістападаўскай замецi шэсцьдзясят сёмага
Сінім ранкам, як сонца косы абмыла,
Ў цяжкіх родах, вялікага, паўнакроўнага
Мая маці на свет мяне нарадзіла.

Са сцягамі хадзілі суседзі вясёлыя,
І гарэла сяло ў агні кумача.
У партрэтах парційцаў — адчынена школа.
Па-над хатай гучыць запавет Ільіча.

Працаваць і гуляць — гэта зараз, умеем!
Зноў шалёнай, вясёлай кружыць галаве!
І пад песні і пляскі ледзь Юбілеем
Не назвалі ў гэтае свята мяне.

Дзякуй богу, назваў мяне бацька Сярожкай.
— Ты ляці на святло, мой верабей,
І ідзі па жыцці толькі добрай дарожкай!
Чаркаваліся радасна: — Будзе Сяргей!

Хата танчыла доўга ў завеі стракатай,
Гучным басам гучалі напевы ў ёй.
Бацькаў сябра згубіў чаравікаў абцасы
І дзівіўся спрытнасці ў танцах сваёй!

Толькі ранкам знайшоў сваю важную страту.
Пахмяліўшыся добра, ён жартаваў:
— Гэта Бог тваёй Ганне падчас нараджэння
Гэтак моцна ўдачы для сына жадаў.

Вось жыву я шчаслівы, і мару трымаю:
Можа быць, у які снегавей
Дачакаюся праўнука да юбілею,
Што ў гонар дзядулі будзе Сяргей.

## КІНО МАЙГО ДЗЯЦІНСТВА

Я помню, ў дзяцінстве далёкім,
Як быццам цягне аркан,
К сеансу заходзіў бокам
Падпіты механік Іван.

І месца знайсці немагчыма:
На печку, у дзверы, акно.
Прыперла таварыша спіна.
Ідзе пра індзейцаў кіно!

Сяло наша змесціцца, ясна,
Ў знаёмы маленечкі клуб.
За два пятакі гэта шчасце —
Пралезці між плеч і між рук.

Калі ж раптам стужка парвецца,
Бы важка ідзе на таран,
То зала гучна злуецца:
«Рамку, рамку, Іван!»

І тут бы яму затаіцца,
А ён з акенца крычыць,
Наш сябар, наш «бледналіцы»,
Наш дзядзька Іван інвалід.

Узрушана родная вёска,
Спяшаецца дзядзька Іван.
З мінулага водбліск дзівосны,
Гары, чорна-белы экран!

Над буйнай маёй галавою,
Над светам, дзе гасне святло,
Гучы з эпохі застою,
Дзе добрае круцяць кіно.

## БАЛАДА ПРА ВЯДРО

*Памяці Пастаногава Івана Майсеевіча*

Здавалася б, што там насіцца з вядром!
Ды то ж незвычайнае будзе…

Вось год сорак пяты. Аэрадром
Нямецкі захоплены, людзі!

Хто снедаў, хто мыўся, хто проста ляжаў,
Хто чысціў брудныя боты.
Цясляр жа іх ротны, алтайскі кержак
Сур'ёзна глядзеў самалёты.
Задумаў — і выразаў жмут ён з крыла.
Сагнуў, пракляпаў ладна дужку.
Ды ўжо ж перамога хутка была,
Што сонцам цешыла душы.

Такі вось дарунак даставіў з вайны, —
Вядро. Чым яшчэ мы багаты?
Я бачу дагэтуль мінуўшчыны сны
Таго радавога салдата.

Эх, добрае даўняе тое вядро!
Ў хаціну старую прыеду…
Я вып'ю з яго, узгадаю дабром:
— Царства нябеснае дзеду!

## Валерый МІХАЙЛАЎ

* * *

Прачнуцца задзірлівым ранкам,
Усходам выбеліць твар.
Як коціцца яблык світанкам,
І зыркі бяроз пажар!

Шуміць па усім белым свеце
Шчаслівых крыніц вада.
Гуляе вакол п'яны вецер,
Забылася дом бяда.

І чэзне кара старая,
Гніюць старыя камлі.
Але сёння ураннi
Прачнуліся карані.

І ў неба імкнецца шпарка
Па голых галінках сок.

Каўтнуўшы нектар-заранку,
З’явіўся на свет лісток…

* * *

Вечаровая чырвань,
Адыходзіць святло.
Ты застацца павінна,
Толькі шчасце прайшло…

Ў сініх прыцемках ціха.
Ясных зорак прыгоды.
Вобраз твой, як на ліха,
Я згубіў назаўсёды.

Ноч шаўковай пяшчотай,
Познім птушкам — лунаць.
Мне — самотныя ноты,
Як няма што чакаць.

* * *

Свет будуецца так, —
Азірніся, бядак:
За сусветным пажарам
Кружаць цацачным шарам
Ўсе шыроты Зямлі,
Акіяны, палі…
Ў навагоднім кружэнні
Ўсіх вякоў разбурэнні.
Па такіх вось законах
З дзіўным, велічным звонам
Шар пракручвае год,
Ў зорны мкне карагод.
Цемра дзён — беспраглядна,
І жыццё падуладна:
Ў капашлівай віхуры
Згодна робім алюры.
Існы хлеб здабываем,
Цуда-казку чакаем.
Спадзяёмся на нешта
Ды жывём, часам, грэшна.
Паміраць не жадаем —
Дзень вясновы страчаем.
Сэнс — у тым і у гэтым:
Сані зладзілі летам.
Ды куды ж едуць сані
Разам з вамі і з намі?
Хто ў тым вінаваты?

Свет атручвае атам…
Ўсё магчыма… ды сёння
Кружыць шар навагодні.
І між зорак ляціць,
У гірляндах гарыць...

***Пераклад Юліі АЛЕЙЧАНКІ.***

## Надзея ЧАРНОВА

* * *

Пройдзе, як ішло, жыццё —
Як раней. Нібы на крылах
Піралёту забыццё,
Паміж «небыллю» і «быллю».
Непрыкметна дагарыць —
Ад кахання і да страты,
У імгненні, дзікаватым,
Як пад вечар сойкі крык…

### ВЕЦЕР-НЯНЬКА

Рэчка рыбу глытае жывой,
Бор шуміць над пустою раллёй,
Як старонка у неба пад вокам.
Мы ў бары, што шапоча, жывём,
Мы сасновую серку жуём,
Бо ў жывіцы ўсе сосны навокал.

Дачакаліся ў міры бацькоў.
Вецер гушкае дзетак шпакоў
У калысках з зямлі і галінак.
У шпакоў сёння клопату шмат,
Ім памочнік — глядзець птушанят
Прыляцеў вецер-нянька з даліны.

Малады ён ды шчыры, дарос
Галавой ад зямлі да нябёс,
І ў рухах сваіх дзікаваты:
Гнёзды гушкаў занадта, і вось
Нібы кулі, ляцяць шпачаняты.

Беглі мы птушанят ратаваць,
Ды крылатых ужо не дагнаць!
Сочаць нашы дзіцячыя вочы,
Як шпакі і крычаць, і рагочуць,
Бо цяпер паляцяць…

## ІДУЧЫ ПАЎЗ МІНУЛАЕ…

Ідучы паўз мінулае, неяк ў акно зазірнула —
Там чарнее раяль, печка свеціцца кафляй за ім,
І у крэсле з саломы, скруціўшыся, котка заснула,
І ад свечкі затушанай ціха ўзнімаецца дым.
Вось і шаль неахайна звісае з чырвонага стула,
І трапеча ад жару, што хваляй ідзе з камінка.
Дзесьці тут гаспадыня — сукенка ў дзвярах мільганула,
І хусцінку ўпусціла, узляцеўшы, бы птушка, рука.
Мабыць, любы з ёй там, мабыць — гэта шумлівыя дзеці,
А мо ліст пахавальны у хату сягоння прыйшоў,
І вайна ля акна, і вялікае гора ў свеце,
І не вернецца болей ніхто, і не дойдзе дамоў…
Ды і хаты няма — кісяю я сасніла фіранак,
Таямнічая хата — дзяцінства ўспамін залаты.
А ў вокны яе мне заўсёды хацелася глянуць,
Толькі жах не пускаў і старыя легенды аб тым,
Што ў хаце вякі здань блукае у шлюбным уборы,
І рыдае начамі, на бэльцы спрабуючы крук.
Абыходзяць яе, баючыся праклёну ды гора
Людзі, птушкі, звяры, і не ў’е павуціння павук.
Я, і праўда, тады ні душы не страчала навокал —
І зачынены дзверы і вокны былі назаўжды.
Ды я ведала: там
І жыццё, і пакуты, не бачныя воку,
І, шкадуючы хату, душою ляцела туды…

*Пераклад Валерыі РАДУНЬ.*

**Вольга ГУБСКАЯ**

# ТЭКСТЫ МАКСІМА ГАРЭЦКАГА НА СТАРОНКАХ «НАШАЙ НІВЫ» ПРАЗ ПРЫЗМУ ЎСПРЫНЯЦЦЯ ЖУРНАЛІСТЫКІ

Мастацкія творы ранняй пары Максіма Гарэцкага ўжо дастаткова даследаваны, а вось яго дзейнасць як карэспандэнта (менавіта «нашаніўскага» часу) прыцягвала ўвагу літаратуразнаўцаў у меншай ступені. Добра вывучана публіцыстыка смаленскай і віленскай пары. Гэтаму перыяду творчасці пісьменніка прысвячалі свае працы М. Мушынскі, Т. Дасаева, В. Скалабан, Т. Голуб і інш. Грунтоўна прааналізавана публіцыстыка газеты «Наша ніва»: да гэтай тэмы звярталіся навукоўцы ўсіх філалагічных дысцыплін. На гэтым фоне «нашаніўскі» перыяд публіцыстычнай дзейнасці М. Гарэцкага, што складаецца з дзясятка артыкулаў (сюды не ўваходзяць апавяданні ранняй пары, што друкаваліся на старонках гэтай газеты), канешне, падаецца не самым значным.

Аднак варта пагадзіцца з Д. Бугаёвым: «Карэспандэнцыі і нататкі, надрукаваныя Гарэцкім на старонках «Нашай нівы», таксама нямала могуць сказаць даследчыку. Не маючы ўласнай мастацкай каштоўнасці, яны, аднак, дазваляюць прасачыць, адкуль чэрпаў свае жыццёвыя фарбы рэалізм маладога пісьменніка, якое кола праблем цікавіла яго ў гэты перыяд. Нярэдка ў іх апісваюцца жыццёвыя факты і нагляданні, якія пазней будуць шырока выкарыстаны ў апавяданнях аўтара» [1, с. 18].

«“Наша ніва” — гэта люстро душы, думак і патрэб Беларусі…Усе, каму дарага і блізка справа жыцьця і адраджэньня Беларусі і беларусоў, выпісывайце, чытайце і шырце беларускую газету “Нашу ніву”», — такімі радкамі пачынаецца першы нумар газеты за 1912 год [2]. Менавіта з гэтага часу М. Гарэцкі далучаецца да асяроддзя «нашаніўцаў» як у якасці карэспандэнта, так і пісьменніка.

Гісторыя ж самой газеты мае больш глыбокія карані і звязана з адозвай «Да інтэлігенцыі», датаванай лютым 1903 года. Па меркаванні Юрыя Туронка, яна «была апрацаваная пры непасрэдным удзеле Вацлава Іваноўскага, бо закладзеныя ў ёй ідэі засталіся галоўнымі арыенцірамі яго далейшай шматгадовай дзейнасці» [3, с. 39]. Змест адозвы зводзіўся да вельмі эмацыйнага і доказнага заклiку, звернутага да інтэлігенцыі, — ствараць сваю ўласную культуру, распавесці пра самабытнае мінулае, несці асвету ў народ. Дастаткова прывесці вытрымкі з гэтага дакумента, каб адчуць ступень адчаю аўтара: «Адцятыя ад люду чужамоўным выхаваннем, вы не здолелі стварыць уласнай самастойнай культуры для вашай жменькі і пайшлі ў паняверку да суседзяў. І слушна — бо не адважыліся на тое, на што адважыліся стакроць меншыя лікам літоўцы, балгары, сербы, харваты і г.д.

Дайце народу асвету, але дайце яе на роднай мове. Інакш яна ніколі не прасочыцца ў нізы. Розум дзіцяці, які з цяжкасцю авалодвае агульнымі паняццямі, мае падвойную працу, робячы гэта на чужой мове. Адсюль недакладнасць,

хаос, боязь навукі. Родная мова — гэта ж выраз душы, яе пачуццяў, думак. Урад ведае, што робіць, калі падае жабрачыя аб'едкі асветы па-расейску: ён ці ўвогуле адбівае ахвоту да навукі, ці стварае блытаніну паняццяў, парывае кроўную еднасць з народам самых здольных, робіць іх слугамі, што мысляць па-расейску, у зародку нішчыць нацыянальную самастойнасць, затрымлівае развіцце беларускай культуры… Дайце народу спазнаць мінулае. Чалавек, які не памятае таго, што рабіў, чуў, думаў, які не можа скарыстаць нават уласны досвед, не ведае, як кіраваць сабой, робіцца лялькай, людскім пасмешышчам. Ён толькі можа існаваць. Гэта ледзь не быдла. І гэта — лёс народа, які не памятае гісторыі продкаў. Дык вы сталі нявольнікамі не толькі таму, што вас зламалі паразы — вы сталі нявольнікамі праз свае душы — вы верныя падданыя маскоўскага цара…» [3, с. 38].

У атмасферы такіх заклікаў і пракламацый зараджаліся ідэі нацыянальнага адраджэння Беларусі, планаваліся спосабы іх практычнай рэалізацыі. «Наша ніва», першы нумар якой выйшаў 10 (23) лістапада 1906 года, пазіцыянавала сябе як «першая беларуская газета с рысункамі» і мела выразна акрэсленую мэтавую аўдыторыю: сялянства, вясковая і дробная гарадская інтэлігенцыя. Зразумела, публікацыі выдання адрасаваліся простаму люду, і гэтая акалічнасць значна паўплывала на падыходы ў фарміраванні ідэалогіі нацыянальнага руху.

Перш за ўсё, трэба было абгрунтаваць гістарычную і лінгвістычную самастойнасць беларускага народа, далей — акрэсліць сацыяльную канцэпцыю руху, і, безумоўна, растлумачыць важнасць адмежавання ад «заходнярускай» і польскай прапаганды. Гэтыя падыходы закладзены і ў фарміраванне рубрык выдання (усяго іх 21): 1) Дзеянні ўрада; 2) Палітычны агляд; 3) Жыццё вёскі; 4) Жыццё горада; 5) Фельетон; 6) Найноўшыя творы беларускай літаратуры; 7) Што чуваць на Белай Русі; 8) З Літвы; 9) Па Расіі; 10) Карэспандэнцыі; 11) З-за мяжы; 12) Што трэба і чаго не трэба чытаць; 13) Літаратурны дадатак; 14) Новыя кнігі; 15) З мінулага Беларусі; 16) Паштовая скрыня; 17) Сельская гаспадарка; 18) Практычная медыцына; 19) Прыкладная механіка; 20) Сумесь; 21) Абвесткі [пералік рубрык цытуецца па: 4, с. 27].

Безумоўна, цягам часу рубрыкі мяняліся, але не змяняліся іх задачы — працаваць над фарміраваннем нацыянальнай самасвядомасці народа; асвятляць жыццё як беларускіх сялян, так і даваць панараму быту замежнага і, самае галоўнае — быць пляцоўкай для распаўсюджвання беларускага слова.

Максім Гарэцкі, непасрэдны ўдзельнік літаратурнага працэсу пачатку XX ст., адзначаў наступнае: «За ўвесь час свайго жыцця, да восені 1915 года, «Наша ніва» гуртавала ля сябе ўсю сведамую Беларусь, і на яе старонках выраслі літаратурныя імёны ўсіх выдатнейшых сучасных беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. Хоць «Наша ніва» і не магла паказаць у поўнай меры свой сацыяльны характар, аднак яна была самая левая газета ў краі, стульна звязаная з сваім сялянствам. <…> После, як беларускі рух стаў буйна ўзрастаць, з'яўляліся новыя выдавецтвы, друкаваліся новыя часопісы, але скрозь увесь час да вайны давала тон усяму руху, выдавецтву і літаратуры — Вільня і «Наша ніва»…У нашаніўскую пару развівалася наша публіцыстыка і з часам навуковая літаратура. Агульны характар літаратурнае дзеяльнасці ў нашаніўскую пару быў нацыянальна-адраджэнскі і пераважна класава-сялянскі» [5, с. 282—283].

У якасці аўтара (карэспандэнта) газеты М. Гарэцкі пачаў выступаць з 13 (26) верасня 1912 года. Яго матэрыял выходзіў у пастаяннай рубрыцы «З Беларусі і Літвы» і даносіў весткі з Горак. Актыўнасць супрацоўніцтва лепш уявіць праз гэтую табліцу:

| **Дата выхаду** | **Рубрыка «З Беларусі Літвы»** | **Рубрыка «Найноўшыя творы бел. літ.»** | **Рубрыка «Наш фельетон»** |
|---|---|---|---|
| № 37 13(26).09.1912 | «Г. Горкі» (Беларус) | | |
| № 43—44 2(15).11.1912 | «Г. Горкі» (Беларус) | | |
| № 2 10.01.1913 | «Шамоўская воласць…» (М. Беларус) | | |
| № 4 25.01.1913 | | «У лазні» (М. Беларус) | |
| № 5 1.02.1913 | | | «Нашы» (Максім Беларус) |
| № 6 7.02.1913 | «Магілёў»: «Таварыство цьвярозасьці», «Не глядзелі-б вочы» (М. Б.) | | |
| № 8 20.02.1913 | | «Атрута» (Кароткі жалобны абразок). (Максім Беларус) | |
| № 9 01.03.1913 | | «Атрута» (Кароткі жалобны абразок). (Максім Беларус) | |
| № 20 16.05.1913 | | «Стогны душы» (Максім Беларус) | |
| № 21 23.05.1913 | «Могілеу: Весткі з Горак» (Гарэцкі); «Краіна добрых абычаеў» (М. Б.) | | |
| № 26-27 5.07.1913 | Могілеу: «Навіны з Горэк» (Беларус) | | |
| № 30 26.07.1913 | Могілеу: «Модные абычаі» (Максім Беларус); «Адзінадцатуха» (М. Б); «Жывая нябошчыца» (Максім Беларус) | | |
| № 31-№ 33 01.08.1913— 16.08.1913 | | «Родные карэні» (Максім Беларус) | |
| № 39 28.09.1913 | | «Красаваў язмін» (М. Г.) | |
| № 43 24.10.1913 | | «Страхацьце» (Г. М.) | |
| №24 20.06.1914 | «З Могіёушчыны» (Хадзяка) | | |
| № 19—20 22.05.1915 | | «Дзегаць» (М. Горецкі 12/IV-1915) | |
| № 1–4 28.10.1920 16.11.1920 | | «Прысяга» (М. Гарэцкі) | |

Відавочна, што М. Гарэцкі сумяшчаў публіцыстыку з заняткам літаратурнай творчасцю, і гэта абсалютна лагічна: па-першае, назіраючы за праявамі рэчаіснасці, ён знаходзіў сюжэты для сваіх апавяданняў, па-другое, рэалізоўваў пастаўленую перад «нашаніўцамі» задачу азнаямлення чытачоў з літаратурнымі навінкамі на беларускай мове; па-трэцяе, выкарыстоўваў газету як пляцоўку для выказвання сваёй грамадзянскай пазіцыі.

Публіцыстычныя матэрыялы, напісаныя М. Гарэцкім для «Нашай нівы», звычайна пазначаны як «нататкі», аднак, калі разгледзець іх не з пазіцыі літаратуразнаўцы, а журналіста, жанравая разнастайнасць формаў значна пашыраецца, ды і акцэнт на мастацкай вартасці робіцца іншы.

Для падобнага аналізу скарыстаем наступныя паняцці: «характар камунікатыўнага задання», «жанравыя прыметы», «жанравая форма» і «тып тэксту».

Характар камунікатыўнага задання фарміруецца мэтавай аўдыторыяй, да якой звернуты фармат выдання. Як згадвалася вышэй, «Наша ніва» арыентавалася на вясковае насельніцтва і інтэлігенцыю, што вызначала мэты і задачы карэспандэнтаў:

- ● Паведаміць пра падзею (знешнепалітычную або ўнутрыпалітычную);
- ● Прааналізаваць падзею, выказаць свае адносіны;
- ● Даказаць пэўную ідэю;
- ● Канстатаваць факт здзяйснення нечага і выказаць ацэнку.

Зразумела, што характар камунікатыўнага задання ўплывае на фарміраванне жанравых формаў газетнай публіцыстыкі.

Па тэме закранутага пытання Т. Маракуліна ў калектыўнай манаграфіі «Мова “Нашай нівы”» адзначае наступнае: «У залежнасці ад камунікатыўнага задання, якое стаіць перад аўтарам, можна правесці наступную дыферэнцыяцыю жанравых формаў (ці камунікатыўных тыпаў) газетных паведамленняў. У мове «Нашай нівы» вылучаюцца, у першую чаргу, два асноўныя тыпы газетных тэкстаў, у якіх паведамляецца пра факты і падзеі міжнароднага і ўнутранага жыцця краіны: І) тэксты-інфармацыі; ІІ) тэксты-разважанні. Асобна вылучаецца трэці тып — мастацка-публіцыстычныя тэксты («Думкі ў дарозе» (1906), «Зоркіанёлы» (1907), «Ліпы» (1907), «Музыка» (1907) і інш.), якія знаходзяцца на мяжы публіцыстычнага і мастацкага стыляў» [6, с.145].

Акрамя гэтага даследчыца падкрэслівае, што «найбольш паказальнымі і актуальнымі для газеты з’яўляюцца публіцыстычныя творы першага камунікатыўнага тыпу», да якіх належаць «1) тэксты, у якіх абмяркоўваюцца актуальныя, надзённыя падзеі грамадска-палітычнага жыцця. Публіцыстычнасць такіх тэкстаў забяспечваецца заданнем сфарміраваць грамадскую думку вакол закранутых пытанняў, падзей у выглядзе «чыстай» інфармацыі. <…>. 2) тэксты, асноўнымі камунікатыўнымі мэтамі якіх з’яўляюцца не толькі «падача» інфармацыі, але і выказванне адносін, выражэнне пэўных эмоцый аўтарам (станоўчых або адмоўных) да канкрэтных асоб, фактаў, падзей (унутры краіны ці за яе межамі)» [6, с. 146].

Першая публікацыя М. Гарэцкага ў «Нашай ніве» — невялікая нататка ў рубрыцы «З Беларусі і Літвы» пра «прыёмную пару» ў Горацкае каморніцкаагранамічнае вучылішча. З аднаго боку, гэта тэкст-інфармацыя, у якім акцэнтуецца факт — адбыўся набор у вучылішча. Дастатковая ўвага надаецца лічбам: *«У гэтым гаду у дзьверы тутэйшага каморніцка-агранамчнага вучылішча стукалося 250 хлапцоў, калі не лічыць тых, каторые не экзаміналіся пасьля дохтарскаго агляду. 232 хлопцы прасіліся у першу падгатавіцельну клясу, а рэшта у першу спэціальну. З гэтага ліку хлапцоў залічэны вучнямі усяго 36…»* (№ 37, 1912). Аўтар паведамляе пра заснаванне вучылішча, аналізуе геаграфію прытоку студэнтаў.

Аднак тэкст нельга назваць «чыстай» інфармацыяй, бо прыхаванае аўтарскае «я» чытаецца між радкоў. Так, напрыклад, чыста інфармацыйным падаецца сказ: «*Вучылішчэ атчынено ў 1909 гаду, і за апошніе гады, у сярэднім на 30 мейсц*

*просіцца да 300 чэлавек»*. Але ж ніжэй бачым рэальны прыхаваны аўтарскі каментарый: *«І с кожнаго боку выгодна вучыцца тут дзецям вясковых небагатых гаспадароў, бо ў падгатавіцельну клясу прымаюць тых, што акончылі двуклясную народную школу, а калі хлопчык патрапіць у вучні, дык яму, калі ён сам мала мае грошы дзеля пражыцьця у Горках і добра вучыцца, даюць стэпэндію»*. Відавочна, што мэтай М. Гарэцкага было не толькі праінфармаваць, але і заахвоціць хлопчыкаў з вясковай беднаты ісці вучыцца. Заўважым, што і аргумент заахвочвання (стыпендыі, фінансаванне) адпавядаў інтарэсам мэтавай аўдыторыі.

Як бы ні намагаўся літаратар М. Гарэцкі глядзець на свет вачыма журналіста, імкнучыся да аб'ектыўнай фіксацыі факта, вобразнае слова і мастацкі погляд на рэчаіснасць выяўлялі ў ім выдатнага публіцыста з відавочным пісьменніцкім ухілам.

Ужо ў другой публікацыі (№ 43—44 ад 12 (15).11.1912г.) пад традыцыйнай рубрыкай «З Беларусі і Літвы» змешчаны чарговы матэрыял з «г. Горкі Магілеўск. губ.», у якім распавядаецца пра штогодні кастрычніцкі кірмаш. Па сутнасці гэта ўжо сінтэзаваны рэпартаж з дакладна выяўленым адлюстраваннем падзей, аналізам і адкрытымі ўласнымі каментарыямі. Менавіта такія крытэрыі, на думку Б. Стральцова, вызначаюць вышэй згаданы жанр. «У сінтэзаваным рэпартажы могуць скарыстоўвацца функцыянальныя прыёмы і вобразна выяўленчыя сродкі ўсіх жанравых формаў — інфармацыйных, аналітычных, мастацка-публіцыстычных. Аднак у аснову тэксту павінна закладацца скразное *аператыўнае адлюстраванне дынамічнай падзеі* [курсіў. — **В. Г.**]. Гэта абавязковае патрабаванне, і калі ад яго адступіцца, дык тэкст пазбаўляецца сваёй асноўнай жанравай прыкметы (дакладна, выразна і дынамічна маляваць ход падзеі праз непасрэднае ўспрыманне аўтара) і страціць права звацца рэпартажам» [7, с. 16].

Такім чынам, звернемся да тэксту М. Гарэцкага. Штогадовы кастрычніцкі кірмаш — тая дынамічная падзея, якая скразной тэмай праходзіць праз матэрыял аўтара. Ён быў непасрэдным удзельнікам гэтага мерапрыемства і стварыў «вобраз падзеі» па гарачых слядах. Спачатку чытач уводзіцца ў атмасферу гэтай падзеі: расказваецца, што кірмаш не заладзіўся ад самага пачатку, адбываецца спроба высветліць магчымыя прычыны дрэннага гандлю: «*У гэтым гаду з'езд сялян быў малы; і кірмаш выйшоў зусім дрэнны. Вінаваціць трэба пагоду. У нас ад пачатку месяца жніўня і аж да самага кастрычніка ішлі дажджы і было сцюдзена. Дарогі папсуваліся і меж сялян мала хто пацікавіўся паехаць на кірмаш. Дый таго, хто паехаў, турбацыя была дарэмна, бо ў самы кірмашовы дзень пайшоў дождж, зрабілася гразь — дык які ўжо тут торг…»*

У прынцыпе, першая палова тэксту — звычайная канстатацыя, характэрная для справаздачы, аднак другая яго палова змяняе наша меркаванне, бо аўтар нечакана раскрывае іншы бок сялянскага быту: «*Але ж што-што, а гарэлку пілі на кірмашы, як усягды, калі ня лепей. Народ навакал жывець небагата, бо землі мала, а фабрычна-заводскаго промыслу ці якого іншаго німа і да жялезнаго шляху далёка*[1]*, а гарэлкі пьець тутэйшы селянін надта многа»*[2]. Зноў аўтар звяртае ўвагу на праблему пьянства. Становіцца зразумелым, што асноўная тэма, якой будзе прысвечана журналісцкая дзейнасць М. Гарэцкага — гэта выкрыццё пьянства і агітацыя да навукі, адукацыі, асветы. Якой бы ні была скразная падзея, аўтар робіць акцэнт на «сваіх» праблемах. Гэта граматны прома-ход: па сутнасці аўтар стварае свой «нашаніўскі» вобраз «горыцкага асветніка-праўдаруба».

Але ж М. Гарэцкі-аналітык настолькі глыбока спрабуе засяродзіцца на прычынах неўладкаванага сялянскага жыцця, што ўводзіць у рэпартаж яшчэ

---

[1] Тэма ролі чыгункі ў станаўленні сялянскага дабрабыту мімаходзь закранаецца і ў рамане «Віленскія камунары» (1931—1932) — Заўв. В. Г.

[2] Падобны характар апісання «кірмашовых прыемнасцей» можна ўбачыць у аповесці «Ціхая плынь» (1926, 1930) — В. Г.

адну тэму — казённых «культуртргероў», якія, па сутнасці, павінны займацца выхаваннем вяскоўцаў: *«Агулам кажучы, шырокае поле дзеля працы есць тут сеўбітам прасьветы сярод цемнага беларускага сялянства. Ды не якім-небудзь, а сьведомым сеўбітам-беларусам, што выйшлі з вёскі, знаюць яе і не адракліся роднай вёскі. Ато ў Горках здаўна эсць шмат казенных "культуртргероў", бо калісь тут быў інстытут, а цяпер тры сярэдніх вучылішчы для адукацыі на гаспадарцы...»*, саркастычна заўважаючы, што *««культура» нешта далей Горак ў нашых мейсцах ня йдзе»*. Гэты прыём цалкам прыдатны да жанру рэпартажу, больш за тое, вельмі папулярны ў сучаснай журналістыцы. Як адзначае Б. Стральцоў: «Рэпартаж прыдатны для адлюстравання падзей не толькі пазітыўнага, але і негатыўнага плану, можа мець крытычную скіраванаць. Для такіх выпадкаў больш падыходзіць сінтэзаваная форма рэпартажу — пры фіксацыі негатыўных момантаў узнікае неабходнасць разабрацца ў іх прыродзе, даць каментарый і ацэнку…Таленавітыя рэпарцёры часам пішуць крытычныя рэпартажы ў фельетоннай танальнасці, скарыстоўваючы выразныя сродкі сатыры і гумару — ад гратэска, гіпербалы, да іроніі, насмешкі» [7, с. 16]. Калі ўлічваць гэтыя асаблівасці рэпартажу, варта адзначыць, што М. Гарэцкі відавочна быў на подступах да фельетона.

Дарэчы, і ў гэтым жанры паспрабуе сябе пісьменнік. Ужо ў № 5 за 1913 год з'явіўся фельетон «Нашы», у якім сатыра накіравана на выкрыццё заганаў «нашых» беларусаў, якія выбіліся ў людзі. Як вядома, фельетон грунтуецца на факце, а ў яго аснове заўсёды ляжыць пэўны канфлікт. Яшчэ адным элементам фельетона з'яўлецца наяўнасць устойлівага вобраза аўтара, які не дазваляе чытачу аналізаваць канфлікт, а сам робіць выснову.

Максім Гарэцкі тут не адышоў ад нормаў: у аснове фельетона — канфлікт паміж чалавекам і грамадствам, калі больш дакладна — у барацьбе чалавека са сваімі заганамі, якія знаходзяць урадлівую глебу для выяўлення ў соцыуме. Фактам для напісання твора сталі некалькі артыкулаў з расійскай прэсы пра беларусаў, якія не ўберагл і душу ад спакусы палепшыць дабрабыт любымі сродкамі. У тэксце дакладна прачытваецца аўтарскае «я», яно ахінае чытача сваімі эмоцыямі з першых радкоў і не адпускае да апошніх. Больш за тое, аўтар не дае магчымасці чытачу самастойна паразважаць над фактамі.

Фельетон пачынаецца клічнымі сказамі захаплення (своеасаблівая гульня з чытачом): *«Ёсць яшчэ порах у парахаўніцах!...Ёсць ешчэ дзеткі у Маткі-Беларусі, ёсць ешчэ у нас людзі-арлы, клёкат каторых чуцен і ня токма на ціхіх спрадвеку абшарах Бацькаўшчыны, але далетае ен нават да сенцоў, пэўне задніх сенцоў вялікіх паноў, бліскучых паноў Пецербурга. Весяліся, скачы, маё беларускае сэрцэ!»* Аднак праз некалькі радкоў становіцца відавочным, што тэкст мае вострую сатырычную скіраванасць, выкліканую аўтарскім незадавальненнем рэчаіснасцю. А незадаволены Гарэцкі тым, што ў адной з расійскіх газет надрукавана: *«Сын незаможнага бацькі, папа-беларуса, трапіў у Пецярбург у Дух. Акадэмію і адразу "праявіўся"»*.

Безумоўна, балюча ўспрымаў падобныя «навіны» беларус Гарэцкі (дарэчы, фельетон падпісаны псеўданімам «Максім Беларус»), бо стаяў на чале нацыянальнага адраджэння і добра разумеў, як складана даюцца беларусам нават самыя маленькія перамогі. Усведамляў і тое, што вораг не спіць, і нават за дробны промах расплата будзе вялікай, што, уласна кажучы, і ўбачыў праз друкаванае слова (расійскія выданні са смакам распавядалі пра «праявы» беларусаў). Таму ў фельетоне з горычу ўзяўся выкрываць нядбайных суайчыннікаў. Удала выкарыстоўваючы гратэск, М. Гарэцкі стварае мастацкі вобраз ворага беларушчыны: «*На пагляд-такі войстрачок дохленькі, куды працей галубка, але ў глыбіне душонкі сваей быў мудрэй уселякае вужакі, толькі нельга зычыць нікому гэтай яго "жыцьцёвай" мудрасьці, бо надта-ж брудна. Ня грэбаваў нічым, каб зарабіць грошы, каб проста набіць чэрава, але прастаўляўся, што працуе*

*“высокім ідэям” і ўрэшці быў “сваім чалавекам” у о. рэктара»*[1]. Сваю вялікую непрыхільнасць да такіх людзей пісьменнік выказвае па-мастацку саркастычна: у паняцці «свой чалавек», «высокая ідэя», «балотны агонь» наўмысна набываюць супрацьлеглае значэнне. І ўсё для таго, каб падкрэсліць, як лёгка можна памыліцца ў палітычна нестабільны час, вызначаючы маральную мяжу недатыкальнасці паміж сваім і чужым, высокім і нізкім.

Невыпадкова фельетон падпісаны псеўданімам «Максім Беларус», дзе «Беларус» прапісана з вялікай літары. Назваць сябе беларусам у той час мог чалавек, надзелены вялікай адвагай, разуменнем адказнасці за свае дзеянні і ўчынкі, і канешне, прасякнуты шчырымі патрыятычнымі пачуццямі. Таму беларус М. Гарэцкі не дае нават мінімальнай магчымасці чытачу для ваганняў, для спробы паразважаць пра апраўданне ўчынкаў «нашых» складанымі ўмовамі быту. Ён заканчвае гісторыю выклікамі: «Сорам, сорам!» Каментарый М. Гарэцкага носіць рэзка адмоўны ацэначны характар і гучыць ультыматыўна. Аднак гэта яшчэ не ўсё.

У фельетоне ёсць і іншая гісторыя, прынесеная Максіму Беларусу «Биржевыми Ведомостями»: *«Пан Лукашэвіч (хто хочэ, ніхай чытае Солон, ці як інакш), сын свайго беларусскаго народа, перш быў вучыцелем, потым... валасным пісарам, далей пралез у чыновенства, зрабіўся газэтным пісакам за “тые” грошы, скрабецца і ў Г. Думу, таксама працаваў “і нашым і вашым”. Як тое кажыць: — на усе кепствы — майстра лепшы»*. Аўтарскае «я» публіцыста выражана адкрыта і эмацыянальна, носіць назідальны характар: *«А сколькі ешчэ, хто ведае, поўзае гэткіх “нашых”, буйнейшых і драбнейшых, па зямлі, удварэ, дома ці сярод чужынцоў у сьвеці! Крый, Божэ, барані...»* Заканчваецца ж фельетон па-журналісцку вострым перыфразам: *«І калі-ж мінець нас гэтае дрэннае — дажджлівае лета, бо шмат развялося чарвей; каб ня зьелі яны нашу капусту»*.

Такім чынам, і жанр фельетона падуладны Максіму Беларусу. Малады пісьменнік таленавіта скарыстаў мастацкае слова для публіцыстычнай неабходнасці, бо фельетон — той жанр, дзе мастацкія сродкі толькі завастраюць тэкст. Ад першага іранічнага слова назвы «Нашы» да апошняга перыфраза — тэкст прасякнуты дынамічным пульсам думак, эмоцый і спадзяванняў аўтара.

Нават з разгляду трох публікацый відавочна, што аналіз публіцыстыкі М. Гарэцкага «нашаніўскай пары» — справа не такая ўжо і другарадная, бо менавіта ранняя публіцыстыка, творчасць таго часу, калі пісьменнік не быў яшчэ зацятым прыхільнікам ніякай іншай ідэалогіі акрамя справы нацыянальнага станаўлення, дае магчымасць зразумець, як фарміраваўся яго светапогляд, як выточвалася ідэалагічная пазіцыя, як слова і думка публіцыста з часамператвараліся, выраслі ў слова пісьменніка.

## Спіс літаратуры:

1. Бугаёў, Д. Максім Гарэцкі / Дзмітрый Бугаёў. — 2-е выд., выпр., дап. — Мінск: Бел. навука, 2003.

2. Наша ніва. Штотыднёвая газета: Факсімільнае выданне. Выпуск 5 (1912—1915, 1920 гг.) /Адказны за выпуск Зьміцер Санько. — Мінск: Тэхналогія, 2009 // № 1, 1912.

3. Туронак, Ю. Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі / Юры Туронак. — Мінск: Медысонт, 2006.

4. Унучак, А. «Наша ніва» і беларускі нацыянальны рух (1906—1915 гг.) / А. Унучак. — Мінск: Бел. навука, 2008.

---

[1] Падобнага героя можна сустрэць на старонках аповесці «Дзве душы» (1919) — гэта Карпавіч-Гаршчок, які ў любой партыі «мог бы знаходзіцца з пэўнай шчырасцю» — В. Г.

5 Гарэцкі, М. Гісторыя беларускае літаратуры / Уклад. і падрыхт. тэксту Т. С. Голуб — Мінск: Маст. літ., 1992.

6. Мова «Нашай нівы». Семантыка. Стылістыка / Нац. акад. навук Беларусі, Цэнтр даслед. беларус. культуры, мовы і літ., філіял «Інстытут мовы і літ. імя Якуба Коласа і Янкі Купалы»; пад рэд. В. П. Лемцюгова. — Мінск: Бел. навука, 2014.

7. Стральцоў, Б. Метад і жанр. Асновы творчага майстэрства журналіста / Б. Стральцоў. — Мінск: БДУ, 2002.

Матэрыял паступіў у рэдакцыю 1 сакавіка 2016 года

## Рэзюмэ

**Вольга ГУБСКАЯ**

### Тэксты Максіма Гарэцкага на старонках «Нашай нівы» праз прызму ўспрыняцця журналістыкі

Дадзены артыкул — спроба аналізу публіцыстыкі М. Гарэцкага на старонках газеты «Наша ніва». Акцэнт робіцца на самых першых публікацыях пісьменніка, якія традыцыйна прынята называць нататкамі. У артыкуле даказваецца, што калі разгледзець згаданыя публікацыі праз прызму журналістыкі, жанравая палітра матэрыялаў Гарэцкага пашыраецца: нататка, сінтэзаваны рэпартаж, фельетон. Акрамя гэтага становіцца відавочнай тэматычная сувязь паміж публіцыстыкай ранняй пары і мастацкімі творамі пісьменніка.

**Ключавыя словы:** публіцыстыка, характар камунікатыўнага задання, жанравыя прыметы, жанравая форма, тып тэксту, нататка, сінтэзаваны рэпартаж, фельетон.

## Summary

**Volga GUBSKAYA**

### Maxim Garetski texts on the pades of «Nasha Niva» through the prism of journalism

This article — attempt of the analysis of journalism of M. Gorecki on pages of the Nasha Niva newspaper. The emphasis is placed on the very first publications of the writer which it is traditionally accepted to call “notes”. In article it is proved that if to consider the above-named publications through a journalism prism, the genre palette of materials of Gorecki will extend: a note, the synthesized reporting, the feuilleton. Besides there is obvious a thematic communication between journalism of an early time and works of art of the writer.

**Keywords:** publicism, communicative nature of the job, genre features, genre form, type of the text, note, a synthesized report, an article.

**Арнольд МАКМІЛІН**

# ПРАДСТАЎНІК РЭДКАЙ ДЫНАСТЫІ — АНТОН ФРАНЦІШАК БРЫЛЬ

Антон Францішак Брыль, унук Янкі Брыля, безумоўна, выбітнейшы малады пісьменнік, як у вершах, так у прозе й перакладах. Магчыма, што ён — не адзіны творчы сваяк беларускага класіка, бо апошні быў дзявятым дзіцём у сям'і: напрыклад, пакуль малавядомы аўтар, Віталь Брыль, — напісаў мініяцюру «Гульні розуму», выдадзеную ў 2011 годзе [7, с. 20]. Аднак бясспрэчна, што Антон мае выключны талент.

У існаванні музычных ці літаратурных дынастый няма нічога дзіўнага. Вядома, часам дзеці пераўзыходзяць бацькоў, ці, прынамсі, так лічыцца. Немагчыма не памятаць, што пра непараўнальнага музычнага генія Ёгана Себасцьяна Баха (1685—1750) па ягонай смерці неўзабаве забыліся, апроч як пра віртуознага клавішніка, і ў сярэдзіне XVIII ст. вялікім Бахам лічыўся адзін з ягоных шматлікіх сыноў Карл Філіп Эмануэль Бах (1714—1788). А Баха, якога мы ўсе сёння ведаем, наноў адкрыў ужо ў XIX ст. Ф. Мендэльсон (1809—1847).

У Беларусі, як вядома, нямала літаратурных дынастый. Напрыклад, у пісьменніка Вячаслава Адамчыка (1933—2001) два сыны, якія таксама пайшлі па літаратурным шляху: Адам Глобус (нар. у 1958 г.) і Міраслаў Шайбак (нар. у 1965 г.). Празаік Барыс Пятровіч (нар. у 1952 г.) — як вядома, пляменнік Барыса Сачанкі (1936—1995); менш вядома, што ягоная дачка Галіна Багданава (нар. у 1961 г.) таксама піша прозу, дзіцячыя вершы і п'есы і што малодшая яе сястра была таленавітая паэтка, Святлана Явар (1968—2011). Сын Ларысы Геніюш (1910—1983), Юрка (1935—1985), таксама пісаў вершы. Маці выбітнага крытыка і літаратуразнаўцы Аксаны Бязлепкінай (нар. у 1981 г.) Святлана Бязлепкіна (нар. у 1957 г.) з Гомеля — паэтка, сярод твораў якой — «Чарнобыльская русалка» (1998). Сын Віктара Жыбуля (нар. у 1978 г.) і Веры Бурлак (нар. у 1977 г.) Кастусь (нар. у 2005 г.) ужо пачаў пісаць вершы і апавяданні. Ёсць, мабыць, шмат іншых. Некаторыя беларускія паэты — дзеці паэтаў рускамоўных. Напрыклад, Аксана Спрынчан (нар. у 1973 г.) — дачка Вадзіма Спрынчана (нар. у 1950 г.), а майстар беларускага слова Андрэй Хадановіч (нар. у 1973 г.) — сын Валерыя Хадановіча (нар. у 1957 г.).

Апроч як у згадцы пра Бахаў, у гэтых уводзінах не выказваецца думка, што бацькі больш альбо менш таленавітыя за дзяцей.

* * *

Творчасць Янкі Брыля (1917—2006), перадусім вядомага сваімі лірычнымі мініяцюрамі, здаецца, мала паўплывала на ягонага ўнука Антона Францішка Брыля (нар. у 1982 г.) У гэтым артыкуле пасля доўгіх уводзін разглядаюцца вершы й проза апошняга.

Антон Брыль заслужыў прызнанне як арыгінальны паэт і таленавіты перакладчык англамоўнай літаратуры, у тым ліку Ейтса, Толкіна, Сюзанны Кларк,

ірландскіх народных казак і стараанглійскай паэзіі. У 2013 г. ён надрукаваў бліскучы пераклад «Бэавульфа» на беларускую мову. Асаблівай крыніцай натхнення для А. Ф. Брыля выступае Катул — ягоная творчасць займае істотнае месца ў першай кнізе паэта «Не ўпаў жолуд», апублікаванай накладам 200 асобнікаў [3].

А. Ф. Брыль сваёй творчасцю адрозніваецца ад усіх іншых паэтаў маладога пакалення, апісаных нядаўна у кнізе «Рунь» [6]. Ён надае вялікую ўвагу рыфме і вершаванню, яго моцна вабіць мінулае, прычым ён успрымае і Вялікае Княства Літоўскае (Літву), і антычную цывілізацыю як сваю спадчыну. Пра гэта сведчыць зварот да міфалагізаваных гістарычных постацяў і магутнае адчуванне сувязі з зямлёю. Зборнік «Не ўпаў жолуд» — плён багатай фантазіі і ўяўлення, у ім ажываюць шматлікія паданні і фантастычныя пачвары. Глыбокае ўспрыманне прыроды найбольш яскрава выяўляецца ў апісаннях лясоў і балот — збольшага далёка не дабрадайных. У шэрагу вершаў дзеянне адбываецца ў вечаровых прыцемках ці ўначы, а ў фіналах паэм выразна прысутнічае рэлігійны складнік.

Даўжыня радка ў А. Ф. Брыля вагаецца ад тэтраметраў да шаснаццаці- і сямнаццацісkладовікаў; паэт карыстаецца разнастайнымі схемамі рыфмоўкі. Большасць слоў, якія ён ужывае, — досыць празрыстыя, але агульны сэнс асобных вершаў часам здаецца няўлоўным. Ясна разумеючы гэтую праблему, паэт дае тлумачэнні ў разгорнутых «Каментарах», якія пачынаюцца з тлумачэння назвы, узятай, як кажа аўтар, з англійскай народнай песні. Зборнік як цэлае паклiканы паўтарыць будову адзінай ацалелай кнігі Катула. Ён адкрываецца «Прысвячэннем Гельвію Цыне» (2008) — сябру Катула. У напісаным адзінаццацісkладовікам вершы паэт дасылае Цыну ў нёманскім чаўне запісаныя на лістах дуба пытанні пра тайніцы жыцця. Сам зборнік пачынаецца з верша, які фармальна ўяўляе сабой стылізацыю пад англійскую баладу, але, як кажа аўтар, толькі блюзавую [2]. Назва «Корамні-дэлл» (2004), пазбаўленая відавочнага значэння, паўтараецца рэфрэнам. У астатнім простыя словы выказваюць скрушную неадступную думку, што паэт ніколі не ўбачыць Корамні-дэ*л*... У іншай баладзе, поўнай музычных паўтораў, «Брацец сон і сястрыца смерць» (2010), гэтыя брат з сястрой выходзяць уначы выканаць сваё прызначэнне:

Брацец сон і сястрыца смерць
Згасла неба, ўзышоў маладзік і сусвет у ценях зацiх,
І брацец сон і сястрыца смерць ідуць ад жытлаў сваіх,
І брацец сон шукае таго, каму спакою няма,
А сястрыца смерць шукае таго, каго абярэ сама,
І брацец сон суцяшае таго, хто з пачаткам працы сядзеў,
А сястрыца смерць суцішае таго, каму заставаўся дзень,
І брацец сон юнаку пяе і згадкі вядзе ўваччу,
А сястрыца смерць замыкае ключом вусны яго дзяўчу,
І брацец сон аблятае свет паводле волі сваёй,
А сястрыца смерць абнаўляе свет паводле волі сваёй,
Але неба святлее, радзее цень і дзесьці певень пяе,
І брацец сон і сястрыца смерць ідуць у жытлы свае [3, с. 6].

У «Простым восеньскім рандо» (2007) таксама ўздымаецца тэма смяротнасці. Простая ідэя гэтага верша ў тым, што жыццё і смерць трэба прымаць аднолькава. «Зямля» (2011) — незвычайны верш пра каханне: паэт абдымае дубы, нібы каханую. Ён напісаны ў гутарковым тоне, але перадае сур'ёзныя пачуцці. Верш «Важаняткі» (2005) створаны ў простанароднай манеры — гэтыя жывёлінкі шукаюць ежу: вужакаў, змеек, жабак, а тыя хаваюцца, каб іх не засмажылі і не з'елі. Падобная інтанацыя гучыць у вершах «Відымін» (2011), які спалучае гістарычныя і фальклорныя элементы, і «Балотны агеньчык» (2006), дзе яскрава распавядаецца, як паэт, блукаючы ў лесе ўначы, знаходзіць у слізкай атрутнай траве міфалагічную істоту — маленькага пачварыка, які змушае яго збіцца са шляху, а потым аддаецца грызотам сумлення.

«Кастрычнік» (2008) — першы верш А. Ф. Брыля на гістарычную тэму, які вымагае тлумачэнняў. У ім над сталом схіліліся два сівыя Радзівілы — празрыстая алюзія на Мікалая Радзівіла Рудога і Мікалая Радзівіла Чорнага. Праўда, Мікалай Чорны, як прызнае аўтар, дажыў толькі да пяцідзесяці гадоў, і таму наўрад ці паспеў ссівець [3, с. 41]. У вершы часта паўтараецца слова «сівы», але гэта невыпадкова. Дарэчы, Мікалай Руды таксама фігуруе ў вершы на гістарычную тэматыку над назвай «Цені» (2010): князь пад'язджае на кані да Ашмянаў і бачыць, што там адбылася крывавая сеча і горад захоплены. Большасць гістарычных вершаў А. Ф. Брыля немагчыма прывесці, бо яны надта доўгія, але нехарактэрны прыклад — «Кастрычнік»:

Кастрычнік
Па нябёсах ветах сівы брыдзе,
Ды яшчэ адзін — па ільдзяной вадзе,
А вятрыска лісце з галін ірве
Па сівых лясох на сівой Літве.

А ў вакне ў палацы, у сівым святле —
Разгарнутая кніга на старым стале,
І над ёю схілёны дзве галавы —
Радзівіл Сівы ды Радзівіл Сівы [3, с. 10].

А. Ф. Брыль надае вялікую ўвагу вершаскладанню. Напрыклад, «Вігінтуна» (2012) — гэта спроба стварыць новую вершаваную форму: тры станцы па сем радкоў са схемай рыфмоўкі aBaBcBc. Гэта відаць не толькі з самога тэксту, але яшчэ і адмыслова падкрэсліваецца ў аўтарскіх «Каментарах». Тут прысутнічае і ўскосная адсылка да верша «Wieczór sobotni» (Суботні вечар, 1832), занатаванага польскім лексікографам і фалькларыстам Янам Карловічам [5 с. 101]. Дзеянне адбываецца ўначы: паэт сунімае трывогу тым, што ўяўляе, як нехта прадзе кудзелю ягоных (доўгіх) валасоў. Як і ў шмат якіх іншых творах А. Ф. Брыля, тут выразна адчуваецца вясковае жыццё з яго гукамі. Напрыклад, у вершы «Навальніца» (2004) спадчына старой Літвы для паэта мае вельмі канкрэтныя абрысы — Налібоцкай пушчы і гарадзенскага муру. Аднак, як сведчаць апошні радок другой станцы і заключны радок, тут марна шукаць хоць якой рамантыкі:

Я народжаны гэтаю чорнаю злою зямлёю.
[...]
Мае ногі пускаюць карэнне ў няплодную глебу [3, с. 12].

У творах А. Ф. Брыля (напр., «Ступені» (2003), «Рака» (2007) «Identité» (2008)), багата гатычных элементаў. У некаторых вершах дыялогі бацькі з сынам прымушаюць згадаць баладу Гётэ «Der Erlkönig» («Лясны цар»), пакладзеную на музыку Шубертам у ягонай знакамітай песні. У іншым дыялагічным вершы пад назвай «Гінвіл» (2011) чужынец праязджае каля незамкнёнага двара, хлопчык кажа пра гэта бацьку, а той збіраецца яго дагнаць і забіць [3, с. 15]. Верш «Снежань» (2010) яшчэ больш нагадвае баладу Гётэ: нячулы, абыякавы да сынавых просьбаў бацька толькі і паўтарае: «А мне і справы няма» [3, с. 17]. Верш «Сурвіла» (2010) прысвечаны малавядомаму шляхціцу XV ст., таму паэту й лейцы ў рукі: ягоны герой велічна едзе, паўтараючы рэфрэнам:

А ты ж мая дзетачка, засні, засні,
Ох, дзетачка, дзетачка, хутчэй засні [3, с. 23].

Аднак у апошняй станцы аброць ляжа ў ягоную празрыстую руку. Гатычныя матывы ёсць таксама ў вершах «Верасень» (2005) і «Чароўны народ» (2004). У першым смуга ўвасабляецца ў вобразе празрыстай дзяўчыны. Калі явар ажыве і перакінецца ў жалезнага змея, дзяўчына стане ў яго на хрыбце і з крыкам рынецца

ў багну, насустрач смерці [3, с. 22]. Наогул у гэтай кнізе часта сустракаюцца змеі і цмокі, напрыклад, у вершах «Смуга», «Гедрус» і «Гольша». У вершы «Чароўны народ» лірычнага героя ахоплівае дзіўнае адчуванне, што ягоны народ хоча ад яго чагосьці, але не ведае, чаго. Ён загароджваецца ў доме і зноў абвяшчае, што яму нічога не зразумець:

Цішэй, цішэй, чароўны народ,
Ну нашто вам ізноў патрэбны я? [3, с. 21]

Некаторыя вершы маюць глыбокую мараль. Напрыклад, у «Песні пра святога Марціна» (2010) змерзламу жабраку падае міласціну Марцін — адзіны з трох жаўнераў у варце. Раскрываецца, што ў аблічча жабрака хаваўся Ісус, і святы Марцін застаецца жыць вечным сімвалам міласэрнасці і дабрыні. Жалуды ў аднайменным вершы (2010) мусяць зрабіцца народам. Людзям прапаноўваецца завучыць закляцце і кінуць паперу з жалудамі ў раку. У кнізе на тым самым развароце — надпіс царкоўнаславянскімі літарамі і стылізаваная пад сярэднявечча выява збройнага вершніка.

Апошнія два творы, напісаныя пентаметрам, значна даўжэйшыя за астатнія. Тлумачэнні да «Гольшы» (2009) займаюць тры старонкі «Каментароў». Паэма паўстала з трох вытокаў: імкнення пераймаць ужо згаданы старажытнарымскі ўзор, адрадзіць частку Літоўскай Хронікі і аспрэчыць сэнс панятку міф, як яго ўжывае філосаф Валянцін Акудовіч (нар. у 1950 г.) Не зусім ясная сувязь з беларускай гісторыяй, і паэт прызнае наяўнасць пэўных анахранізмаў. Гольша — адзін з пяцёх сыноў Рамана, які змарнаваў сваю маладосць. Ён атрымлівае загад упаляваць дзікага звера — гэта будзе знак, дзе збудаваць горад. Велізарнага тура мала, але Гольша ўрэшце забівае страшэннага цмока і спраўджвае сваё памкненне. Цікавая дэталь: паэма сканчаецца словам «АМЭН» — не па-беларуску ці па-руску. У вершы «Гедрус» герой будуе цудоўны замак там, дзе раней былі толькі багна і чарот. Вартаваць яго мусіць мядзведзь, але замак двойчы згарае. Калі мядзведзь стаіўся, з лесу з'яўляюцца тры змяі. Гедрус угаворвае адну з іх скінуць скуру і стаць яму жонкай. Напрыканцы паэт даводзіць, што добрая жонка — гэта замак без гора, што дым — апора нябёсам і г. д. Сканчаецца ўсё зноў, як выглядае, пабожным «АМЭН».

Антон Францішак Брыль у сваім першым зборніку прадэманстраваў жывое ўяўленне, глыбокія веды і паэтычнае майстэрства. Хочацца спадзявацца, што ягоны дапытлівы розум будзе і надалей выяўляць сябе не толькі ў навуковых доследах і перакладах, але і ў паэзіі, дзе ён зрабіў сапраўды бліскучы першы крок.

* * *

Калі ў 2014 г., праз тры гады пасля выхаду паэтычнага зборніка «Не ўпаў жолуд», Антон Францішак Брыль апублікаваў казачную аповесць «Ян Ялмужна» [4], яе сустрэлі з вялікай цікавасцю. Як і вершы А. Ф. Брыля, «Ян Ялмужна» сведчыць пра жывое гістарычнае ўяўленне аўтара і ягоныя глыбокія веды. Апроч таго, аповесць вылучаецца сярод фантастычна-гістарычных твораў сучаснікаў тонкім адчуваннем мовы, часам вострым, але часцей далікатным гумарам і нязмушаным спалучэннем фантазіі з вартымі даверу гістарычнымі дэталямі.

У XVI ст. сапраўды жыў пан Ольбрахт Гаштаўт, і ён сапраўды меў замак у Геранёнах, на захадзе сучаснай Беларусі. Дарэчы, рыхтуючыся да напісання твора, аўтар некалькі разоў наведаў Геранёны. Бачыцца, што Ян Ялмужна таксама быў рэальнай асобай, хоць і неабавязкова амбітным кухмістрам, якім ён паўстае ў аднайменнай казцы. Пралог пачынаецца сцэнай у замку па смерці вялікага князя літоўскага Аляксандра Ягелончыка (1461—1506); яна моцна ўражвае чытача

апісаннем разгубленасці, якую гэтая падзея спарадзіла сярод шляхты [4, с. 5—6]; магутнае ўражанне ад гэтай сцэны можна параўняць з напісанай на паўстагоддзя раней «Вялікая элегіяй Джону Дону» (1963) [1, т. 1, с. 116—20]. Тут таксама ўводзяцца некаторыя іншыя персанажы. На самым пачатку раскрываюцца і тагачасныя вераванні, калі проста ўпоперак дарогі ездзяць невядомыя рыцары — задзіўленыя сведкі сцвярджаюць, што гэта чыстае чарадзейства. Далей сюжэт амаль суцэльна разгортваецца праз розныя размовы, аформленыя ў выглядзе кароткіх раздзелаў. Нягледзячы на шматлікія змены месца дзеяння, разам яны ўтвараюць адзінае цэлае.

Аднак мэта кнігі не ў тым, каб пераказаць гістарычныя факты, а ў тым, каб аднавіць дух той эпохі ў жывых рэалістычных і фантастычных сцэнах і ў шматлікіх дыялогах паміж людзьмі самых розных станаў і рангаў. А. Ф. Брыль па-майстэрску вымалёўвае сваіх персанажаў — гэта, бясспрэчна, выклікае захапленне, як і каларытная, але пры гэтым аўтэнтычная мова герояў. Шмат у якіх размовах удзельнічае Ян Ялмужна; у яго размаітых дыскусіях (асабліва са святарамі) багата гумару, яны раскрываюць самыя асновы тагачасных рэлігійных вераванняў і забабонаў. Напрыклад, айцу Марціну асабліва даспадобы гутарыць з кухмістрам, ён ахвотна наведвае яго, каб паразмаўляць пра ежу і пажартаваць, але яго апаноўвае скруха, бо ён адчувае, што ён жартуе толькі па звычцы [4, с. 57]. Айцец Марцін пераходзіць з адной тэмы на іншую і, раптам пабачыўшы сем цыбулін, пачынае казаць пра значэнне ліку сем у Бібліі. Але Яна не адолець: ён заяўляе, што ён — сёмы сын, і размова робіцца бязладнай. Дарэчы, сын млынара — таксама сёмы; далей у кнізе гаворыцца пра тое, чаму істотна тое, што ты — сёмы сын [4, с. 94—95]. Айцец Марцін нібыта разумее асобныя словы, але не можа ўхапіць агульнага сэнсу, і таму выбудоўвае свае думкі, адштурхоўваючыся ад выпадковых слоў [4, с. 60]. Гэтая дзіўная размова заканчваецца толькі тады, калі Ян мусіць вярнуцца да працы, бо пан Ольбрахт верыў свайму кухмістру [4, с. 62]. Бліжэй да пачатку казкі камічны і трохі баязлівы айцец Мацей падмацоўвае ўсе свае аргументы цытатамі з Бібліі. Глыбока разважаючы пра тое, што ён — падабенства Хрыста, айцец Мацей абураецца, калі Ян выказвае меркаванне, што некаторыя ягоныя творы на кухні нагадваюць біблейныя цуды [4, с. 17—18]. Пыхлівага і палахлівага Мацея ўсё трывожыць, асабліва чуткі і плёткі, што лунаюць вакол замка.

Аднак святары — не адзіныя суразмоўцы Яна: уначы ён часам крадком ідзе ў суседні лес, дзе жыве таямнічы «лясны дзядзюхна» з зіхоткімі пёрамі на шапцы. Гэтая дзіўная істота хутка робіцца ягоным канфідантам, і Ян прызнаецца яму ў каханні да Зафійкі Якубаўны, дачкі фанабэрыстага баярына. Праўда, ён кажа, што ніколі наўпрост не гутарыў з дзяўчынай, а толькі звяртаўся да ейнага адлюстравання ў рацэ. Яна размаўляла ганарліва, але вельмі выкручаста, а Ян збольшага адказваў загадкамі. Калі дзяўчына ўрэшце здагадалася, хто ён, Ян скочыў на бераг і паглядзеў на яе адлюстраванне ў вадзе. Раздзел «Размова з дрэвам» [4, с. 42—48] — кранальная, хоць і малаверагодная сцэна юначых заляцанняў. Ян атрымлівае трунак, які мусіць надаць яму смеласці, каб дамагчыся сваёй недасяжнай мары, хоць лясны дзядзюхна і не любіць даваць парады ў чалавечых справах. Ён часта адказвае на пытанні занепакоенага Яна байкамі, а калі той заўважае, што яны супярэчаць адна адной, лясны дзядзюхна мае гатовы адказ:

«— Але ж, — пагадзіўся дзядзюхна. — А з таго таксама ўрок. Байкі слухай адным вухам, а пра жыццё сваё думай усёй галавой» [4, с. 54].

Лясному дзядзюхну больш даспадобы размаўляць пра лес і прыроду, распавядаць паданні і міфы — мабыць, нават больш дзівосныя за тыя, у якія вераць святары і іншыя жыхары замка пана Ольбрахта. Далей, на здзіўленне Яну, высвятляецца, што ў самім замку жывуць некалькі іншых лясных дзядзюхнаў.

Напрыканцы кнігі, пасля шматлікіх перыпетый, Ян просіць пана Ольбрахта зрабіць яго баярынам, і пасля якой хвілі цалкам зразумелай задзіўленасці пан

абвяшчае: «Чаму б не трымаць на кухні баярына»? [4, с. 102—103] — і тым самым здымае апошнюю перашкоду, якая аддзяляе Яна ад Зафійкі. Як і належыць у фальклорнай стылізацыі, Ян дае рады адгадаць тры загадкі (ці прынамсі дзве), і кніга сканчаецца рамантычна, як у казцы: над з'яднанымі закаханымі ззяе зорка [4, с. 105—106].

Аднак унікальнасць кнізе надае не гэтая рамантычная гісторыя або які іншы складнік сюжэта, а сам тэкст з багаццем яго мовы, вобразнасці, эпітэтаў, імклівымі зменамі тону і настрою, ад якіх гэтая выдатная казка не робіцца менш чытэльнай. Адзін раздзел, у якім не фігуруе Ян, служыць добрым прыкладам гумару ў казцы. «Размову ля брамы» вядуць два магнаты: Ольбрахт Гаштаўт і князь Павал Гальшанскі. Князь Павал хоча паразмаўляць пра караля коршакаў [4, с. 85], але ягоны суразмоўца настроены скептычна і замест гэтага пачынае прыўзносіць пчол. Наступны ўрывак дае ўяўленне пра характар іхняй размовы:

«— Але я хацеў яшчэ расказаць табе пра пчалу. Пчала мае найсаладзейшы голас, і, калі яна пяе, усе змаўкаюць і цешацца.

— Ды ані каліва, — перабіў Гаштаўт. — Пчала гудзе і мармыча, як п'яны францішканін, і хто яе пачуе — так і сочыць, каб не джыганула выпадкам у руку ці ў шчаку.

— Пэўна, што і праўда так, — пагадзіўся князь Павал. — А яшчэ пчала заўжды мае патрэбу ў мёдзе, і паўсюль яго шукае, і рассылае ганцоў ва ўсе бакі, і распытвае сустрэчных, ці не бачылі яны дзе мёду, каб адтуль ужо прынесці ды скласці ў вуллі.

Гаштаўт нахмурыўся.

— Ты гэта жартуеш, родзіч, а ці звар'яцеў за кнігамі?» [4, с. 86]

Немагчыма пералічыць усе выдатныя размовы з гэтай кнігі, якую надзвычай радасна чытаць, але, бясспрэчна, варта назваць адзін з пачатковых раздзелаў пад назвай «Размова між фрэсак». Адзін пакой палаца Гаштаўта аздоблены фрэскамі, на якіх намаляванае заснаванне Літвы. Гаспадар цешыцца гэтым пакоем, падчас размалёўкі якога ён ледзь не давёў іншаземнага майстра да шаленства. Ён з гонарам паказвае і апісвае іх князю Паўлу [4, с. 32—33], пачынаючы ад Нерона і ягонага родзіча Палемона, які быў родам з Літвы. Фрэскі даюць аўтару нагоду пашырыць геаграфію падрабязных гістарычных партрэтаў далёка за межы славянскіх земляў. На трэцяй фрэсцы — рака Нёман, на якой, меркавалася, і ўзнікла краіна [4, с. 33—36]. Далей у размове пан Ольбрахт са скрухай кажа пра заняпад краіны ў 1517 г.:

«— Але што рабіць, калі часы ідуць на спад, ідуць і да сёння? Год Панскі тысяча пяцьсот сямнаццаты — у самых гэтых словах чутная восень. І як лісты адрываюцца ўвосень ад дрэў, так і людскія цноты ўжо не могуць утрымацца разам, нават і ў рымлянах» [4, с. 37].

Згадка пра рымлянаў пераходзіць у агульныя развагі пра радавод. Пан Ольбрахт перакананы, што паходзіць ад рымлянаў, але князь Павал пярэчыць, што французы, ангельцы і туркі таксама сцвярджаюць, што маюць старажытных продкаў. У адказ ён чуе, што гэта ўсё казкі:

«— Але гэта казкі! — абурыўся Гаштаўт. — Ці мала ў кнігах казак і ці мала казак у пагалосках?

— А калі не з кніг ды пагалосак, то адкуль нам знаць і пра Літву? — падхапіў князь.

Гаштаўт бліснуў вачыма і падаўся наперад, быццам маючы на гэты выпад адказ з адказаў, але замёр, уздыхнуў, нахмурыўся і не сказаў зусім нічога. А князь Павал працягваў:

— Чаму б не быць Палемону казкай? Я чуў аб ім ад цябе — а ад каго чуў ты і чаму паверыў? Можа, проста камусьці здалося, што Рым далёка, а аб далёкім заўжды выдумляюць небывалае» [4, с. 38].

Нешматлікія прыведзеныя вышэй цытаты могуць адно аддалена перадаць, з якіх разнастайных, жывых дыялогаў складаецца кніга. Некаторыя з іх утрымліваюць амаль самастойныя вершы і аповеды. Прыклад вершаў — «Размова ўверсе» [4, с. 63—69]. Тут госці пана Ольбрахта, калі гутарка згасае, прыдумляюць кароткія вершы, каб здавацца дасціпнымі, а не нуднымі. Добры прыклад аповеду знаходзім у «Размове на лузе» [4, с. 70—76]. Ян і Зафійка размаўляюць пра легендарнага Шымку, чый прыгожы голас заводзіць яго ў небяспечны чарадзейны свет, дзе сярод іншага запыняецца час. Як і ў іншых раздзелах гэтай кнігі, якая ўся дыхае сярэднявечнымі павер'ямі і забабонамі, кожная гісторыя мае шмат версій.

У дадатак да багатай фактуры сюжэта і дыялогаў, А. Ф. Брыль дае рады з разнастайных «размоў» стварыць суцэльную карціну надзвычай цікавага перыяду беларускай гісторыі праз прызму жыцця аднаго сярэднявечнага замка. У гэтай казцы пераплятаюцца наіўнасць і крутельства, досціп і дурнота, улада і злоўжыванне ёю з боку тых, хто жыве ў замку і ў яго наваколлі. «Ян Ялмужна» ніколі не стаўся б гістарычным раманам, але твор А. Ф. Брыля не менш магутна перадае дух мінуўшчыны, спалучаючы казачныя матывы і цудоўны гумар, нязменна яскравыя апісанні і выдатна прамаляваныя характары.

* * *

Як у сваёй наватарскай, майстэрскай паэзіі, гэтак і ў не менш удалай казачнай аповесці Антон Францішак Брыль выяўляе сябе выбітным творцам свайго пакалення. Трэба спадзявацца, што ён і надалей будзе пісаць прынамсі ці вершы, ці прозу, не адрываючыся на тое, каб зарабляць на кавалак хлеба ў галіне камп'ютарных тэхналогій. Гэткі талент нельга марнаваць.

## Спіс літаратуры:

1. Бродский, И. Стихотворения и поэмы: в 2 т. — Санкт-Петербург, 2011.
2. Брыль, А.Ф. Live Journal, 2004.
3. Брыль, А.Ф. Не ўпаў жолуд. — Мінск, Логвінаў, 2011.
4. Брыль, А.Ф. Ян Ялмужна / А.Ф. Брыль. — Мінск, Кнігазбор, 2014.
5. Karłowicz, J. Podania i bajki zabrane na Litwie. — Кракаў, 1887.
6. Макмілін, А. Рунь. — Мінск, Кнігазбор, 2016.
7. Федарэнка, Т. Мільён непатрэбных гукаў. — Мінск, Галіяфы, 2011.

Барыс ЯФІМЧЫК

# РАНІШНЯЯ ПАМЯЦЬ І ВЕЧАРОВЫ РОЗДУМ

*Ходкім стала меркаванне, што пра сапраўднага пісьменніка шмат гавораць ягоныя творы. У пэўнай ступені — гэта так. Хоць, бадай, правільней сказаць, што, каб лепш спазнаць пісьменніка, трэба пабываць у яго на радзіме. Толькі часам у родныя мясціны літаратара, творчасць якога даўно любіш і добра ведаеш, завітаць не так і проста, бо яны знаходзяцца далёка ад Беларусі, якая даўно стала для яго роднай. У такім разе, калі аўтабіяграфія ім не напісана, застаецца распытваць пра жыццё-быццё ў самога пісьменніка, а таксама знаёміцца з ранейшымі публікацыямі пра яго. Такім шляхам я і пайшоў, узяўшыся пісаць пра Ганада Чарказяна.*

## Крынічка ды бруістая

Радзіма Г. Чарказяна — сяло Ерасхаун Акцембранскага раёна. Гэта Арарацкая даліна, сёння Рэспубліка Арменія. Ерасхаун перакладаецца як рэчышча ракі Ерасх. Дзе рака — там вада. Дзе вада — там жыццё. Сяло Ерасхаун узнікла дзякуючы дзеду Г. Чарказяна. У тамашніх мясцінах ён апынуўся са сваім сябрам, гэткім, як і сам, выгнаннікам-курдам. Яны ўцяклі сюды з Турцыі. Упадабалі гэтае месца ў вёрстах сарака ад Ерэвана, у дванаццаці — ад святыні Эчміадзіна. Ракі, па сутнасці, ужо не было, рэчышча высахла. Але поруч бруілася невялічкая крынічка. «З малочнай ад холаду вадой», як скажа пазней пра яе Г. Чарказян у адным са сваіх вершаў.

Ганадаў дзед паэтам не быў. Не была паэткай і яго бабуля. Аднак яны, як і ўсе, хто жыў у Арарацкай даліне, не маглі не захапляцца паэзіяй самой прыроды, хараством наваколля. Хоць часцей, на жаль, было не да гэтага замілавання. Ганенні на курдаў працягваліся. Выжывалі нямногія. Некаторым выстаяць, не загінуць дапамагала мужнасць блізкіх людзей. Мужнай была і бабуля Г. Чарказяна. Не пабаялася канваіраў, якія гналі старых, дзяцей. Закрычала на сваю малодшую дачку: «Чаго блытаешся пад нагамі?! Прэч адсюль! У мяне сваіх дзяцей — плойма». Канваір, які знаходзіўся поруч, канешне, пра ўсё здагадваўся, ды адвярнуўся. Чалавекам аказаўся. Дзякуючы гэтаму і засталася ў жывых будучая маці Г. Чарказяна.

Подзвіг — так подзвіг! — здзейсніў і ягоны дзед. Ён вывез у мяшку з ссылкі свайго пляменніка. Праз усю вялікую краіну прабіраўся. Не ведаючы ні слова па-руску. Па вяртанні дамоў юнак важыў усяго 26 кілаграмаў. Потым ён атрымаў вышэйшую адукацыю, стаў першым сярод савецкіх курдаў прафесарам медыцыны.

У самога ж Ганада шлях да ведаў пачаўся з мясцовай пачатковай школы. У пяты клас пайшоў у сямігодку, што знаходзілася за тры вярсты ў сяле Варданашэн. Сярэднюю ж школу заканчваў у сяле Маркара. Шлях няблізкі — сем вёрстаў на заняткі, сем — дамоў. Ды асабліва на цяжкасці не наракаў. У гарах жыў, у гарах выхоўваўся, а хіба сапраўдны курд прызнаецца, што яму нялёгка. Нават калі

зусім яшчэ юны. Авечкі засмяюць, а арлы на заснежаных вяршынях у ягоны бок нават і не паглядзяць. Дый без ленінскага лозунга, якія любілі паўтараць настаўнікі, разумеў, што трэба вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца.

Не было такога выпадку, каб не зрабіў хатняе заданне. Здавалася б, у гэтым нічога незвычайнага. Але ж многія не выконвалі яго, бо знаходзілі важкую прычыну. У Ерасхауне з'явілася электрычнасць, усе газавыя лямпы прыбралі як непатрэбныя. Газу перасталі завозіць. Аднак з падачай электрычнасці рэгулярна былі перабоі. Пра якія хатнія заданні можа ісці гаворка, калі ў доме цёмна. Ды Ганад знайшоў выйсце. Познімі зімовымі вечарамі дом саграваў печка-буржуйка. У дзверцы былі даволі вялікія адтуліны. Праз іх у печку паступала больш паветра і дровы лепш гарэлі. Дый у пакоі хоць крыху святлей станавілася. Ганад садзіўся ля печкі, прыадкрываў дзверку… Так з падручнікам на каленях і вучыў урокі. У тым ліку і мовы: армянскую, рускую, нямецкую і курдскую.

Ужо і не памятае, калі ў яго з'явілася жаданне пісаць. Тым не менш неўзабаве ў раённай газеце пачалі друкавацца матэрыялы Торніка Тамаяна — такі псеўданім узяў сабе. Пасля гэтага ў родным сяле адразу стаў знакамітым чалавекам. Найбольш «сваім» успрымалі яго тыя, пра каго расказваў у нататках, карэспандэнцыях. У мясцовага ж паштальёна прыбавілася клопатаў. Не толькі таму, што раз у месяц прыносіў няштатнаму карэспандэнту грашовыя пераводы. Нямала прыходзіла Ганаду і лістоў ад чытачоў. Канешне, усё гэта не магло не цешыць самалюбства Г. Чарказяна. Але яму хацелася чагосьці большага, чым адпраўка ў раёнку допісаў. Чаго — няцяжка здагадацца. Узяўся Ганад за напісанне вершаў. Адзін з іх — «Зіма, стары і кажух» — нават асмеліўся паслаць у рэдакцыю армянскага часопіса «Піянер».

Гэты твор, па словах Ганада Бадрыевіча, быў «падобны на байку. Мужык, герой верша, апынуўся ў халоднай горнай цясніне ў час моцнай снежнай завірухі і марыў, каб хто-небудзь прыдбаў для яго кажух […] Я браў на сябе смеласць і вучыў яго, дарослага чалавека, як трэба жыць. І раіў яму не марыць, а самому знайсці ці пашыць сабе кажух. Інакш можна і замерзнуць у далёкай цясніне».

Творам у рэдакцыі зацікавіліся, таму запрасілі юнага аўтара для гутаркі. Паабяцалі верш надрукаваць, але паставілі ўмову: «замяніць нашага мужыка італьянскім мужыком». Маўляў, «у нас мужыкі і ўсё насельніцтва краіны пісьменныя людзі, савецкія людзі, яны не могуць не разумець, што даброты стварыць для сябе кожны можа…» З такой прапановай Г. Чарказян згадзіўся: якая розніца — свой мужык, ці чужы, галоўнае, каб твор быў надрукаваны. Калі ж убачыў верш у адным з нумароў «Піянера», ад радасці быў на сёмым небе. Аднак настаўнік літаратуры да ўсяго паставіўся інакш. Ён папракнуў свайго вучня: «Літаратура — гэта табе не байкі пісаць. Літаратура — гэта адлюстраванне жыцця. Сур'ёзную літаратуру трэба рабіць без падману».

Ганад Чарказян прызнаецца: «Прайшло амаль пяцьдзясят гадоў. Урок настаўніка літаратуры я не забываў ні на мінуту. І зразумеў, што пісаць пра зубны боль праўдзіва можа толькі той, у каго гэтыя зубы балелі. Можа пісаць пра каханне праўдзіва той, хто кахаў. Пра разлуку напіша той, хто хоць аднойчы перажыў гэтае пачуццё».

Такое разуменне, канешне, прыйшло не адразу. Не адразу ўсвядоміў і тое, што ягонае сапраўднае прызванне ў літаратуры. Гэта зразумеў куды пазней. Спачатку пасля заканчэння адзінаццацігодкі трэба было вызначыцца, як быць далей. Хоць, як быццам, усё проста: з атэстатам сталасці атрымаў пасведчанне малодшага агранома-садавода і трактарыста. Уладкоўвайся на працу. Дый бацькі не хацелі, каб ад'язджаў далёка ад дому. Толькі «трактарыст» ён быў своеасаблівы — як указвалася ў пасведчанні, без права ваджэння. Дый настаўнікі на выпускным вечары прама сказалі сваім нядаўнім вучням, што з такім пасведчаннем на работу іх ніхто не возьме. Яно і зразумела. Гэты хрушчоўскі эксперымент у галіне навучання, як і шмат якія іншыя праджэкты Мікіты Сяргеевіча, быў адарваны ад паўсядзённага жыцця.

Вырашыў Г. Чарказян вучыцца на настаўніка, падаў дакументы ў Ерэванскі педагагічны інстытут. Усё адбывалася, — лепш і не прыдумаеш. Веды на ўступных экзаменах паказаў выдатныя. Па трох здадзеных атрымаў пяцёркі — на той час гэта быў вышэйшы бал. Заставаўся яшчэ адзін іспыт. Ды не пашанцавала. Не таму, аднак, што выцягнуў білет, у адказах на пытанні якога блытаўся. Экзаменатару не спадабалася нацыянальнасць паступаючага. Дый тое, што так добра падрыхтаваны: «Ты што, курд?» Пачуўшы станоўчы адказ, заявіў: «Тады прыйдзеш у наступным годзе».

Не шанцуе, дык не шанцуе. Апошні Ганадаў рубель укралі ў куртцы, што павесіў у гардэробе. Давялося да Ерасхауна ісці пехам. У трывожным роздуме нават дайшоў да таго, а ці не пераплыць раку Аракс. На процілеглым беразе краіна, з якой некалі прыйшоў у Араpацкую даліну яго дзед. Дзеду ў Турцыі не пашчасціла, то, можа, ягонаму ўнуку пашанцуе. Аднак тут жа адпрэчыў гэтую думку: трэба жыць там, дзе жывеш.

Скончыў тэхнічнае вучылішча, атрымаў спецыяльнасць токара па метале. Паўгода праходзіў вытворчую практыку на славутым Маскоўскім заводзе імя Ліхачова. Працаваў па спецыяльнасці на суднарамонтным заводзе ў горадзе Туапсэ. Служыў у войску. Як служыў, відаць па змесце ліста, што атрымаў ягоны бацька Бадр Чарказавіч (удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, адзін з вызваліцеляў Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў) ад камандзіра і нампаліта вайсковай часці. Дзякавалі «за добрае выхаванне сына — сапраўднага патрыёта нашай Радзімы», віншавалі «з наступаючым Міжнародным святам 1 Мая», жадалі «моцнага каўказскага здароўя, вялікага шчасця, поспехаў у працы ў імя нашай любімай Радзімы».

Вучобай у школе і прафтэхвучылішчы Г. Чарказян не абмежаваўся. Завочна скончыў Ерэванскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум, а пазней і будаўнічапедагагічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута. Менавіта гэты інстытут выбраў невыпадкова: з 1973 года жыве ў Мінску.

## Выпадковасць — як заканамернасць

Відаць, самім лёсам было наканавана сыну курдскага народа стаць і сынам народа беларускага. Хоць усё можна патлумачыць і выпадковасцю. Толькі нельга забываць, што выпадковасць — гэта ў пэўнай ступені і праяўленне заканамернасці. Працуючы ў Туапсэ, аднойчы Г. Чарказян, вяртаючыся з Ерэвана, напаткаў у цягніку дзяўчыну, якая адразу сваёй прыгажосцю запаланіла яго. Пазнаёміўся з ёю, разгаварыліся. Дзяўчына аказалася мінчанкай. Ці каханне ўзнікла з першага погляду, ці то памкненне адзін да аднаго. Але ўсю ноч прагаварылі ў тамбуры. Развіталіся, паабяцаўшы сустракацца. Слова сваё стрымалі: на працягу пяці гадоў па чарзе наведваліся ў госці: то ён — да яе, то яна — да яго. Пасля чаго пажаніліся.

Аднак адной выпадковасцю ў жыцці асобнага чалавека, як, бадай, і ва ўсім у гэтым старым і грэшным свеце, звычайна не абмяжоўваецца. За сабой яна цягне і іншыя выпадковасці, што таксама ператвараюцца ў заканамернасці. У гэтым неаднойчы мог упэўніцца і Г. Чарказян. Ва ўспамінах «Незабыўны Пятрусь Броўка» ён піша: «Думаю, што ў маім жыцці мне пашанцавала па-сапраўднаму двойчы. Першы раз — калі сустрэўся з беларускай дзяўчынай, якая стала маёй жонкай. Другі — калі сустрэўся і пазнаёміўся з Петрусём Усцінавічам Броўкам. Але тады я яшчэ не здгадваўся аб той вялікай ролі, якую ён потым адыграе ў маім жыцці».

Гэтыя згадкі цікавыя тым, што дадаюць нямала новага да спасціжэння вобліку П. Броўкі. Найперш таго, што тычыцца ягонай чалавечнасці, умення і жадання падтрымаць тых, каму гэтая падтрымка неабходна. Успаміны пра Петруся



*Ганад Чарказян з Алегам Лойкам.*

Усцінавіча, праўда, прывабліваюць і па іншай прычыне. Нельга не заўважыць тую тактоўнасць, з якой Ганад Бадрыевіч піша пра чалавека, які па сутнасці стаяў ля вытокаў станаўлення яго, як паэта. У Г. Чарказяна няма нават маленькага жадання хоць чымсьці як бы ўзвысіць сябе, а можа, у чымсьці і пакрасавацца: маўляў, глядзіце, які я — на мяне звярнуў увагу сам П. Броўка. «Больш за тое, аднойчы прыйшоў на каватэру, каб павіншаваць мяне з днём нараджэння, даведаўшыся, калі гэтыя народзіны. Іншым разам ахвотна прагульваўся са мной, і мы знаходзілі агульнасць некаторых поглядаў і на жыццё, і на літаратуру».

Сам апавядальнік, пішучы пра П. Броўку, знаходзіцца як бы ў цяні. Такой бы сціпласці некаторым нашым, з дазволу сказаць, мемуарыстам, якія, ствараецца ўражанне, былі за панібрата з класікамі беларускай літаратуры, а ў асобных выпадках нават і павучалі іх. Тактоўнасць Ганада Бадрыевіча ў расказах пра П. Броўку, гэтаксама, як і пра Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна (з Рыгорам Іванавічам ён сябраваў), а таксама пра Алега Лойку (з ім пазнаёміўся значна пазней) узнікла зусім не на голым месцы. Дае аб сабе знаць тое, што патрапляе пад вызначэнне каўказскі менталітэт, а яшчэ, бадай, у большай ступені, курдская мудрасць. Ёй не вучаць ні ў якой навучальнай установе, нават у самых прэстыжных універсітэтах. Яна ўваходзіць у чалавека з малаком маці. З водарам чысцейшага горнага паветра. З нерушавай чысціні (дарэчы, беларускае слова «неруш» Г. Чарказяну асабліва падабаецца, а пачуў ён яго ўпершыню з вуснаў Р. Барадуліна і пачаў успрымаць настолькі сваім, нібыта з гадоў маленства яно жыло ў ім) краявідаў, такіх непаўторных у Арарацкай даліне. Адно з няпісаных, але залатых правілаў гэтай мудрасці: паважлівае стаўленне да тых, хто старэйшы за цябе. Але не толькі да іх, а і ўвогуле да тых, каго ўспрымаеш для сябе настаўнікамі. Настаўнік жа ёсць настаўнік. Незалежна ад узросту. Нават і ў тым выпадку, калі паміж ім і табой не такая і значная розніца ў гадах.

Самыя прыязныя словы знаходзіць Г. Чарказян, калі гаворыць пра Р. Барадуліна ў згадках «Я патэлефаную табе з трамвая…»: «Несмотря на постоянную загруженность, Бородулин все же сумел перевести пять моих книг поэзии и прозы. Мне достаточно взять их в руки, чтобы самое плохое настроение тут же улетучилось. «Да будь я и негром преклонных годов, лежачим иль на ходу ли — я счастлив навеки уже от того, что меня перевел Бородулин». А если еще вспомню, что судьба подарила мне общение с такими личностями, как Петрусь Бровка и Василь Быков, то и вообще кажется, что жизнь прожита мною не зря. Любопытно, что все они с Витебщины. Видимо, эта земля особенно плодовита на таланты».

У гэткім жа духу напісаны і згадкі пра А. Лойку «Дарога на Слонім»: «Менш стала цяпла, дабрыні, надзеі. І ніхто не запоўніць гэты прабел. На вялікі жаль, прабелаў з кожным днём усё большае і большае. І нічога тут ужо не паправіш. Толькі варта памятаць, што нішто з мінулага проста так не знікае. Гэта трэба памятаць тым, хто яшчэ жыве і ходзіць па гэтай зямлі. Рабіце больш дабра, і людзі будуць памятаць вас, як памятаю я Алега Антонавіча Лойку, таленавітага паэта, настаўніка, перакладчыка, даследчыка… Чалавека, маці якому была родная беларуская зямля, а сястрою — ціхая Шчара…»

Хацелася б звярнуць увагу вось яшчэ на што. Мемуарныя згадкі рознага кшталту — заўсёды маюць суб'ектыўны характар. Мера ж суб'ектыўнасці, калі можна так сказаць, адваротна прапарцыянальная сумленнасці таго, хто звярнуўся да гэтага жанру. Калі мемуарыст болей дбае толькі аб сабе, імкнецца паказаць сябе як мага з лепшага боку, ён, па сутнасці, як бы прыніжае таго, пра каго піша, а сябе пры гэтым як мага больш узвялічвае. Ні аб якой аб'ектыўнасці ў такім выпадку гаварыць не даводзіцца. І толькі тады, калі за пяро бярэцца чалавек з чыстым сумленнем дый з пачуццём уласнай годнасці, ён ніколі не дазволіць сабе падобнага падыходу. Для яго куды важней — паказаць сапраўдную ролю ў літаратуры тых, хто, дзякуючы Богу, шмат у чым спрыяў і фарміраванню ягонага таленту, а таксама згадаць тыя ці іншыя цікавыя выпадкі з іхняга жыцця.

## Добразычлівасць і звышпільнасць

Першая кніга Г. Чарказяна «Прочность» (дарэчы, ён умее даваць сваім дзецішчам вельмі дакладныя, запамінальныя назвы: за «Прочностью» былі «Цвет доброты», «Пространство и время», «Обоженные жаворонки» і г. д, каля трыццаці кніг набіраецца) выйшла ў 1980 годзе. Блаславіў яе незадоўга да сваёй смерці П. Броўка. Але гэта не значыць, што ў выдавецтве перад рукапісам адразу запалілі зялёнае святло. У «Мастацкай літаратуры» ён праляжаў чатыры гады. Знайшліся нядобразычліўцы, а дакладней кажучы — зайздроснікі, якія засумняваліся ў аўтарстве вершаў. У жніўні 1979 года ў праўленне Саюза пісьменнікаў Армянскай ССР за подпісам дырэктара выдавецтва быў накіраваны ліст, у якім гучала просьба «даць заключэнне на творы Г. Чарказяна і на якасць падрадковых перакладаў». Для гэта быў накіраваны «як рукапіс-арыгінал, так і рукапіс-пераклад».

Пятрусь Броўка ў гэты час ужо цяжка хварэў. Хто ведае, ці і не падобная падазронасць, несправядлівасць не скарацілі ягоныя дні. Армянскія ж пісьменнікі, трэба аддаць ім належнае, аказаліся на вышыні. У выпісцы з пратакола секцыі курдскіх пісьменнікаў пры Саюзе пісьменнікаў Армянскай ССР, у прыватнасці, адзначалася: «Нас вельмі радуе, што творы маладога курдскага пісьменніка перакладаюцца і друкуюцца на старонках перыядычнага друку братняй Беларусі. Трэба адзначыць, што яго перакладчыкі (В. Ліпневіч і Ф. Яфімаў) у асноўным прытрымліваюцца арыгіналаў і творчага стылю пісьменніка. Ва ўсіх перакладах захавана своеасаблівасць творчасці пісьменніка…» Каб яшчэ больш пераканаць звышпільных «мастацка-літаратураўскіх» супрацоўнікаў, што сумнявацца ў

сумленнасці як самога Г. Чарказяна, так і яго перакладчыкаў, няма ніякіх падстаў, дадавалася яшчэ і прыпіска за подпісам галоўнага рэдактара газеты «Рыа таза»: «Апавяданні, нарысы і фельетоны Ганада Чарказяна з 1970 года сістэматычна друкуюцца ў рэспубліканскай газеце «Рыа таза» і цёпла ўспрымаюцца чытачамі».

Удакладню: Г. Чарказян піша па-армянску і па-курдску. На курдскай мове часцей. Сярод тых, хто яго перакладаў не толькі ўжо названыя Валерый Ліпневіч і Фёдар Яфімаў, а таксама (назаву па алфавіце) Глеб Артханаў, Рыгор Барадулін, Казімір Камейша, Ала Канапелька, Барыс Крывялевіч, Уладзімір Марук, Мікола Мятліцкі, Валянцін Тарас…

Кніга «Прочность» пабачыла свет з прадмовай П. Броўкі. Пятрусь Усцінавіч пісаў: «Аптымістычнае светаадчуванне, свежасць і сіла пачуцця, глыбіня і самастойнасць думкі арыгінала пераканаўча, творча ўзноўлены на рускай мове маладым паэтам Валерыем Ліпневічам. Тут менавіта той выпадак, калі блізкасць паэтычных прынцыпаў аўтара і перакладчыка абумовілі з'яўленне арыгінальнай кнігі, якая будзе з цікавасцю сустрэта самым шырокім чытачом».

## Ва ўвесь голас не толькі для сябе

У сваіх спадзяваннях П. Броўка не памыліўся. На кнігу з'явілася некалькі водгукаў і ўсе яны былі не проста станоўчымі, а на дзіва добразычлівымі. З верай у талент Г. Чарказяна, са спадзяваннем, што малады паэт у далейшым парадуе новымі творчымі адкрыццямі. Так і адбылося ў сапраўднасці. Што да кнігі «Прочность», што гэта быў не шараговы зборнік яшчэ аднаго дэбютанта, асабліва відавочна сёння, калі ёсць мажлівасць перагарнуць старонкі паэтычных кніг Г. Чарказяна, прадстаўленыя ў яго аднатомніку выбранага «Бериван» (2016). «Прочность» і адкрывае яго. Менавіта ў гэтай кнізе сфарміраваўся грамадзянскі, сацыяльны і маральны воблік лірычнага героя паэта. Перад чытачом паўставаў юнак, да якога найлепей падыходзіць рускае слова «совестливый», які вайну не бачыў, але перажыў яе ўнутрана. Праз успаміны блізкіх, найперш бацькі, праз тое, што адлюстравана ў дакументальных сведчаннях. Моцны сваёй аголенай праўдай верш «Старая кінахроніка»:

Красивый парень в чёрном мундире,
эта молния из тучи посредственности,
этот сверхчеловек —
его всегда узнаёшь по звериным повадкам —
спокойно бьёт старика прикладом…

Але гэты верш моцны і глыбіной філасофскай думкі, закладзенай у яго аснову. Спачатку, быццам наяву, чуеш голас аднаго з тых, хто ўспрымае сябе звышчалавекам: «Мир слишком сложен, // Мы пришли к общему знаменателю. // Господу хватит одной земли. // Земле хватит арийцев. // Арийцам хватит одного фюрера». А гэта ўжо голас самога аўтара — паэта-грамадзяніна, у якога ўласная мараль. Такая мараль, якая звязана з агульначалавечымі каштоўнасцямі:

Но жизнь всегда побеждает —
Усложнением, разнообразием.
К счастью, жизнь не сводима
к общему знаменателю.
Именно об этом
хотела тебе сказать партизанская пуля.
Но ты уже не расслышал,
красавчик в чёрном мундире,
повелитель миров,
любимчик фортуны.

Першай жа сваё кнігай Г. Чарказян, па сутнасці, сфармуляваў і сваё творчае крэда як паэта, які прагне ўласнага голасу, імкнецца заўсёды, усюды і ва ўсім быць непаўторным, непадобным да іншых. У вершы «Песня» вуснамі лірычнага героя ён, прынамсі, прызнаваўся: «Мне говорят, что я строг, // не думаю о других, // и люблю только себя». Гэтую думку развіваў далей і глыбей, да той ступені, пакуль не з'явіўся заканамерны адказ:

Мне говорят:
Ты живёшь только для себя.
Молча слушаю и думаю грустно:
если человек во весь голос
поёт свою песню,
то неужели он поёт только для себя?
Неужели его никто не слышит?
Неужели он никому не нужен
и обречен на одиночество
и непонимание?!

## Глыток горнага паветра

Асабліва важкія набыткі Г. Чарказяна-паэта ў жанры чаргаві. Навум Цыпіс, адзін з тых, хто ў сваіх публікацыях найбольш глыбока спасцігнуў сутнасць творчасці Г. Чарказяна, у сувязі з гэтым заўважыў: «А што такое чаргаві? У перакладзе з курдскай — гэта чатыры крокі, іншасказальна — чатырохрадкоўе, старажытнае вынаходніцтва ўсходніх паэтаў, якія жылі тысячу гадоў назад». Не мудрагелячы, адну са сваіх кніг ён так і назваў — «Чатыры крокі» (2010). У яе ўвайшло ажно 441 (магчыма, я ў падліку памыліўся, то прашу прабачэння) чатырохрадкоўе. За рэдкім выключэннем — гэта паэзія высокага кшталту. А яшчэ, як таго і вымагае жанр, і вялікай філасофскай напоўненасці, чаго дабіцца пры такой лаканічнасці — чатыры радкі, чатыры крокі — не так і проста. Г. Чарказян жа гэтага лёгка дамагаецца. Прычына, бадай, не толькі ў таленце, а і ў тым, што ён, як вядома, ураджэнец тых зямель, дзе здаўна надта цэніцца народная мудрасць. Яна ж, мудрасць гэтая, арганічна і напоўніла чаргаві. Так напоўніла іх, як дождж жывіць горныя рэкі. Вада ягоная, а потым і рака чыстая, крыштальная.

Асобныя з яго чаргаві так і просяцца ў ёмісты том «Мудрость тысячелетий», у якім сабраны афарыстычныя, ці проста трапныя выказванні пісьменнікаў, вучоных, мастакоў, дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў, дый іншых прадстаўнікоў розных часоў і народаў, што тычацца розных бакоў чалавечага існавання. Да месца ў кнізе «Мудрость тысячелетий» было б, для прыкладу, такое чатырохрадкоўе Г. Чарказяна:

Звычка даўняя ёсць адна —
Скінь ля крыніцы абутак спярша.
І стане крыніца светлай да дна,
Як і твая ў гэты міг душа.

Дый у «Мудрости тысячелетий» было б не лішнім і гэтае чаргаві:

Праз змрочны туман дасвецця
Сонца промні шпурляе жменяй.
Прыбывае святлыні ў свеце,
А ў душы яе — меней і меней.

Глыбокая думка закладзена і гэтым разам:

За пераваламі дарога кручэй і кручэй,
Нялёгка на пік вяршыні ўзысці.
Таропка бяжыць толькі ручэй,
Ды плыні зваротнай яму не знайсці.

У чатырохрадкоўях Г. Чарказяна прысутнічае мудрасць, калі можна так сказаць, спластаваная, пераствораная ў згустак думкі, што нясе ў сабе нейкае важнае і важкае выказванне. Такое, якое, з'яўляючыся, безумоўна, словам самога паэта, разам з тым успрымаецца і як вывснова, у якую ўвогуле пакладзены пэўныя жыццёвыя назіранні. Іх прыкмячаюць часам і іншыя людзі. Ды толькі Бог, на жаль, не даў ім таленту, каб усё гэта так арыгінальна, уражвальна, па-свойму перадаць на паперы.

Аднак у Г. Чарказяна ёсць і чаргаві, у якіх ягоная прысутнасць асабліва навідавоку. Правільней, ягонага лірычнага героя. Ён жа ў дадзеным выпадку з'яўляецца і ўспрымаецца аднадумцам паэта. У такіх творах найбольш адчувальна асабістае, але яно блізкае, зразумелае і кожнаму, у каго гэтаксама збалелая душа, бо шмат з таго, што робіцца ў жыцці, робіцца зусім не так, як мусіць рабіцца. Чалавек забывае аб тым, што ён не толькі спажывец усяго жывога на зямлі, а яшчэ і ў адказе за ўсё жывое. Толькі пры правільным суаднясенні гэтых двух пачаткаў можна разлічваць на будучыню чалавецтва. Інакш адбудзецца самае страшнае, незваротнае. Падобныя думкі нараджае, скажам, наступнае чатырохрадкоўе:

Вырубка лесу — сполах і шум,
З голля гняздоўе зорыць пустое.
Зноў пад соснамі смутак нашу,
Быццам раптоўна стаў сіратою.

Думкам цесна, а высновам важка і ў гэтым чаргаві:

Люблю ганчарскі занятак шчыры, —
Збан кожны далучан да продкаў славы.
А над зямлёй — азонавыя дзіры,
Планета наша — як збан дзіравы.

Паэт і гэтым разам адштурхоўваецца ад свайго, асабістага. Ад таго, што яму блізка, што па душы яму. І адразу ж (дый як жа іначай, чатырохрадкоўе ёсць чатырохрадкоўе, у ім неабходна лаканічнасць і толькі лаканічнасць, нават тады, калі выказваецца вельмі важнае) пераходзіць да праблемы глабальнай. Так, глабальнай, бо азонавыя дзіркі над планетай — тое, што нясе ёй небяспеку. Гэты «збан дзіравы» таксама напамінае: чалавек, адумайся! Няўжо не разумееш, што можа знікнуць усё, чым захапляемся. І ўсе, хто нам дораг.

Таму і трэба даражыць кожным імгненнем. І радавацца таму чалавеку, які дарагі табе і блізкі:

У вочы зірну — утапіцца магчыма,
Як у блакіце лагодных азёр.
Якія глыбіні! Тваіма вачыма
Свет зорыць навакольны — ад плёса да зор...

А хіба не кранае душу гэтая сямейная ідылія?!

Пасміхніся, жонка мая, і даруй.
Сон, дачушка, змахні рукой.
Прычакаем ўтраіх мы дасвецця зару
Над унучкай — балесна-малой.

Кніга Г. Чарказяна «Чатыры крокі» — як глыток чыстага горнага паветра. Яго ж ніколі шмат не бывае. Зрабіўшы адзін глыток, хочацца ўдыхаць і ўдыхаць яго.

## Белая вежа і як трэба жыць

На дзіва населены ў Г. Чарказяна, вобразна кажучы, і празаічны мацярык. Гэта тычыцца, як твораў «малога жанру», так і раманаў. Пераважная большасць ягоных апавяданняў нясуць у сабе тую філасофскую напоўненасць, якой заўсёды

вызначаецца проза Г. Чарказяна, незалежна ад таго, гучаць у ёй горскія матывы, ці тэматычна яна звязана з паўсядзённым жыццём беларускай зямлі. Хоць, калі добра разабрацца, у рэшце рэшт — гэта не так і важна. Істотней тое, чым жыве душа апавядальніка, пра што яму прагнецца расказаць, які чалавеказнаўчы патэнцыял закладвае ён у аснову сваіх твораў. Філасафічнасць у апавяданнях Г. Чарказяна — гэта магчымасць убачыць, паказаць, раскрыць жыццё ў самых розных ягоных праявах. Пры гэтым, на, здавалася б, лакальных прыкладах, у чым і пераконваюць такія апавяданні, як «Негр», «Імітацыя бою», «Палата № 7», «Цяжкая ноша» і іншыя.

У шмат якіх сваіх празаічных творах Г. Чарказян удала выкарыстоўвае элементы прытчы. Гэта дазваляе яму паспяхова вырашаць не толькі канкрэтныя мастакоўскія задачы, а і не менш паспяхова пераходзіць да сур'ёзных абагульненняў як чалавечага быцця, і ўдасканалення роду людскога, мадэліраваць такія сітуацыі, якія ў нейкай ступені з'яўляюцца ўнікальнымі, калі зыходзіць ад нейкага важнага зыходнага пункта. Ім у апавяданні «Белая вежа» і з'яўляецца гэтае збудаванне. Спачатку, праўда, гэта была плаціна, узведзеная тады, калі нарадзіўся саюз плямёнаў, што выклікаў зайздрасць і апаску далёкіх суседзяў. Зайздросціць дый апасацца ім было чаго. Яшчэ нядаўна раз'яднаныя плямёны з-за сваёй мудрасці, здатнасці глядзець наперад, сталі вялікай згуртаванай сілай, а гэта і адбылося дзякуючы плаціне, якая аберагала іх ад прыродай стыхіі. Ды не толькі…

Плаціна ў апавяданні — гэта яшчэ і ўвасабленне адзінства народаў, той маналіт, які збліжае іх і злучае. Аднак, як вядома, нішто на зямлі не вечнае. Цягам часу плаціна пачала разбурацца. А сярод народаў-сяброў з'явіліся разгалоссі, а гэтаму, зразумела, не маглі не радавацца «добразычліўцы» за мяжой. Пачало насаджацца ўсё чужое і адмаўляцца сваё, з'явілася пакланенне магутнасці грашовага мяшка.

Ці не праўда, сітуацыя знаёмая? Да ўсяго галоўны назіральнік за плацінай, будучы ўжо чалавекам старым, паступова паддаваўся націску тых, хто ў гэтай дзяржаве абараняў інтарэсы чужых краін. Тым самым яму было не да плаціны, разбурэнне якой дасягнула крытычнага ўзроўню. Многія зразумелі, што калі не прыняць неабходных мер, то адбудзецца бяда.

Апавяданне «Белая вежа», аднак, не толькі з ярка выражанымі элементамі прытчы. Гэта і твор, у якім відавочна прысутнасць сучаснага жыцця. Канешне, ёсць у ім і нейкая ўмоўнасць, асобныя персанажы, як старая Луна, «знаменитая на всю округу колдунья», которой «надо было передать кому-то свое древнее ремесло, доставшееся ей тоже от бабки, которую звали тоже Луна. Впрочем, других имен у них не было. Луна, дочь Луны, внучка Луны, правнучка — и так далее, до бесконечности», жыве як бы ў двух вымярэннях. Яна персанаж рэальны, аднак адначасова і быццам з нейкага іншага свету, у якога свае паняцці і законы. Дый прынц, які прыязджае сватацца да ўнучкі Луны — Геле, па сутнасці, нейкі абагульнены вобраз аднаго з тых, хто даўно ўпэўнены, што за грошы можна купіць усё, нават каханне.

Але і тая ж Геле, Іскандэр, начальнік аховы плаціны Грэк — рэльныя людзі, хоць яны і дзейнічаюць у некалькі ўмоўных абставінах, а таму мусяць ім падначальвацца. Аднак гэта такое падначаленне, якое, не трэба толькі ўсміхацца ад падобнага параўнання, для чалавека і ў імя чалавека. Таму Іскандэр, прыняўшы ў свае рукі чароўны меч, шчыра прызнаецца супляменнікам: «Я хочу построить башню счастья, высокую, белую, как облака, чтобы с ее высоты каждый мог взглянуть на родную страну, восхититься красотой ее природы, трудолюбием ее людей».

Белая вежа — гэта і сімвал дзяржавы, у якой адбываецца дзеянне і якая называецца Белай краінай. Іскандэр, якога выбралі кіраўніком яе пасля смерці галоўнага назіральніка, бачачы, як паспяхова завяршаецца будаўніцтва, не ўтрымліваецца, заўважае, што ўзводзіцца не проста Белая вежа, а «Башня Утренней росы». Гэтыя словы Іскандэра набываюць асабліва значны сэнс.

Не толькі ў гэтым апавяданні, якое ўспрымаецца і гімнам стваральнай працы чалавека, і ўвасабленнем памкненняў жыхароў Белай краіны, якія імкнуцца да міру і згоды, жадаюць жыць так, як ім самім хочацца, а не па ўказцы некага. Як сугучна тое, пра што расказаў пісьменнік у гэтым сваім таленавітым творы, і памкненням беларускага народа. Белая вежа — гэта і сімвал, няхай сабе і не афіцыйны Рэспублікі Беларусь. Дый іншыя апавяданні Г. Чарказяна, у якіх прысутнічаюць усходнія рэаліі, калі можна так сказаць, горскі каларыт («Правильное решение», «Разбитый кувшин», «Торгаш», «Ходан», «Родник», якія побач з «Белой вежай» увайшлі ў аднайменную кнігу Г. Чарказяна), сваёй маральнай праблематыкай лішні раз нагадваюць пра тое, што добрыя людзі ўсюды аднолькавыя. Як, між іншым, усюды аднолькавыя і тыя, хто жыве не так, як трэба жыць.

Талент Г. Чарказяна — гэта талент пісьменніка, здатнага ў аднолькавай ступені ўпэўнена працаваць у розных творчых манерах. Гэта тычыцца не толькі яго апавяданняў з элементамі прытчы, а і тых твораў, у якіх, хутчэй за ўсё, прысутнічае дакументальная аснова. Як, скажам, у апавяданні «Начны Сідараў». Герой-апавядальнік прыгадвае выпадак, які аднойчы адбыўся з ім, калі на службовай машыне вяртаўся з камандзіроўкі. Час позні, снежань месяц: «Месцамі дарога была перамешана палосамі снегу, трапляўся нават галалёд. І калі да горада заставалася каля сотні кіламетраў, у промнях святла фар узнікла чалавечая постаць, а чуць далей на ўзбочыне высвецілася і машына, такая ж, як і ў нас, — УАЗ. Кіроўца нашай машыны на ўсялякі выпадак папярэдзіў, што спыняцца на начной дарозе рызыкоўна: ці мала што ў людзей у галаве... Прытармазіўшы, мы праехалі міма, і ў нейкі момант я згледзеў твар чалавека ў белых ад марозу акулярах». Усё ж спыніліся. І ўзялі тую машыну на буксір. Калі прыехалі ў горад, чалавек гэты, прозвішча якога было Сідараў, даў сваю візітоўку, абяцаў зайсці і аддзячыць. Пікантнасць сітуацыі ў тым, што Сідараў «паказаў на салон машыны. Там стаяла труна.

— Я вязу хаваць свайго бацьку... А тут такое здарылася... Вам не казаў, баяўся, што адмовіцеся дапамагчы».

Абяцанне зайсці і аддзячыць Сідараў не спраўдзіў. Ды твор не столькі пра людскую няўдзячнасць, а ў большай ступені пра тое, як апавядальнік праз шмат гадоў выпадкова напаткаў таго, каго, па сутнасці, і выратаваў ад смерці. Канешне, і ягонага шафёра, бо тыя, калі б ні нечаканая дапамога, несумненна, на начной дарозе замерзлі б. Герой-апавядальнік пазнаў у Сідараве начальніка, ад якога залежала ўстаноўка тэлефона. Сідараў адмовіў, бо аказаўся звычайным бюракратам. Ці пазнаў ён у чарговым наведвальніку таго, хто калісьці яму дапамог, не так і важна. Нельга не пагадзіцца з Г. Чарказянам: «Мараль гэтай гісторыі адна — рабі людзям дабро, нават калі наперад ведаеш, што за гэта ніякай удзячнасці не атрымаеш... Удзячнасць у самім учынку... Проста разумець гэта трэба...»

Аднак не толькі жыццёвасць, а значыць, і праўдзівасць вылучае празаічныя творы Г. Чарказяна. Шмат у якіх з іх моцны і філасофскі патэнцыял, асабліва ў такіх апавяданнях, што па сваім жанры набліжаюцца да прытчы. З падобных твораў найперш вылучаецца «Свабода», у якім важныя высновы падаюцца праз усходнюю мудрасць. Выказнікам думак з'яўляецца стары Карахан, які шмат пабачыў на сваім вяку, не прымае (і не можа прыняць) горад, пра што гаворка ідзе ў апавяданні «У гасцях».

У Карахана тры сыны, а паколькі ў творы прытчавы пачатак, то пададзены яны не пад уласнымі імёнамі, а як Старэйшы, Сярэдні і Малодшы. Усе аднолькава працавітыя і кемныя, завялі ўласныя сем'і. Усе бацьку дапамагаюць і ўсе аднолькава шануюць яго. Як быццам, што яшчэ трэба. Ды захацелася сынам свабоды. Кожны з іх па-свойму вытлумачвае падобнае імкненне, але сутнасць зводзіцца да аднаго. У рэшце рэшт гэта дакладна выказаў сын Сярэдні: «Тата, ты так шмат казаў нам аб карысці адзінства. І нікому ў галаву не прыходзіла аспрэчваць твае словы. Але хацелася б хоць крыху аблегчыць тваю ношу. Ты надта многа даў

нам, і мы разумеем, як цяжка несці табе тваю ношу, трэба і меру ведаць. Дык не шкадуй нам свабоды, а мы будзем разам. І адплацім табе тым жа дабром, якога ты не шкадаваў нам».

Мудра вырашыў стары Карахан. Мудра, таму што і сам быў мудрым. Падзяліўшы зямлю паміж сынамі пароўну, кожнаму з іх даў і па мяшку зерня: «Гэты мяшок — і ёсць шлях да свабоды. Вось і жывіце. Я не ў крыўдзе, бо для кожнага бацькі шчасце і ўдача дзяцей — самая вялікая ўзнагарода». А праз два гады, як і дамовіліся, сабраў Карахан сваіх сыноў, каб высветліць, як яны распарадзіліся зернем. Старэйшы сын пакінуў некранутым, каб «захоўваць да канца жыцця свайго, каб перадаць яго сваім сынам». Сярэдні паклаў яго з іншымі мяшкамі і пераблытаў, дзе яно ляжыць. Малодшы ж сын пасеяў гэтае зерне і сабраў з яго багаты ўраджай — прывёз цэлы воз з паўнюткімі мяшкамі.

Тое, што прамаўляе галоўны герой апавядання пасля таго, як пабачыў, як сыны распарадзіліся зернем, падораным ім бацькам, набывае глыбокі сэнс: «Людзі заўсёды казалі, што хлеб — усяму галава. Гэта і дастатак, гэта і прыбытак, гэта і ёсць свабода. Як бачыце, аднолькавыя ўмовы пражыцця не заўсёды даюць аднолькавыя вынікі. Не можа быць аднолькавых сыноў, як няма і аднолькавых гуркоў на градзе. Бачу, вы і самі пераканаліся ў гэтым на сваім прыкладзе. А воз з зернем я падзялю паміж вамі. Працуйце з Богам! Хай будзе ў вашых сем'ях болей дастачы і болей свабоды. Нават калі гэта свабода ў мяшку з зернем...»

Глыбокі тэкст, шматзначны падтэкст і ў апавяданні «Ружы», галоўны герой якога дзед Грышка (дарэчы, пра ягоны няпросты, трагічны лёс даведваешся толькі ў самым канцы твора), штодня палівае ружы, якія пры ўзвядзенні новага дома аказаліся поруч з катлаванам. Вартаўнік спачатку не разумее яго, але праходзіць час і яны з дзіўным наведвальнікам знаходзяць агульную мову. Калі ж ён перастаў з'яўляцца, ідзе шукаць яго. Ад старой жанчыны і даведваецца, што гэта быў дзед Грышка, а на месцы цяперашняга катлавана «фашысты знішчылі ўсю яго сям'ю, суседзяў, за тое, што яны хавалі ў сябе хлопчыка-габрэя», а памёр дзед Грышка яшчэ дзесяць гадоў назад. Вартаўніку нічога не застаецца, як пагадзіцца з такім сцвярджэннм: «Можа быть, можа, у нашым жыцці ўсё можа быць, і не толькі такое... Мы з вамі гэта добра ведаем... Як бы пражыць так, як жыў дзед Грышка? Каб з таго свету вярнуцца...»

Вяртанне дзеда Грышкі з небыцця — гэта вяртанне дабра, якое ён рабіў. Ён не мог не вярнуцца, бо быў перакананы, што «ўсе людзі могуць быць родзічамі», а калі ёсць такая ўпэўненасць, то з фізічнай смерцю чалавек не знікае, а здатны жыць сярод людзей, бо мусіць працягваць рабіць дабро, з якім жыў і без якога не ўяўляў сабе жыцця. Ружы, якія так любіў даглядаць дзед Грышка, не толькі памяць пра тых, хто загінуў. Яны і ўвасабленне прыгажосці, а паколькі, як сцвярджаў класік, прыгажосць уратуе чалавецтва, то гэта і ўвасабленне самога чалавека, ягоных добрых памкненняў, таго, што і робіць чалавека чалавекам, а калі хочаш годна жыць, то перад усім мусіць быць чалавекам.

Гэта меў на ўвазе і мудры Карахан, калі ў апавяданні «У гасцях» казаў свайму старэйшаму сыну: «Паслухай мяне, сынок, ты павінен гэта запомніць на ўсё жыццё — чалавекам трэба заставацца заўсёды. Як бы там ні было, што б ні здарылася. Калі ты з раніцы сустрэў некага і пажадаў яму дабра, значыць, і табе ад некага пяройдзе тое дабро. Усё ў жыцці ўзаемазвязана... Каб атрымаць — трэба ўмець аддаваць...»

## Праўда — не мёртвая

Упэўнена абжывае Г. Чарказян і жанр рамана, пра што засведчылі такія яго творы, як «Багряный закат», «Не умирай раньше смерти» (іншая назва «Опередить смерть») і «Горький запах полыни». Пра кожны з гэтых раманаў можна гаварыць шмат, адзначаючы глыбокае веданне аўтарам жыцця, пачынаючы ад глы-

бінных працэсаў сучаснасці і да ўнутранага свету канкрэтнага чалавека, якому, як кажуць, нішто чалавечае не чужое. Адзначаючы філасофскую напоўненасць усяго таго, пра што ён піша. І, канешне, нельга не казаць пра дынамізм дзеяння, часам такую закручанасць сюжэта, калі ад таго, што чытаеш, ніяк не адарвацца. Але гэта не так званая лёгкая чытаніна, а глыбока псіхалагічная проза, у якой усё дасканала выверана. Г. Чарказян ні на хвіліну не забывае пра тое, што ўклаў у вусны героя першага са сваіх раманаў Андрэя Храбрага: «Па вялікаму рахунку ад кожнага пісьменніка застаецца нямнога. Тое сапраўды новае і выпакутанае, што ён паказаў свету». Ім напоўнены і апошні па часе напісання раман пісьменніка.

Чытаеш яго і ў памяці міжвольна ажываюць радкі адной з вядомых песень Уладзіміра Высоцкага: «Лучше гор могут быть только горы, // На которых еще не бывал». Праўда, калі ўжо быць цалкам дакладным, то пачатковаму эпізоду адпавядаюць не гэтыя радкі — іх успрымаеш усяго своеасаблівай запеўкай да таго, пра што расказвае Г. Чарказян. Больш трапнымі тут будуць радкі пра альпініста, што аступіўся, і тых, хто прыйдзе яму на дапамогу.

Аднак галоўнаму герою рамана «Горький запах полыни» Глебу Беразовіку на дапамогу разлічваць увогуле не выпадае: з гарамі ён у гэты момант сам-насам. Нікога побач няма. Хоць, па-праўдзе кажучы, ніхто Глебу ў гэты момант і не патрэбны, бо ў яго няма ўпэўненасці, што той, хто мог бы нечакана трапіцца на ягоным шляху, акажацца добразычліўцам. Хутчэй за ўсё ад выпадковага стрэчнага не толькі спагады нельга будзе чакаць. Гэтая нечаканая сустрэча Глебу можа нават каштаваць жыцця.

Ды пра ўсё гэта даведаешся пасля. Пакуль што мускульна-напружаны радок прозы Г. Чарказяна пераконвае ў іншай небяспецы, якая спадарожнічае Беразовіку. Дастаткова Глебу зрабіць толькі самы маленькі неасцярожны рух, як лёгка сарвацца ў прорву. Здзіўляючая праўдзівасць, пераканаўчасць таго, пра што расказваецца, узмацняецца дзякуючы яшчэ і таму, што аўтар рамана гэтым разам выбраў найбольш апраўданы ў дадзеным выпадку мастацкі прыём: аповяд ад першай асобы.

Галоўны герой Г. Чарказяна не проста гаворыць пра тое, што адбываецца з ім. Ён спавядаецца перад чытачом, робячы гэта адкрыта, шчыра. Пракручвае ў сваёй памяці вялікую частку ўласнай біяграфіі. Нічога не хаваючы і нічога не прыхарошваючы, што таксама сведчыць на карысць глыбокага пранікнення пісьменніка ў саму сутнасць жыцця, спасціжэння таго, што лепей ніколі і нікому не перажыць. Ды гэта ўсё будзе пасля. Пакуль што — паўтаруся — Глеб Беразовік сам-насам з гарамі.

Ганад Чарказян піша пра тое, якая небяспека чакае чалавека ў гарах, асабліва тады, калі ён апынуўся там, дзе, па сутнасці, і прайсці немагчыма, з гэткім добрым веданнем, што ствараецца ўражанне, нібыта ты сам разам з Беразовікам адольваеш крок за крокам горную сцежку-серпанцін. Не, нават не крок за крокам, а зрабіўшы паўкрока, прыпыняешся, застываеш у роздуме, як быць у гэтай сітуацыі далей, каб не сарвацца ўніз:

«Прижимаясь к скале левым боком и постукивая посохом перед собой, я медленно продвигался по узкой каменной тропке, опоясывающей гору. Часто она просто прерывалась — на полметра или даже больше, вынуждая делать широкий и рискованный шаг. А иногда почти исчезала, становясь едва различимой. Тогда я на какое-то время действительно чувствовал себе слезой на реснице, готовой сорваться и очень долго падать, одновременно оплакивая самого себя». Небяспека вымагала асаблівай абачлівасці: «В эти минуты я останавливался, прислонялся к холодной стене спиной — холод доходил через рубаху с суконной жилеткой и ватный халат на вате, — и раскидывал руки крестом. Глаза глядели в небо, невзрачно-белесое, словно выгоревшее под солнцем. Я сосредотачивался, старался забыть обо всем, кроме тропки, что могла оказаться последней в моей жизни. Я стоял, опираясь на пятки, а носки моих галош повисали над пропастью».

Глеб Беразовік, аднак, не проста так сабе стаяў. Пры ўсім сваім жаданні ён не мог расслабіцца. Адзінае, што заставалася для яго ў гэтай экстрэмальнай сітуацыі, — засяродзіцца. Адшукаць тое, што магло б стаць як бы нейкім зыходным пунктам, адштурхнуўшыся ад якога, з'явілася б упэўненасць. Пры тым дзейнічаць трэба было як мага хутчэй. Іначай раўнавага будзе страчана і...

Выйсце ўсё ж было знойдзена: «Главное было уцепиться глазом за какой-нибудь, пусть самый маленький, выступ, откинуться на скалу, максимально довериться ей, вжаться всем телом. Тогда и незначительной опоры хватало, чтобы продвинуться немного дальше. Но бывало, что и пятка соскальзывала и не сразу находила опору. Тогда я на какое-то время замирал, стоя на одной ноге, и пытался поставить правую ступню впереди левой — на носок. Потом на носок ставил левую и оказывался лицом, точнее, щекой к скале. Ее холодная и влажная после ночи шероховатость казалась той единственной лаской, на которую и была способна эта угрюмая, с базальтовыми выступами скала».

Каб гэтак пераканаўча напісаць, мала дакладна ўжыцца ў вобраз. Падобнага падыходу яшчэ недастаткова, хоць ён сам па сабе і шмат значыць, дае добрыя вынікі. Да ўсяго неабходна як бы зліцца з гэтым вобразам, склаўшы з ім адзінае цэлае, ператварыцца ў плоць ад плоці яго. Каб не ўзнікала сумнення ў тым, што і ты сам ідзеш горнай пакручастай сцяжынкай, як гэта робіць і Глеб Беразовік. А яшчэ, безумоўна, трэба мець талент. Пры тым талент немалы. Але ў дадзеным выпадку спрацоўвае яшчэ і добрае веданне Г. Чарказянам горных рэалій. Гэтая стыхія яму родная, блізкая. Глеб жа Беразовік упершыню пазнаёміўся з гарамі пасля таго, як ён, беларускі юнак з вёскі Блонь, што непадалёку ад Мінска, у Пухавіцкім раёне, стаў воінам-інтэрнацыяналістам, апынуўся ў Афганістане. Аднак то было знаёмства павярхоўнае. Шапачнае, як кажуць у падобных выпадках. Сапраўднае ж знаёмства адбылося крыху пазней. Наконт гэтага таксама ёсць трапнае народнае сведчанне: не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло.

Цяжка параненага Глеба (калі бэтээр, на якім ён ехаў, падарваўся, Беразовік «падал со стометрового обрыва, цепляясь спиной за верхушки деревьев. Они тормозили мой свободный полет. Правда, на спине до сих пор остались уродливые шрамы — сучья прорывали тело до ребер») падабраў афганскі селянін Сайдула з кішлака Дундуз і выхадзіў яго. Пайшоў на тое, на што рэдка хто быў здатны з мясцовых жыхароў. Асабліва з тых, каму гэтая вайна прынесла асабістае гора: на ёй Сайдула страціў сваіх трох сыноў. Лёгка было азлобіцца на шураві — так тут называлі савецкіх людзей. Ды ён не толькі не пайшоў шляхам помсты, а і праявіў чуласць, сардэчнасць. Чаму?

Нівколькі не адмаўляючы глыбокай псіхалагічнай вымалёўкі вобраза галоўнага героя, не магу не адзначыць, што па той сэнсавай нагрузцы, якую ён нясе ў рамане, не менш пераканаўчым і праўдзівым атрымаўся і Сайдула. Больш за тое, правільным будзе сказаць, што абодва яны — Беразовік і Сайдула — шмат у чым падобныя адзін да аднаго. І гэта пры ўсёй рознасці сваіх біяграфій, характараў. Дзіўнавата як быццам. Ды зноў жа толькі на першы погляд. Калі ж лепей разабрацца, то, як гэта ні гучыць парадаксальна, абодвух зблізіла вайна. Менавіта яна парушыла іхні звыклы ўклад і вымусіла прыстасоўвацца да новых абставін.

Не ў апошнюю чаргу Сайдулу. Але гэта акурат і пайшло на карысць Глебу Беразовіку. Сайдула не хавае таго, чаму зрабіў менавіта так, а не інакш: «Вот ты спрашиваешь, почему я стал выхаживать тебя? Прежде всего потому, что мне всегда хотелось сделать что-то угодное Аллаху, который воистину милостив и милосерден. А что может быть милосерднее, чем спасти жизнь своему врагу? Ну и, конечно, признаюсь тебе, Халеб (так па-мясцоваму ўсе завуць Глеба. — *Б. Я.*): желание иметь на старости лет своего собственного раба, помощникам в тяжелом крестьянском труде, тоже было не последним». А яшчэ Сайдула спадзяецца дачакацца ад адзінай дачкі Дурханый унука. Хто, апроч яе, можа падарыць яго, здагадацца няцяжка...

У новае жыццё мусіць упісвацца і Глеб Беразовік, у чым і прызнаецца: «Мне теперь часто казалось, что старая жизнь сошла с меня, как змеиная кожа, и теперь лежит сухой и никому ненужной шкуркой. А новая осторожно и медленно нарастает, радуя свежестью и чистотой». Аднак «пераўтварэнне» Глеба ў Халеба (зразумела, гэта тычыцца не змены імя, а ўжывання юнака ў новыя для яго ўмовы) даецца няпроста і нялёгка. Дый не толькі ад яго самога залежыць.

Як і не ад аднаго Сайдулы, хоць той і стараецца, каб Беразовік не адчуваў сябе ў ягоным доме чужым. Толькі ўсё адно пачуццё непрыкаянасці не пакідае Глеба: «Перспектива оставаться рабом Сайдулло — пусть даже любимым рабом — еще минимум лет двадцать приводила меня в ужас. Бежать, во что бы то ни стало бежать! Но, конечно, сделать это так, чтобы меня не смогли вернуть. Да и погибать во время побега тоже не хотелось. Ни от барсов, ни от волчьих стай».

Да ўсяго нельга адпрэчваць і таго, што абодва — і Беразовік, і Сайдула — не ў нейкай ізаляванай, абасобленай прасторы знаходзяцца. Ёсць жа і іншыя жыхары кішлака, а ў іх сваё стаўленне да шураві. Пры тым далёка не адназначнае. Даходзіць да таго, што адзін з іх абвінавачвае Беразовіка ў тым, што ён «покусился на честь и достоинство его любимой дочери Азизы». Гэта пры тым, што Беразовік проста баяўся, каб яе не затапталі авечкі: «в бестолковой суете я неожиданно зацепил и сорвал ее чадру. К тому же, чтобы девушка не упала, мне пришлось подхватить ее на руки». З-за такой «правіннасці» Глеб толькі выпадкова застаўся жывым. Дый то пасля таго, як умяшаўся Сайдула.

Раман «Горький запах полыни» — твор дынамічны. У кампазіцыйную пабудову яго ўкліньваюцца вострыя сюжэтныя павароты. Аднак, несумненна, гэта раман яркіх, запамінальных характараў, якія падаюцца Г. Чарказянам у залежнасці ад творчай задумы ці то ўзбуйнена, ці у чымсьці паўстаюць эпізадычна. Тым не менш, яны ў аднолькавай ступені запамінальныя, бо ва ўсім адчуваецца рука майстра, які кожны характар раскрывае так, што выразна бачыш чалавека з усімі ягонымі адметнасцямі. Пры гэтым пісьменнік дакладна перадае афганскі каларыт, з павагай ставіцца да тых традыцый афганскага народа, якія нельга не вітаць, але разам з тым праз успрыманне галоўнага героя твора не адмаўляе і мясцовых перажыткаў.

Жыццё Глеба Беразовіка — у пэўнай ступені і блуканне па пакутах. Праўда, часцей унутранае, бо Сайдула ставіцца да яго добра. Ды ўсё адно неспакойна Глебу на чужыне. Але ягонае жыццё ў новых абставінах — гэта адначасова і імкненне да самасцвярджэння. Сапраўды, яму не хацелася быць рабом, няхай сабе і любімым. Хоць усё ж настаў момант, калі Глеб адчуў і тут, у далечыні ад Радзімы, сябе шчаслівым. Гэта адбылося пасля таго, як ён узяў сабе ў жонкі Дурханый, нарадзіўся сын, потым дачка. На жаль, шчасце было нядоўгім: «Сель отрезал от кишлака семь домов с мирно спящими людьми и похоронил их в пропасти, куда впадала наша когда-то мирная и безобидная речка».

Істотны момант: рэчку ён ужо называе нашай. Значыць, і сваёй таксама. А гэта сведчыць на карысць таго, што, калі б абставіны і далей складваліся добра, то застаўся б у гэтым далёкім краі, які пачаў любіць гэтак, як і любіць сваю родную зямлю. Ды пасля таго, як не стала жонкі, дзяцей, заставацца тут далей для яго не мела сэнсу. Таму і вырашыў уцякаць. Першы ўцёк — яшчэ да таго, як не завёў сям'ю, не ўдаўся. Спадзяваўся, што гэтым разам пашанцуе. Не можа не пашанцаваць...

Вядомы рускі філосаф, ён жа паэт, публіцыст і крытык Уладзімір Салаўёў неяк роспачна заўважыў: «Стоит ли жить, // Если правда мертва!» Зразумець яго можна. Сапраўды, калі бачыш, што хаваецца ад грамадства тое, без чаго і жыццё — не жыццё, аддаецца забыццю вызначальнае і істотнае, становіцца не па сабе. Больш за тое, нават наступают моманты, калі пачынаеш задумвацца, а ці ёсць сэнс у тваім далейшым існаванні. Ды, на шчасце, само жыццё — рана

ці позна — упэўнівае ў тым, што падобны песімізм усё ж з'ява выпадковая. Як у канцы тунеля абавязкова паўстане святло, так і ў паўсядзённасці з'явяцца праблескі праўды. Набліжаюць яе і мастацкія творы, падобныя новаму раману Г. Чарказяна.

«Горький запах полыни» — гэта твор, якога так не ставала беларускай літаратуры. Не адмаўляючы значнасці ўсяго таго, што ўжо з'явілася на афганскую тэму, нельга не адзначыць таго, што Г. Чарказян закрануў такі аспект, на які раней калі і звярталася ўвага, дык як бы мімаходзь. Ніхто да яго так усебакова і праўдзіва не расказваў пра беларускіх юнакоў, якія, выконваючы свой інтэрнацыянальны абавязак у Афганістане, трапілі ў палон. Канешне, на дзіва праўдзіва ўзноўлена ў знакамітым рамане Мікалая Чаргінца «Сыны». Але ў ім савецкія салдаты гінуць, падарваўшы ваенную базу. Гэта, безумоўна, подзвіг. Але інакай як подзвігам нельга ўспрымаць і жыццё Глеба Беразовіка сярод афганцаў. 18 гадоў, праведзеных сярод тых, хто дагэтуль бачыў у ім ворага, — гэта не толькі барацьба за выжыванне, імкненне прыстасавацца да новых, чужых абставін. Апроч усяго, гэта — і здатнасць не зганьбіць высокага імя грамадзяніна той краіны, у якой ён нарадзіўся і якой назаўсёды застаўся верным.

Назва рамана — сімвалічная. Так, палын — трава горкая, але адначасова яна і гаючая. Палын Афганістана стаў гаючым і для Глеба Беразовіка. Годна прайшоўшы праз суровыя выпрабаванні, ён не толькі не зламаўся, а і стаў яшчэ больш моцным. Не фізічна, канешне. Узрост ужо не такі і малады. Дый не будзем забываць, чаго каштавала яму выжыць. Аднак у Глеба, нават куды болей, чым у маладога юнака, духоўнай, маральнай моцы. Ён ужо не сумняваецца, што і далей трэба жыць. Бо праўда — усё-такі не мёртвая. Тая праўда, якую ён спасцігнуў на ростанях афганскіх дарог. Як баявых, так і мірных. Усякага было, і ад гэтага нікуды не дзенешся, ды праўда ўсё адно не мёртвая. Таму і трэба жыць.

Сімвал Г. Чаказян заклаў не толькі ў назву гэтага свайго рамана. Сімвалічнае і імя галоўнага героя. На завяршэнні твора дзед Гаўрылка, які так і не дачакаўся ўнука, перад тым, як пайсці ў вечнасць, выказвае ўпэўненасць: «Он обязан вернуться к своей земле-матери, к своей глебе. Я уйду в землю, а он на нее вернется». Пад нагамі ў Глеба, нягледзячы на ўсё, павінна быць трывалая глеба. Не тая камяністая, ухабістая, па якой ён мусіў ступаць, знаходзячыся на чужыне, а ўрадлівая глеба яго родных мясцін. Вобраз Глеба Беразовіка — тым больш значны, што ён збіральны. Пішучы яго, Г. Чарказян не меў перад сабой якога-небудзь канкрэтнага чалавека, у чым і прызнаецца: «Усё гэта я спісваў з вайны». У працы над творам яму дапамаглі згадкі тых, хто сам прайшоў праз афганскае пекла. Прачытаныя кнігі, прагледзеныя фільмы, не толькі мастацкія, а і дакументальныя — таксама. Дый запісы з дзённіка, які вёў, у войску.

## Мудрае слова дзеда Ганада

Ганад Чарказян, паспяхова выступаючы ў розных жанрах, і ў дзіцячай літаратуры не навічок. Хлопчыкам і дзяўчынкам адрасаваны ягоныя кнігі «Казкі дзеда Ганада», «Талісман» «Пумпур у калясцы» і іншыя казкі», «Чык-чырыка і Мурлыка». З творамі для маленькіх ён рэгулярна выступае і ў перыядычным друку. Адметнасць мастакоўскага почырку гэтага знакамітага пісьменніка ў тым, што ён, добра ведаючы псіхалогію тых, для каго піша, стараецца размаўляць з дзяцьмі як з дарослымі, а гэта значыць, што ніколі не апускаецца да голага маралізатарства, не дазваляе сабе ў размове з імі сюсюкання, але, разам з тым, умее ў сваіх казках (а гэта любімы жанр Г. Чарказяна-дзіцячага пісьменніка), узнімаць важныя праблемы. Пры тым ён глядзіць на акаляючы свет, на яго насельнікаў вачыма тых, каму і адрасуе свае творы.

У казках Г. Чарказяна — няхай не падасца такое сцвярджэнне дзіўным — усё вельмі жыццёва і праўдзіва. Дый іначай і быць не можа. Мудры казачнік дзед Ганад ідзе ад самаго жыцця, якое добра ведае і якое любіць, як можа любіць яго чалавек, прасякнуты ўсведамленнем, што адведзены табе Усявышнім час, ты не проста павінен пражыць, а мусіш пражыць годна, сумленна — так, каб не сорамна было глядзець людзям у вочы, дый каб пра цябе на зямлі ў людскіх сэрцах заставалася добрая і ўдзячная памяць.

Што да праўдзівасці казак Г. Чарказяна, то да іх патрапляе тое, што дакладна сказана ў завяршальных радках казкі «Элин Гриб», якой і завяршаецца кніга «Талісман»: «Бабушка хорошо знала, что быль и небыль — сказка и то, что есть на самом деле, — живут совсем-совсем рядышком. Просто не каждый это может увидеть…» Убачыць гэта можа, удакладню выказаную думку, толькі той, хто добра назіральны, а яшчэ валодае такой выдатнай якасцю, як уменне здзіўляцца і ў, здавалася б, звычайным бачыць, успрымаць незвычайнае.

Такімі якасцямі акурат і валодае Г. Чарказян. Ягонай мудрасцю напоўнена, у прыватнасці, кніга «Талісман». Дзевяць казак, што ўвайшлі ў яе, шмат у чым традыцыйныя, калі мець на ўвазе іх персанажаў, але разам з тым з самастойнымі сюжэтамі, найчасцей на дзіва арыгінальнымі, так і казкі, у якіх прысутнічае прытчывасць. Яны таксама да месца, бо гэтая кніга ў першую чаргу адрасавана дзецям сярэдняга школьнага ўзросту. Ім будзе цікава разам з аўтарам казак задумацца і над хуткаплыннасцю жыцця, дый і над тым, як гэта важна мець тое апірышча, дзякуючы якому і можна адчуваць сябе ўпэўнена, надзейна, быць сапраўдным чалавекам сярод людзей.

На такія думкі наводзяць казкі «Бессмертие» і «Талисман». Першая з іх адкрывае кнігу, другая стаіць амаль у канцы яе. Тым самым атрымліваецца так, што гэтыя два творы як бы абрамляюць зборнік, цэментуючы важкасць аўтарскай задумы і адначасова сведчачы пра тое, наколькі значнасць яе здатная вывесці гаворку на важнейшыя праблемы жыцця.

Герой казкі «Бессмертие» стары Карахан любіць зямлю, на якой нарадзіўся і з якой звязаў свой лёс. Тое, што акружае яго, раз і назаўсёды ўвайшло ў ягоную душу. Гэта і пчолы, якіх ён так ашчадна даглядае. Усяго адзін вулей у Карахана, «но сделал он его своими руками. Поэтому каждую царапинку на нем воспринимал как личную обиду. Улей получился удачным, хотя и был его первым опытом в этом ремесле. Да и все, за что после долгого раздумья брался Карахан, получалось добротным и красивым. Иначе он просто не умел». Аднак нядоўга радаваўся Карахан. Аднойчы на яго вулей напалі чужыя пчолы, чорныя, у якіх даўжэйшае жала, чым у звычайных: «Его пчелы стали жертвами пчелиной войны. Маленькие серенькие герои сражались до последнего… Все как у людей». На шчасце, матка засталася жывой. Значыць, вулей ажыве, жыццё пераможа смерць.

Любоў галоўнага героя казкі да пчол — частка ягонай любові да ўсяго жывога на зямлі. Перад усім — да людзей. Такі не толькі сам ён, гэткім з'яўляецца ўвесь ягоны род: «…. Вспомнились ему и предки, которые во все времена отличались миролюбием. Возможно, потому что семьи были всегда многочисленными, все постоянно чувствовали поддержку друг друга… Они побеждали добром. Возможно, именно поэтому род Караханов всегда процветал…. Иногда Карахан думал с улыбкой, что когда-нибудь вокруг будет столько Караханов, что наступит совсем другая, достойная человека жизнь. Люди не будут завидовать, не будут воровать, не будут губить и убивать друг друга. Конечно, он понимал, что все люди не могут быть Караханами. Но для самих Караханов наступила бы эра добра и мира…»

Гэта як бы запеўка да таго, што адбудзецца далей. Дзеянне ў творы пачынае набіраць сваю прытчавую скіраванасць пасля таго, як перад Караханам неяк з'явіўся сівабароды стары і запытаўся ў яго, ці задаволены ён сваім жыццём, на што Карахан адказаў: «Доволен!? Это не то слово! Мы, Караханы из старинного

рода. Наше богатство — это наше понимание мира. Если человек даже мысленно допускает, что сильный может угнетать слабого, это человек уже ущербный. Бог дал Караханам силу воли, понимание, что каждый человек способен на многое…»

Выслухаў стары Карахана, а на развітанне сказаў яму: «Богом даруется тебе, а также любому Карахану из твоего рода бессмертие. Отныне — ты око Вселенной. Пусть не ускользнет от тебя ни одна трещина в человеческой душе. Пусть станет больше Караханов. Много, много, много…» Паабяцаў стары Карахану вярнуцца, каб атрымаць на гэта ягоную згоду. Застаўся Карахан у няпростым роздуме. З аднаго боку, неўміручасць — гэта цудоўна, а з другога «Как же он сможет жить, если рядом не будут биться сердца его родственников, детей, его дорогой жены, верных друзей… И как можно быть счастливым, если пережил своих детей, внуков и правнуков… Нет, все правильно в этом мире, нарушить этот порядок никому не дано». Карахан прыходзіць да высновы, якая ў яго проста не магла не з’явіцца: «Нет, не надо ему никакого бессмертия!»

Мудрая выснова. На першы погляд такая простая яна, але як шмат нясе яна ў сабе. У ёй і разуменне свайго месца на зямлі. Аднак у ёй і ўсведамленне таго, што ніхто не павінен парушаць той парадак існавання, які вызначаны самім Усявышнім. Іначай гэта можа каштаваць вельмі дорага. Карахан гэта добра разумее. Толькі не ўсе могуць быць Караханымі. Многія не ў стане ўзняцца да такога ўсведамлення, што і відаць з казкі «Талисман».

У гэтым творы сітуацыя ў чымсьці блізкая да той, што адбылася з Караханам. Толькі перад ім нечакана з’явіўся сівабароды стары, а тут «вызвал к себе Бог очередного новоявленного человека, чтобы снабдить самыми необходимыми наставлениями», а на развітанне сказаў яму: «Я дарю тебе жизнь, надежду, но возьми также в дар и эту маленькую ракушку. Каким ты вырастешь и о чем будешь думать — это твои проблемы. Только никогда не забывай, что у тебя есть ракушка-талисман. Где бы ты ни был, не забывай о талисмане. Запомни — это мое последнее наставление — никогда не открывай ракушку, никогда! Это говорю тебе Я, Бог, верховный Создатель и Повелитель». Дасягнуў гэты чалавек усяго: сілы, славы, багацця. Праўда, не заўсёды дамагаўся гэтага праведным шляхам, толькі ніколі над гэтым не задумваўся. Дайшло да таго, што пачаў задумвацца, а ці месца яго сярод простых смяротных, ён жа на большае здатны. Тады і ўспомніў чалавек пра талісман і асмеліўся адкрыць ракавіну:

«Оттуда появилась красавица-улитка и сказала:

— На Земле и во Вселенной может быть только один Бог. Его воля — закон для всех: для бедных и богатых, для слабых и сильных, для глупых и умных. Ты нарушил волю Бога…

Человек хотел что-то сказать в свое оправдание, но не успел.

Улитка прыгнула к нему в рот, и через мгновение человек рассыпался в прах.

И стало понятно, что сила и богатство никому на Земле не дают права считать себя Богом. Потому что двух Богов не может быть. И все дети Бога имеют одинаковые права на все блага Земли».

Поруч з гэтымі творамі, якія з цікавасцю прачытае і чытач дарослы, у кнізе нямала і казак, што прыйдуцца даспадобы не толькі дзецям сярэдняга школьнага ўзросту, а і малодшым школьнікам, а таксама дашкольнікам. Хоць, у рэшце рэшт, асалоду ад іх атрымае любы. Вельмі ж шмат у гэтых творах займальнасці, дасціпнасці, сонечнасці, але, разам з тым, прысутнічае і павучальнасць. Праўда, гэта, чым і адметныя казкі Г. Чарказяна, не голы дыдактызм. Думка аб тым, як неабходна быць добрым, справядлівым, са спагадай ставіцца да іншых праводзіцца ненавязліва, а тактоўна, яна вынікае з самога сюжэта таго ці іншага твора.

Асабліва ўдалася Г. Чарказяну казка «Воробышек Тик-Тилик и Кот Мурлыка», напісаная на дзіва цёпла, з замілаваннем да тых, пра каго ў ёй расказваецца.

Хоць і іншыя казкі — «Ёжик-художник», «Заячье «спасибо»», «Метла и Пуговка», «Ослик», «Почему Ерошка лает, когда в лесу бывает», «Элин Гриб» — гэта тое, што можа нарадзіцца толькі тады, калі мала мецць талент. Апроч усяго, яшчэ трэба па-сапраўднаму любіць дзяцей, пісаць для іх з упэўненасцю, што так, як напішу я, ніхто іншы напісаць не можа. Што гэта на самай справе так і даказаў сваёй кнігай «Талисман» Г. Чарказян.

* * *

Рыгор Барадулін сказаў пра Г. Чарказяна: «Сам лёс благаславіў Ганада Чарказяна быць ранішняй памяццю і вечаровым роздумам свайго народа. Быць курдскім паэтам». Дазволю сабе ўдакладніць Рыгора Іванавіча. Лепшае з напісанага Г. Чарказянам успрымаецца адначасова ранішняй памяццю і вечаровым роздумам не толькі курдскага, а і беларускага народа. Дый лёс благаславіў яго быць адначасова курдскім, а і беларускім паэтам. Калі глядзець шырэй, то і беларускім празаікам. Хачу аспрэчыць і самога Ганада Бадрыевіча, калі ён сцвярджае:

І геніяльны не стане
Геніем на чужыне.
Карэнне без глебы вяне.
І зорка без неба гіне.

Але ж сапраўдны талент і на чужыне не гіне, бо яна становіцца для яго таксама Радзімай, чужая ж глеба — сваёй, жыватворнай. Наколькі гэта правільна і пераконваюць кнігі Г. Чарказяна.

Сенека Малодшы неяк зазначыў: «Калі няма далейшага росту, значыць, блізкі канец». Г. Чарказян сваёй творчасцю якраз і пацвярджае, што ў яго адбываецца пастаянны мастакоўскі рост. То пачакаем новых кніг Ганада Бадрыевіча, што, несумненна, неўзабаве з’явяцца. Г. Чарказян — з тых літаратараў, якім заўсёды ёсць з чым прыйсці да чытача.

Аляксандр ВАШЧАНКА

# СЛОВА ПРА СТАРЭЙШАГА СЯБРА

Слова Сябар я пішу з вялікай літары, бо Анатоль Вярцінскі, пра якога я хачу расказаць, сваёй творчасцю, грамадзянскай пазіцыяй, высакароднымі ўчынкамі і ўсім жыццём даказаў, што ён можа звацца Чалавекам з вялікай літары. Упершыню з яго творчасцю я сутыкнуўся падчас вучобы ў Мінскім педагагічным інстытуце імя А. М. Горкага. Прыкладна ў 1970-м годзе выкладчык выразнага чытання А. Каляда на базе студэнтаў філфака і літмуза стварыў паэтычны тэатр «Жывое слова». Быў пастаўлены спектакль па вершах А. Вярцінскага. З гэтым спектаклем студэнты паспяхова гастралявалі. Вядома, былі і на роднай яму Лепельшчыне. Гэтай вандроўцы Анатоль Ільіч прысвяціў верш:

Выбраў харошую гадзіну —
вясна дыхнула з усіх бакоў, —
і еду да сябе на радзіму,
да лепяльчан, да землякоў.
На душы ў мяне вяснова.
І яшчэ ад таго мне святлей,
што побач — гурт маладых людзей,
цэлы тэатр «Жывое слова».

Ужо тады мяне ўразіла сіла ўздзеяння паэтычнага слова майстра на гледачоў. Захацелася бліжэй пазнаёміцца з яго творчасцю. Прачытаў зборнікі вершаў Вярцінскага «Песня пра хлеб», «Тры цішыні», «Чалавечы знак». Знайшоў у іх шмат чаго сугучнага з уласнымі думкамі і пачуццямі, і з тае пары не прапускаў ніводнай новай кніжкі паэта.

Пазнаёміўся ж з Анатолем Ільічом у 90-я гады, калі ён працаваў літаратурным кансультантам у Саюзе пісьменнікаў Беларусі. Ён вельмі прыязна сустрэў свайго земляка (нашы вёскі Дзямешкава і Дварэц знаходзяцца кіламетрах у дзесяці), пачытаў мае спробы пяра, нешта паправіў. Даў слушныя парады, паспрыяў, каб некаторыя з вершаў надрукавалі, а пазней напісаў прадмовы да маіх першых кніг. Акрылёным выходзіў я пасля той сустрэчы. Ёсць рэдактары, пасля размовы з якімі хочацца спаліць свае опусы, а ёсць тыя, добрае слова якіх дае штуршок для творчасці. Да апошніх, такіх нешматлікіх і адносіцца А. Вярцінскі. Прыязнасць і дабрыня, бадай, самыя адметныя яго рысы. Ён не можа адмовіць нікому, таму адгукаецца нават на не зусім зручныя запрашэнні, бо іншы раз для сустрэчы з чытачамі прыходзіцца пераадольваць не адну сотню кіламетраў. Аднак вынік таго варты: у сэрцах слухачоў, можа, не адразу, але прарастуць парасткі высокага паэтычнага слова, а маленькія чытачы потым будуць усё жыццё ганарыцца тым, што бачылі і чулі Паэта.

Як вядома, Віцебшчына ў другой палове XX стагоддзя запаліла на небасхіле высокага пісьменства Беларусі тры найярчэйшыя зоркі: Рыгора Барадуліна з Ушаччыны, Генадзя Бураўкіна з Расоншчыны і Анатоля Вярцінскага з Лепельшчыны. Быццам тры дубы-асілкі непахісна і ўпарта яны адстойвалі ў сваёй творчасці ідэалы дабрыні і спагады. Мне пашчасціла арганізаваць для вучняў і



*Анатоль Вярцінскі з Аляксандрам Вашчанкам.*

настаўнікаў сярэдняй школы № 3 горада Мінска, дзе тады працаваў, творчыя сустрэчы з імі. Назаўсёды занатаваны тыя сустрэчы ў летапісе школы, і былыя вучні з вялікай удзячнасцю ўспамінаюць іх. Але час няўмольны: з трох сяброў-землякоў у жывых застаўся адзін Анатоль Ільіч.

Калі ў апошнія гады свайго жыцця народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч застаўся сам-насам са сваімі хваробамі і адзінотай, многія былыя сябры адвярнуліся ад яго. А. Вярцінскі ж кожны тыдзень заходзіў, і гэтыя сустрэчы ператвараліся ў натхнёную размову аб лёсах нашай літаратуры і роднай мовы. Мне давялося некалькі разоў там прысутнічаць і калі б можна было тыя размовы аксакалаў айчыннай паэзіі занатаваць, то атрымалася б цікавейшая кніга, складзеная з малавядомых фактаў нашага літаратурнага жыцця. Адзін з прыкладаў. Ніл Сымонавіч кажа: «Я б з задавальненнем памяняў свой лепшы верш «Вы шуміце бярозы» на «Два полі» Анатоля, ды ён наўрад ці пагодзіцца...» Дарэчы, наступным прэтэндэнтам на званне народны паэт Беларусі пасля Н. Гілевіча быў А. Вярцінскі, але гэтага звання так і не дачакаўся… Але насамрэч ён даўно ўжо народны, бо яго паэзія па праве ўвайшла ў залатую скарбонку нацыянальнага прыгожага пісьменства.

Анатоль Вярцінскі даўно вынайшаў для сябе галоўны закон гарманічнага існавання чалавецтва. Гэта Закон любові:

— Што значыць дарогу ў жыцці не згубіць?
— Любіць.
— Што значыць зямное шчасце здабыць?
— Любіць.

Гэтая тэма чырвоным радком праходзіць праз усю ягоную творчасць:

Люблю зямлю,
дзе ёсць дзіцячая казка,
дзе ёсць дзяцінства
і ёсць маладосць.
Люблю зямлю,
дзе ёсць жаночая ласка,
і дружба ёсць,
і многае іншае ёсць.

Як слушна заўважае Вольга Русілка: «сцверджаная паэтам «усепланетная сістэма любові», сістэма «пачуццёвых струн» трымаецца найперш на бязмежнай самаахвярнасці Маці, вобраз якой ствараецца з асаблівым драматычным лірызмам і сімвалічнай узвышанасцю».

Мы жывём, каб вяртацца,
і лепшага шляху няма.
Мы жывём, каб вітацца.
«Мама! Дзень добры, ма…»
Ну, а раптам напасці,
бяда ў той хаціне старой?
Ну, а раптам няшчасце —
і маці ў зямлі сырой?
Мы жывём, каб вяртацца.
А куды тады вернешся ты?
З кім ты будзеш вітацца,
як тады, да бяды?

Светлы вобраз маці, Александрыны Рыгораўны, у А. Вярцінскага мае не толькі індывідуальны, але і агульначалавечы пачатак, бо «лёс маткі-салдаткі» і працаўніцы быў тады лёсам большасці славянскіх жанчын. А пакутлівы матыў страты самага блізкага чалавека да гэтага часу незагойным болем гучыць у сэрцы паэта:

Вось твой лясок.
Вось твой пясок.
Вось твае сосны.
Твая яма.
Пачуць бы яшчэ раз:
«Сынок».
Паклікаць бы яшчэ раз:
«Мама».

Да Закона любові А. Вярцінскі прыйшоў праз наймацнейшую тэму ўспамінаў маленства — тэму вайны. Бацька быў на фронце, Лепельшчына знаходзілася пад акупантамі, а адзінаццацігадовы Анатоль, які яшчэ мала ўсведамляў небяспечнасць сваіх дзеянняў, падвозіў ноччу партызан у Саснягоўскую пушчу, а ў цэнтры вёскі на дрэве наклеіў лістоўку з заклікам «Ідзіце ўсе ў партызаны! Біце ворагаў!» Аднойчы міма Дзямешкава ішлі карнікі. Праз некаторы час вяскоўцы пачулі страляніну, убачылі чорныя клубы дыму. Назаўтра даведаліся, што суседнюю вёску Кісялёва карнікі спалілі, а жыхароў ад старога да малога забілі. А яшчэ пачулі жахлівы аповед пра тое, як некалькі дзён «дыхала» магіла, куды карнікі скідалі кісялёўцаў, і як крычаў на вогнішчы здзічэлы певень.

Гэты трагічны выпадак паслужыў А. Вярцінскаму сюжэтам для шчымлівай «Балады пра спаленую вёску і жывога пеўня». Вайна для паэта нешта страшнае і дзікае, што выходзіць за нормы чалавечай этыкі і маралі. Адказваючы на пытанне анкеты, «які след пакінула ў вашай асабістай памяці вайна?» — ён зазначыць: «Вайна наклала глыбокі адбітак на нашу псіхалогію, на наша светаадчуванне, вызначыла ў значнай ступені нашу маральна-філасофскую арыентацыю; вядома не толькі ў негатыўным, але і ў станоўчым сэнсе, у сэнсе нашай большай жыццястойкасці, больш устойлівага аптымізму».

Нельга абысці тэму кахання ў яго творчасці. А. Вярцінскі з яго знешнасцю галівудскага акцёра і шляхетнымі манерамі разбіў не адно жаночае сэрца, але ўсё жыццё з ім побач каханая жонка Ада Сямёнаўна, якая падарыла яму сына Яўгена і дачку Аляксандру і заўсёды была надзейным тылам сямейнага дабрабыту. Анатоль Ільіч лічыць, што не павінна быць на зямлі пакутлівай жаночай адзіноты, незапатрабаванай пяшчоты, неадбыўшагася кахання, і ў сваёй інтымнай лірыцы, як ніхто іншы, дакранаецца да самых патаемных і глыбінных струн душаў сваіх гераінь, бо для паэта каханне — знак далучанасці да галоўнай таямніцы жыцця:

Мужчына. Жанчына. Чаканне.
Шуканне. Блуканне. Час.
Жанчына. Мужчына. Спатканне.
Вітанне. Пытанне. Адказ.
Мужчына. Жанчына. Дыханне.
Сэрцабіццё. Забыццё.
Жанчына. Мужчына. Каханне.
Мужчына. Жанчына. Жыццё.

Я не збіраюся прааналізаваць напісанае паэтам: гэта ўжо зрабілі і яшчэ зробяць прафесійныя крытыкі і літаратуразнаўцы. Мне хочацца расказаць аб А. Вярцінскім як аб чалавеку, чалавеку простым, пазбаўленым усялякай высакамернасці.

Яму не аднойчы даручалі адказныя пасады. У 1977 годзе ў складзе дэлегацыі ўдзельнічаў у рабоце XXXII сесіі Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. У галоўнай падковападобнай зале небаскроба (хмарачоса, як сказаў бы Адам Мальдзіс) на Іст-Рывер, што ў Нью-Ёрку прадстаўнік Беларусі знаходзіўся паміж дэлегаткай ад Канады (справа) і мажным чарнаскурым прадстаўніком Бурундзі. Адкрыў сесію міністр замежных спраў Шры Ланкі Хамід: «Прашу паважаных прадстаўнікоў захаваць мінуту маўчання, прысвечаную малітве або роздуму!» Гэта традыцыя. Гэта паўтараецца кожны год, пачынаючы з памятнага пасляваеннага сорак пятага — года стварэння ААН.

У сваёй кнізе публіцыстыкі «Нью-Йоркская сірэна», за якую ў 1988 годзе быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй БССР, А. Вярцінскі піша: «Ёсць ёмістая слоўная формула, якая нарадзілася разам з гэтай міжнароднай арганізацыяй над свежымі яшчэ магіламі і руінамі мінулай вайны і якая, напэўна, можа найлепшым чынам выказаць агульны стан дэлегатаў Асамблеі, закліканай да мінуты маўчання. Вось яна:

«МЫ, НАРОДЫ АБ'ЯДНАНЫХ НАЦЫЙ, ПОЎНЫЯ РАШУЧАСЦІ

пазбавіць будучыя пакаленні ад бедстваў вайны, якая двойчы ў нашым жыцці прынесла чалавецтву невыказнае гора…

зноў усталяваць веру ў асноўныя правы чалавека, у годнасць і каштоўнасць чалавечай асобы, у раўнапраўе мужчын і жанчын і ў роўнасць правоў вялікіх і малых нацый…

І Ў ГЭТЫХ МЭТАХ

праяўляць цярпімасць і жыць разам, у міры адзін з другім, як добрыя суседзі,

і аб'яднаць нашы сілы для падтрымання міжнароднага міру і бяспекі…»

Чаканная, нібы высечаная на метале формула тычыцца ўсіх. Маўчыць уся зала. Але для нас, для тых, хто перажыў жахі вайны на ўласным вопыце, гэтыя, прасякнутыя разумнай, добрай воляй, пачуццём высокай адказнасці словы — з прэамбулы Статута ААН — асабліва зразумелыя і значныя. Для нас, хто страціў у вайне сваіх родных і блізкіх, хто прынёс на алтар перамогі над фашызмам дваццаць мільёнаў чалавечых жыццяў, гэтая мінута маўчання мае не толькі сімвалічны, цырыманіяльны, але і канкрэтны духоўны сэнс — мы ўшаноўваем памяць паўшых. Мы ўшаноўваем памяць ахвяр вайны, і нашы думкі пра мір для жывых…»

Якія пранікнёныя і мудрыя словы! Яны асабліва важныя ў наш час, калі зусім недалёка ад нашых межаў ідзе вайна паміж братнімі славянскімі народамі, калі ў руінах Сірыя, калі да трэцяй сусветнай рукой падаць, і толькі агульная воля і сіла ўсіх народаў свету могуць яе спыніць…

А яшчэ я заўсёды думаю, калі Анатоль Ільіч выступае на прэзентацыі маёй чарговай кнігі (а ён ніколі не адмаўляе), што гэты чалавек некалі вёў рэй перад дэлегатамі ста пяцідзесяці краін (на той час) нашай блакітнай планеты Зямля, годна адстойваў інтарэсы роднай Беларусі ў ААН і ЮНЕСКА, а зараз ён гаворыць добрыя словы пра мяне. Ды гэта ж такі гонар!

Акрамя працы ў ААН і ЮНЕСКА А. Вярцінскі ўзначальваў Таварыства Беларуска-кітайскай дружбы, вучыўся пісаць іерогліфы ў Пекінскім універсітэце, выбіраўся Дэпутатам Вярхоўнага Савета 12-склікання, з'яўляўся намеснікам старшыні пастаяннай Камісіі па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, быў членам Канстуцыйнай камісіі Вярхоўнага Савета БССР, адказным сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, галоўным рэдактарам штодыднёвіка «Літаратура і мастацтва». І яшчэ шмат дзе былі выкарыстаны талент, адказнасць і працаздольнасць Анатоля Ільіча.

Анатоль Вярцінскі — кнігалюб. Прычым, кнігалюб апантаны. У гэтым захапленні я яго саюзнік. Кнігі ў кватэры Анатоля ўсюды: у пакоях, на калідоры, на антрэсолях, ды і на летніку іх таксама хапае. І яны не стаяць мёртвым грузам у шафах, а «працуюць». Ён імі шчодра дзеліцца, прычым, не шкадуе «разбіць» любую серыю: «Табе патрэбна гэтая кніга? Для працы? Забірай!» Кнігі ён не толькі збірае, але і чытае, хоць часу для гэтага нестае:

Забрацца б на пустынны востраў,
за трыдзевяць зямель і вёрстаў,
узяўшы толькі стопку кніг.
І — начытацца ўволю іх!

Жыве з адчуваннем унутранай еднасці з прыродай, якая для яго — вясковага хлапчука — арганічнае ўвасабленне райскага саду, дзе так хораша жыць і працаваць. Таму думка аб адказнасці чалавека за будучыню прыроды пастаянна гучыць у яго вершах.

Косім траву — яна не крычыць.
Яна маўчыць адчайна.
Мы пачынаем камень крышыць,
зацятае тое ж маўчанне.
Тое ж маўчанне, калі тапаром
мы дрэва зялёнае нішчым,
калі мы за жабры рыбу бяром
і б'ём галавой аб днішча.
Рыба набрала вады…
Затое, калі самім нам
бывае балюча, і тады
крычым мы крыкам нястрымным,
крычым мы не толькі ад болю свайго
яго было б нямнога, —
крычым мы ад болю ўсяго
свету зямнога.

Адзінокая кінутая яблыня ў горадзе для А. Вярцінскага ператвараецца ў сімвал вясковага чалавека, які згубіўся і разгубіўся ў мегаполісе і якога могуць адагрэць толькі ласкавыя і пяшчотныя рукі:

Сумнае, трэба сказаць, відовішча —
Яблыня ў горадзе,
на месцы былога дворышча.
Той дворык, той домік
пайшлі на знос.
І ў яблыні нашай такі вось лёс…
Ля тратуара, навідавоку
Стаіць яна, яблыня, — збоку прыпёку.
Яе абыякава абцякае
Рака людская, гарадская.

Мы абавязкова сустракаемся з Анатолем Ільічом у сярэдзіне кожнага жніўня. Я частую яго мёдам з Лепельшчыны, а ён мяне — яблыкамі з уласнага саду. Мы

абмяркоўваем вартасць кожнага гатунка, гаворым аб ураджаі яблыкаў і груш, а я думаю пра тое, што кожны чалавек, які саджае пладовыя дрэвы, нават не ўсведамляючы таго, хоча вярнуць сабе кавалачак эдэмскага райскага саду, адкуль ён некалі быў выгнаны.

У гэтым годзе на Віцебшчыне сады квітнелі так, што ад прыгажосці проста абрывалася сэрца. Прозай адчуванне гэтага хараства не перадаць, тут патрэбен паэтычны талент Майстра:

Не помню такога лета,
каб было столькі квета,
каб яблыні так квітнелі,
каб так цвілі сады.
Так хораша, так шчодра!
Каб так кранаці пяшчотна
Душы маёй лады!

Нібы казала прырода
людзям майго народа:
«Ведаю, людзі добрыя,
Што радасці вам нестае.
Дык вось, мае любыя дзеці,
глядзіце на гэтую квецень,
глядзіце і любуйцеся,
і цешцеся, дзеці мае!»

Паэт ніколі не спыняецца на дасягнутым, ён жыве планамі і творчымі задумамі: «Ведаеш, яшчэ ёсць думкі, яшчэ хочацца напісаць пра Скарыну. Я так люблю пісаць у дождж…» Дык няхай цёплы грыбны дождж спрыяе Вашаму паэтычнаму настрою, мой дарагі сябра і зямляк, а мы, прыхільнікі Вашага таленту, віншуем Вас з 85-годдзем, жадаем здароўя, сямейнага дабрабыту і чакаем Вашых новых твораў! І яшчэ: «Анатоль Ільіч, чакаю ў госці. Стаўлю бульбу варыць!»

Міхась КЕНЬКА

# МОЙ КНІГАЗБОР

Кнігі былі ў нашай вясковай хаце яшчэ да дня майго нараджэння ў 1947-м годзе. Іначай як бы яно выйшла, што пупавіну мне абразалі не на чым іншым, а на кнізе. Мама казала, што гэта быў спосаб паўплываць на мой лёс: каб жыццё было звязана з чытаннем. Што цікава — так яно і сталася. Але якая кніга упершыню, хай сабе фізічна, судакранулася са мной, я так і не ўведаў. Мабыць, яе ўзялі ў маёй старэйшай сястры Ксені, на той час школьніцы. У мамы быў толькі малітоўнік, у таты — дапаможнікі, звязаныя з чыгуначнай справай — «Руководство бригадира пути», «Семафоры», «Путеукладочные машины».

Чытаць я навучыўся рана, яшчэ да школы. Першая прачытаная кніжка — казка «Лёгкі хлеб». Гэтае выданне я расшукаў пазней і паставіў на паліцу на ганаровае месца. Але ў дзяцінстве сваіх кніжак у мяне пэўны час не было: застаўшыся адна з двума дзецьмі (пасля смерці таты) мама ашчаджала грошы. Карыстаўся напачатку кніжкамі сястры. Яны стаялі на этажэрцы з чатырма палічкамі. З гэтай этажэркі і пачаўся мой кнігазбор. На ёй часта стаялі кнігі, узятыя са школьнай бібліятэкі, самыя любімыя я доўга трымаў, не хацелася здаваць. Сярод іх была аповесць Міхася Лынькова «Міколка-паравоз», яна была надзвычай блізкай мне як сыну чыгуначніка.

Доўга стаяла там і кніга тройчы Героя Савецкага Саюза Івана Кажадуба «Служу Радзіме» ў перакладзе на беларускую мову Усевалада Краўчанкі. Вядома ж, яна спарадзіла мару стаць лётчыкам. І верш Янкі Купалы «Хлопчык і лётчык» я ведаў на памяць. Але потым мара мянялася: машыніст паравоза, касманаўт (пасля 1961 года), нарэшце — журналіст, што пэўным чынам пазней і збылося. Але ў дзяцінстве ўвайшлі ў жыццё найперш вясковыя спецыяльнасці — пасвіць кароў, нарыхтоўваць сена, дровы, садзіць і капаць бульбу. А чытаў я ў любую вольную хвіліну. Чытаў усё, што траплялася. Захапляўся аповесцю В. Каверына «Два капітаны», раманамі Б. Ізюмскага «Пунсовыя пагоны» і «Энергіяй» Ф. Гладкова.

Мама часам купляла мне дзіцячыя кніжкі, калі мы ездзілі ў бліжэйшыя гарады Глыбокае і Варапаева. У старэйшых класах ужо і сам набываў кніжкі, якія прадаваліся ў сельскіх крамах, дзе яны стаялі побач з гаспадарчымі таварамі. Купіў і часта перачытваў «На ростанях» Якуба Коласа, «Капітан Фракас» Тэафіля Гацье. Калі я хадзіў у Ласіцкую сярэднюю школу, то кнігі чытаў пераважна бібліятэчныя, аб'ездзіў бліжэйшыя бібліятэкі пры сельскіх клубах, неблагі выбар быў і ў школьнай бібліятэцы. Менавіта там я прачытаў ледзь не ўвесь збор твораў Джэка Лондана, творы Жуля Верна, Антона Чэхава, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча. Асабліва любіў «Новую зямлю» і «На ростанях» Якуба Коласа. Колькі ў іх было блізкага мне!

Былі ў той час добрыя дзіцячыя кнігі. Вельмі падабаліся мне аповесці Янкі Маўра «Палескія рабінзоны», Паўла Кавалёва «Андрэйка», Міколы Гамолкі «Лета ў Калінаўцы», у перакладах на беларускую мову прачытаў «Стажары» Аляксея Мусатава, «Аповесць аб дружных» Ірыны Карнаухавай, «На беразе Севана» Вахтанга Ананяна, на рускай — усю казачную трылогію «Прыгоды Нязнайкі» Мікалая Носава, «Прыгоды Бураціна» Аляксея Талстога, «Сярожа» Веры Пановай, «Прыгоды Траўкі» Сяргея Розанава, трылогію пра Васька Трубачова Валянціны Асеевай.

Памятаю, як аднойчы папрасіў паглядзець у Ласіцкім сельмагу кніжку Віктара Трыхманенкі «Чалавек распраўляе крылы», пачаў чытаць каля прылаўка, ды так захапіўся, што ледзь адарваўся, сеў на веласіпед, за пяць кіламетраў паехаў з Ласіцы ў родную вёску, узяў там прыхаваныя на нешта іншае грошы, вярнуўся, купіў гэтую кніжку і, крыху ад'ехаўшыся, на ўзбочыне бальшака залпам прачытаў яе. Як жа! Там апавядалася пра равеснікаў, пра першае школьнае каханне, пра мару стаць лётчыкам! Гэтую кнігу потым перачытаў увесь клас. Зашмальцаваную, з парэпанымі старонкамі, я праз гады паказаў яе аўтару, які тады працаваў рэдактарам газеты «Во славу Родины», і ён быў прыемна здзіўлены папулярнасцю гэтай аповесці, якую ён сціпла назваў «грахом свайго літаратурнага юнацтва».

З самага пачатку я купляў толькі тыя кнігі, якія мне падабаліся. Праўда, у вясковых крамах выбар быў невялікі. Затое ва ўнівермагу ў Глыбокім, дзе быў багаты кніжны аддзел, у мяне проста вочы разбягаліся, і тое хацелася купіць, і гэта. Але… «купіла» не хапала, і я часта з жалем ставіў кніжкі назад на паліцу. І ўсё ж якраз купленае там і склала аснову маёй школьнай хатняй бібліятэкі, некаторыя з тых кніг захаваліся ў мяне да сёння, хаця большасць страцілася: даваў чытаць, не вярталі… Не магу без гідкага пачуцця ўспомніць, што аднойчы змяняў лепшыя свае кнігі на спінінг (хаця так яго і ні разу не скарыстаў). Некаторых з тых, страчаных тады, кніг дагэтуль шкада… Настолькі шкада, што я расшукаў асобныя з іх у інтэрнэце і «спампаваў» на комп, перачытаў са скрухай і жалкаваннем і захаваў, ужо ў электронным выглядзе… Сярод іх «Рэспубліка Самба» Ю. Андрэева, — аповесць пра спартсменаў, пра каханне, вельмі светлая, узнёслая.

Да часоў інтэрнэта, да сканіравання і ксеракапіравання як спосабаў займець пэўныя тэксты было яшчэ далёка. А ў школьныя гады, калі пачалося захапленне вершамі, перапісваў іх у тоўсты агульны сшытак. Атрымалася своеасаблівая кніга. А яшчэ паспрабаваў заняцца «самвыдатам» у адмысловым варыянце. Калі пачалася эра касмічных палётаў, вельмі хацелася ўведаць паболей пра касманаўтаў. Дакументальныя запіскі першага касманаўта свету Юрыя Гагарына «Дарога ў космас» друкаваліся тады асобнымі раздзеламі ў газеце «Правда», і я выразаў тыя публікацыі па стаўбцах, а потым наклейваў з дапамогай варанай бульбы (клею для паперы было не дастаць) у сшытак. Атрымаўся пульхны том, але ўсё ж гэта была кніга, а не стос газет. Услед за тым я гэтак жа зрабіў «рукаклейную» кнігу з запісак другога касманаўта — Германа Цітова. І зноў жа, ці мог я тады нават уявіць, што лёс звядзе мяне з касманаўтамі, што ўбачу і змагу пагаварыць з Германам Цітовым, Георгіем Берагавым, Віктарам Савіных, што я, працуючы ў выдавецтве, буду стаяць каля вытокаў выдання кніжкі Уладзіміра Кавалёнка «Радзіма крылы дала» і ён напіша мне на ёй «Дзякуй Вам за тое, што гэта кніга ёсць». Гэта самы дарагі для мяне аўтограф. Нядаўна я спрычыніўся да выдання кнігі пра касмічны палёт трэцяга касманаўта-беларуса Віктара Навіцкага, створанай паводле дзённіка ягонай жонкі Юліі Навіцкай.

У сувязі з успамінамі пра хатнюю бібліятэку нельга не згадаць пра сваё кола чытання, пра тое, што ў часы дзяцінства я хацеў чытаць усё, што тады прадавалася ў кнігарнях. Пачатак маёй цягі да кнігі супаў з панаваннем у мастацкай літаратуры так званай «тэорыі бесканфліктнасці», калі ў аснову сюжэта твора клалася «барацьба добрага з яшчэ лепшым». Але ўсё ж запомніліся мне раманы С. Бабаеўскага «Кавалер Залатой Зоркі, «Ад усяго сэрца» Я. Мальцава, «У Забалоцці днее» Я. Брыля, «Глыбокая плынь» І. Шамякіна.

Часам кнігі мне дарылі. Былі і прыемныя нечаканасці. Першую кніжку з серыі ЖЗЛ (пра Андрэя Рублёва) я выйграў на школьным вечары ў снежні 1963 года. З той пары гэтую серыю пачаў папаўняць сам, збіраў не ўсе біяграфіі, а толькі тых, хто мне быў цікавы як творца і як асоба.

Такім чынам, мая хатняя бібліятэка была запачаткавана ў дзяцінстве.

Але ўсё ж на палічках этажэркі тады стаялі пераважна школьныя падручнікі. Я іх лічу першымі навуковымі кнігамі ў маёй хатняй бібліятэцы. Сярод іх асабліва запомніўся падручнік па гісторыі беларускай літаратуры Н. Перкіна і Ю. Пшыркова. Я не мог і ўздумаць тады, што праз гады сустрэнуся з яго аўтарамі

ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук БССР, і што Навум Саламонавіч Перкін стане маім навуковым кіраўніком па дысертацыі.

Калі я ў 1965 годзе паступіў вучыцца ў Магілёўскі педінстытут, то ў першыя ж дні вучобы ўбачыў зблізку «жывых» пісьменнікаў, ды якіх: любімага мной Канстанціна Сіманава, Яўгенія Вераб'ёва (аўтара кнігі пра ўраджэнца Магілёўшчыны, разведчыка Льва Маневіча) і Генрыха Баравіка. Набраўся смеласці і сфатаграфаваў Сіманава ў час выступлення, а ўсе, што ён гаварыў, старанна запісаў.

Са стыпендыі выкройваў грошы на мастацкія творы, якія мне падабаліся. А таксама, думаючы пра будучую прафесію настаўніка, купляў метадычную літаратуру, слоўнікі, даведнікі. Усё гэта адвозіў у час канікул дадому, у вёску, бо захоўваць кнігі ва ўмовах студэнцкага інтэрната не было дзе. Па інтэрнатах, прыватных кватэрах я жыў аж да 1980 года, купленыя кніжкі ці пераязджалі са мной, ці раздорваліся падчас пераездаў, ці захоўваліся ў мамы. Я заўсёды любіў даваць чытаць свае кнігі, мне хацелася падзяліцца радасцю ад добрага, на маю думку, твора. Але ніколі не запісваў, каму што даў, далёка не ўсе мне вярталі кнігі, «зачытвалі» іх.

У майго аднакурсніка Эдуарда Веккера, магіляўчаніна, была багатая хатняя бібліятэка, і я дужа зайздросціў таму, што ягоны бацька і ён сам маглі падпісвацца на рознага роду зборы твораў, анталогіі. Якраз тады былі запачаткаваныя анталогія сусветнай фантастыкі, сусветная бібліятэка ў 200-х тамах. Без пастаяннай прапіскі ў пашпарце падпісацца на іх было немагчыма. Да таго ж пасля інстытута я доўга яшчэ мяняў месца жыхарства — Кіраўск, Удзела, Віцебск, Мінск, мяняў інтэрнаты, кватэры. І першы раз падпісаўся толькі пасля завяршэння аспірантуры — на зборы твораў А. Пушкіна і А. Куляшова.

У час працы ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук БССР я прычыніўся да выдавецкай справы — прымаў удзел у падрыхтоўцы збораў твораў Міхася Лынькова і Максіма Гарэцкага. Зразумела, яны сталі і на паліцу ў хатняй бібліятэцы. Выдаў я тады і дзве ўласныя кнігі паводле сваіх навуковых інтарэсаў. Пазней захапіўся мастацкім перакладам, былі выдадзены перакладзеныя мной творы Г. Сянкевіча, Ю. Крашэўскага, І. Баса, В. Палянецкага, Г. Жавускага.

Праблемы з кнігамі на той час былі і іншага кшталту. Далёка не ўсё, што хацелася б мець у хатняй бібліятэцы, удавалася здабыць яшчэ і таму, што не ўсякую кніжку можна было знайсці ў кнігарнях. Усе тыя гады, што я іх збіраў, аж да распаду СССР, панаваў жудасны кніжны дэфіцыт. Самыя папулярныя, «модныя» кнігі не даходзілі часта да кнігарань, іх прадавалі наменклатурным работнікам па спецыяльных каналах, але некаторыя шустрыя кнігалюбы завязвалі сувязі з кніжнымі базамі. Аднойчы такая магчымасць, здавалася, надарылася і мне. На ранішніку ў дзіцячым садку, недзе ў 1983 годзе, я сядзеў побач з жанчынай, якая (я гэта ведаў) загадвала кніжнай базай. І парашыў да яе падступіцца. Пачаў здалёку. Адбыўся такі дыялог:

— Скажыце, да Вас, мабыць, часта звяртаюцца з просьбай дастаць кнігі?

— О, не кажыце! Ды часам такое просяць! Вось, пачытайце, якую запіску мне сёння перадалі.

Я разгарнуў запіску, там было: «Прошу Вас, достаньте мне, пожалуйста, книгу — Д. К. Мирон «Пока, чево». Адразу зразумеў, што просьбіт хоча займець выданне «Дэкамерона» Д. Бакачча, але так дзівосна былі перайначаны і пераблытаны прозвішча аўтара і назва, што я не мог утрымацца ад рогату, аж ледзь не сапсаваў дзіцячае прадстаўленне. Зразумела, што знаёмства не адбылося. Пасля такой запіскі самому прасіць дастаць штосьці расхацелася.

З кніжнага дэфіцыту нехта прыдумаў займець выгаду: скарыстаць яго для здачы насельніцтвам макулатуры. Абвяшчаліся спіскі кніг, якія можна было набыць, калі прад'явіш талон на 20 кілаграмаў здадзенай макулатуры. Што тады стала рабіцца! Дзеля нейкай навамоднай ці то і сапраўды вартай дэфіцытнай кнігі часам здавалі вельмі добрыя старыя, сама макулатура стала дэфіцытам, за ёй палявалі. Сёння, калі я гляджу ў букіністычным магазіне на тое, што было некалі ў ліку тых «макулатурных» кніг, мне робіцца вельмі сумна. Мне стала проста не

па сабе, калі я на развале, на асфальце Ждановіцкага «поля цудаў» убачыў «Планету людзей» Сент-Экзюперы — кнігу, за якую я ў шасцідзясятыя гады быў гатовы аддаць… сам не ведаю, што. Усё, што папрасілі б. А тут яна ляжыць проста пад нагамі, і ніхто не хоча яе набыць. Я тады ўспомніў, як у казахскім пасёлку, куды я ўлетку 1966-га года трапіў як удзельнік цаліннага студэнцкага будаўнічага атрада, убачыў у кнігарні яшчэ здалёк, ад парога, кніжку, на якой быў знаёмы малюнак, выява Маленькага прынца. Кінуўся да прылаўка, схапіў, чытаю: Сент-Экзюперы!!! Але… «Кішкентай шахзада»… Гэта быў пераклад на казахскую мову. Але я купіў яго, хаця б дзеля малюнкаў.

Многія творы, якія карысталіся папулярнасцю, выдаваліся ў таннай серыі «Раман-газета», некаторыя з іх мне ўдалося раздабыць. Я іх пераплятаў, апранаў у цвёрдыя вокладкі. А з часопісных публікацый выразаў тое, што мяне цікавіла, і таксама пераплятаў. Так у мяне з'явілася асобная падборка любімых твораў, якія я сам зрабіў кнігамі. Газетныя публікацыі складваў па папках.

Ёсць у мяне і кнігі з аўтографамі аўтараў. Асабліва даражу падараванымі мне тымі аўтарамі, з кім я добра знаёмы, сябрую, працую разам.

Па тэлевізары з 1975 года пачалі паказваць гульню «Што? Дзе? Калі?», прызамі ў якой былі якраз дэфіцытныя кнігі. Тым, хто іх выйграваў, я таксама жудасна зайздросціў. Асабліва тады, калі ўгадваў адказы. Але ніводная з тых прызавых кніг мне ў кнігарнях не трапілася.

У Віцебскай гарадской бібліятэцы я пазнаёміўся з будучай жонкай — Таццянай Фёдаравай — выпускніцай бібліятэчнага аддзялення Ленінградскага інстытута культуры. У яе дома была багатая хатняя бібліятэка. Бацька, Аляксандр Іванавіч Фёдараў, быў вельмі эрудзіраваным чалавекам, заядлым кніжнікам, ён знайшоў падыход да кнігагандляроў, яму ўдавалася купляць і «дэфіцыт», і па падпісцы ён сабраў многа збораў твораў. Калі цесць і цешча пайшлі з жыцця, большая частка бібліятэкі дасталася нам.

Тады мы якраз узбіліся на сваё жытло, а я перайшоў на працу ў выдавецтва. Але хаця аказаўся нібыта і бліжэй да кніжнай справы, а ўсё ж многія кнігі ці набываў пасля доўгіх пошукаў, ці зусім не мог здабыць. Цікава ўспомніць, што я ў выдавецтве адну кніжку з ліку любімых у дзяцінстве — «Барацьбу за агонь» Ж. Роні Старшага — я прапанаваў выдаць, і яе выдалі. Яшчэ ў дзяцінстве (шосты клас) я выменяў яе ў школьнага сябра Вані Захарыча на нейкую цацку, але потым яна страцілася — зачыталі. Вядома, уплываць на тэматычныя планы выдавецтва ў сваіх інтарэсах у шырокіх межах я не мог. Былі просьбы чытачоў, і часам ім ішлі насустрач, калі кніга была папулярная і аўтару не трэба было плаціць ганарар за даўнасцю яе першага выдання.

Зразумела, што папаўнялася, і вельмі актыўна, хатняя бібліятэка і тады, калі я перайшоў на працу ў БДУ. Мяне ўзяў да сябе на кафедру беларускай літаратуры Алег Антонавіч Лойка, каб я чытаў курс літаратуры народаў СССР. Давялося тэрмінова папаўняць хатні кнігазбор творамі пісьменнікаў з рэспублік Савецкага Саюза, іх у мяне тады амаль не было. Асабліва многа я набыў кніг на ўкраінскай мове, адмыслова ездзіў купляць іх у Кіеў. Многа добрых кніг было куплена таксама ў час паездак у Маскву, Ленінград, Вільню.

Што ж стала ўяўляць сабой наша хатняя бібліятэка ў часы, калі ўжо была свая «хата», кватэра, калі можна было купіць кніжныя шафы, павесіць паліцы, а кнігі расставіць згодна з нейкай сістэмай?

Я не набываў і цяпер не набываю кнігі для хатняй бібліятэкі з мэтай мець літаральна ўсё, не калекцыянірую кніг. Палічыў, што гэта немагчыма і недарэчна. Успамінаю эсэ Янкі Сіпакова пра ягоную хатнюю бібліятэку, якое друкавалася ў «Полымі». Быў, з аднаго боку, уражаны шырынёй ягоных чытацкіх інтарэсаў, але з другога, не зразумеў яго жадання збіраць яшчэ і перавыданні, бібліятэчныя серыі, анталогіі, усё запар. У мяне прынцып адзін: купляць тое, што захочацца перачытаць, што спатрэбіцца для працы. Вядома, купляю слоўнікі, энцыклапедычныя даведнікі, навуковую літаратуру.

Праўда, патрэбную для работы кніжку не заўсёды ўдавалася і ўдаецца прыдбаць. Таму я па-ранейшаму хаджу ў бібліятэкі, праглядаю каталогі, сяджу ў чытальных залах.

Але ёсць творы, якія я, што называецца, «на дух не прымаю», якія не тое што перачытваць, але і забіраць у галаву не хачу. Вядома, жадання набыць іх, трымаць у хатняй бібліятэцы няма.

Насталі часы «перабудовы», распаўся СССР. З дзяржаўных бібліятэк выкідвалі творы Маркса, Леніна, Брэжнева, партыйную публіцыстыку. Букіністычныя магазіны не спраўляліся прымаць тое, за чым некалі чытачы палявалі, ганяліся, дзеля набыцця чаго, што называецца, вылузваліся са скуры. Многія кнігі, у тым ліку і мастацкія, сапраўды, маральна састарэлі тады, іх ужо не хацелася перачытваць. Але… не хацелася і выкідаць з хатняй бібліятэкі. З імі было нешта звязана, ды і невядома яшчэ, ці не спатрэбіцца якая з іх. Хаця б для таго, каб прыгадаць штосьці з мінулага…

Як ні дзіўна, але ў часы, калі на кніжным рынку стала магчымым купіць тое, пра што раней і сасніць не мог, што раней даводзілася «даставаць», выменьваць, капіраваць, перапісваць, мая хатняя бібліятэка ўжо не так і значна папаўнялася. Па-першае, многае ўсё ж было набыта нават у тых неспрыяльных умовах. Па-другое, не карцела цягнуць на полкі «масавую» кніжную прадукцыю, якая літаральна навадніла прылаўкі. Праўда, спачатку зацікавіла дакументалістыка, мемуары, дзённікі вядомых людзей. Але потым, калі аказалася, што дзеля сенсацый, дзеля таго, каб кніжку купілі, выдавецтвы, асабліва прыватныя, пачалі друкаваць многа непраўдзівага, набываць такія кнігі перастаў.

І вось тут якраз прагрэс камп’ютарызацыі закрануў і тыражаванне мастацкай літаратуры. З’явіліся «бібліятэкі» на дысках, потым і ў інтэрнэце рознага роду зборкі — «Библиотека в кармане», «Библиотека Мошкова», «Библиотека Ватикана», «Историческая библиотека». Купіў першую з іх, уставіў дыск у камп’ютар і вельмі ўразіўся: каб тое, што запісана на адным тым дыску, «матэрыялізаваць» у кніжках, яны б запаланілі ўсю кватэру, ды што там — не змясціліся б у ёй. Праўда, аказалася, што на той дыск запісалі шмат таго, што мне было не патрэбна, а якраз нечага неабходнага і не было. Значна лепей аказалася «спампаваць» патрэбную кнігу ў інтэрнэце. І я цяпер карыстаюся гэтым. Пераношу патрэбныя мастацкія творы ў памяць камп’ютара, у электронную кнігу. Прычым, часам пасля таго, як убачу той ці іншы з іх у кнігарні. Так, нядаўна знайшоў на паліцы ў магазіне кніжку Роберта Харыса «Пампеі», зацікавіўся, але грошай, каб купіць, не хапіла. Прыйшоў дадому, сеў за комп, аказалася, што гэтую кніжку можна «спампаваць». Вось так мая хатняя бібліятэка ў яе кніжным выглядзе стала папаўняцца радзей…

А нядаўна я купіў новае цуда тэхнікі — электронную кнігу. У яе памяці можна захоўваць усё, што патрэбна, што сам пажадаеш. Гэтую кніжку зручна чытаць і ў дарозе. Першы раз я скарыстаў яе магчымасці, калі восем гадзін ляцеў у Канаду. Спаць не хацелася, творы для электроннай кнігі я падабраў цікавыя, час у палёце ішоў незаўважна. Тыя творы, якія я прачытаў тады, у кніжным фармаце не змясціліся б у «ручную кладзь». Электронная кніга, планшэт заваёўваюць папулярнасць, іх я часта бачу ў руках пасажыраў, у студэнтаў. Ды што там — кніжку можна цяпер чытаць нават у мабільным тэлефоне, інтэрнэт прапануе досыць багаты выбар.

Хто ведае, можа быць, у чалавека будучага на стале на адмысловай падстаўцы будзе стаяць усяго адна, адзіная кніжка — электронная. Можа, будзе прыдумана прылада для чытання, якую пакуль што і ўявіць немагчыма. Але ж — для чытання! Значыць, мастацкія творы, занатаваныя ў слове, застануцца.

Пакуль што хатнія бібліятэкі існуюць, папаўняюцца. Час ад часу я прыношу з кнігарні, бібліятэкі ці бяру з паліцы нешта з хатняга кнігазбору, тое, што мне хочацца чытаць менавіта ў выглядзе кнігі, няспешна перагортваючы старонкі, любуючыся малюнкамі, свабодна звяртаючыся да каментарыяў, пасляслоў’я. Усё ж ёсць у тым свая асалода.

# У СВЯТЛЕ ЯКУБА КОЛАСА: БАРЫС МАКАРЦАЎ, ВАЕННЫ ЛЁТЧЫК І ПІСЬМЕННІК

Дабрыня, якая ішла ад народнага песняра Якуба Коласа — бязмежная. Імкнуўся пісьменнік дапамагаць не толькі блізкім, а і зусім чужым людзям. Калі чытаеш яго лісты — асабліва канца 1940 — першай паловы 1950-х гг., дзіву даешся: колькі ў іх гаворкі пра грашовую дапамогу, пра спрыянне ў тых ці іншых клопатах. Здзіўляе, наколькі рэспандэнты часам не зусім адэкватна рэагавалі на маштаб падтрымкі, нешта яшчэ патрабуючы, замест удзячнасці выказваючы крыўды... Такое, на жаль, жыццё. Не заўжды на дабро адказваюць дабром...

Мець стасункі з Коласам імкнуліся добрыя, звычайныя людзі. Пэўна ж, такіх было шмат. Асабліва сярод творчага люду, незалежна ад таго, дзе і кім яны працавалі ці служылі. З кагорты апошніх — пісьменнік і лётчык Барыс Макарцаў.

Бывае, што па волі лёсу на жыццёвым шляху нам трапляюцца людзі, якія становяцца нашымі добрымі знаёмымі, лепшымі сябрамі, уплываюць на наш светапогляд, назаўсёды пакідаюць след у душы. Так было і ў той раз, калі машына Якуба Коласа нечакана спынілася, не даехаўшы да месца яго адпачынку, не хапіла бензіну...

Быў 1938 год, Якуб Колас ехаў на Пухавіччыну, дзе у той час леталі многія беларускія пісьменнікі. Колас любіў маляўнічыя пухавіцкія мясціны, бо яны нагадвалі яму родную Мікалаеўшчыну. Тут, пэўна, варта нагадаць, што з Пухавіцкім краем ён стала быў звязаны з першай паловы 1930-х гг. Згадвае Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч — малодшы сын Якуба Коласа: «З 1933 года сям'я летавала на Пухавіччыне, у Тальцы. Хто параіў бацьку адважыцца ад'ехаць ад горада так далёка, не ўзгадаеш. Там адпачывала сям'я Кандрата Крапівы з дзецьмі — Барысам і маленькім Гарыкам, там жа летаваў Сымон Баранавых...» Пра гэта даволі падрабязна Міхась Канстанцінавіч расказвае ў кнізе «Пад бацькоўскім дахам», якая выйшла ў 2009 годзе. А тады, у 1938-м, Колас з сям'ёю летаваў на хутары паблізу Падбярэжжа... У селяніна Асіеўскага. Яшчэ 9 мая 1936 года Колас пісаў рускаму пісьменніку Сяргею Гарадзецкаму: «Я нанял хату над Свислочью в 70 километрах от Минска. Место чудесное. Не буду описывать его: я твердо надеюсь, что в летнее время ты навестишь меня. Из Минска я устрою тебе поездку на автомобиле. Но об этом я напишу тебе. Сейчас же для меня будет ценным заручиться твоим принципиальным согласием приехать ко мне на несколько дней». А паблізу адпачываў Пятро Глебка з сям'ёю. У хаце лесніка. Але ж вернемся да таго здарэння на дарозе...

Дапамога тады прыйшла нечакана ад Макарцава, камандзіра авіяцыйнай часці Пухавіцкага гарнізона. Барыс Паўлавіч — ваенны лётчык, у 1937 г. ён — камандзір атрада 42 штурмавой Смаленскай эскадрыллі, з 1937 г. служыў у Беларусі: Полацкая вобласць, Бабруйск, пазней яго перавялі ў Пухавічы, дзе ён і пазнаёміўся з класікам беларускай літаратуры. Барыс Паўлавіч так успамінае першую сустрэчу з Якубам Коласам: «*Я встретил его и сразу же был покорен очаровательной колосовской улыбкой. Внимательные ласковые глаза, тихий голос, умение слушать собеседника… Константин Михайлович написал на листе бумаги свой минский адрес и пригласил к себе. Я обещал обязательно быть. Он поблагодарил за бензин и уехал, оставив в моей душе теплоту своего присутствия*».

У кнізе ўспамінаў пра Пятра Глебку Барыс Макарцаў так згадвае сваю повязь з Пухавічамі, Падбярэжжам: «*... нас падзяляў хіба толькі мост цераз Свіслач: па адзін бок — мой аэрадром (летам наша лётная часць базіравалася ў Пухавічах), па другі — леснікова сядзіба, дзе ўлетку адпачываў Глебка. Утульны дворык, самаробныя лаўкі, столік...*

*Звычайна ў суботу ці нядзелю да Глебкі прыязджалі блізкія сябры: пісьменнікі, артысты. Я спяшаўся туды, на імправізаваныя літаратурна-артыстычныя вечары. Гарачыя дыскусіі, песні, гарэзлівыя гульні каля раскладзенага вогнішча, прагулкі пад месяцам па начным лесе...*

*Прыязджаў да Глебкаў і Якуб Колас. Тады вечар набываў асаблівую ўрачыстасць. Колас слухаў, расказваў, бывала, вясёлыя гісторыі, здарэнні. Пятро Глебка быў улюбёнцам Канстанціна Міхайлавіча, і яны, пакінуўшы часам тлумную грамаду, гутарылі ўдвух. Іншы раз я заставаўся тут начаваць. З усходам сонца Пятро Фёдаравіч пабудзіць мяне, ціхенька выходзім за дзверы і — да рэчкі. Проста з берага кідаемся ў ваду, плаваем, смяёмся...*»

Зімой 1938 года Барыс Паўлавіч разам з жонкай Эміліяй Барысаўнай наведалі сям'ю Якуба Коласа ў Мінску: *«Я хорошо запомнил эту уютную комнату, где мы располагались. Большой стол у окна, выходящего во двор. Наверх идет лестница в кабинет Константина Михайловича. В глубине шкафы, с которых из запасов доставалась чудесная настойка с водкой. Мария Дмитриевна готовила сама, и стол ломился от вкусных закусок — картошка в шкварках, с которой можно было язык проглотить, домашняя колбаска, несравненная ни с какими другими колбасами и всякие другие острые закуски и маринады. Да дело-то было не в еде, а в компании. Всегда оживленные и веселые разговоры, остроумные шутки, забавные воспоминания».*

Для Барыса Паўлавіча Якуб Колас стаў добрым знаёмым, сябрам, дарадцам. Праца ў галіне ваеннай авіяцыі — цяжкая, яна патрабуе канцэнтрацыі, адказнасці, вялікай сілы волі. *«И когда я чувствовал, что воля покидает меня,* — успамінае Макарцаў — *ехал к Якубу Коласу. Он принимал меня просто и радушно, внимательно выслушивал мои сомнения, задавал вопросы, расспрашивал о мелочах и давал со своей стороны осторожные и тактичные советы, мудрые своей деловитостью и логичностью. Словно он сам работал вместе с нами в авиации, словно он зорко следил за судьбой каждого из нас, так сильна была его писательская зоркость. И я уезжал от него с легкой душой и снова рьяно принимался за работу».*

У вольны ад палётаў час Барыс Паўлавіч наведваў літаратурны гурток Мінскага Дома Савецкай Арміі, дзе збіраліся, чыталі і абмяркоўвалі свае творы пачынаючыя пісьменнікі-вайскоўцы. З тагачасных знаёмых Макарцава — супрацоўнікі вайсковай газеты «Красноармейская правда». Рэдакцыя толькі што пераехала са Смаленска ў Мінск. Знаходзілася ў будынку ў Камунальным завулку (калі вымяраць сённяшнімі адрасамі — побач з Мінскім сувораўскім вучылішчам). У адным з пасляваенных лістоў да Якуба Коласа Макарцаў успомніць Шапіру, журналіста армейскай газеты... Шапіра пераказаў Барысу Паўлавічу атмасферу ў Мінску, распавёў пра тое, што ўжо вярнуліся з вайны многія пісьменнікі. Наладжваецца жыццё ў Саюзе савецкіх пісьменнікаў.

А тады ў канцы 1930-х гг. (газета засталася ў Мінску, відавочна, пасля вызваленчага паходу ў Заходнюю Беларусь) «Красноармейская правда» якраз была месцам, куды пачалі цягнуцца і вайскоўцы, якія пісалі, як правіла, па-руску.

У гэты час Барыс Паўлавіч піша п'есу «Даешь Волгу!», аб Волжскай рачной флатыліі. На яго здзіўленне і радасць п'еса была надрукавана ў часопісе «Полымя». У траўні 1939 года Макарцаў быў прыняты ў члены Беларускай арганізацыі Саюза савецкіх пісьменнікаў. *«Великая радость и гордость обуяли мной. Помню — большая светлая комната, заполненная известными белорусскими писателями и среди них только я один военный авиатор. За председательским столом Якуб Колас. Он подбадривал меня взволнованного и раскрасневшегося своей чудесной колосовской улыбкой...»* Дзякуючы членству ў саюзе Барыс Паўлавіч пазнаёміўся з многімі беларускімі пісьменнікамі — Кандратам Крапівой, Міхасём Лыньковым, Петрусём Броўкам, Максімам Танкам і іншымі.

У 1939 годзе напружаная праца ў авіягарнізоне, вялікая лётная праграма не дазвалялі Макарцаву часта сустракацца са сваімі сябрамі-пісьменнікамі, якія праводзілі свой летні адпачынак на Пухавіччыне, таму «*навещал их только с воздуха... зная их места прогулок или рыбалок, я сбрасывал им вымпела с газетами и приветствиями*». Аднойчы наведаў і Якуба Коласа… Барыс Паўлавіч успамінае: «*В семье Мицкевичей отдыхали две прелестные девушки — Мака и Туся — дочери Ленинградского профессора Прозорова. Меня познакомили с ними и мне они очень понравились. Видно, человек становится особенно тщеславен при виде красоты. Мне захотелось чем-то отличиться и показать свои лётные качества. Договорились, что я пролечу над усадьбой Якуба Коласа, и мне они выложат на открытой местности белые полотница. Так и получилось — полотница лежали на берегу речки, подходы были хорошие. Недолго думая, я проделал несколько фигур высшего пилотажа и затем снизился на «бреющий» полет и пролетел над группой своих приятелей*». У лісце ад 9 чэрвеня 1942 г. да Таісіі Мікалаеўны Ганчаровай (Тусі) паэт піша: «*Я хорошо помню Устье, Болочанку и тот день, когда мы утром в 9 часов ожидали появление Бориса Павловича. Он сбросил нам № «Правды». № упал за Болочанкой на купальне, а Вы переплыли «бурную» реку и достали № газеты*».

На памяць аб цёплых сустрэчах Якуб Колас падпісаў сябру-авіятару кнігу «Вайна вайне»: «**Дорогому Борису Павловичу Макарцеву на память об Устье, Березянке и Пуховичах от Якуба Коласа. Минск 1.X.1940 г.**» Яшчэ адна кніга — зборнік дзіцячых вершаў і апавяданняў, падпісана ўсім членам сям'і Макарцавых: «**Милым, дорогим Эмилии Борисовне, Борису Павловичу, Вике Макарцевым на добрую память от автора.**

**14.VI.1941 г. г. Москва».** Кніжка вельмі спадабалася дачцэ Макарцавых Вікторыі, якая трымала яе пры сабе і кожны дзень прасіла бацькоў прачытаць некалькі старонак.

З Якубам Коласам Макарцаў пасябраваў на ўсё жыццё, была перапіска ў 1940-х гг.: «*Возможно, что как-нибудь представиться случай побывать в Москве. Непременно постараюсь повидаться с Вами. Очень благодарен, что Вы напомнили мне о Ваших друзьях и моих милых знакомых лётчиках. Я пошлю на Ваше имя свои книги. Вот только не знаю, как они будут читать по-белорусски. Но ведь это и неважно. Была бы память*». Падчас вайны Якуб Колас не забываў пра свайго сябра, пра гэта сведчыць яго ліст да Пятра Глебкі ад 4—7 снежня 1942 г., адпраўлены з Ташкента ў Маскву: «Ці сустракаешся з Макарцавым? Меў ад яго пісьмо. Напісаў яму з ахвотайю і радасцю. Даўно ужо гэта было. ...Я часта ўспамінаю Падбярэжжа, Вусце, Беразянку і Балачанку. Як хочацца мне на сваю родную зямлю!» У фондах Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа захоўваюцца некалькі лістоў Барыса Паўлавіча. У лісце ад 10.09.1944 г. Макарцаў піша: *«Дорогой Константин Михайлович! Пишу Вам пользуясь случаем отъезда одного лётчика в Москву. Скоро моя фронтовая стажировка кончается и я вероятно приеду в Москву за получением назначения. Как Ваше здоровье? Когда в Минск? Большой привет Марии Дмитриевне и всем Вашим. На фронте очень много материала писательского. Кое-что пишу. Привет и наилучшие пожелания. Крепко Вас обнимаю».*

Пасля Вялікай Айчыннай вайны было некалькі сустрэч у Мінску і Маскве. Макарцаў успамінае: *«Кончилась война и мы, еще не остывшие от полыхающего в груди радостного волнения, возвращались домой через разрушенный Минск. С одним из авиаторов я зашёл к Якубу Коласу. Он встретил нас один,… был неузнаваемо грустен и одинок».* Пісьменнік балюча перажываў страту сына Юрыя і сваёй спадарожніцы жыцця, жонкі Марыі Дзмітрыеўны.

Сустракаліся сябры і на пленумах Саюза пісьменнікаў у Маскве. Пасля смерці Якуба Коласа Барыс Паўлавіч перадаў у музей песняра кнігі з дарчымі надпісамі і свае ўспаміны аб знаёмстве і сустрэчах з класікам беларускай літаратуры.

Некалькі лістоў Б. Макарцава, адрасаваныя Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу, захоўваюцца ў асабістым архіве Веры Данілаўны Міцкевіч — унучкі народнага песняра. Яны ніколі не друкаваліся акрамя аднаго ліста, які ўвайшоў у кнігу «І бачу пройдзеныя далі», выдадзеную да 100-годдзя з дня нараджэння Д. Міцкевіча.

У лістах у Беларусь пасля смерці Якуба Коласа Барыс Паўлавіч згадвае свае ненадрукаваныя творы. Сярод іх — і раман «Добры геній», прысвечаны Канстанціну Міхайлавічу. Вось што піша Макарцаў Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу ў лісце ад 27 жніўня (дарэчы, памёр Макарцаў у Маскве 26 верасня 1985 года): «*Я написал роман «Добрый гений». Но кажется я сразу же попал в сложную ситуацию. Роман написан на русском языке — куда его посылать? В какое издательство? Или в киностудию «Белорусьфильм»? Или еще куда-то. Посоветуйте!.. Роман написан добротно, зная хорошо Якуба Коласа, его семью, особенно Марию Дмитриевну, я писал роман с любовью, с вдохновением*».

У тым, што раман напісаны шчыра, з любоў'ю, сумнявацца і не трэба. Відаць па ўсім, што перадваенныя гады былі для лётчыка Барыса Макарцава самым зорным часам у яго жыцці. Пакінуўшы Беларусь у 1940 годзе, ён па прычыне цяжкай хваробы быў адхілены ад лётнай работы. Узначальваў ваенны аддзел Цэнтральнага Дома Савецкай Арміі. Некаторы час, праўда, — у 1944 годзе — знаходзіўся на фронце. Вядома, што быў узнагароджаны медалямі «За ўзяцце Кёнігсберга», «За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.», ордэнам Айчыннай вайны II-й ступені. З 1947 года выкладаў у Ваенна-педагагічным інстытуце Савецкай Арміі, які знаходзіўся непадалёку ад Масквы — у Хлебнікаве.

У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа ў архіве Пятра Глебкі (відаць, таму, што сам Макарцаў даслаў яму тэкст) знаходзіцца невялікая частка твора з назвай «Добры геній». Усяго — 10 старонак. Пачатак — жыццёвыя і філасофскія развагі, а вось апошнія 3 старонкі распавядаюць аб сустрэчы Барыса Паўлавіча з Якубам Коласам у доме паэта. Хутчэй за ўсё гэты невялікі па аб'ёме твор уяўляе пачатак скарочанага варыянта рамана як сцэнарыя да магчымага фільма. Нездарма ж Макарцаў піша Данілу Міцкевічу пра «Беларусьфільм»... Захоўваюцца ў фондзе Пятра Глебкі і лісты да яго, напісаныя Макарцавым у розныя гады. Аднак гэта ўжо зусім іншая гісторыя, матэрыял для асобнага даследавання.

Барыс Паўлавіч жыў у Маскве па вуліцы Чарняхоўскага, дом 4, кватэра 107... Пэўна ж, пошук варта прадоўжыць. Не выключана, што знаёмства з поўным тэкстам рамана «Добры геній» прыадчыніць сёе-тое з даваеннай біяграфіі народнага песняра Беларусі Якуба Коласа.

***Васіліна МІЦКЕВІЧ,***
***Алесь КАРЛЮКЕВІЧ***

**У МІНСКУ «ПОЛЫМЯ» МОЖНА НАБЫЦЬ:**

- **магазін № 13, плошча Перамогі, падземны пераход;**
- **магазін № 18, плошча Перамогі, падземны пераход;**
- **магазін «Глобус», вул. Валадарскага, 16.**

АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэл.: галоўнага рэдактара — 284-84-61,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74,
аддзела паэзіі — 284-80-12.
polymya@bk.ru

*Падпісныя індэксы:*

*00471 — індывідуальны льготны*
*для настаўнікаў*

*74985 — індывідуальны*

*749852 — ведамасны*

*00727 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 9 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка
*С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактар
*М. М. ГІЛЕВІЧ*

Падпісана да друку 09.11.2016 г. Фармат 70×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,8. Ул.-выд. арк. 16,26. Тыраж 1434 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.